# Змест

# ВЕРАСЕНЬ ПАЭЗІЯ

вікторыя смолка аліна паўлоўская
марыя бадзей вераніка міхалёва
марына валасар ганна рудак
марыя магдалена палхоўская
кацярына шчасная дар'я дарошка
аляксей лужынскі антаніна хатэнка



# Вікторыя Смолка

паэтка. Студэнтка 3 курса Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Вершы друкаваліся ў калектыўным зборніку «Паэзія мегаполіса». Нарадзілася ў 1996 годзе ў Гародні. Жыве ў Гародні.

# Пакуль за плячыма анёл...

## Дзяўчынка і мара

— Няма ўвогуле на свеце няшчасных людзей,бо кожны чалавек адчуў найвялікшае шчасце — сваё нараджэнне! — тлумачыла Мара, цалуючы цёплым крылом самотную голаў Дзяўчынкі. А Дзяўчынка плакала. Дакладней, плакалі яе вусны. І слёзы ліліся дзіўныя — вершаваныя. І піла гэтыя слёзы, не даючы ім разбіцца аб цвёрдую, халодную зямлю позняе восені, цішыня паслярастайнага шляху...

З далёкага нябеснага краю яшчэ адгукалася жураўліным сапрана неадляцелая ў вечнасць цягніковая сіняя птушка. А Дзяўчынка з Марай глядзелі адна на адну. Уважліва, сцішана, задуменна. Так глядзяць перад доўгім расстаннем, скануючы вачыма родныя рысы. Толькі босы Правадыр, прабітымі нагамі сыходзячы па белай лесвіцы да іх, ведаў, што люструюцца невідушчыя вочы ў невідушчых вачах, але найвялікшае шчасце прачыста нараджаецца ў сэрцы малой Дзяўчынкі, якая цёплым крыжыкам дзіцячых далонькаў засцілае сэрцабіццё празорлівае Мары...

## Сцежкай сэрца

Каб вочкам кветкі ўздоўж зямлі
Упасці мне на крок маленства:
Пабачыць светла, як ішлі —
Дзяўчынка з Марай сцежкай сэрца.

Хачу ўсёчулай цішынёй
Запоўніць келіх дня гранёны,
Каб ліў свой спеў у сэрцазвон
Зноў голас, небам благаслаўлёны.

Далоні Мары на плячы
Адчуць хачу і адчуваю,
Калі ў пялюшках аблачын
Бог вершанятка спавівае...

***

Па-рознаму бачыцца кожнаму свята:
Адны яму рады, другія не надта,

Хто свята штодзень у нясвяце знаходзіць
Ды ў госці з гасцей незапрашона ходзіць.
А нехта чакае, адзін-адзінокі,
Ніхто не ідзе, зелянеюць парогі,
У печы святочны пірог астывае...
Напэўна, і так, а часцей так, бывае...

***

Няхай усяго не паспець,
А страціць мільёны хвілін,
Да скону любі гэты свет,
Любі чалавека на ім.

Ніводнай прычыны не май,
Чаму і за што не кажы.
Вяртайся, бы сонечны май,
На соннае поле душы.

Хай краскай засеецца верш.
Слязой напаіць не шкада,
Калі чалавеку даеш
Усё, што Гасподзь табе даў...

***

Песня ў сэрца заляцела,
Нечаканая, жывая.
Хто прыгожы, цёплы, смелы
Тую песню праспявае?!

Нарадзіцца дапаможа,
Дапаможа жыць на свеце.
Ці не добры падарожны
Божым выпадкам сустрэты?!

Ці не тая — залатая?
Братка, Ластаўка, Вясніца
І Ахоўніца святая
Вершаванага дзяцінства?!

***

Ведаю. Ведаю. Ведаю.
Толькі зусім не лягчэй.
Крылы анёла белыя
Сцішыліся ля плячэй.
Шчодра сцякаюць колеры
Долу на белы снег.
Хто адрачыся здолее,
Любіць услых мяне.
Толькі адна, маўклівая,
Слухаю пра любоў.
Бела-святой хвілінаю
Слёзы цалуюць боль.

## Настаўніку

Няма настаўнікаў былых,
Няма былых, няродных вучняў.
І нават хай нябёсы іх
У новым свеце не разлучаць.

На ўсіх уроках дабрыні
У гарадской вялікай школе
Вучылі светламу яны —
Любіць валошкавае поле.

І мову нашу берагчы,
Душой лагоднай выпраменьваць,
Пялёсткам несці на плячы
Дыханне словаў задуменных.

Захоўваць міласць да людзей,
Усмешкай строгай хвалявацца
І каля дошкі цэлы дзень
Чытаць дыктоўку выхаванцам.

Прабеглі школьныя гады,
Дзіцячым крокам прамільгнулі...
Настаўнікі, вы назаўжды —
Другія таты і матулі!

***

Я кожнаму жадаю чалавеку,
Жадаю хоць аднойчы, хоць калі
Даведацца, якім бывае светлым
Запаленае шчасце на зямлі.

Якой бывае цёплаю надзея,
Кранутая гарачай даланёй...
Усе неспадзяваныя падзеі
Малітваю чаканыя даўно.

І нават невядомае дагэтуль,
Жыло і валадарыла жыццём.
Каб чуць і бачыць, трэба быць паэтам —
Паэтам з незагойным пачуццём...

***

Калі душа, як песня,
Іначай не жыве.
Калі душа, як скрыпка,
Як птушка ў сіняве.
Калі душа, як подых
Малітвы залатой,
То некаму выгодна
Любіць яе такой...
І нават хай не ведаць,
Навошта і чаму.
А верыць, верыць, верыць
У музыку саму.
Акордаў тонкіх зрухі
Прасейваць праз слязу.
І слухаць, слухаць, слухаць
Нябачную красу...

***

Жыву не так, жыву іначай —
Жыву, як неба раіць мне,
Але я бачу, зорка бачу
Усмешкі мілыя... У сне

Адна пайду, і сэрца зоймуць
Кляновы баль, асенні вальс.
Няхай мне бачыцца па-свойму
Усё звычайнае для вас.

Няхай мне сніцца летуценна
І адчуваецца наскрозь
Усё, заплюшчанае цемрай,
Усё прыгожае, што ёсць...

***

Калі адлячу я ад гаю,
Ад гаю зямнога жыцця,
Няхай маю песню спяваюць
Бярозка, пралеска, дзіця.

Няхай чысты голас віруе,
Святлом абдымае зямлю,
І Мару маю, і матулю,
І сэрцы, якія люблю.

Пакуль успаміны не згаслі,
Пакуль за плячыма анёл,
Няхай калыханкі, бы краскі,
Засыплюць нябачны мой дом.

Адтуль, дзе сцяжынка да высі,
Да знічак, да зорнага сну,
Пачую, надзеі збыліся,
І лёгка крыло панясу...



# Аліна Паўлоўская

паэтка. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. Аўтар кнігі паэзіі «За небакраем» (2015 г.) Нарадзілася ў 1995 годзе ў Гародні. Жыве ў Гародні.

# Закаханае сэрца

***

Закаханае сэрца не спіць,
Закаханае сэрца не дрэмле.
Закаханае сэрца трымціць,
Нібы лісце на восеньскім дрэве.

Закаханае сэрца ліе
І ў хусцінку, як скарбы, збірае
Слёзы болю — твае і мае —
Аб здабытым і страчаным раі.

***

Калі ў жыцці тваім няма дабра
І страчана імя святое Бога,
Калі навокал межы і парогі
І ні душы на цэлы белы край —

Не праміні. Адчуй такі сігнал!
І сэрца запытай сваё на шчырасць:
Ці ўсё, што я раблю, вядзе у вырай?
Ці ўсё зрабіў з таго, што я жадаў?..

***

Мне не суняць маёй трывогі,
Мне не спыніць завейны рух
Шалёных думак —
Здрайцаў Бога,
Што з сумам падаюць на брук...

Мне не схаваць вачэй самотных!..

Ёсць ты,
Ёсць я.
Ёсць вольны шлях...

Я ж — да цябе
Дарогай слотнай
Іду.

Чакай мяне, мой страх!

***

Блукаю.
Навокал цемра.
Гукаю.
Навокал змрок.
Мінаю мяжу адценняў,
Губляючы слых і зрок...

І ўжо закрануць, закратаць,
Узяць у палон, здушыць
Не змогуць ні плач, ні радасць
Халоднай маёй душы.

## Слова любові

Вакол мяне не круціцца жыццё.
Я не Сусвету цэнтр, а толькі ўскраек,
Дзе сходзяцца быццё і небыццё,
Дзе пекла адмяжована ад раю.

Я не Сусвету цэнтр, але ўсяго
Былінка, ветрам знесеная з поля;
Я тая, што была калісьці вольнай,
Дарыла сэрцам Ісціны агонь.

***

Карма адкідае за карму?.
Я іду.
Брыду.
Каменне.
Яма.

А на дне — грахоў маўклівы мур.
А на дне — зачыненая брама.

Я іду.
Набыткаў — ні на грош.
Ланцугі, як злы сабака, лаю.

Адкажы, на схіле неба коўш,
Я жыву
Ці я ў жыццё гуляю?

***

Гэта толькі мая віна.
Гэта мой першародны грэх.
Засталася зусім адна.
І сумленне — стаптаны снег.

***

Халодзіць вецер спіну...
Не стану я стагнаць:
Твой кон — мяне пакінуць,
Мой сон — цябе спаткаць!

І там, дзе слабы ўзвые
Да неба «памажы!..»,
Трымаю роўна шыю
І прадаўжаю жыць.



# Марыя Бадзей

паэтка. Студэнтка філалагічнага факультэта БДУ. Выпускніца школы маладога літаратара пры СБП. Пераможца конкурсу «БрамаМар» (2015 г.). Нарадзілася ў 1997 годзе ў Ваўкавыску. Жыве ў Мінску.

# Нячутная музыка

***

*Л.Л.*

А ўсё пачыналася начамі з цёплымі пальцамі
з цягнікоў і з пад'ездаў у забытых светам раёнах
з паху бэзу і сена і ліпаў са стомленых твараў
з яблык з прывідных сноў у ласкавых і родных далонях.
Часам вецер быў мяккі ці калоўся ў пакрыўджаным танцы
зоркі крапалі і гарэлі і проста знікалі
па ліхтарных косах беглі светлякі-абарванцы
нашы грудзі ад узлёту трымалі зямныя медалі.
Па начных этэрах плаўнікамі плёхаюць гукі
развітанні дарогі і вакзалы вакзалы вакзалы
у чаканні дзён і гаючых начэй падымаюцца рукі
твой жа дух застаўся дзіцём і зрэшты стаў сталым.

*ліпень 2014*

***

Вусцішны вусны дотык да гарачай шчакі
робіцца нечым большым, чым усё, што мы маем,
большым, чым я, большым, чым ты
ёсць
і, напэўна, будзем,
пад забытым трамваем —
слухай казку! —
ляжаць дзіцячыя цацкі:
усё, што мы калісь згубілі,
спяць каты, п'юць шляхі з зорных каўшоў,
я хацеў быў аднойчы прачнуцца і выйсці знянацку,
мяўкнуць сціпла: маю май. мяняю на малако. залажу ў мяхі.
я аднойчы паспрабаваў, але, ведаеш, азірнуўся, прыйшоў —
у цябе з вачэй пырскалі і каціліся знічкі,
паміраючай мовай пад тваімі рукамі спявалі імхі.
А я сядзеў і ўслухоўваўся
ў душы невядомых паэтаў
галасы дрэў
цішу.

*жнівень 2015*

***

Нячутная музыка паветра
цішыня прашытая сіняватымі водарамі
плыве ахутвае
птушкі спелымі скрыпкамі акардэонамі
залятаюць у гэтую мяккую павольнасць вечара
я чую як мураш паўзе па падваконні
крокі сабакі хуткія паспешлівыя
шукаюць ці то схаванае сонца
ці то яшчэ неналітую поўню
ці то зоркі пакуль зялёныя
луста неба кавалак хлеба кінуты голасам гаспадара
згублены ўзмахам ягонай рукі
з акна
якое ціха шалее ад такой пераходнасці
фарбаў пахаў сусветаў
мяккіх рысаў
і іх выразнасцю
паміж цёплым прыткнутым ілбом
і ўколам асы
ў шкло
і мяшае іх
пакуль табе ў абгарэлыя плечы дыхае
чалавечая цішыня храпаў прысвістванняў
скрыпаў драўляных падлогі і мэблі
выбухаў старой лядоўні
такцікі гадзінніка
камарамі залятаюць у яе хвалі
прапахлыя абветранай і прагрэтай за дзень зямлёй
прагуклыя зялёным і блакітным
што пакрысе робяцца чорным і сінім
трывожнае калі ўдалечыні едзе машына
трымціць здаецца датыкнешся — адчуеш вібрацыю
крыльцаў травеньскіх старых хрушчоў
радыёхваль — удараў іх аб шчоглы антэн
што пранікае распушчаецца ў пахучую вечаровую сімфонію
шалёнай цішы
цвіркуны крумкаюць жабы
«ўсяму свой час»
на ламанай латыні

ты гэта чуеш і думаеш
а праўда
усяму свой час.
уступае новы інструмент
такі звонкі і тонкі што нават не тутэйшы
паміж пяццю нацягнутымі ў небе дратамі
пачынаюць з'яўляцца зоркі
поўныя гукі
нехта дамаляваў.

*чэрвень 2015*

***

*У.Б.*

А ведаеш ты, як цякла сярод дрэў
сёння рака ільняная,
у полі чуўся русалчын спеў
і ліўся ад краю да краю.
Глухлі птушкі ад спекаты,
хаваліся ў нізкія хаты,
ад словаў, што таялі ад пекнаты
на вуснах гожых дзяўчатаў.
Яны ішлі варажыць на твой лёс
адзін і на ўсе адразу.
І недзе ты глытаў брудны плёс,
дзесь бег, не стрымаўшы абразы.
Дзесьці іграў і дзесьці спяваў,
перажываў праз стагоддзі,
з кімсьці тануў у квецені траў,
з кімсьці плявузгаў, дый годзе.
Па розных краінах кідаў адбіткі
ног, а часам і пальцаў.
Браў прыгажунь сабе ў найміткі,
прасіў апошняга шанцу.
Кідаўся ў бокі, і ў скокі, і ў крокі,
лавіў словы па ветры,
помніў вачэй светлыя змрокі
і пра бясконцасць сусвету.
Ля тваіх ног танчылі змеі,
вілася пятля агнявая,
а з галавы зоркі ляцелі
прыгожыя да адчаю.

Што выцягнеш ты сабе — невядома,
наша справа — прыдумваць казкі,
толькі вяртайся часамі дадому
і не плюй у ваду, калі ласка.
З безлічы лёсаў адзін — за табой
бяжыць і дыхае ў плечы,
віхлястай сцяжынай ляжыць пад нагой,
міргае кропкай удалечы.
А са мной нядаўна згулялі ў гульню,
пракатнулі на сонечных веях,
каб стаяць і моўчкі глядзець на зямлю
і ўсміхацца «Хто я?» і «Дзе я?».

*жнівень 2014*

***

Мяккім персікам з вуснаў вечара вецер
падае на асфальт і цячэ па слядах ліпеня,
што глядзеў у плечы і рагатаў навальніцамі, і ўсміхаўся —
мерыў басанож цёплы горад
спыняўся — брукаванка гарэла пад пальцамі.
павукі сплялталі дарогі ў косы,
з якіх зоры цяпер сплятаюць канаты і юнгамі
спускаюцца на зямлю,
каб мяшаць і піць з ромам гарачыя ліхтары,
браць рукі і блытаць іхнія лёсы,
ездзіць у пустых тралейбусах,
выдыхаць гукі: лю-блю,
знайсці пару грэцкіх арэхаў,
раскалоць некалькі таямніцаў.
У некаторых будзе пуста.
У некаторых — цэлы свет.

*жнівень 2015*

***

Мова — мора
словы — рыбы з вогненнымі хвастамі
у бегу белага сабакі
смеху хлопчыка на снезе
слядах самалётаў
сініх хатках ля чыгункі
сэнсу больш чым ва ўсіх

намаганнях вершах спробах
вылавіць нейкі сэнс
выдумаць яго
закінуць у акварыум
хоць і астатнія рыбіны выядуць яму вочы
але сюды не прыходзіла трое старых
і ў рэках па пяць рыбінаў
што хаваюцца па норах у сухую эпоху
дзе можна адрозніць подыхі сноў
бачыць колеры цемені
бачыць неба ў цемры
бачыць дарогі ўначы
стаяць пасярод белага поля
перакладаць з моў на мовы
не ведаючы дакладна
ці ведаеш хоць з іх адну

не ведаючы ці то плывеш ці то тонеш
не ведаючы дакладна ці можаш хоць на адной з іх
размаўляць.

*люты 2016*

***

*А.Б.*

Мы ўбачылі неба і пайшлі па птушынай дарозе,
пакідаючы шлейф за сабой, рассякаючы цемру,
рассыпаючы словы і крокі па пясчанай падлозе,
збіраючы за плячыма паўночную хеўру.
Зоркі білі хвастамі, плавалі над галавою,
лес смарагдам зіхцеў і хацеў да іх дацягнуцца,
пахла дрэвам, забытым жніўнем, начною травою,
расцвітуць у дзень радасці — нам сказалі — кветкі настурцый.
Мы так чулі і ішлі, малявалі дзіўныя знакі,
зазіралі ў люкі, узбіраліся на ўзгор'і,
на пытанні пра шлях адгукаліся брэхам сабакі,
называлі ўсё нанова, выдумлялі сузор'і.
Мы зрывалі аб'явы, танчылі пад ліхтарамі,
сілуэты лавілі, не шукалі нічыйных парад,
пазіралі ўбок і ўперад, каб не стацца слупамі.
Уласна мне так хацелася не хацець азірацца назад.

*жнівень 2014*



# Вераніка Міхалёва

паэтка. Студэнтка 4 курса Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Вершы друкаваліся ў часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 1992 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Побач з табой...

***

Я кахаю цябе, кахаю...
Гэтак моцна і так аддана.
І шматлікія кіламетры
Толькі больш узмацняюць боль.
За цябе я дайду да краю,
Для цябе ўсё зраблю, каханы...
Я заплюшчваю вочы, а ў думках —
Штохвілінна я побач з табой.

Я кахаю цябе, кахаю...
Так рахмана і так па-вар'яцку.
Я цябе ў жыццё пусціла,
А ты сам стаў маім жыццём.
Я згараю, ты чуеш? Згараю
Так раптоўна і так знянацку...
Але йнакш не хачу. Не жадаю
Пазбаўляцца запалу ў грудзёх.

Я кахаю цябе, кахаю...
Самазгубна і так наіўна.
А трыклятыя кіламетры
Усё больш узмацняюць боль.
За цябе я дайду да краю,
За цябе мне не страшна загінуць.
Я заплюшчваю вочы, а ў думках —
Я, нарэшце, побач з табой.

***

Здараецца, што верыш чалавеку,
Ды так аддана, аж душа баліць.
Гатовы за яго — жыццё пусціць
Пад колы.
Усё аддаць.
Пабудаваць.
І разбурыць.
І на сябе прыняць любыя здзекі.

Бывае так, што верыш чалавеку.
Ды так старанна, што вар'ятам лічаць.
І, нават, калі ён у багну кліча,
Працягваць
Побач быць.
Любіць.
Дапамагаць.
І у смяротную хвіліну падаць лекі.

На жаль, так часта верыш чалавеку,
Што сам становішся амаль як ён.
І вера гэтая, нібы праклён,
Працягваецца
Праз жыццё.
У небыццё
Зацягвае.
А, можа, ты там быў спрадвеку?..

## Асабістае

Я б хацела быць
з табою разам.
У руцэ — рука.
Да шчакі — шчака.
Гэта шчасце.
Але адлегласць,
як параза.

Дакрануцца нячутна
да вуснаў.
Гэта ўсё,
што я цяпер хачу.
Не па тэлефоне
голас чуць.
Хай бы не было
унутры так пуста.

Кладучыся спаць,
у думках
Я так часта мару
Аб сустрэчы.

А яе чакаць, здаецца,
вечнасць.
І яна нібыта
ў пастарунку.

Ты наведвай
мяне ў снах.
Хай усе кажуць,
што гэта ўтопія.
Я ўначы абдыму
тваю копію.
Веру, прыйдзе
у наш дом вясна.

***

Столькі шмат чалавеку ісці
Цераз церні, трысцё й пакуты.
І напіўшыся досыць атруты,
Можа рукі ён апусціць.

Столькі шмат чалавеку слёз
Пры жыцці даецца. І болю
Не злічыць на шляху да волі,
Але цягне ён гэты воз.

Столькі мала даецца жыць.
Што жыццё? Толькі летуценне.
Але нават гэта імгненне
Кожны з нас па-свойму гарыць.

Столькі мала, а, часам, зашмат
Чалавек пры жыцці можа мець:
Яскрава згарэць альбо цьмець —
Кожны сам абірае фармат.

***

*Дачцэ*

Маленькая...
Ты маленькая шчэ такая...
Не ведаеш болю
І крыкаў адчаю ўначы.

Я буду старацца,
Я буду, табе абяцаю,
Твой спакой штодзённа,
Бы вартаўнік, сцерагчы.

## Чалавеку планеты Зямля

Беражы ў сабе чалавечнасць,
Захоўвай яе старанна.
Не дары яе анікому
І аніколі не зыч.
Толькі гэта з табою навечна,
Толькі гэта лякуе раны.
Як дарога — вядзе дадому,
Як у цемры палае зніч.

## Матулі

Ведаць трэба сваіх герояў.
Мой герой — у звычайным халаце,
Ён жывы, не з краіны мрояў.
Ён бароніць спакой дзіцяці.

Калі сумна альбо журботна
Ён заўжды падтрымае словам,
Далонню пагладзіць пяшчотна
І падзеліць боль напалову.

Вырастаюць дзеці, сталеюць.
Вылятаюць, бы птушкі, з гнёздаў.
І ў герояў ужо не вераць,
А узгадваюць надта позна.

Ведаць трэба сваіх герояў.
Мой герой — у звычайным халаце,
Ён жывы, не з краіны мрояў.
Мой герой — мая родная Маці.



# Марына Валасар

паэтка. Скончыла ў 2013 годзе філфак БДУ імя А. С. Пушкіна. У 2015 годзе — факультэт павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі Інстытута журналістыкі БДУ па спецыяльнасці «СМІ». Вершы друкаваліся ў газеце «Берасцейскі ўніверсітэт» і часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 1990 годзе ў вёсцы Тальмінавічы на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Святло надзеі

## Думка

Мора мараў і сонца агністае,
Спадзяванне, надзеі святло...
Мора хмараў і бляску нячыстага —
Вынік бруднага сэрца твайго.

Гэта ў кожнага, пэўна, здараецца —
не паробіш нічога тут.
Важна тое, як адбіваецца
На абліччы вобраз пакут...

Ды й пакутай што называецца?
Толькі думка у галаве,
З якой пэўна ўсё пачынаецца —
Парыванні і мэты твае...

Калі думка чыстай становіцца,
Свет змяняецца: радасць, спакой...
Хмары ветрам надзеі разгоняцца,
І застанецца радасць з табой.

*13-14. 10. 2013 г.*

## Ай, ну яго ўсё!

Ай, ну яго ўсё!
Расчараванне, злосць і трывогу
Закідаць шызым трысцём,
Звярнуўшыся тварам да Бога!

Адрынуць крыўду і страх,
Бязвер'е, бяздушша і зайздрасць
І заявіць на цэлы абсяг,
Што ўсё паўсядзённае — марнасць!

Мы толькі на гэтай Зямлі
Часовыя воіны ў полі,
А па сканчэнні вайны
Прыйдзе Генералава воля.

Таму у памяці дзён
Галоўнае ёсць адчуванне,
Што ў кожнай хвіліне — агонь,
У кожным імгненні — заданне!
*1.11.2013 г.*

## Хрыстос уваскрос!

Ён для цябе ўваскрос — Хрыстос!
Кпіны і здзек перанёс — Хрыстос.
Здраду і суд, і бічаванне,
Быццам ягнё на закланні.

Ён для цябе ўваскрос — Хрыстос!
Мужнасці крыж пранёс — Хрыстос!
Падаў, але падымаўся —
У праўдзе стаяў і не здаўся.

Ён для цябе ўваскрос — Хрыстос!
Богу аддаў свой лёс — Хрыстос!
Кроў на крыжы праліў,
Дух твой аздаравіў.
*21. 04. 2014 г.*

## Ты

Дзесьці пад стосам думак,
Пад багавіннем разваг,
Ёсць твой адзіны скрутак,
Ёсць твой свабодны сцяг.

Пад цяжарам меркаванняў,
Паміж спляценнем сноў
Ёсць твой уласны подых,
Які згубіў ты ізноў.

Дзесьці пад дахам цяжкім
Стэрэатыпаў людскіх,
Пад мноствам вобразаў-масак
Ёсць сапраўдны ты...
*19. 07. 2014 г.*

***

Ён прыйшоў, каб свабоду нам даць,
Знішчыць пастку граху і цемры,
Ён жыццё сваё змог аддаць,
За народ, які страціў веру.

Ён адкрытым з кожным быў,
Паказаў прыклад нам пакоры,
Брамы неба для нас адкрыў,
Стаў для кожнага з нас узорам.

І на першае месца Ён
Любоў ставіў і міласэрнасць,
Фарысейскі знішчаў закон,
Што рабіў чалавека мізэрным.

Ён цярпеў на крыжы за нас,
За грахі нашы і падзенні,
А ў апошні, смяротны час
Для забойцаў прасіў збавення.

Ён на трэці дзень уваскрос
І прынёс надзею і радасць,
Ён Сын Божы — Ісус Хрыстос,
У ІМ ЗБАЎЛЕННЕ І ВЫТРЫВАЛАСЦЬ!
*5. 04. 2015 г.*

## Не бойся...

Калі пыл засцінае вочы,
І твой свет — нібы ўжо не твой,
Самай цёмнай, самотнай ноччу —
«Ты не бойся, бо Я з табой».

Я вяду цябе іншым шляхам,
Што вядомы Мне аднаму,
На шляху не паддайся страхам —
Я трымаю цябе за руку.

Калі бачыш, што мала сэрца,
Думак вір праглынае цябе,

Не спыняйся, працягвай верыць,
«Ты заўсёды прыходзь да Мяне».

На каленях вядзі «размовы»,
Або проста глядзі на Мяне,
Для любові не трэба словаў,
Дастаткова толькі Цябе.
*студзень, 2016 г.*

***

*«Хрысціянства — гэта не рэлігія.*
*Хрысціянства — гэта сам Хрыстос».*

Ён не глядзеў на асобу,
А быў заўсёды сабой,
І праўдай, шчырасцю словаў
Ствараў у душах спакой.

І не шукаў Ён прыняцця
І пахвалы ад людзей,
А сілай Духа узносіў
Для Бога славу вышэй.

Вучыў у простасці сэрцаў
Шукаць да Бога шляхі,
Трымацца праўды і верыць,
І быць сабою заўжды.

Спагаду і міласэрнасць,
Любоў да бліжніх вышэй
Закона кніжнікаў ставіў,
Быў да народа бліжэй.

І на Галгофе прыняў Ён
Твае грахі на сябе,
Каб шчыра верыў, спазнаў ты,
Што Хтосьці любіць цябе!

Ён знішчыў смерць і ў сэрцы
Святло надзеі прынёс,

Каб ты ў грахах не загінуў —
Ён для цябе ўваскрос!
*2016 г.*

Калі выбар свой робіш у Праўдзе,
Не ідзеш за натоўпам услед —
Нараджаецца зноў тады Збаўца,
Пакідаючы ў сэрцы свой след.

Калі бачыш далей сваіх крокаў
Крокі іншых людзей навакол —
Ззяе зноў Бэтлеемская зорка
І прыносіць у сэрцы спакой.

Калі мужна адстойваеш веру,
Вызнаеш Бога перад людзьмі,
Нараджаецца зноў тады Езус,
Каб святлом быць на гэтай зямлі!
*25.12.2016 г.*



# Ганна Рудак

паэтка. Скончыла філалагічны факультэт БДУ.
Друкавалася ў «Верасні».
Нарадзілася ў 1989 годзе ў вёсцы Бортнікі
на Глыбоччыне. Жыве ў Бараўлянах.

# Мой дом

***

З чужога кроў не цячэ —
З чужога вада цячэ,
Лёд дорыць тваёй шчацэ.
З чужога не кроў цячэ.

Ты марыш сказаць дачцэ:
«З чужога не кроў цячэ —
З чужога вада цячэ.»
Смерць дорыць тваёй дачцэ...

Сляза на тваёй шчацэ
Крывёй застанецца навекі.
Так проста глядзець на цябе,
Так цяжка узняць павекі.

***

Вёрсты мае топчуць ногі мае зламаныя,
Напісаць бы на небе крык — на ногі не ўстаць.
Вёрсты мае, здзекліва-імклівыя,
Хутка-хутка і цвёрда-цвёрда бягуць па нагах.
Праламіць лакцямі зямлю — не надыхаешся.
Прарасці травой — не пара яшчэ!..
А ранаю быць — мне не рана?
Вы так многа гаворыце
І так многа ведаеце
пра мяне.
Шкада, што я сама пра сябе не памятаю.
Толькі ведаю, што ногі зламаныя
і да неба не дакараскацца.

***

Ён аднойчы...
Назаўсёды аднойчы, не на два крокі,
Не на два імгненні, не на дзве далоні,
Не на дзве прыступкі, не на два абдымкі.
Ён аднойчы вось так назаўсёды знікне
Ад цябе
Для цябе.

А спачатку
Прыдумае даты,
З'едзе проста вось так.
Да яе.
Проста возьме сябе за скроні,
Зразумее штосьці і з'едзе.
Ад цябе, ад сябе, да іншых.
Лепш да іншых, чым — да Яе.
Ну а ты проста крыламі топчашся
Па прамёрзлай ад спёкі лесвіцы.
Ты глядзіш праз вакно на вуліцу
І на іншых людзей — праз вакно.
Праз вакно — на жыццё і вецер.
Праз вакно — на жыццё і вецце...
Хочаш выслізнуць за вакно,
Хочаш ветрам быць,
Летам быць,
Шчасцем быць.
Хочаш з ім быць,
Не хочаш быць
Зноў сабой,
Але толькі сабой хочаш быць,
Не іншымі
І не з іншымі.
Хочаш дыхаць
І не задыхацца,
Хочаш піць
І не напівацца,
Хочаш плысці і не тануць.
Хочаш з ім быць
І не памерці.
Хочаш, каб не памерла пяшчота.
Хочаш крылы змяніць на ногі,
Каб схаваць у заплечнік крылы,
Каб яны раней часу не сцерліся
Аб асфальт і калянае шкло.
Хочаш бачыць любімыя вочы
І не хочаш баяцца быць блізка,
І не хочаш не бачыць аблокі
Ружовыя,
Белыя,

Сінія,
Лёгкія.
Хочаш падараваць чалавеку, які сёння знікне,
Свой шчаслівы заўтрашні дзень.

***

Я хачу цябе бачыць.
Нядаўна
Перад сном я падумала, што
Сапраўднае — гэта калі
Глядзіш на чалавека,
А ён разумее, што
Ты вачыма крычыш:
«Не пакідай мяне,
Ты толькі не пакідай мяне!..
Я без цябе — адзін —
Як сірата,
Як бяздомны,
Як хворы,

Як дзіця,
Не пакідай мае рукі,
Не пакідай мае вочы,
Не пакідай маё сэрца»

Глядзіш — і крычыш.
І ў гэтым — усе твае мары,
Усе твае думкі,
Усе твае слёзы,
Усе твае сны.

Не пакідай мяне,
Без цябе — дарма
Столькі было праліта,
Пражыта,
Пройдзена,

Дарма столькі словаў,
Малітваў,
Крыку,
Енку,
Дарма столькі ўдыхаў.

Ён — вось гэты
Камячок,
Чалавек,
Небарака —
Цябе чакаў
І плакаў.
Плакаў.

Ніхто не бачыў,
А ён плакаў.
А зараз — ты —
І ўсё, што было, забыта,
Усё, што было, —
Далёка,
Бо ты — блізка.
Ты — блізкі
Для гэтых вачэй.

Глядзіш — і пяшчота
Цячэ па халодных руках.

А потым, калі я прачнулася,
Я ўспомніла,
Што думала пра гэта перад сном.
І я думала, што буду кахаць
Толькі калі на мяне будуць
Глядзець так.
Бо гэта не пройдзе,
Не знікне,
Не здрадзіць.

А сёння — мне так захацелася,
Каб гэта быў ты.

***

Не хачу я нічога пісаць,
Толькі дыхаць.
Калі ты паедзеш туды,
Што ты там будзеш рабіць?
Дыхаць.
Ведаеш, так
Глытаць

На кожны ўдар
Сэрца —
Тук-тук.
А я замест гэтага —
Удых
Дыхаць буду.

А калі ты едзеш туды, дадому,
Ну... там жа нікога няма,
Што ты там робіш?
Дыхаю, ну як ты не разумееш,
Дыхаю.
Так
Падымаюся па лесвіцы —
І дыхаю.
Сяджу на каленках —
І дыхаю.

Цалую паветра —
І дыхаю.

Дыхаю.

Дыхаю.

Я, калі стала ўжо не
Настолькі маленькай,
Што пачала думаць пра смерць,
Пачала баяцца смерці,
Бо кожны баіцца смерці,
Таму што нельга будзе дыхаць.

Мабыць, так ува ўсіх.
Так і са мной.

Можна проста ўзяць кожнага чалавека,
Кожную асобу,
Кожнага асобнага чалавека,
І папрасіць, каб ён расказаў
Гісторыю свайго жыцця.

І, паслухаўшы,
Можна будзе сказаць —

Так і са мной, дружа,
Так і са мной.

Але гэта толькі калі ты
Ў такім стане,
Калі табе сябе ўжо не шкада.

А калі ты прагнеш
Быць,
Калі ты прагнеш — быць
(я гэта і мела на ўвазе) —
Табе здаецца,
Што ў цябе самае,
Ды каб яго,
Самае незвычайнае жыццё.

Але гэта да таго моманту,
Пакуль не забаліць
Галава,
Ці нага,
Ці сэрца,
І не зможа што-небудзь
Параіць
Цётка Надзя,
Што ўсё жыццё была
Простай санітаркай.

І потым тая думка,
Што ў цябе з кімсьці можа
Не быць агульных
Думак —
Знікае,

Бо думкі пра боль —
самыя сапраўдныя.
І хопіць пра розум,
Хопіць пра розум,
Калі ласка,
Я не магу больш пра
Розум.
Я хачу толькі дыхаць.

Глытаеш паветра,
Глытаеш —
Жывеш.

Глытаеш, глытаеш
І ніколі
Не паміраеш.

## Дом мой — мой дом

***(Паэма)***

**Мой дом**

Разарві мне сэрца,
Я хачу дадому.
Я хачу быць патрэбнай Богу, а не нікому.
Я не плакала,
Я проста хадзіла па лесвіцы.
Я не плакала,
Я не буду больш плакаць.

Я не чую больш галасоў,
Што раней клікалі Бога ўва мне.
Я не чую больш галасоў, што крычалі
Пра моцнае шчасце.
Засынае мая Беларусь,
Засынае мама мая,
Засынае калыска мая.
Я сяджу побач з імі
І думаю, як не заплакаць.
Але плакаць не буду больш,
Плакаць — цяжка.
Я проста хаджу па лесвіцы,
Бачу іх сляды,
Чую іх галасы.
Але гэта быццам бы не яны,
І не я.

Ты казала, што калі раптам што —
Я не буду плакаць так,
Як плакала, калі ты была.
Ты казала, што моцныя духам не плачуць,

А слёзы побач часта бываюць з тымі,
Хто нямоцны духам.
Я — нямоцная духам.
Слёзы часта бываюць побач са мной.
Але я не плачу.
Толькі вочы свярбяць і плачуцца,
Жаляцца.
Рукі дрыжаць.
Сон мяне не абдыме больш.
Сон мой светлы мяне не абдыме больш.
Дзе ты, сонца маё,
Дзе ты, шчасце?
Я сяджу на закінутай лесвіцы,
Моцна заплюшчваю вочы
І бачу святло ў акенцы далёкага дома.

**Мой дом**

Рабства больш няма,
Дыхаць цяжка, а рабства няма.
Няма рабства, няма паветра, няма нікога,
Хто бачыць, як выйсці з сябе,
Са сваёй зацяжаранай скуры.

Ты — эстэт,
Ты — эстэт,
А ёсць людзі, якія могуць быць не эстэтамі
І карміць цябе.
Яны ёсць, хоць казалі,
Што рабства няма.
Ты глядзіш на іх і плюешся,
Ты глядзіш на іх і бачыш, што ты — не яны.
Ты — эстэт.
Ты — не яны.
Кажаш, што рабства няма.
Ты не чуеш таго, што ёсць,
І не бачыш,
Скаціна-эстэт.
Ты спрабуеш набыць квіток у прыгожае заўтра і сёння.
Шмат прыгожага ёсць на зямлі,
Шмат цудоўнага, Божа мой,
Ёсць на зямлі.

Толькі ёсць чалавек,
Які не можа падумаць пра гэта.
Ёсць чалавек, які не можа ўбачыць нічога гэтага.
І такі чалавек — не адзін.
Я люблю чалавека гэтага, Божа.
Я хачу быць з ім,
Але не магу.
Не магу быць настолькі шчодрай.
Не ведаю, як...

Валуны, што
На мокрай зямлі ляжаць і стагоддзямі дыхаюць,
Адчуваюць больш, чым ты,
А ты лічыш, што ты чалавек,
І не бачыш мора людзей,
Шэрае мора людзей.

**Мой дом**

Кожнай раніцай я еду на працу.
Кожнай раніцай мне самотна.
Кожнай раніцай — не прачнуцца.
Хтосьці не прачынаецца кожную раніцу.
Шэрая восень, вясна,
Восень, вясна,
Восень, вясна.
Шэрае неба.
Шэрае сёння.
Чалавек у сляпых акулярах едзе на працу
І баіцца праспаць,
Каб устаць і паспець на працу.
Чалавек у замыленым,
Запыленым і
Аголеным горадзе
Едзе на працу
Ў маёй светлай любімай краіне.
Я вельмі люблю цябе, Беларусь.
Я табой ганаруся, Радзіма!

**Мой дом**

Я люблю Беларусь
Маю мілую, мілую,

Мілую.
Я люблю Беларусь.
Я не крывадушная.
Люблю кожны дзень.
Лепш мне не будзе нідзе.
Куды ні паедзь — паўсюль Беларусь.
Сніцца сон, што вярнулася светлае ўчора.

**Мой дом**

Калі я была маленькая,
Я пісала вершы пра кветкі.
Пра васілёчкі і рамоначкі,
Пра васілёчкі і рамоначкі.
Калі я была маленькая —
Я была —
Маленькая.
І бачыла васілёчкі.
Бачыла
Васілёчкі.

**Мой дом**

У маім доме няма святла.
У маім доме няма вакна.
У маім доме і даху няма.
У маім доме няма сцяны,
У маім доме няма вады,
У маім доме няма мяне,
У маім доме вісіць на сцяне белы крыж
У маім доме паснулі сны,
У маім доме блукаюць сабакі
У маім доме няма цябе,
У маім доме няма ніводнай жывой крыніцы.
Не, крыніца жывая ёсць.

**Мой дом**

Пад вакном маім — белая яблынька
Калі мне цяжка — я пра яе ўспамінаю.
Калі будзе цяжка — можна паехаць і ля яе падыхаць.
Падыхаць, падыхаць.
І нават папіць паветра.

Ля яе толькі гэта магчыма.
Паветра яе дае сілы.
Гэтая яблынька памятае, хто я такая.
А я не памятаю.
А калі да яе прыязджаю — то ўспамінаю.
І дыхаю.
І п'ю паветра.
Яно не цяжкае,
Не замыленае,
Не запыленае.
Калі там заснеш — то прачнешся.
Калі там прачнешся — то выспішся.
Калі там не зможаш заснуць — то наплачашся.
Ды нічога не будзе дарма.
Там — не турма.

**Мой дом**

А вакол мяне — белыя людзі.
Калі бачу шэрых людзей,
Люблю думаць, што яны белыя.
Апранаю сваімі думкамі іх у светлае адзенне,
А потым забываюся, якія яны — шэрыя ці белыя.
Белыя ці шэрыя.
Мне ж ніхто не дазволіў думаць, што я
Штосьці ведаю пра гэты свет і
Яго колеры.
Ніхто не дазволіў, але я думаю.
Ці мне проста дазволіў хтосьці — а я не ведаю.
Ці я думаю без дазволу — але думаю.
Пастаянна думаю, што
Свет і людзі —
Розна-
Каляровыя.
Люблю гэты свет і людзей.
Люблю Беларусь,

**Мой дом.**



# Марыя Магдалена Палхоўская

паэтка. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Друкавалася ў «Верасні». Нарадзілася ў 1989 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Чароўныя пацеркі

## Перапляценне

Мае крылы зрабілі на мяне данос
Заблыталі падсвядомае і рэальнае
Зацерушылі маё сонца пер'ем
Пераглядзела «Дом Сонца»
Ён павінен быў кахаць не яе
Ну чаму ён выбраў яе?!
Абраны народ заўжды паскудзіў як мог
А цяпер і мы абраны народ
І я цяпер...
І нашто мне былі тыя крылы?
Нейкія дзіўныя..
І не да неба, каб рамантычна апаліцца
І не ў зямлю, каб стаць пералiўна чорнымі
А так... ніяк
Як далёкі сваяк
Што заходзіць час ад часу ў госці
Ну на вяселле там ці на хаўтуры
(А ёсць яшчэ гарэлка «Сваяк»
толькі я не ведаю, яна як ці ніяк)
Я зараз больш пра крылы
абмяняць іх на новыя падушкі альбо пуховыя швэдры
ці ўсё ж прытрымаць сабе,
патрымаць сябе яшчэ ў паветры?

*15.09.2014 г.*

## А раптам я стану асадкай?

А што калі б я стала асадкай?
Я мела б тонкі стан
І, напэўна, унутраны стрыжань.
Пакідала б сляды сваёй крыві
На аркушах белых ці жоўтых.
Пісала б на паштоўках з коцікамі ці Старым Менскам.
Мяне б трымалі рукі розныя.
Магчыма мужчыны грозныя
Падпісвалі свае паперы сур'ёзныя.
Ці хлопцы-гарэзы пляваліся,

Дастаўшы маё нутро,
Як дастаюць нутро настаўніку.
Можа б страціла свабоду
Дзесці ў банку ці Белсаюздруку,
Дзе прывязаная да вакенца
Хавалася ад рук,
Што выпадкова пацягнуць мяне ў кішэню свайго паліто.
А раптам..? А раптам!
Я траплю паэту,
Які будзе лашчыць мой тонкі стан,
Намагаючыся ўхапіць самую сутнасць сутнасці.
Я буду забывацца, што я асадка.
Я буду захапляцца вершам і паэтам,
А пасля ляжаць у шуфлядзе на кіпе сшыткаў
Марыць зноў з ім сустрэцца
А раптам я стану асадкай?

*04.02.2015 г.*

## Багоўка

Багоўка паўзе па небе
Цікава,
што ёй там трэба?
Можа хлеба?
А можа і Неба!
Яна ж
Б А Г О Ў К А
ўсё ж!
Багоўка — дзівачка!
Усе дзівакі,
хто з Богам на ты...
А багоўка
тым часам
Па хмарках,
па хмарках!
Ды шпарка!
Як добра,
што ёсць ложак у хаце,
вакно ды шкло
Праз яго і багоўку
можна глядзець на Неба!

*04.04.2015 г.*

## Як быць Свабодай?..

Я мушу загінуць
Як і ты
На досвідку
На сойміку малым
Дзе вырашаюць лёс
Радзімы
А значыць і мой
А значыць і твой
Ты больш не прасі быць тваёй свабодай
Я не здолею
Стаць вырашальным
Каменьчыкам
На шалях рэферэндуму
На шчасце
Ці на вялікі жаль
Загінуць у абдымках
Не страшна
Калі абдымкі твае

*05.02.2015 г.*

## Беларусь свайму Сыну

Па
Пагоні
Па
знаеш мяне.
Па гонях
Па гонях
Паскачам коньмі!
Па паданнях сівых
Па паштоўках старых
Гэй, ты! На кані!
Па пасме бялявай
Палашчы!..
Памаўчым...
І я назаву
цябе сынам
сваім
па
праву

вернасці Мне.
А не
па
пашпарту
з адзнакай
РЭСПУБЛІКА Б.

*Сакавік, 2015 г.*

***

Я заручоная з Літвой
Жыву не з ёй, а з Беларуссю.
Мяне вялікія князі здрадлівай
Быць прымусілі...

*24.12.2015 г.*

## Пацеркі

Надта свежыя твае вочы
Як прыгаршч чарніцаў чорныя
Захаваю іх у сэрцы дзявочым
Стануць пацеркамі чароўныя
Твае пацеркі пераліўныя
Маю шыю скарылі дзіўныя
Пераселі б лепш у арліныя
Пустыя вачніцы пярлінамі
Я б тады пабывала ў свеце
Дзе арліныя вырастуць дзеці
Замест пацерак ніці на шыі
Мела б позірк птушыны і крылы

*27.12.2015 г.*

## Асацыяцыя 1

Мядзведзю — мёд
Марозіва — маржу
А мне бы — сон
Дык што — я сом?

*24.12.2015*

## Асацыяцыя 2

Істота палахлівая, але мілая
У ваду схавалася мыльную

Вада раззлавалася — кроплямі сталася
За кропляй прасачы — выпадзе дождж уначы
У ночы зоры — як зоры ў моры
Марскую капусту — ем толькі ў прыкуску
Прыкусіў язык — як змоўчыць не звык
Нязвыклыя месцы ў кнігах месцяцца
У кнігах жывуць сумніўныя
Істоты мілыя ды палахлівыя

*25.12.2015 г.*

## Ліхтарнікі

У доўгіх боціках
Абцасамі па бруку.
Па мройным бруку.
Марозны вецер у твар
Жыццё на сходзе мае каляндар
Штодзень усё танчэйшы стан.
Вітрынамі размалявана цэгла
Цямрэча восені агнямі збегла
Мы іх праскочым пераходамі
Незаўважна збочым сходамі
Там можа знойдзецца ліхтар
Які не ажывіла электрычнасць
Я лесвіцу спляту з галля —
Такая ўжо звычка
Агонь здабудзеш ты —
У кішэні запальнічка
Той наш ліхтар
Убачыць зможа толькі сціплы падарожны
Ці сцежкамі жыццёвымі здарожаны.

Заўважыўшы ліхтар,
Спяшайся да яго, спадар!
Адпачывай!
Да рання ўжо блізка...

*05.12.2014 г.*



# Кацярына Шчасная

паэтка, празаік, мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Бярозка», «Верасень», альманаху «Тэксты»... Нарадзілася ў 1984 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Мінску.

# Пад абажурам

***

Так бывае:
Рана-рана, восень, дождж.
Дала табе ў дарогу
Свой парасон.
У кропінку, у карункі.
Ну і што?
Хай сабе тыя мокнуць
Без нічога ці ў капюшонах,
Ці штурхаюць каго
Дзідамі строга чорнымі.
А ты «ў ажуры»,
Пад абажурнай
                    апекай маёй.

***

Ружы стаяць на парозе,
Як будзільнік
                    на восем.
І з чаго было заводзіцца?
Проста ты — ў, —ў, —ў,
Ну а я — ла, —ла, —ла.
Было б ўсё чыста —
Кветкі бялелі, што прасціна,
Ці наадварот,
Пунсавелі ад сораму.
А пакуль
            да высвятлення абставін
Стаяць на парозе
                    ружовыя.

## Сяброўка

На стале віно
(прызнаюся: кава),
Ты ўся ў спадніцы
                    і так ласкава

Пытаешся: «Як справы?»
Ды ўсё нармальна.
Трываеш на паўзе,
І за сваё «А Уладзік!...»
Уладзік ізноўку!
Заела іголку!
Ён чым цябе звязваў?
Пра яго хоць слоўка
І табе завяжу я!
Спакойна — жартую.
Раскажу лепш пра Машу —
А што! Прышпільная дзеўка
(Можна есці кашу),
Хаця няма твайго перцу
І турнэ па Лябяжым.
Якім быць трэба адважным,
Каб без намёку горкага
Цябе па плячы лашчыць,
Сяброўка мая ты, сяброўка.

***

Бегла ліска каля лесу блізка
І да тваёй сцяжынкі.
Бяры ды прыручы —
Пашкадаваў і скарынкі.
Цяпер (які ўжо раз!)
Усяк свой хвост нахвальваеш.
Калі пястуха на чужых руках —
Дык такая жаданая.

***

*На Беларусі Бог жыве...*
У. Караткевіч

На гмах падняліся — амаль пад аблокі,
Думалі — вось і ўбачым Бога.
Ды перадалі — ен з'ехаў на вёску:
У яго — агуркі-памідоры,
Куры-гусі, грыбы і маліны,
У дзень пяты ён варыць варэнне,
У дзень шосты — едзе на рыбу.

І што ёсць у яго гарадскога —
У сёмы дзень, прылёгшы ля рэчкі,
Крэм кладзе для загару на спіну.
Мы з вышынь спусціліся хутка
Туды, дзе травіца казыча пяткі.
І стала самім так светла
Ад разгаданай загадкі.



# Дар'я Дарошка

паэтка, бард. Лаўрэат шматлікіх паэтычных і песенных конкурсаў. Аўтар кнігі паэзіі «В Начале» (2012 г.). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Сам-насам з летам...

## Сон пра дождж

Ночку ўсю дажджынкі стукаюцца ў шыбу,
Неяк апантана скардзяцца на лёс:
Не знайшлі ў нябёсах залатую рыбу —
Тую, што калісьці бачылі ў мароз.
Родныя сястрычкі, крохкія сняжынкі,
Што паснулі ўзімку пад маім акном...
— Ды навошта кропелькам залатая рыбка?
— Здзейсніць мару нашую пра гасцінны дом.
Вечна беспрытульныя, мы ляцім скрозь прыцемкі.
Стукаемся ў шыбіны, падаем на дол.
Прысвячаюць вершы нам нават злыя крытыкі,
Толькі ўсё адно ніхто не пакліча ў дом!
Расчыніла вокны я, адхіліла кветкі,
Працягнула дожджыку цёплую далонь:
— Не крыўдуй! Заходзь ужо ў госці да паэткі.
Запрашаю шчыра ў свой прыгожы сон!

*2016 г.*

***

Каханне — гэта чай з лімонам
І напамін пра цёплы шалік.
І дотык выпадкова-сонны
Пяшчотных вуснаў: суцяшальны,
Ласкавы рух душы насустрач.
І мармытанне: «Усё будзе...»
І валасоў духмяных футра.
І надзвычайна цёплы студзень...

*2016 г.*

## Кляновая восень

Прачнулася — восень! Нарэшце блукае
У горадзе ціхім даверлівым Каем.
Няветлівым, добрым, бязрадасным Каем
У горадзе восень клянова блукае.
Клянова блукае, ступае клянова.
Далонькамі клёнаў трапляе пад колы.

У горадзе восень і холад, і вечар.
І клёны ўтрапёна ўглядаюцца ў вечнасць...
*2016 г.*

## Настрой

Скуголіць вецер, сівы і змрочны.
Скавыча, вые на ўскрайку ночы.
Блукае зданню, віхурыць, сыпле.
Дурны, самотны, зусім асіплы.
Такі нярвовы, амаль шалёны!
Халодны вецер, на смак салёны...
*2016 г.*

## Фрустрацыя

Ізноўку развітальны тыдзень. З летам
Сам-насам я,
Гляджу ў блакіт уяўны
Нябёсаў шэрых.
Ізноўку свет губляе мары, мэты.
Дзе ж той маяк,
Што абнадзейваў спраўна
Чаўны і бераг?..
*2015 г.*

***

Зіма ў Беларусі маўклівая, ціхая.
Пухлява-пяшчотная, снежная зімка.
Агеньчыкі ў вокнах даверліва зыркаюць,
Глядзяцца ў віхурна-марозную зыбку,
Дзе нованароджаны Годзік гайдаецца,
А Час увесь час яму шчыра ўсміхаецца.
*2017 г.*

***

Не трэба істэрычных вершаў
Ні пра каханне, ні пра змрок.
Не трэба! Кожны промень — першы.
Не патушыце незнарок
Святла вачэй, душы і зорак,
Ні самых простых ліхтароў.

Не трэба меладрам пра гора,
Пра слёзы сэрца ды пра кроў.
Спявайце радасць, грайце шчасце,
І хай святлее за акном!
Не трэба змрочным словам засціць
Сцяжыну лёсу ў родны дом!

*2017 г.*

## Гердам

Люты малюе ружы
На занямоглых шыбах.
Вецер па вулках кружыць,
З гурбаў фармуе німбы.
Для пасівелых зданяў,
Што па зямлі блукаюць,
Марачы пра спатканне
З вечна самотным Каем.
Герды з адданым сэрцам
На ледзяных дарогах,
Знайце: аскепак шкельца —
Гэта не так і многа.
Не да спадобы Каю
Чырвань пяшчотных ружаў!
Люты яго гукае,
Шэрань, мароз і сцюжа.

*2017 г.*

***

Я цябе не бачыла так доўга,
Што ўжо нават адпусціла крыўда.
Ды няўжо ж бясконцая дарога,
На якой ты намалюеш крэйдай:
«Кахаю!»?..

*2017 г.*

# Аляксей Лужынскі



Шаноўныя чытачы часопіса «Верасень», хачу прапанаваць вершы Аляксея Лужынскага. Ён пакінуў зямное жыццё, як Максім Багдановіч, ва ўзросце няпоўных 26 гадоў. Спачатку некалькі слоў пра Аляксея.

Нарадзіўся 31 траўня 1988 года ў горадзе Вілейцы. Закончыў Вілейскую гімназію № 2 (былая сярэдняя школа №4), а затым Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт, гістарычны факультэт. Далучыўся да нефармальнага краязнаўчага руху, які гуртаваўся вакол самвыдата «Волат». З цягам часу стаў сам выпускаць гэты гісторыка-краязнаўчы альманах.

Займаўся грамадскай дзейнасцю, краязнаўствам, быў актыўным удзельнікам Вілейскай суполкі Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Зараз таварыству нададзена яго імя. Аляксей удзельнічаў у студэнцкіх этнаграфічных экспедыцыях.

У Вілейцы ён рэалізаваў дзясяткі ініцыятываў. Ад выданняў каляндарыкаў і паштовак з помнікамі архітэктуры да сумесных вандровак па Беларусі. Разам з жонкай ён арганізоўваў народныя святкаванні Камаедзіцы, Багача, Купалля.

Дзякуючы яго намаганням у Вілейцы адбываліся выступленні вядомых музыкаў і пісьменнікаў.

Апошнім праектам, у якім прыняў удзел Аляксей, стаў выпуск паштовак і каляндарыкаў, прысвечаных 250-годдзю Міхала Клеафаса Агінскага. Хоць быў моцна хворы (а выявілася гэта ў 19 год), але не здаваўся, спяшаўся жыць, наведаць тыя мясціны, якія былі ў марах. Апошняе падарожжа, якое здзейсніў,— падарожжа ў Вільню.

Вершы пачаў пісаць вельмі рана, яшчэ ў школьныя гады. Дэбют Аляксея Лужынскага адбыўся ў часопісе «Бярозка» ў 2006 годзе. Затым былі публікацыі ў часопісе «Маладосць» і газеце «Пераходны ўзрост». Вершы Аляксея ўвайшлі таксама ў зборнік твораў самадзейных паэтаў Міншчыны. Пісаў пад псеўданімамі Якуб Цвік, Якуб Волат і апошнім часам — Якуб Вецер. На жаль, Аляксею не суджана было дачакацца выхаду першага зборніка вершаў, якому ён даў назву «Прыступка». Рана абарвалася жыццё сапраўднага беларуса, які любіў свой родны край, сваю Вілейшчыну і ўсё рабіў дзеля таго, каб запоўніць белыя плямы ў гісторыі Бацькаўшчыны, адрадзіць памяць і перадаць гэты неацэнны скарб будучым пакаленням.

Прадмова і публікацыя вершаў Ганны Кулеш.

# Пад Адкос!..

***

О родны край! О родныя мясціны!
Усёй душою прагну з вамі быць:
Блукаць па зарасніках вольхі ды маліны,
Лістом чаромхі ў чыстай рэчцы плыць.
Над полем лётаць дзьмухаўцовым пухам,
Ці павуціннем ў промнях сонца граць,

Ці ручаём імкнуць, і кожным сваім рухам
Прыроды-маці рухі дапаўняць...

***

Ці варты я ўспаміну больш
Чымся сняжынка за акном?
Бо нашы думкі — гэта фальш,
А думкі іх — маўчання дом.

І хоць за век кароткі свой
Яна нічога не зрабіла,
Але ж яна не загубіла
Душы, камусьці дарагой.

Пакуль пісаў я слова гэта,
Сняжынка знікла ў небыццё.
Няма ўжо больш таго балета,
Што за маё даўжэй жыццё.

***

Часам здаецца, што я з вышыні
Гляджу на лясы і палеткі:
Бачу: ідуць у зямлю карані,
І ў неба ўглядаюцца кветкі.
Бачу: цячэ вада ў ручаях,
Што ў рэкі, азёры ўпадаюць.
Бачу, як жыта расце на палях,
Як пасвіць кароў выганяюць...
Бачу Чарнобыля ядзерны пыл

У тых, хто не можа крычаці,
Бачу ў сотнях каменных магіл
Сваю непамерлую маці.

***

Я адзін — паблізу нікога.
Я адзін — навокал пустэча.
Не патрэбна зусім мне нічога:
Мне ўсе і ўсё недарэчы.
Я адзін, я ў стане свабоды,
Я адзін, я нікім недасяжны:
Я пазбегнуў сардэчнага лёду,
Спасцігаючы свет неабсяжны.
Нехта побач — пазбавіў спакою,
Нехта побач — ужо назаўжды.
Я шчаслівы, бо той, хто са мною, —
Гэта — Ты, гэта — Ты, гэта — Ты.

***

Я гляджу ў твае вочы —
Бачу там я зданяў ночы,
Кроплю цёплае расінкі,
Танец цьмянае сняжынкі.
Лабірынты твае вочы...
Я па іх адвечна крочу
І ад гэтага здарэння
Не шукаю я збаўлення.
Як люстэрка твае вочы, —
Тваю Існасць я ў іх бачу:
Птушку з чорнымі крыламі
І бліскучымі вачамі.

***

Тут пяруны, навальніцы Тут.
Тут нараджаюцца ветры.
Гэта не мой родны кут,
Гэта мой родны цэнтр!
Тут промні сонца,
Тут сонечны рай,

Тут пладародныя нетры...
Гэта мой родны цэнтр.

***

Апатыя
стомлены рукі
аркуш вялізны ўжо не асіляць
Грацыя
Міма прайшла
Не азірнуўся
быццам адчуў
што марна
Апатыя
Зноў да стала
Аркуш хіснуўся
быццам адчуў
што буду

***

Пад Адкос
Пад Адкос
Пад Адкос
Пад Адкос
Налівай — Выпівай
Весяліся — Сумуй
Памірай — Ажывай
Падыходзь — Не пасуй
Што рабіць?!
Што рабіць?!
Найвялікшы Хрыстос!
Пад Адкос
Пад Адкос
Пад Адкос
Пад Адкос

***

Нашу зямлю скаваў лёд.
А мы, абуўшы канькі,
як па вадзе плывункі,

бяжым,
ЗЯМЛЮ ж скаваў ЛЁД!
Мы, узяўшы ў рукі ламы,
з імпэтам дзяўбем па ільду,
і прадчуваем бяду,
мы,
узяўшы ў рукі ламы.
Гарыць у сэрцах агмень.
Ці зразумее з нас хто
у НАШЫХ сэрцах нашто
гарыць?
У сэрцах — Агмень!
Ужо зямлю скаваў лёд,
ужо мы з ламамі ў руках,
агмень хаваем у сэрцах,
і ЖАХ...

***

(У мове) блукаю
(слова) шукаю
адчайваюся
адчуваю
намацваю
мацую

***

Ніколі!
Ніколі не скончыцца вечны суд
(камусьці шчасце, камусьці пакут).
Ніколі не зменіцца святасць і бруд
(хтосьці здраду а хтосьці і цуд).
Ніколі ў сэрцы не зменіцца люд
(хтосьці на крыж а хтосьці ў блуд).
Нічога не будзе забыта тут.
Ніколі!
Ніколі!
Ніколі!



# Антаніна Хатэнка

паэтка, публіцыст, фальклярыст. Аўтар кнігі паэтычнай публіцыстыкі «Зніч крыжовых дарог» (1992 г.), нарысаў пра беларускую народную творчасць «Чалавек у далонях Сусвету» (Мінск, 1998 г.), кнігі-паэмы «Здзічэлае рэха вясны» (Кліўленд, ЗША, 1999 г.), зборніка вершаў «Тры грацыі» (супольна з Нінай Мацяш і Аўгінняй Кавалюк, 2002 г.). Нарадзілася ў 1956 годзе на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

# Дзедасвет

## Знічка

Я — знічка. Прамільгну і згасну.
Мне хвілю суджана свяціць,
каб развінуўся ранак ясны,
і птушкі гнёзды сталі віць.

Няўжо не вернецца ніколі
імгненне лётнага святла?
Згару. Растану ў чыстым полі.
А хто згадае, што была?

А хто прыкмеціў, як ляцела
ад неба сёмага — ды ўглыб,
як трапятала маё цела?
Хто чуў душы апошні ўсхліп?

А хто паверыць, хто паверыць:
балюча падаць у мурог,
перацінаць ніціны нерваў,
пералятаць начны парог...

Я — знічка. Кропляй адзінокай
вандрую па Краіне сноў.
Плыве рака мая далёка,
і я згараю ў хвалі зноў.

## Надзея

Спіць у нетры дрымучай надзея,
спіць у свеце счаканым святло...
Не згадаю, адкуль я і дзе я,
што мяне ў Беларусь прывяло.

Спіць у чорным прадонні пяшчота,
спіць у мройнай нябеснасці шлях.
Не жыву — углядаюся ў потым.
І кахаю, і веру здаля.

Спіць у вечары сплаканы золак,
спіць над горадам рук цеплыня...
У прасторы расчужана-гола
і няма каго ў часе абняць.

Спяць мае заблукалыя думы,
спіць у чэраве заўтрасці боль.
У малітве, паўстанні ці тлуме —
дзе спаткацца з самою сабой?

Спіць мая праайчынная памяць,
спіць касмічная праўда зямлі.
...Прачынаюся свечкаю ў храме.
Лёсе-часе, любоў запалі!

***

Усё памкнёнае да скону.
Усё вяртаецца ў зачын.
Упаў прамень на падваконне
з вяршыні одумнай начы.

Усё прыцягненае ўгору.
Усё карэніць глыбіню.
Бяжыць, бяжыць таропка ўчора
насустрач заўтрашняму дню.

Усё бывала не аднойчы
і будзе зноў пасля мяне.
А я пайду да Бога ўпрочкі.
Мой шлях у прышласць мільгане.

Усё мінулае настане.
Усё нязбытнае прайшло.
Расстанне выспела ў спатканнях.
Да долу — небнае чало.

Усё нітуецца да Сонца.
Злятае лісцем на Зямлю.
А я спаміну валаконца
ў жывой бясконцасці лаўлю.

***

*Мне доўгае расстанне з Вамі*
*Чарней ад Вашых чорных кос.*
Максім Багдановіч

Мне доўгае расстанне з Вамі,
як ноч на вейчыне вякоў.
Трымчу пад сцюжнымі вятрамі
спаміж знаёмых чужакоў.

Мне сумнае расстанне з Вамі.
Баюся ўпасці ў небасхіл.
А над гадамі, як над снамі,
ані пазнакі, ні вяхі.

Мне цёмнае расстанне з Вамі.
Іду навобмацак туды,
дзе ноч змахнула валасамі
у небыць Вашыя сляды.

Мне подзівам расстанне з Вамі:
мы — два крылы. Пралёгся час —
і ў непрагляднай разырване
распаўся наш нябесны звяз...

Мне горкае расстанне з Вамі.
Падсочкаю сцякае дзень.
То цішынёй, то галасамі
лёс кліча Вас, да Вас вядзе.

## Згадка

А хвіля, як хваля,
разбілася ў пырскі.
Мы вечнасць снавалі
на замчышчы Мірскім.

А дні, як сумёты,
аселі, расталі...
Травой-пералётам
мы тут прарасталі.

Гады, як завея, —
ляцелі-люцелі.
Блакіта Асвеі —
паданняў пасцеля.

Былі мы, плылі мы
з вышыняў, з прадоння...
Былічкі палынна
выгойдваюць гоні.

Халодная замець
над нівай галосіць.
Ніцінаю памяць
уплецена ў восень.

Правечнасці камень
урос у дарогу.
А мы ручнікамі —
нашчадкам пад ногі...

## Да Вільні

Іду няпрошана, нязвана
ў нябесны свет Святое Ганны.
З дзядовай верай разарванай
іду ў касцёл Святое Ганны.

Усім — амбонна і алтарна —
маленне шле Святая Ганна.
І пад карункавай убранай
трымціць душа Святое Ганны.

...Сляды... сцішэлыя пад мурам —
былых вякоў клавіятура.
Ступлю — і памяццю ўзнясуся
ў тваю пакутлівасць, Кастусе.

Сляды... Сляды да Вострай Брамы.
І галасы шляхоў над храмам.
Зямля ўмудрэлая калыша
тваю здарожанасць, Францішак.

Над Вільняй гордаю заранай
чырвоны ўзлёт Святое Ганны.
У белы свет плыве ахвярна
крывінка-боль Святое Ганны.

Шчымяць нязгоеныя раны.
Сцялася ў сне Святая Ганна.
Усім забытым і выгнаным
надзею дасць Святая Ганна.

Сляды, рассыпаныя ў Вільні.
Сляды замучаных і вінных.
У дзень наступны б'ецца хваляй
прарочы покліч твой, Купале!

Сляды — ад выраю да раю —
іх час у хроніні збірае.
А над гарою Гедыміна
Пагоня ўзвершана, Максіме.

Расплюшчыць вочы Край заспаны
з-пад далані Святое Ганны.
Бальшак, у далеч разасланы.
Вядзі мяне, Святая Ганна.

За ўсіх нязнаных, пакараных
даруй вякам, Святая Ганна.
Схілі над кветкаю курганнай
чало любві, Святая Ганна.

Сляды, сляды па Беларусі
знікаюць, стоптваюцца ў скрусе.
Ад вышы ў дол глядзяць панура
не Ганны — згорбленыя Нюры.

Сляды — пазнакі пакаленняў.
З'яўленні, выкрылы і ўспленні.
Не, я дахаты не вярнуся —
ад Ганны да змарнелых Нюсяў.

Растану тут укрыжавана.
Згару ў агні Святое Ганны.

Ляціць Пагоня над Нірванай.
Ляціць касцёл Святое Ганны.

Званы ўзвышаюць апантана
да заўтра шэпт Святое Ганны.
Сусвет раскрыльвае арганна
ў вечнасць спеў Святое Ганны.

***

Белым каменем пры дарозе
наш маўклівы прамудры Край.
У святочнасці і ў знямозе —
пекла наша і мройны рай.

Белым каменем са скрыжаляў
углядаецца ў неба Край —
пасівелы курганны жальнік,
абярожнай зямлі кара.

Белым каменем пры гасцінцы
мужны Краю — прабожы след.
Вечнасць голаў схіліла ніца,
узвышаючы долю ў свет.

Белым каменем з-пад паданняў
ажывае адважны Край.
Заўтра збудзіцца, заўтра ўстане
гордай княжыцаю зара.

Белым каменем пры Еўропе,
белым каменем пры жыцці.
Незабыўліва пахне кропам
наш адзіны святы Акропаль —
покуць дзедавае куцці...

***

*Элаізе Пашкевіч (Цётцы)*

Я ўчора сышла з планеты
У далёкі нязнаны свет.
Я ўчора была паэтам,
спяліла ў душы санет.

Я ўчора сышла з планеты,
А ты не прыкмеціў, не?
Звязала я ў клунак леты —
і болей няма мяне.

Я ўчора ўзнялася ў поле,
дзе ўсходзіць Птушыны Шлях.
Гляджу з пракаветнай Волі,
як гушкае сны Зямля.

Забуду бунты пакоры,
тугу ў перавясле рук.
Агорвай — дакор ці сорам —
я сцішуся. Я памру.

Як сумна ляціцца ў вырай —
таемнасць, і страх, і здзіў,
глухой адзіноты вырак...
І ты пад Гарой. Адзін.

Аддана нісходжу ў нетры,
слязінай бягу з крыжа.
Я ўчора была паэтам —
у неба нясу твой жаль...

## Жар-птаха

Яму Жар-птаха кінулася ў рукі,
гатовая Сусветы разгарнуць.
«Але з табой ніякае зарукі:
зноў адляціш... І як цябе вярну?» —
падумаў ён. І прыгалубіў курку,
у закутку будзённа сакатаць.
...Вось так жыццё гуляе з намі ў жмуркі:
то курку ўлёсіць, то ў мяшку ката.
І выпраўляем чым далей Жар-птахаў,
не здолеўшы загнаць у закуток.
Знячэўку Сонца кідаем на плаху,
спыняючы Любові крыватоk...

*28.01.2017, 07.15*

***

Спяшаў Паэт з гітарай за плячыма.
Шаптала срэбна струнаў валакно:
«Ідзе да стромай прышласці Мужчына —
і на зямлі світаецца-відно».

Ішоў Ваяр з гітарай за плячыма.
Сувоем цёплым слалася радно.
Ступаў харобра па зямлі Мужчына.
Сцішэлі бойкі лютыя даўно.

Ішоў Спадар з гітарай за плячыма.
Ласкавіў слова — занябесны дар.
І плакала ўрачыстая Айчына,
і ажывала мёртвая вада.

Ішоў Вядун з гітарай за плячыма,
у чыстым полі высякаў агонь.
Пяшчоціў глебу чуйную Мужчына.
Таемства свету слухала яго.

Ляцеў Анёл з гітарай за плячыма,
прастору-час люботна атуляў.
Прыснілася: сышоў на дол Мужчына,
што заступаўся за мяне здаля.

О княжа-Дух з гітарай за плячыма!
Радзіну ў адзіноце не пакінь...
І я паверу: горды птах-Мужчына
высока ўскрыліць Крывію ў вякі.

## Дарагі

Дарагі мой, дарагі,
пазнікалі берагі.
Мы плывем з табой, плывем
па някошанай траве.

Дарагі мой, дарагі,
з надвячоркавай смугі

мы ідзем з табой, ідзем
у нявычарпаны дзень.

Дарагі мой, дарагі,
па-над пожняю стагі —
развітальныя званы.
...Нашы мары, нашы сны.

Дарагі мой, дарагі,
ні журботы, ні тугі.
І кружляюць два лісты
над зямлёю — я і ты.

Дарагі мой , дарагі,
замяцелілі снягі
сцежку нашую назад.
Зорка ў небе, як сляза...

## Карпацкі сон

Белыя прывіды дрэў,
гор тумановых абрысы...
Заўтра спатканне памрэ,
досвіткам стане празрыстым.

Заўтра мы вернемся ў Львоў,
быццам з-пад выраю птахі.
Тут заблукае Любоў
зданяй, збялелай са страху.

І паляцяць у смугу
вецер, цягнік і твой голас.
Можа, тугу зберагу
ў гэтай сцямнеласці голай.

Зноў Трускавец спамяну,
дзе навучалася лётаць,
звонкіх канвалій вясну,
вечар, Міцкевіча постаць.

Як ты жывеш без Літвы,
мой рамантычны Паэце?

Рушаць дамоў журавы,
крыламі будзячы квецень.

Сумна плыве ў далячынь
дзён бурштыновая лотаць.
...Зніякавела маўчыць
места, дзе хочацца лётаць.

Кардыяграма Карпат
за даляглядна ю рысай.
Рытмаў і слоў перапад:
«Не павяртайся... Вярніся...»

Туліцца ў вечнасці год —
цёплае мроіва згадак...
Мар-матылёў карагод
кружыць і кружыць над садам...
*04.04.2017*

***

*Ларысе Геніюш*

Там, дзе горы грукочуць: Геніюш,
там, дзе сонца Скарыну сніць,
мы блукаем бяссонна сценямі,
адгалоскамі Пражскай вясны.

Там, дзе рэкі рабыя рыбаю,
там, дзе стоена боль маўчыць,
на краёчку зямной пагібелі
спіць любоў на маім плячы.

Там, дзе неба сінечы поўнае,
дзе каханнем крыяе крынь,
заварожана, запалонена
б'ецца ў будні мае спамін.

Там, дзе голас гарэніць: Геніюш, —
свет світае святлом святым.
Над бяздоннямі, над зацьменнямі
вершаў гойдаюцца масты.

Там, дзе родна, шчымліва ўзнесены
над вякамі дарог крыжы,
бласлаўляе Паэтка песняю:
з Беларусяю ў сэрцы жыць.

***

Над пуцінаю той, што мяне павядзе
да цябе праз густую цямрэчу,
жальна стоіцца ўздых, сонна знічка ўпадзе,
нехта ўсхліпне зусім недарэчы.

Над пуцінаю той, як чаромхавы снег,
вецер чыстыя згадкі раскружыць
пра цябе і мяне, пра спатканне ў вясне —
пра Маленькага прынца і Ружу.

Ты пакінуў мяне на планеце адну.
без надзей, без цяпла, без прыстанку.
Можа, лісце згарну — і шчасліва засну...
Ці расінай згару на світанку...

А з прадоння, як сон, прыплыве цішыня,
скрозь чаромхава-стыглую замець,
і прысядзе цішком край астатняга дня
і слязінай прасочыцца ў памяць.

Бомкне згублена звон над пуцінаю той,
што спружыніць парванай струною
спаміж мной і табой, між вясной залатой
і журботнай расстаннай вясною.

Над пуцінай маёй непрагляднасць імжы
і спамінаў саслеплыя злепкі.
А бязьмежнасць ляціць — віражы, віражы —
праз чаканняў і мрояў аскепкі.

Над пуцінай маёй мігатлівасць вякоў,
мігатлівасць сустрэч і расстанняў.
І балючы разлом і гаючы спакой.
Росквіт. Росхрыст. І сум адцвітання.

*05.02.2017*

## Дзевяць кропак Радаўніцы

*Амеліі*

1. Мяне даўно-даўно няма.
Між нас — бяскрайняя зіма.

Між нас гады, як халады.
Як пошум цёмнае вады.

2. Між нас і бездань і зямля. .
А ты ўглядаешся здаля

у тое смутнае даўно,
з якога й ценю не відно.

3. А ты прыходзіш, як у сне,
да змуравелае мяне.

А ты сядаеш і маўчыш.
І... мірасловіць з Неба крыж.

4. І я павеўна калышу
тваю яснюткую душу.

Люляйся, кропліна мая:
над полем я. І ў голлі я.

5. З карэння я і з кроны я
ўзыходжу, кропліна мая.

Я тут паўсюль. І я нідзе.
Як чорна ноч. Як белы дзень.

6. Мне цэлы свет — калыскаю.
Бо я... далёка. Блізка я —

між краю й раю на мяжы,
дзе Ўсё нітвом Сьвятла дрыжыць.

7. ...Сцякае страх. Сціхае боль.
Давай пашэпчамся з табой -

знітуем цёпла Выш і Дно
ў Адно, як некалі даўно.

8. Спявайма: люлечкі-люлі
імгненням, што за схіл сплылі,

дарогам, зоркам і траве,
што ад вясны ў вясну жыве.

9. І ты жыві. Вяночкі ві.
Сугрэй правечнасць у крыві.

Я тут, з табою, назаўжды —
вяшчуюць мудрыя сляды...

*23.04.2017*

***

*У сівой прадаўнасці ў нашых краях старых нямоглых суродзічаў адводзілі паміраць у лес. Мабыць, дзеля павяртання да вечнага Пачатку...*

А я сваю старасць вазьму за руку
і ў лес павяду — паміраць.
Далей і глыбей ад людскога граху,
даверыцца чыстым звярам.

А я сваю памяць рассыплю ў бары —
і вырасце ўслед сон-трава...
Пайду і пайду ў непрагляддзе з гары,
каб з Вышы дамоў заравацьь.

А я сваю долю пасею ў зямлю,
падзячна слязой акраплю.
І ўзыдзе калінаю ўсё, што люблю.
Я шчасцейка ёй намалю.

А я сваё сэрца расстайна спыню —
і ў воблакі лёгка сыду.
Падай мне, Анёле, сваю даланю,
прымі мой заміраны Дух...

## Запавет

*«Прыйдзе новы а мудры палітык»...*
*«І прыйдзе новых пакаленняў*
*На наша месца грамада»...*
Янка Купала

Прыйдзе новы а мудры палітык —
мне Купала вястуе здалёк.
А тутэйшы над скнарым карытам
перагнуўся збуцвелым быллём.

Прыйдзе новы а чысты, а мужны,
гаспадар-валадар і мысляр.
...Выцінае тутэйшы натужна
гімн стары — аж нямее зямля.

Прыйдзе новых, сваіх, пакаленняў —
не сляпых прымакоў — грамада.
І ўскалосіцца вера з насення,
і ўскупаліцца гонар з гнязда.

Прыйдзе новы — адважны і горды,
на хлусню непадкупны народ.
І тутэйшых паўзлівыя орды
праўда вырача на вырод.

Прыйдзе новы, відушчы, прарочы,
да свабоды раскрылены час.
Пераглядзіць, рассудзіць, прасочыць —
і адказу спытаецца ў нас...
*06.07.2002, Вязынка*

***

Пад белым кужалем нябёсаў,
па чорным долавым радне
з чужое любасці прынёс ты
усмешку стомленую мне.

Над намі неба тонкі кужаль
сырою вечнасцю прапах.

Пад намі род выгойдваў ружы,
каб расцвілі ў тваіх руках.

На лахманы парваны кужаль
тваёй хмурынкаю ў акне.
Нашто высмужваць і выстуджваць
любоў, прымроеную ў сне?

Не мною выпрадзены кужаль
не зберажэ, не ахіне...
А наша зблытаная чужасць
надломна рукі разамкне.

Насмешны век пагляд прымружыў.
Старое выцвіла радно.
У нашых лёсах — колкасць ружы.
Далей нічога не відно.

Пад вечным кужалем нябёсаў
згасаюць знакі на радне.
Здалёк, з мінуласці прынёс ты
пяшчоту змучаную мне.

## У аблоках

Як затрымацца на зямлі,
калі плыве ладдзя аблокаў
адсюль, дзе мары адцвілі,
у абяцальную далёкасць?

Плыве туды, за небакрай,
па-над сумневамі і сумам,
адкуль чуцён птушыны грай,
скуль выпрадае бытнасць думы.

Як не зманіцца, не ўзляцець?
Між дрэў вясёлка, як арэлі.
А шчасце дыхае ледзь-ледзь,
што мы з табой адчайна грэлі.

А дні мільгаюць, як агні,
і патанаюць апраметна
там, дзе ўпадзе аджыласць гніць,
дарэшты страціўшы прыкметы.

Ды пад вакном віхурыць бэз.
У далеч — ветразі фіранак.
І я тулюся да цябе,
пакуль пунсова ўсходзіць ранак.

А сэрцы тахкаюць «люблю»,
а рукі ўскрыльваюць «кахаю».
Мяне з табою і зямлю
ладдзя аблокаў калыхае.

*28.05.2017*

## Дзедасвет

Пакуль збірала ў пушчы крэмень,
крадком зірнула ў Дзедасвет.
Мой шчыры берагу, не вер мне:
я — толькі водбліск на траве.

Мой сумны берагу, даруй мне:
на ўскрайку неба ці зямлі
правечна — рунна і чарунна —
вякі вятрамі прагулі,

а я нічога не паспела
ані сказаць ані пачуць...
Ды раптам з цемры бела-бела
заранка бліснула ўваччу.

І я схапілася аберуч
за той танюсенькі прамень
ці волі Вышняе ці веры,
што зберагала мне мяне.

Мой вечны берагу, скажы мне,
ці маюць водсветы прытул,
дзе зоркі ўсоладзь варажылі б,
дажджы святлелі наляту?..

А, мабыць, тут і ёсць прыстанак,
скуль я зірнула ў Дзедасвет,
ссівелых прошчавых літанняў
у цёплай продкавай траве?

...З-пад каранёў пушчанскіх крэмень
збіраю, быццам сілу Вой,
паўнюткай жменяй — да агменю,
што спіць ачахла пад травой...
*03.03.2017*

***

У незнаёмай, бескаханай эры,
дзе пустацветна ўсхмеляцца сады,
пусці ўспамін расчараваны ў дзверы —
не дай зацалаваць мае сляды.

Няхай згарыць на прысак наша ўчора
і пачарнее ад самоты дым.
Чужой нерастрывожанай пакоры
не дай зацалаваць мае сляды.

Ні пальцам прагным, ні вачам пяшчотным,
ні легкамысным вуснам маладым
у незнаёмым бескаханым потым
не дай зацалаваць мае сляды.

Усё раскрые і аголіць восень —
навошта разляцеліся, куды...
Як вопратку чужую, жыцці зносім.
Не дай зацалаваць мае сляды...

## Перад Воляй

Сыходжу ў Волю. Як у шлях апошні.
Як чужаніца ў Вечную раку...
Пытае вецер над пустэльнай пожняй, ...
ці знала Волі на сваім вяку

хоць кропліну, слязіну, хоць драбочак.
Такое Волі, што займае дых,

што дні ўзвышае і ўмудрае ночы,
насейваючы зорак маладых.

І я кажу расчаравана ветру,
і дрэвам, і замшэлым валунам,
кажу ўтрапёна да Вышынь і нетраў
з радзіннага саслеплага акна,

што не спаткала аніразу Волі,
а ўсё ішла насустрач ёй праз лёс,
праз туманы, заледзянелым полем,
пакуль вось Шлях да роспачы не ўзнёс.

Цяпер сыходжу ў Волю, як у Памяць.
А роспач рве душу на кусманы:
ці хоць аднойчы без мяне запаляць
паходні Волі мужныя сыны?..

Ці хоць аднойчы па-над курганамі
нястрымна зноў Пагоня праляціць,
ускрыленая янкавымі снамі,
харобрая ў адчаі, як Страцім?..

Сыходжу ў Волю. Гордая, як Воля.
Зусім адна. У смутнай грамадзе.
А, можа, заўтра з векавога болю
паўстане Праўда на глухім судзе?..

*24.03.2017*



# Аляксей Палачанскі

празаік, паэт. Скончыў факультэт радыёфізікі і электронікі БДУ. Аўтар кнігі прозы «Мой цвік» (2014 г.). Лаўрэат літаратурнай прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча (2015 г.). Нарадзіўся ў 1992 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Зыль

— Зыль, хадзі вячэраць! — крычала Зылька з сенцаў.

Зыль сядзеў перад тэлевізарам і нічога не чуў.

— Зылёк, хадзем — клёцкі астынуць. Ты ж хацеў, — Зылька падышла да мужа, трымаючы ручнік.

Зыль быў мёртвы.

— Зыльку, ну што ты... — у пакоі было цёмна, і яна не магла разгледзець Зылеў твар. А як зразумела — зайшлася ў бабскім енку, высокім, амаль дзявочым віскаце, спахапілася, схапілася за горла рэзка, як аб напятую вяроўку, абарваўшы свой голас — і слёзы заблішчэлі ад няшчасця і страху.

Толькі потым яна адчула, што за яе спінай уключаны тэлевізар, і па Зылевым твары скачуць блакітныя плямы, і гучыць музыка з прагноза надвор'я. І сінія ашклянелыя вочы ўжо нікуды не глядзяць, і мёртвая дзірка рота ўжо нічога не скажа. І ніхто не будзе больш глядзець надвор'е, а музыка будзе ўпустую гучаць у выключаным тэлевізары, ніхто не ляжа ў высокі халодны ложак, каб разоў дзесяць ноччу ўставаць, шукаючы голымі нагамі свае тапкі.

Калі Зылька выключыла тэлевізар, стала так ціха, што яна спужалася, каб ізноў не закрычаць. Святло з сенцаў было слабое, і Зыля было амаль не бачна. Калі б ён быў жывы, ён выглядаў бы гэтак сама. І калі б на яго месцы стаяў драўляны балван, які толькі абрысамі сваімі нагадваў чалавека, яго можна было б прыняць за Зыля. У горле свярбела, колам стаяў крык, але крычаць было страшна. Каб пераадолець свой страх, яна пачала маліцца ўголас, але нават не заўважыла, як угразла ў словах і забыла, што моліцца.

Нарэшце праз аглушальную цішыню прабіўся заспакаяльны гук гадзінніка. Час ішоў далей, ківач абыякава гайдаўся, ланцужок тым не менш, злавесна скарачаўся. Запаліўшы святло, Зылька выйшла ў сенцы, дзе стаяў стол з вячэрай. Не ўяўляючы, што рабіць з клёцкамі, яна накрыла іх і прыняла зылеву талерку. Яна спынілася з талеркай у руцэ — падумала, што здрадзіць мужу, калі схавае яе.

Жанчына вярнулася ў пакой — Зыль сядзеў спінай да яе. Ёй не хацелася зараз глядзець на мужа — яна яшчэ не бачыла яго пры святле, таму зноў пайшла ў сенцы, быццам штосьці забыла. Тут яна зноў натыкнулася на стол і спахапілася, што вячэра ўсё яшчэ не прыбраная. Як яна магла прыбраць яго талерку, а ўсё астатняе пакінуць?

Зылька дастала з шафы грамнічныя свечкі і запаліла адну, паставіўшы яе ў шклянку з рысам. Свечак было шмат, бо штогод на Грамніцы старыя асвячалі некалькі штук, а паліць іх не было нагоды. Акрамя той навальніцы два гады таму, летам, падумала Зылька. Старую яблыню тады разарвала напалам, а ў Зыля вельмі балела галава. Ён крактаў, седзячы ля акна, і казаў: «Ну ўжо грыбоў будзе, грыбоў!» Ён любіў грыбы, любіў жартаваць і часта знаходзіўся ў нейкім захапленні, таму часам называў сябе «паэтам» — якасць гэтая зрэш-

ты выяўлялася не столькі ў вершах, колькі ў чарках. Зылька была не такая. Жартавала яна слаба, на паэзію яе асабліва не цягнула, затое заўсёды была здаровая, у адрозненне ад нямоглага мужа, і да працы здольная і звыклая. Апошнія некалькі гадоў толку ад Зыля было мала, усе хатнія справы рабіла адна Зылька, а ён рэдка ўжо выходзіў далей за весніцы.

Толькі пасля таго, як Зылька ўсё падрыхтавала, — заслала Зылеў ложак новай сухой бялізнай, падклаўшы пад прасціну шырокую дошку — каб не згінаўся; закрыла люстэркі — адно ў хаце і адно, малое, у сенцах, паставіла на стол побач са свечкай і крыжам асвечаную ваду, соль і хлеб, нерашуча — баялася насталай цішы — спыніла ківач гадзінніка і нават паставіла награвацца вялізны чыгун вады — толькі пасля гэтага яна ўзяла Зыля падпахі і перацягнула на ложак. Ён быў няцяжкі, а яго галава закідвалася назад, і вочы блішчэлі з-пад павекаў. Склаўшы яго рукі на грудзях і выпрастаўшы ногі, Зылька падвязала яму сківіцу і дастала два спецыяльныя медзякі, загорнутыя ў белую хусцінку. Разам з медзякамі там ляжалі іх заручальныя пярсцёнкі і стары зылеў ружанец з напалову рассыпанымі пацеркамі. Дакументы, грошы і фотаздымкі ляжалі ў іншым месцы.

— Вось так, Зылёк, спі, — прашаптала Зылька, закрываючы мужу вочы. Дакранулася ілба — ён ужо пачынаў астываць і быў непрыемна цвёрды.

Яна накрыла Зыля прасцінай, але тут жа прыбрала яе і дала яму ў рукі свечку, а паміж пальцаў працягнула ружанец. Зылька не была ўпэўненая, што ўсё робіць правільна, што нічога не забыла, яна выбачалася перад Зылем. «Зылёк, прабач... Божа, прымі ўжо якога ёсць!»

Пакуль награвалася вада, Зылька прыбрала ў хаце — падмяла падлогу і вынесла вядро з памыямі. На двары быў мароз, і слёзы адразу запяклі скуру. «І пазваць жа няма каго — усе перамёрлі», — узгадала Зылька. І сапраўды, вось ужо другі год, як яны з мужам заставаліся адзінымі жыхарамі вёскі. Вёска называлася Зыль, і такое прозвішча мела большасць мясцовых. Два гады таму ў іншым канцы вёскі жылі яшчэ Зылі, таксама двое старых, але яны згарэлі ў сваёй хаце аднойчы ноччу. Напіліся, прыдуркі — вырашыла Зылька тады, якая была вялікай праціўніцай гарэлкі, бо і яе Зыль быў калісьці не дурань у гэтай справе. Па маладосці, канечне, — апошнія гады здароўе не дазваляла, ды і Зылька была напагатове. Два разы ў год — па вялікіх святах — даставалася сваё віно са старых запасаў і наліваліся дзве чарачкі — столькі, каб хіба што змачыць сухія вусны.

Як памёрлі суседзі, з якімі старыя і так не шмат сустракаліся, у вёсцы больш ніхто не з'яўляўся. Адну зіму перазімавалі, зараз скончалася другая.

Тут якраз Зыльцы падалося, што за весніцамі хтосьці прайшоў, і яна паспяшалася ў хату і хутчэй замкнула дзверы.

Вада нагрэлася, Зылька паставіла чыгун побач з ложкам, развяла ў цэбары ваду і пачала распранаць мужа. Калі яна сцягнула Зылевы нагавіцы, то ўбачыла, што трэба хутчэй мяняць бялізну. Толькі зараз яна адчула смурод,

які распаўсюджаваўся ад старога. Яна наспех выцерла, што змагла, ручніком і забегала па хаце ў пошуку ануч і зылевай вопраткі. Зылеў гарнітур, у якім ён меў быць пахаваны, вісеў у шафе ў прыбудоўцы. Зылька не ведала, за што хапацца. Выбегчы хуценька за адзеннем, пакінуўшы Зыля ляжаць голым у адной кашулі? Альбо накрыць яго брудныя ногі чыстай коўдрай? Ёй было сорамна за такія недарэчныя думкі. Няўжо ёй шкада коўдры, каб накрыць свайго мужа? Няхай яго ніхто і не ўбачыць, але пакінуць без штаноў ды пры святле... «Аб чым я думаю? Божа мілы, дапамажы майму Зылю!»

Зыль перастаў верыць у Бога, калі з'явіўся тэлевізар. «Бачыш, ужо нават надвор'е прадказваюць. І па вадзе ходзяць, і хлеб раздаюць, а віно зараз з чаго хочаш зробяць, не тое што з вады!» Жонка малілася за яго ўсё жыццё, але, здаецца, яе празмерная набожнасць толькі адштурхоўвала Зыля, які, аднак, ніколі не быў супраць жончынай веры і толькі часам кпіў з яе. «Дваццаць першае стагоддзе на дварэ. Грэх табе верыць!» Зылька такіх жартаў не любіла і вельмі сур'ёзна адказвала: «Бойся, Зыль. Чэрці такіх слоў не папусцяць, возьмуць сваё.» Аднойчы ёй прысніўся сон, як Зыль вісеў на дрэве, падвешаны на крук за язык. Яна крычала ў сне, а Зыль прыйшоў да яе ў ложак суцешыць. Якраз гэта быў апошні раз, калі яны кахаліся. Зыль паволі пераставаў жартаваць з Бога, бачачы, як гэта дзейнічае на жонку. Дый пад старасць чамусьці ўжо не так і цягнула.

Зылька дастала нейкія анучы, але выціраць Зыля старымі шкарпэткамі і трусамі было зноў жа неяк няправільна. Яна стала перабіраць груду старой адзежы, нават разарвала нейкую сваю спадніцу, але кінула і стала мыць мужа рукамі. Ложак пад Зылем стаў мокры, і Зылька падсунула коўдру яму пад ногі. Атрымалася, што Зылька, такая добрая гаспадыня, не мела ніякага ўяўлення, што рабіць з нябожчыкам. Мыючы рукі ў астылай вадзе, Зылька падумала пра тое, што зараз рабіў бы Зыль, апынуўшыся на яе месцы.

Скончыўшы мыццё, Зылька выцерла Зыля маленькім дзіравым ручніком, бо адзіны добры ручнік яна неабачліва сапсавала. Зылька падумала, што трэба спаліць рэчы, якімі яна мыла Зыля. «Шкарпэткі няхай застануцца пакуль, я ж імі яго не кранулася.»

Трэба было ісці на двор па дровы. Зылька накрыла мужа чыстай прасцінай і выйшла ў сенцы. Узяўшыся за клямку, яна прыслухалася. Вецер. На імгненне ёй падалося, што яна штосьці чуе ў тым ветры, але яна адагнала ад сябе насланнё і адчыніла дзверы.

На дварэ было ціха і спакойна. Студня, прысыпаная снегам, старая адрына са зламанымі кроквамі, акасеўшы плот, за якім разляглося белае поле і далёкі грозны лес. Неба чыстае, гулкае, здаецца, гукні — крык будзе доўга лунаць між зоркамі, адбівацца ад адной да другой.

«Адна я засталася, Божачка, і як жа мне адной усё гэта зразумець?»

Зылька набрала вялікае бярэмя дроваў і, прыціснуўшы яго падбароддзем, пабегла назад. Ёй карцела азірнуцца, але чамусьці яна не дазволіла сабе гэ-

тага. За яе плячыма было вялікае поле, якое ўжо шмат год пуставала, і на якое паволі насоўваўся лес. Часам, асабліва ўзімку, лясныя звяры маглі падыходзіць амаль пад самы плот.

Вярнуўшыся і ўбачыўшы Зыля, Зылька мімаволі здрыганулася. З ім нічога не адбылося, толькі мядзяк трохі споўз з правага вока, проста Зылька толькі зараз пачала ўсведамляць тое, што яна знаходзіцца адна з мёртвым чалавекам і мабыць ужо ніколі не пабачыць нікога жывога. Мабыць увогуле ўжо нікога няма.

Яна зноў пабегла на двор — на гэты раз трэба было дастаць з прыбудоўкі гарнітур, у якім Зыль будзе пахаваны. Усё гэта было шмат разоў абмеркавана, абгаворана, хто ў чым будзе ляжаць, але зараз Зыльцы падалося дзіўным — нашто было трымаць адзенне бадай што на вуліцы. Гарнітур быў халодны і нібыта чужы. Хоць Зыль заўсёды надзяваў яго на важныя падзеі — вяселлі, хаўтуры — зараз Зылька не магла нават прыгадаць, як і калі яны набылі гэты гарнітур. Ды ці да таго было зараз ёй? Яна толькі заўважыла ў пустым небе агні самалёта і ледзь бачную ноччу — Зылька дык і не ўбачыла — рыску за ім. Нібыта рэшткі чалавецтва зляталі прэч, пакідаючы старую дажываць за ўсіх. «Няхай памерлыя хаваюць сваіх памерлых», — узгадала Зылька.

У гэты момант яна пачула, як нехта з вуліцы пазваў Зыля. Вядома, гэта быў вецер або нейкі іншы мёртвы гук, але было падобна, што клічуць Зыля. У гэтай вёсцы ўсё, здавалася, магло паклікаць яго. Зылька заспяшалася дахаты, але тут ужо зусім чалавечым голасам з-за плота паклікалі:

— Зыль!

Хто ж гэта? Старая нават не паспела спужацца — бо каго баяцца, нікога ж няма. Яна адвыкла ад людзей, не бачачы нікога, акрамя мужа апошні час. А можа з горада хто прыехаў? Можа, брат які, або сын. Але ў іх не было дзяцей. Зылька нерашуча крыкнула, не падыходзячы да плота:

— Зыля няма! Ён памёр!

— Зы-ыль! — нібыта насуперак ёй закрычалі адтуль. Зылька вагалася — трэба было падысці, бо чалавек пэўна не чуе, што яна тут крычыць ад парога. Але не хацела яна нікога, і нічыя дапамога не была ёй патрэбна.

— Памёр Зыль! Што трэба?

Зылька рушыла да плота, бо трэба было ўсё ж разабрацца, хто там прыйшоў. Складзены ўдвая гарнітур яна прыціскала да грудзей. А можа і добра, што нехта з'явіўся. Дапаможа пахаваць. Бо як жа яна адна магілу выкапае — зямля такая мёрзлая? Яна падышла да самой брамы, але нікога не ўбачыла. І тут закрычалі:

— Зыль, выходзь! Хадзем гарэлку піць!

І цэлым хорам:

— Псюк шалудзівы, давай вылазь!

— Ах, ты, сволач, поскудзь, язык свой дай сюды!

— Давай, таварыш — там нальюць!

У той жа момант Зылька азірнулася — і ўбачыла, як дзверы ў хату адчыніліся — і тут жа ляснулі, як ад проймы. Паўсюдны рогат суправаджаў яе пакуль яна без памяці ляцела па вуліцы прэч ад свайго дома. Ногі не слухаліся, яна амаль стаяла на месцы, як у страшным сне. І мабыць, нават яна не прэч ад дома бяжыць, а наадварот — да самых дзвярэй яе цягне. А гарнітур усё ў руках трымае. І галоўнае — каб не бачыць, што там за дзвярымі робіцца — вочы заплюшчвае, а ўсё роўна бачыць. А потым зноў бяжыць паміж згрыбелых хат, голых дрэў, і вецер у вушах свішча і кліча Зыля, каб той выходзіў. А калі яна выбегла за вёску, здаецца, што цэлае поле абступіла яе, зыбка гайдаецца вакол і гудзіць: «Зы-ыль.»

Зылька прачнулася за сваім сталом у сенцах. У хаце было моцна натоплена — мабыць з-за гэтага яна і заснула. Але Зылька не памятала, што ёй снілася. Галава цяжкая, баліць, паветра няма, душна. У хаце цёмна, Зыля не бачна. Нешта кепскае адбылося, нешта неспакойна на душы...

— Зыль, хадзі вячэраць! — закрычала Зылька.

З прасоння Зылька не звярнула ўвагі на грамнічную свечку, якая стаяла перад ёй на стале і напалову ўжо згарэла.

— Зылёк, хадзем — клёцкі астынуць.

Як толькі Зылька прамовіла гэтыя словы, яна адразу ўсё ўзгадала і наскрозь здрыганулася. Яна ўжо ведала, што ўбачыць, уключаючы святло. Зыль ляжаў на ложку, як і раней, толькі мядзяк трохі спаўз з левага вока. Зылька каўтнула. Горла нібы скамянела. У галаве было вельмі горача, і Зылька думала, як бы не ўпасці. Яна села на крэсла, на якім памёр Зыль, і сама як бы абвяла. Рукі яе павіслі ўздоўж цела. Яна ніяк не магла сцяміць, што да чаго. Ёй здавалася, што Зыль не памёр, але ён і не жыве, бо вось ён ляжыць мёртвы. Але калі ён мёртвы, то чаго яна сядзіць — трэба ісці ставіць ваду, мыць, маліцца, падрыхтаваць свечкі, ружанец, адзенне... Яна быццам бы ведала, што Зыль памёр, але ўвесь час забывала гэта.

А ў куце за печкай штосьці было. Яна ведала гэта яшчэ раней, але з якога моманту яна гэта пачала ведаць — сказаць не магла. Там стаялі качэргі, рагачы і іншае начынне, але дакладна было штосьці яшчэ. І, канечне, Зылька ведала, што гэта і чаму яно там стаіць, і, канечне, яе вантробы зводзіла сутаргамі ад страху, але яна ўвесь час нібыта забывала гэта. Яна пачынала драмаць і тут жа прачыналася, задыхалася, а за печкай нешта было.

Яна сядзела без святла, толькі з печы праз шчыліну ў засланцы выбіваліся выбліскі агню. Дровы патрэсквалі, яны ўсё ніяк не маглі дагарэць, хоць Зылька даўно ўжо не падкладала. «Добрую печку склаў калісьці Зылеў бацька,» — адстаронена падумала яна і ўзгадала, як дваццацігадовай дзяўчынай перабралася ў сваю новую сям'ю, узгадала які Зыль быў малады, як шмат людзей было навокал, як шмат жыцця. Хата была новая, і ўсё жыццё было наперадзе.

А зараз за печчу нешта стаіць, і ў Зылькі няма сіл, каб падняцца і паглядзець, што там. Ды што там — яна ад страху страціла рэшткі розуму, нават

азірнуцца не змагла б! Вочы зліпаюцца, галава хіліцца ўніз, у галаве нешта незразумелае, сны нейкія: быццам ідзе па вёсцы чалавек і зазірае ў вокны. І немагчыма ад яго позірку ні схавацца, ні ўкрыцца нідзе. Або, як быццам, яна сама ўстае, ідзе ў камору, праціскаецца паміж адзення, шынялёў нейкіх і пацiху выглядае ў дзірачку — і бачыць сябе, як сядзіць спінай да печы і дрэмле. Нельга спаць, нельга спаць. «Пакуль не засну, з Зылем нічога не здарыцца.» А што з ім можа здарыцца? Ён жа тут, ляжыць сабе на ложку, усміхаецца, увесь такі прыгожа прыбраны. Зграбны такі, становісты — як салдат. Зараз устануць старыя, вазьмуцца пад руку ды пойдуць на танцы. Толькі ў вокны страшна глядзець чамусьці. Чаму не завесіць было? І што там такое за печчу? Такое чорнае, вытыркаецца з-за кута. Я ведаю, што там, канечне, ведаю, але не буду думаць аб гэтым, тады яго быццам бы не будзе.

І як толькі яна так падумала, як не магла ўжо думаць ні аб чым іншым і не магла глядзець ні на што іншае як толькі ў шчыліну паміж печчу і сцяной.

Зноў Зылька прачнулася, седзячы за сталом у сенцах. Навокал было цёмна, нават грамнічная свечка на стале дагарэла, але чамусьці было яшчэ гарачэй. «Трэба са свечкамі асцярожней», — зазначыла яна. — «А то засну і не прачнуся.»

Зараз у яе не было сумніваў наконт Зыля, таму яна моўчкі ўключыла святло ў пакоі, ведаючы, што ўбачыць. Але на ложку Зыля не было. Пусты ложак.

Зылька схапілася за галаву.

— Зыль, ты дзе? — І калі яна вымавіла гэтыя словы, яна не ведала да каго звярталася: да жывога ці да нябожчыка.

Зыля не было нідзе — ні на ложку, ні перад тэлевізарам, ні ў сенцах, ні нават за печчу, куды Зылька зазірнула ў апошнюю чаргу. Яна выходзіла на двор і шукала мужа ў прыбудоўцы, у старой адрыне, у туалеце, хоць Зыль ніколі не хадзіў туды ноччу — заўсёды ставілі вядро ў сенцах, асабліва ў мароз.

— Зыль, дзе ты? Зы-ыль! — раздавалася ў пустой вёсцы.

Дзіўна, але Зылька паспакайнела. Яна не ведала, дзе Зыль і што з ім, але перад ёй ужо не было нябожчыка, з якім яна не ведала, што рабіць. «А можа, я яго ўжо пахавала,» — здагадалася старая. Ад перажытага, ад страху і хвалявання магчыма трошкі пашкодзілася свядомасць, і памяць выкінула нейкія моманты з галавы. Зылька нічога не памятала — ні як яна апранала Зыля, ні як капала магілу — а гэтая справа пэўна заняла не менш за дзень. Здаецца, яна мыла яго — ды вось і цэбар стаіць ля ложка, і смярдзючыя анучы побач раскіданыя.

Зылька не ведала колькі часу — гадзіннік стаяў. Такім чынам, калі Зыль пахаваны, ужо наступная ноч, вырашыла яна. Раніцай яна напэўна ўсё ўзгадае, знойдзе магілу, памоліцца і... на гэтым яе планы заканчваліся, яна не думала, што будзе далей. Толькі б дачакацца світання, Зылька ўжо забыла, калі апошні раз бачыла дзённае святло.

Старая моцна стамілася, але ведала, што не засне. Яна вынесла на двор цэбар з анучамі, заслала ложак, на якім ляжаў Зыль, і нарэшце прыбрала са

стала вячэру, якую ставіла яшчэ жывому мужу. Зылька не стала пакуль запускаць півач гадзінніка і адкрываць люстэркі — папраўдзе, навошта яны ёй зараз — і, павагаўшыся, запаліла наступную грамнічную свечку — так ёй было спакайней.

Яна сядзела перад свечкай, склаўшы рукі, і ўзгадвала сваё з Зылем жыццё. Зараз яно падавалася ёй не больш важным за стары гадзіннік з нерухомым півачом. «Вось і ўсё», — думала Зылька. — «Трэба было так турбавацца.» Тая маладая дзяўчына, жанчына, якой яна была яшчэ некалькі гадоў таму, зараз была ёй настолькі чужая, настолькі мала датычылася яе, як памёрлага Зыля датычыліся вылітыя на двор памыі, змытыя з яго некалькі гадзін таму. Зылька нібыта ўбачыла сябе як бы зверху. Убачыла хату, у якой пражыла ўсё жыццё, але зараз яна глядзела на яе па-іншаму. «Аказваецца, я ніколі не звяртала ўвагі, як выглядае мая хата».

Зылька падышла да печы, адкінула засланку і са здзіўленнем убачыла, што топка цалкам набітая дрывамі, а агонь, суха патрэскваючы, ціха скача на паленах. Яна прысела, прадчуваючы вялікае няшчасце, і прынялася варушыць качаргой у печы. Іскры сыпанулі ўгору — Зылька скінула адно палена з іншага і прасунула качаргу далей. Прыблізна ў адзін і той жа момант Зылька здагадалася, што зараз адбудзецца — і яно адбылося. «Зыль, ты там?» — сказала Зылька ў печ — і тут жа за качаргу пацягнулі, ледзь не вырваўшы з рук, але Зылька ўтрымала яе, ударыўшыся галавой аб печ. Яна стала цягнуць на сябе, але з таго боку моцна трымалі. «Зы-ыль, гэта ты?» Але навокал была поўная цішыня, толькі лопаліся палены ад агню ды скрыгаталі зубы. «Зы-ыль, ну хадзі сюды, мілы мой.» Тут качаргу ізноў ірванулі ды так, што Зылька з усёй моцы ўдарылася аб печ зубамі ды разбіла ў кроў нос. На гэты раз яна не ўтрымала, выпусціла качаргу, і яе ўцягнулі ў печ.

Зылька кугакнула, увабрала носам кроў ды кінулася рукамі разграбаць агонь. Яна выхоплівала палены з полымя і выкідала іх, не гледзячы, у хату. Здалося, што Зыль крычаў, але быццам бы аддаляючыся. Чорнымі, чырвонымі рукамі яна выграбала палаючае вугалле, яно сыпалася ёй проста за пазуху, абпякаючы грудзі. Зыля не было відаць. Яна залезла ў печ з галавой, каб капаць, шукаць далей, працягвала зваць яго, але яе рукі натыкнуліся толькі на глухую цэглу. Яна не заўважыла, як загарэліся валасы, не заўважыла, як горача стала навокал, не заўважыла моманту, калі яе апошнія думкі скурчыліся і патухлі — яна да канца працягвала скрабці рукамі сцяну, чуючы неадступны ёкат Зыля.

Калі надышла раніца, хата дагарэла, і снег безуважна падаў на свежае пажарышча.



# Таццяна Казановіч

паэтка, празаік, музыка. Студэнтка тэатральнага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтва. Кіраўнік музычнага гурта «Тутэйшыя» (2014 г.). Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# У глыбіні

**Частка I**

**Я:** А вам знаёма пачуццё, якое б я назвала «бясконцая адзінота»? Яна часта заходзіць да мяне, звычайна вечарам, пасля гадзін шасці. І кожны раз усё роўна нечакана, бо калі раздаецца званок у дзверы — у мяне адразу падскоквае сэрца. Іх не трэба адчыняць, бо ў яе ёсць ключы ад усіх дзвярэй. Перад тым як зайсці, яна любіць званіць, папярэджваць аб сваім прыходзе. Звычайна я не сустракаю яе, проста сяджу нерухома ў сваім пакоі. Чакаць жа прыходзіцца нядоўга, яна спрытна залятае ў кватэру і адразу завальваецца на мой ложак. Яна ляжыць, моўчкі глядзіць на мяне і ўсміхаецца, заклаўшы рукі пад галаву. Я не магу доўга глядзець ёй у вочы, бо мне становіцца не па сабе.

А як жа часам надакучвае гэта! Ну, вось, якога чорта! Якога чорта яна прыходзіць да мяне, як да сябе дамоў, і дзейнічае мне на нервы сваёй звяглівай прысутнасцю. Калі я адварочваюся ад яе, каб напісаць каму-небудзь, яна дэманстратыўна падымаецца і дастае вілку з разеткі. А калі я хачу пайсці на кухню ці ў іншы пакой, проста, каб не бачыць яе, яна адразу накіроўваецца за мной. Колькі разаў я не праклінала і не пасылала куды падалей, яна не адказвала мне ні слова. Проста злосна ўсміхалася, радавалася, што мне дрэнна, нібы жывілася гэтым.

Калі я збіралася класціся спаць, яна брала крэсла і садзілася насупраць майго ложку. Мне звычайна цяжка заснуць пад яе здзеклівым позіркам. Раней было вельмі страшна: я паварочвалася тварам да сцяны і ўсё роўна ўкрывалася пад коўдрай з галавой. А потым я прызвычаілася, навучылася не заўважаць яе, але надоўга гэта зрабіць не атрымлівалася. Я спрабавала маліцца, і яна нібыта знікала ў гэты момант, звычайна йшла паліць на кухню, але потым усё роўна вярталася, пакідаючы за сабой шлейф тытуню...

*Было шэсць пятнаццаць, і яна магла прыйсці з хвіліны на хвіліну. Я сядзела ў чаканні, склаўшы рукі крыж на крыж. «Што ж, палічым да пяці», — падумала я. «Раз, два, тры, чатыры, пя...». Раздаўся званок у дзверы. Ён прагучаў зноў і зноў, і зноў. Гэта падалося мне сапраўды дзіўным, бо самота звычайна не чакала пакуль ёй адчыняць дзверы. Я паднялася і, не спяшаючыся, накіравалася ў калідор, каб паглядзець у вочка, што ж там за неспадзяваны госць. Затым адчыніла дзверы і не паверыла сваім вачам. На парозе стаяла мая сяброўка, якую я не бачыла, здавалася, тысячу гадоў. Яна літаральна ўварвалася ў маю кватэру з гучным радасным крыкам «Прывітанне!».*

**Яна:** — Ты чаму так доўга не адчыняла? Я ўжо пачала хвалявацца, што цябе няма дома... *(сціскваючы мяне ў абдымках)*.

**Я:** — Прабач, я і падумаць не магла, што гэта ты.

**Яна:** — Вядома! Я вырашыла зрабіць табе сюрпрыз і прыехаць знянацку *(здымаючы торбу з пляча)*. Апошнія дні ты была нейкая сама не свая па тэлефоне, вось я і вырашыла змяніць сітуацыю *(дастае бутэльку віна)*.

**Я:**— Ты як заўсёды *(са смехам)*.

*Мая сяброўка распранулася, і мы пайшлі ў пакой, каб адсвяткаваць яе нечаканы прыезд. Мы селі ў старыя крэслы за невялікі часопісны столік. Яна паставіла бутэльку на стол. А я тым часам пачала праціраць анучкай пакрытыя пылам келіхі.*

**Яна:** — Дык што здарылася *(сур'ёзна)*?

**Я:** — Нічога, дарагая. У мяне ўсё добра *(адмахнуўшыся)*.

**Яна:** — Ад мяне можаш нічога не хаваць. Я твой сябар і ведаю, калі з табой нешта не так.

*Я паставіла келіхі і працянула ёй штопар.*

**Я:** — Апошнім часам я адчуваю сябе вельмі самотнай...Кожны вечар адно і тое ж...

**Яна:** — Разумею цябе. У мяне таксама часта такое бывае.

**Я:** — Але гэта яшчэ не ўсё. Я не проста адчуваю самоту, я бачу(з*апнулася).*

**Яна:** — Што бачыш?

**Я:** — Не, не магу сказаць *(уздыхачючы)*.

**Яна:** — Ды кажы! Я пастараюся зразумець.

**Я:** —Паслухай. У мяне сапраўды ўсё добра. Давай, не будзем. Распавядзі лепш, як ты сама?

*Раздаўся гук корка ад віна.*

**Яна:** — У мяне таксама ўсё добра (з холадам).

*Мы замаўчалі і не ведалі, што яшчэ можна сказаць адна адной. Мы пілі чырвонае віно і проста слухалі цішыню, пакуль маўчанне не стала даволі няёмкім.*

**Я:** — Ну, можа, я ўсё ж такі паспрабую...

**Яна:** — Паспрабуй. Магчыма, я зразумею.

*Я глыбока ўздыхнула і пастаралася сабрацца з думкамі.*

**Я:**— Не, я ўсё ж такі не магу.

*Над намі зноў павісла цішыня. Мы маўчалі даволі доўга, і, нават, пачалі адчуваць адна адну чужымі людзьмі. Раптам прагучаў званок у дзверы. Роўна два разы, як і заўсёды.*

**Яна:** —Ты кагосьці чакаеш?

**Я:** — Не...

*Дзверы адчынілася і зайшла яна, мая ненавісная самота. Як ні ў чым ні бывала яна прайшлася сваёй ганарлівай хадой па маім пакоі і села на вольнае крэсла. Я з жахам паглядзела на сяброўку, бо нават і ўявіць не магла, як яна адрэагуе на прыход самоты.*

*У вачах маёй сяброўкі не было і кроплі здзіўлення. Яна паднялася з крэсла.*

**Яна:** — *(спакойна)* Я пайду прынясу яшчэ адзін келіх.

**Я:** — Ты таксама яе ведаеш *(здзіўлена)*?

**Яна:** — Усе яе ведаюць, дарагая мая сяброваччка. Бо ўсе людзі, хочаш не хочаш, самотныя па сваёй прыродзе. А нам застаецца толькі пастарацца прыняць гэта.

Дык, што ўсё ж такі ты хацела мне распавесці?
*«Ужо нічога», — сказала, і зрабіла яшчэ адзін глыток віна.*

**Частка II**

*Была зіма. Я йшла па ледзь бачнай засыпанай снегам сцяжынцы ў парку. Паветра было халодным, свежым, але вельмі прыемным. Вялікія елкі, якія нагадвалі гіганцкія хвашчы, задуменна махалі сваімі белымі галовамі.*

*Я была шчаслівая? Не. Мне было сумна? Таксама не. Нешта новае, дагэтуль невядомае, пасялілася ў маёй душы. Я памятаю свае шаснаццаць, я памятаю, якім насычаным здавалася жыццё тады, як часта білася маё сэрца, і як часта яно хацела спыніцца. Я помню каханне і доўгія гадзіны за кнігамі. Я помню, як сум рэзка змяняўся радасцю і наадварот. Мне здавалася, што ўсё наперадзе, што жыццё будзе казачным, шчаслівым, што ўсё абавязкова будзе добра. А фарбы... Рэчаіснасць падавалася такой яскравай і бліскучай, а галоўнае, усё навокал здавалася мне жывым.*

*Я гуляла па парку і глядзела на людзей, такіх жа панурых і абыякавых, як і я. Яны таксама пасталелі — і ў шмат у чым расчараваліся. А раней жа былі іншымі, поўнымі надзей. А сёння яны прачнуліся, памыліся і пайшлі ў гэты заснежаны парк. Навошта? Навошта кудысьці ісці, калі ты не радуешся прыгажосці навокал, калі ты бессэсноўна ідзеш па дарозе і пакідаеш за сабой толькі брудныя сляды на снезе?*

*Я часта задаю сабе пытанні, але не магу на іх адказаць. З узростам пачынаеш менш думаць пра важнае, думаеш пра неабходнае.*

*Я не ведаю, што робіць нас такімі. Чаму душа, калісьці каляровая і чыстая, заплывае брудам, абыякавасцю і стомленасцю? Калі хлеб доўга ляжыць на стале — ён высыхае. Можа, з душой адбываецца тое ж самае?Час робіць нас сухімі і чэрствымі?*

*Я зайшла ў глыб парка, дзе амаль што не было людзей. На лаўцы пад ялінай сядзела вельмі старая жанчына з белымі, як снег, валасамі. На яе зморшчаным твары блішчэлі вялікія карыя вочы. Яна паглядзела на мяне і ўсміхнулася: «Дзяўчына!», — паклікала яна мяне. Я спынілася . «У цябе будзе хвіліна?» — працягнула яна. «У мяне іх болей, чым дастаткова»— сказала я і стала насупраць лаўкі.*

**Старая:** — Гэта табе зараз так падаецца. Потым часу будзе здавацца значна меней...

**Я:** — Куды ўжо меней? *(з усмешкай).*

**Старая:** — Табе за дваццаць, так? Маладая, поўная сілаў... Усё наперадзе!

**Я:** — Мне здаецца, што ўсё ўжо ў мінулым.

**Старая:** — *(удзыхаючы).* Мілая, ты проста становішся дарослай. Табе ўжо не шаснаццаць. Ты пачынаеш сутыкацца з сапраўдным жыццём. Я даўно чакаю цябе тут.

**Я:** — Хто вы? (*здзіўлена).*

**Старая:** — А ты як думаеш?

**Я:** — Не ведаю...*(паціскаючы плячыма)*

**Старая:** — Я старасць.

Яна ўсімхнулася, і я заўважыла, што ў старой не хапае некалікіх пярэдніх зубоў.

**Я:** — Чаму я павінна вам паверыць?

**Старая:** — Можаш не верыць. Як сама хочаш.

**Я:** — Што вам патрэбна?

**Старая:** — Я падумала, што прыйшла пара нам пазнаёміцца. І я б хацела, каб мы з табой былі ў добрых стасунках. Нешта мне падказавае, што гэта можа табе дапамагчы.

*Я моўчкі глядзела на свае рукі.*

Паслухай, я менавіта той госць, якога спачатку чакаюць і не могуць дачакацца, а калі я прыходжу, то стараюцца пазбегнуць. Мяне адразу і не заўважаеш. Гэта адбывацца аднойчы, неабаязкова гледзячы ў люстэрка, можна проста ісці-ісці па парку і...

**Я:** — Я б не хацела вас сустракаць.

**Старая:** — Ну, канешне, дзетачака. Рэдка мне бываюць рады *(пакашляўшы).* Мне не хочацца псаваць табе жыццё. Але атрымліваецца, што я так і раблю. У мяне на цябе даволі моцнае ўздзеянне. Але сысці сама я не магу. Я магу толькі параіць...

**Я:** — Я вас слухаю.

**Старая:** — Не бойся мяне.

**Я:** — Я не баюся! Я хутчэй пагарджаю вамі і ўсё, што з вамі звязана!

**Старая:** — Не, ты баішся. Я бачу твой страх *(яна паглядзела наперад)*. Ён за тваёй спінай.

*Я азірнулася, і на секунду мне падался, што постаць мужычны схавалася за шырокімі галінамі дрэў.*

**Старая:** — Не, яшчэ не час. Паслухай, усё, чаго табе так не хапае, яно з табой. Павер, што твая чуласць нікуды не сышла. Яна закрытая ценем. Ты можаш знайсці яе.

**Я:** — Вы памыляецеся. Я, як зламаны механізм, больш не працую, іржавею і губляю каштоўнасць.

**Старая:** — Калі я была дзіцём, а я ім была, я вельмі любіла бегаць. Я траціла свае сілы, але не стамлялася. І чым больш я іх траціла, тым шчаслівейшай я сябе адчувала. Я была жывой. Я магла ўпасці і разбіць каленку, але гэта не расстройвала мяне, я падымалася і бегла далей. Разумееш, на што я намякаю табе?

**Я:** — Не зусім.

**Старая:** — З узростам мы менш трацімся. Мы стараемся захаваць сябе, свае сілы, мы забіраем, але не аддаем. Гэта і робіць нас такімі. Мы жывем не на разрыў, бо шукаем утульнасці і спакою. Так жа ў цябе зараз?

**Я:** — Менавіта так.

**Старая:** — Тады ты ведаеш, што рабіць цяпер.

**Я:** — *(з удзыхам).* Гэта няпроста, гэта нібыта ісці супраць прыроды.

**Старая:** — Ты можаш не ісці...Тады я буду часта сустракацца з табой тут, на лавачцы, а на большае цябе і не хопіць. Пакуль ты не зламалася, але пакуль. Гэта наша першая сустрэча. Так што, ты падумай.

**Я:** — Не разумею, нашто вам гэта?

**Старая:** — Шкада мне цябе, дзетачка. Не час мне з табой заставацца. Не час. Але я буду побач...Памятай пра мяне, але не думай *(паглядзела наперад).*

Азірніся назад, яшчэ не ўсё згублена. Паглядзі на сляды, якія ты пакінула.

*Я рэзка азірнулася.*

**Я:** — Іх няма...іх замяло снегам...

*Я паглядзела на лавачку, але на ёй ужо нікога не было.*

## Частка III

*Снег ужо пачаў таяць, і запахла вясной. Я старалася ісці акуратна, абыходзячы доўгія лужыны, што распласталіся перада мной. Гэта было трывожнае прадчуванне чагосьці вялікага і шчаслівага. Я яскрава адчувала, што з цёплым подыхам вясны ў маё жыццё паступова прыходзяць змены, але ці была гатовая я да іх? Калі ты знаходзішся ў стане чакання шчасця, то непасрэдны яго надыход не столькі радуе, колькі пужае. Як жа ўсё ж такі мы, людзі, лёгка прызвычайваемся да ладу жыцця, які вядзем, і няважна, задавальняе ён нас ці не. Неба становіцца лагодней, сонца пачынае грэць мацней... Быць самотным, і раптам адчуць, як нешта трапяткое ўзнікае ў хворай, ледзь жывой душы...*

*Я йшла па залітай сонейкам вуліцы і нечакана заўважыла, што цягам маёй прагулкі ў некалькіх кроках ад мяне ідзе мужычна ў чорным паліто. Гэта занепакоіла — і я вырашыла звярнуць на першую, трапіўшую мне, вузкую вулачку. Незнаёмец накіраваўся следам.*

*«Сочыць», — падумала я, і вырашыла ісці хутчэй. Але ён таксама пачаў прыспешваць свой крок. Тады я рэзка спынілася і азірнулася — ён стаяў у некалькіх метрах ад мяне і глядзеў на гадзіннік... Мне стала зусім не па сабе. «Што ж рабіць?» — падумала я. Добра, што непадалёк была кавярня, у якую мне часта даводзілася заходзіць са сваімі сяброўкамі. «Там будуць людзі — і баяцца ўжо не будзе чаго», — разважала я.*

*Хуценька дайшоўшы да кавярні, я, не азіраючыся, села за вольны столік ля вакна. З ветлівай усмешкай да мяне падышоў знаёмы афіцыянт.*

**Афіцыянт:** — Што будзеце замаўляць?

**Я:** — Каву.

**Афіцыянт:** — Што-небудзь яшчэ?

**Я:** — Не, дзякуй, пакуль нічога.

*Ён адышоў, і калі я пачала ўжо крыху супакойвацца, дзверы за мной адчыніліся, і за суседні столік сеў мой таямнічы незнаёмец. Ён зірнуў мне прама*

*ў вочы, але я нічога не ўбачыла за яго цёмнымі акулярамі. Да яго афіцыянт чамусьці не падыходзіў. Мне было вельмі страшна, але і адначасова цікава, што незнаёмец будзе рабіць далей.*

*Афіцыянт прынёс каву, а мужчына ў чорным ўсё яшчэ не зводзіў з мяне вачэй. Я зрабіла маленькі глыток , але кава падалася мне надта гарачай, і я адставіла яе ўбок.*

*Раптам да століка майго незнаёмца падышла жанчына ў чорным паліто, яна ўсімхнулася яму, як вельмі старому знаёмаму, і паважна зняла сваё верхняе адзенне. У яе былі доўгія русыя валасы і шыкоўная чырвоная сукенка. Я не магла адвесці ад яе вачэй, настолькі яна была элегантая, вытанчаная і прыгожая. Жанчына паклікала афіцыянта і замовіла чырвонае віно. Затым яна і мой незнаёмец пачалі пра нешта перашэптвацца, ды так, што я не магла разабраць і слова. Але ўвесь час яны пазіралі ў мой бок. Мне стала яшчэ больш няёмка. «Напэўна, пайду я адсюль...» — падумала я.*

**Я:** — Афіцыянт, прынясіце рахунак, калі ласка!

*Афіцыянт адразу паспяшаўся да мяне, але прыгажуня ў чырвонай сукенцы схапіла яго за локаць і нешта прашаптала яму на вуха. Афіцыянт таропка накіраваўся ў мой бок.*

**Афіцыянт:** — Выбачайце... Людзі, якія сядздяць за суседнім столікам, хочуць з вамі паразмаўляць. Вы не супраць, калі яны прысядуць да вас?

*Такога я дакладана не чакала.*

**Я:** — Не, я не супраць.

*Не прайшло і паўхвіліны, як дзіўная парачка ўжо сядзела за маім столікам.*

**Жанчына:** — Добры дзень, дарагая *(з усмешкай)*.

**Я:** — Добры.

**Жанчына:** — Ужо зусім хутка будзе вясна *(пaглядзеўшы ў вакно)*...

**Я:** — Так, але прабачце, здаецца, мы незнаёмыя.

**Жанчына:** —Ты ўпэўнена?

**Я:** — Ну, так.

**Жанчына:** — Ты столькі разоў звярталася да мяне ў сваіх думках, а пры сустрэчы не пазнаеш?

**Я:** — Выбачайце, але не пазнаю. Я ўжо заблыталася, дзе рэчаіснасць, а дзе свет маіх фантазій.

**Незнаёмец:** — Мяне таксама не пазнаеш? *(з усмешкай).*

*У яго быў прыемны, аксамітны голас.*

**Я:** — Не, вы напэўна мяне з кімсьці зблыталі. Я бачыла, як вы йшлі за мной па дарозе... І яшчэ, мне здаецца, я бачыла вас калісьці раней. Нават не так даўно, але я не ўпэўнена.

**Незнаёмец:** — Вядома, мяне. І дзякуючы табе я яшчэ раз магу атрымаць асалоду ад кампаніі з гэтай неверагоднай жанчынай *(гледзячы на прыгажуню ў чырвонай сукенцы)*.

**Жанчына:** — А я не вельмі люблю сустракацца з ім, але ж ты прымусіла *(кіўнула галавой у бок незнаёмца)*.

**Я:** — Я прымусіла? *(здзіўлена).*

**Жанчына:** — Ну, канешне, ты. Менш трэба баяцца *(з усмешкай)*.

**Я:** — Я не баюся.

**Незнаёмец:** — Ну, мяне можаш не падманваць *(з усмешкай)*.

**Я:** — Да хто вы такія?

**Жанчына:** — Каханне *(працягвае руку)*.

**Незнаёмец:** — Страх *(следуе яе прыкладу)*.

**Я:** — Прыемна пазнаёміцца *(разгублена)*...

**Жанчына:** — Узаемна, дарагая.

**Я:** — Дык, што вы ўсё ж такі хацелі?

**Жанчына:** — Я хацела сказаць табе, каб ты дазволіла сабе кахаць, бо гэта зусім не страшна.

**Незнаёмец:** — Ну, я б так не сказаў *(саркастычна)*.

**Жанчына:** — Ды перастань ты *(незнаёмцу)*!

Раней ты так часта сутыкалася з болем і нарэшце, мілая мая, нарэшце надышоў час зменаў.

**Я:** — Можа быць, але я не гатовая да іх...

**Жанчына:** — Так, мы разумеем. Але прыйшоў час. Гэта вясна для цябе будзе не такая, як мінулыя, павер мне.

**Я:** — Не разумею, нашто ўсё гэта?

**Жанчына:** — Я прыйшла падтрымаць цябе. А ён... Ён, спадзяюся, што развітацца *(да незнаёмца)*...

*Яна зрабіла некалькі глыткоў віна.*

**Жанчына:** — Дарагая, паслухай, усё будзе добра ў любым выпадку. Са мной няпроста, і, можа, табе падаецца, што яшчэ не час. Але прабач, гадзіннік я не нашу.

**Незнаёмец:** — Гэта дакладна. Заўсёды спазняецца *(са смехам)*.

*Яна незадаволена паглядзела на яго.*

**Жанчына:** — Дазволь сабе быць шчаслівай. Усё проста. Каго б ты ні сустрэла на сваім шляху, памятай, што я люблю цябе. І ведаеш: не толькі я адна.

**Я:** — А калі ў мяне не атрымаецца? Калі я не змагу кахаць так, каб назаўжды, так, каб не зрабіць балюча іншаму ці наадварот, каб самой не застацца пакінутай?

**Жанчына:** — А гэта ўжо няважна. Тут трэба даверыцца лёсу... Жыць і адчуваць шчасце — гэта вартае таго, нават, калі будзе доўжыцца ўсяго імгненне. А яшчэ ты не ведаеш, калі ўсё скончыцца і прыйдзе... Яна...

**Я:** — Хто яна?

**Незнаёмец:** — Смерць *(ціха)*.

**Я:** — Я не ўпэнена, што шчасце ад кахання — гэта добра, бо з ім ты губляеш сябе...

**Жанчына:** — А без яго — увесь свет.

*Навісла цішыня.*

**Я:** — Мне трэба патэлефанаваць, пачакайце адну хвіліну, калі ласка.

*Я дастала з торбы тэлефон і ў хваляванні набрала знаёмы нумар.*

*(Па тэлефоне).* Прывітанне! Я добра, сяджу ў кавярні. Адна? Не зусім. Слухай, мне трэба сказаць табе нешта важнае...*(набраўшы ў грудзі паветра)* я кахаю цябе.

*Я паклала трубку і паглядзела на сваіх суразмоўцаў.*

*Насупраць мяне зусім адна сядзела прыгажуня ў чырвонай сукенцы і ўсміхалася.*

*Я зазірнула ёй у вочы і сказала: «А, можа, усё ж такі не проста так я лічу вясну сваёй любімай парой?»*

**Частка IV**

*Гэта была незвычайная ноч... Такое зорнае неба можна ўбачыць далёка не кожны дзень. Белыя матылькі, што пасяліліся на чорным небасхіле, падмігвалі мне сваімі бліскучымі крыламі. Я глядзела ў твар бясконцасці і магла па-сапраўднаму адчуць усю мізэрнасць нашага людскога існавання. Белыя матылькі глядзелі на мяне з неба, а некаторыя з іх узляталі, але адразу знікалі ў чорнай прорве ночы. Мажліва, яны прызямляліся дзесьці на зямлі, у душах людзей, што, як і я, не маглі адвесці вачэй ад чароўнага неба. І вось адзін з гэтых матылькой прыляцеў да мяне і пачаў ласкава казытаць маё сэрца. Мяне ахапіў парыў, парыў невядомай мне сілы. І захацелася не проста распавесці пра яго каму-небудзь, а пасадзіць яго ў маленькі гарнушак, каб пасля з яго вырасла нешта асаблівае, неверагоднае, што магло, хаця бы сваёй адной восьмай часткай, перадаць гэтае пачуццё абсалютнага шчасця, жадання жыць і ствараць.*

*Я сядзела на траве і ўдыхала пах апошніх дзён лета. Я ўспамінала, што адбывалася са мной за мінулыя гады жыцця, усе тыя дробязі, якія выклікалі столькі дарэмных перажыванняў, якія проста нішто ў параўнанні з вечнасцю, у якую я зараз гляджу. Мы, людзі, такія недарэчныя. Мы думаем, што мы цэнтр усяго, што гэтае жыццё належыць толькі нам. Ды не, мы маленькая нязначная частка таго, што існуе ў гэтым свеце. Мы менш за вочка матылька, і, нават, за пігмент на яго крылах.*

*«Я такая шчаслівая, што жыву,» — раптам сказала я ўслых. І мне захацелася заплакаць. Заплакаць ад шчасця, ад гэтага хараства прыроды навокал, у якім так і хочацца патануць і забыцца навекі.*

*Ласкава падзьмуў вецер і я пачула шорах травы. Да мяне падышла дзяўчына ў цёмна-зялёнай сукенцы і ціха прысела побач. Я ведала, хто яна...*

**Я:** — А я ўсё думала, калі мы сустрэнемся.

**Дзяўчына:** — *(працягваючы)* Я прынесла табе паперу і аловак.

**Я:** — Навошта? *(здзіўлена).*

**Дзяўчына:** — Пішы.

**Я:** — А я не ведаю, што пісаць...

**Дзяўчына:** — А ўсё роўна што, проста пішы. Табе ёсць што сказаць?

**Я:** — Думаю, ёсць. Але я не ўпэўнена, што знайду патрэбныя словы, каб усё апісаць *(гледзячы ў неба)*.

**Дзяўчына:** — А іх не трэба шукаць. Проста скажы ўсё сваімі словамі. Так, як са мной зараз размаўляеш, так і скажы. Каб усё было зразумела. Не трэба ніякай мудрагелістай прыгажосці.

**Я:** — Чаму ты такая непастаянная? — *раптам спытала я.*

**Дзяўчына:** — Ты мне скажы лепш, што ў гэтым жыцці пастаяннае?

**Я:** — *(задуменна)* Неба...і душа.

*Яна хацела нешта паспешна адказаць, але прамаўчала.*

**Я:** — Ведаеш, што я хацела б напісаць?

**Дзяўчына:** — Не *(паціскаючы плячыма)*.

**Я:** — Пра ўсё, пражытае мной з самага дзяцінства і да цяперашняга моманту, не губляючы ніводнай дробязі. Усё самае шчаслівае і прыгожае, цуды і няўдачы, сустрэчы і згубы. Пра самае-самае важнае і тое, наколькі гэта ўсё ў выніку няважна. А яшчэ я вось зараз падумала: ведаеш, ведаеш, што важна?

**Дзяўчына:** — Што?

**Я:** — Ты, я, неба, белыя матылькі. Гэты момант. Адно імгненне...

*Яна ўсміхнулася мне.*

**Дзяўчына:** — А ты малайчына. Толькі як жа гэтыя ўсе вашыя чалавечыя каштоўнасці? Да спісу важнасці звычайна ж прыпісваюць яшчэ каханне, родных, сяброў і гэтак далей.

**Я:** — А гэта важна, канешне. Але ў тую, іншую секунду, калі я думаю пра іх, калі яны становяцца маім імгненнем.

Ведаеш, я так доўга шукала сэнс свайго жыцця і зразумела, што яго не трэба шукаць, яго трэба знаходзіць.

**Дзяўчына:** — (з усмешкай). Часцей звяртайся да мяне, дарагая. Я...я пастараюся стаць крышачку пастаяннней. А зараз табе трэба пачаць. Ты ведаеш, я не магу доўга затрымлівацца... На жаль *(з сумам)*.

**Я:** — Добра, я пачну. А ты толькі не сыходзь пакуль... Пасядзі са мной побач, добра?

Я напішу пра свае дзівосныя сустрэчы, у тым ліку, і з табой. Шкада, што іх было не вельмі багата.

**Дзяўчына:** — Яны, будуць. Цябе чакае яшчэ шмат-шмат сустрэч.

**Я:** — *(сціскваючы аловак).* Я хачу спаймаць тое, што важна зараз, каб потым гэта хоць на імгненне стала важным для кагосьці іншага. Нават калі гэта будзе адзін чалавек. Я напішу пра гэтыя зоркі зараз, і, можа, той, хто ў гэты час спіць, убачыць іх таксама.

*Мы доўга сядзелі на траве. А я пісала. Яна сядзела побач. Хто яна? Я думаю вы зразумелі.*

*2016 г.*



# Яўген Мартыновіч

**празаік. Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў», «Маладосць», «Вожык», «Вясёлка», тыднёвіку «ЛіМ» а таксама ў калектыўных зборніках «Кахаць і верыць», «Мой дзень пачынаецца» і «100 словаў». Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Зацемкі з дзіравых кішэняў...

## Ненапісаныя вершы

Ненапісаныя вершы жывуць пад дахамі дамоў і ў вачах нашых каханых. Яны туляцца адзін да аднаго і чакаюць, калі іх хто-небудзь убачыць.

Ненапісаныя вершы жывуць у дзіцячых малюнках і марах. І чакаюць, калі іх зразумеюць... дарослыя.

Ненапісаныя вершы жывуць на гарышчы ў бабулінай старэнькай хаце. І чакаюць, калі ты прыедзеш за імі. Ненапісаныя вершы ЖЫВУЦЬ!

## Бацька і праца

Чым далей жыву, тым больш разумею, як мне далёка да свайго бацькі!

Здаецца, што я раблю? Спрабую нешта ствараць, вучыць дзяцей, спрабую быць добрым бацькам і мужам...

Але, калі я бачу як «гарыць» у бацькавых руках праца, калі ён разважліва, з упэўненасцю майстра прымаецца за справу (будуе дом, рамантуе самыя розныя рэчы, якія ў яго руках «ажываюць», збірае з рознага «смецця» трактар...), то ўсе мае «дасягненні» блякнуць на яго фоне.

І, я адчуваю, як жа мне да яго далёка!

І радуюся, што ў мяне ёсць чалавек, ад якога так шмат чаму можна навучыцца...

Пакуль яшчэ не позна!

## Яны не супраць

Неяк так павялося, што мы прызвычаіліся ставіцца да сваёй асобы і здольнасцяў з нейкай неахайнасцю, нават калі адчуваем у сабе наяўнасць гэтых здольнасцяў і талентаў. Але вось сядзіць стрэмкай гэты комплекс, што мы «няздольныя», «нявартыя»... Што «нехта-недзе» ёсць больш варты за нас! Што толькі яму ДАЗВОЛЕНА!

Але гэтыя нашы ваганні вельмі на руку «моцным свету сяго».

Яны не супраць, каб ты сябе адчуваў лайном!

Так, калі ты сам сумняваешся, яны гэта адразу адчуваюць:

«Я табе падкажу хто ты і дзе тваё месца!»

«На ежу хапае? Вось і сядзі. Памоўчвай!»

Вось і сядзім. Памоўчваем...

Пакуль.

## Людзі і спрэчкі

Людзі спрачаюцца, сварацца. А потым разумеюць недарэчнасць сваіх дзеянняў, просяць прабачэння і зноў мірацца. І абяцаюць ужо ніколі так не рабіць.

Але ўсё роўна працягваюць гэтую бясконцую спрэчку: хто правейшы, хто разумнейшы, хто мацнейшы...

Пераможцаў у гэтай спрэчцы няма! І не будзе ніколі. І гэта людзі разумеюць. Але ўсё роўна назапашваюць камяні для новых спрэчак.

## Вялікае. Малое

Я за малыя формы!

Усіх «шчасцем» не ахопіш. Гэта амаль ужо стала аксіёмай. Прыкладаў дастаткова. Адразу прыпамінаецца «Вянок» М.Багдановіча («наша ўсё»), ці версеты А. Разанава, Д. Хармс, хоку і хайку (прывітанне японцам)... Максімальна сканцэнтравана, кампактна, востра, мабільна! Як куля снайпера.

Тое ж самае датычыцца гарадоў. Вось не прымае маё сэрца гэтыя суперсучасныя будыніны са шкла, пластыку і бетону! Мне бліжэй утульныя цагляныя вулачкі Гародні ды Вільні. Амаль у чалавечы рост (у рост фізічны і духоўны).

Усё гэта больш прымушае думаць і рухацца (прынамсі, мяне), чым вялікія будыніны-эпапеі нястомных майстроў гэтага жанру.

Я за малое!

Ды і лесу застанецца больш...

## «Страшэнная таямніца»

Пішаш употай, каб ніхто не ўбачыў. Нібыта злачынца, ці здраднік, якому замала аднаго кахання (і нешта яшчэ шукаеш набаку). Пішаш паміж працай і сям'ёй, паміж абавязкамі і вольным часам: у метро прозу, у трамваях паэзію. Пішаш без надзеі, што гэта будзе прачытана акрамя цябе (вось ён — спадар Эгаізм). Пішаш, калі зачынены ўсе вокны і форткі. Пішаш, саромеючыся свайго пісання (а што калі гэта будзе надрукавана?). «А вось, насамрэч. А калі гэта будзе надрукавана!». І ты істэрычна камечыш гэтую пісаніну, хаваешся за працай, сям'ёй, абавязкамі, вінам... І клянешся, што болей ужо ніколі...

## 10-я гады

Праз сто гадоў людзі будуць здзіўляцца нашым 10-м гадам 21-га стагоддзя (так і будзе запісана ў падручніках па гісторыі!!!).

А навукоўцы будуць аналізаваць гэтыя гады і спрачацца...спрачацца і яшчэ раз спрачацца! А мы нават і не даведаемся: цікавыя гэта былі гады, ці не вельмі?..

## Мая бібліятэка

За апошнія гады ў маёй бібліятэцы з'явілася шмат недачытаных кніг. Купляў іх дзеля таго, каб неяк запоўніць лакуны, якія з-за недахопу часу на чытанне, з'явіліся на працягу школьных і студэнцкіх гадоў. Напрыклад, ужо 2 гады не магу адолець «Пецярбург» Андрэя Белага. Як толькі я не прымаўся за гэтую

кнігу, а вось не магу далей 10 старонкі дачытаць. Але пры гэтым адолеў нечытэльнага «Уліса» Джойса (і самае цікавае, кніга мне спадабалася і вельмі ўразіла). Таксама не магу дачытаць «Ганну Карэніну» (недзе ў сярэдзіне спыніўся...). Спадзяюся, што з часам атрымаецца іх дачытаць. Мабыць, проста яшчэ не дацягнуўся да гэтых кніг... Застаецца вось такое слабое суцяшэнне.

## Пакіньце мне мае сны

Сон...Мая мара і маё адзінае сапраўднае жаданне, якое перасьледвае мяне на працягу апошніх гадоў. Навошта кудысьці бегчы і нечага жадаць, калі можна проста забыцца пад цёплай коўдрай і працягваць бачыць бірузова-аксамітныя сны? І пры гэтым жадаць толькі аднаго: каб на цябе забыўся ўвесь белы Свет, і каб нехта не распужаў тваіх сноў.

Ты жадаеш гэтага забыцця, ты прагнеш яго ўсёй душой, каб аднойчы прачнуцца і больш нікуды не ісці, не прыносіць у ахвяру свой каштоўны час, якога і так адведзена няшмат. Дык навошта тады спяшацца? Дзеля чаго: брудных паперак і «статусу»?

Не. Дзякуй. Пакіньце мне мае сны.

Мне хопіць...

## «Назубок»

Памятаю, як у дзяцінстве, калі настаўніца па літаратуры задавала вывучыць верш, прыгаворвала: «І каб так вывучылі, што нават калі б вас разбудзілі пасярод ночы, вы яго расказалі без запінак. Назубок!». І мы так і завучвалі (не ўдумваючыся ў сэнс гэтых вершаў). Я памяняў тры школы, аднак вось гэтыя словы пераносіліся, як нейкая заразная хвароба! І кожны раз я іх чуў ад розных настаўніц. Напэўна, у іх дзяцінстве так і рабілі: прымушалі пасярод ночы расказваць вершы... Тады я злаваўся на сваіх настаўніц па літаратуры з-за гэтых недарэчных патрабаванняў. А зараз мне нават шкада іх неяк стала...

## Помнікі

Якое глупства рабіць сваім дзеянням і ўчынкам помнікі! Рабіць іх з бронзы, срэбра, паперы ці іншага матэрыялу:

«...Каб засталося нешта пасля цябе, каб людзі прыносілі кветкі (а можа, нават і плакалі)».

А птушкі сядзелі на плячах тваёй СЛАВЫ і смяяліся: «Вось, хтосьці зноў паставіў помнік. Дзівакі! Навошта, калі вакол так шмат дрэваў?»

## Як лёгка быць...

Як лёгка быць самотным паэтам! Загарнуцца з галавою ў швэдар, пад самыя вушы (менавіта, каб не расплёскаць уласнае святло), і ісці куды глядзяць вочы (пажадана ў парк да сваёй любімай лавы).

Як цяжка быць самотным паэтам! Бо званне Паэта абавязвае яшчэ і складаць вершы. І вось, паставіўшы да абеду працяжнік, а пасля абеду закрэсліўшы яго, ты зноў ідзеш шпацыраваць па месцах свайго бясслаўя.

Як нудна быць самотным паэтам, калі вакол усе весяляцца, калі красавік раздражняе сваімі ўсмешкамі і цеплынёй... і нечым яшчэ («ну, дзе, дзе гэтая патрэбная метафара?») неўлоўным...

Як лёгка быць самотным паэтам, калі вакол так шмат самотных паэтак!

## Панядзелкі

Панядзелак забівае ініцыятыву! Гэтакі маленькі кілер! А дакладней — паляўнічы, якому няма ніякай справы да тваіх жаданняў, памкненняў, нейкіх светлых пачуццяў... Трэба ўмець ратавацца ад яго куль, інакш ёсць шанец трапіць у «ШЭРУЮ БУДЗЁНАСЦЬ»!

## Новыя грошы

У апошні час, калі ў нас з'явіліся свае манеты, людзі сталі больш уважлівымі да сваіх грошай. Як толькі ў краме, ці на вуліцы пачуецца звон манет, дык амаль усе, хто знаходзяцца ў радыюсе пачутага звону, пачынаюць вельмі пільна ўзірацца сябе пад ногі...

«А раптам МАЁ!»

Часцей за ўсё суседа! Але ж...

А якім скарбам падаецца знойдзеная манета!

Не. Дакладна, я не так радаваўся, калі раней знаходзіў папяровыя грошы. Усё ж «цвёрдыя» грошы неяк надзейней і грунтоўней (на мой погляд). Ці гэта проста вельмі далёкі адгалосак продкаў з іх талерамі ды салідамі...

## Пазітыўны чалавек

Ва ўсіх адносінах пазітыўны чалавек. І «бывайце здаравенькія» на развітанне скажа, і руку так моцна-моцна, што косці хруснуць, пацісне пры сустрэчы (раставанні), і дзверы прытрымае... Ну проста цуд, а не чалавек! Такіх бы паболей у гэтым свеце. Тады, дакладна, ніхто б не хварэў; усе былі б упэўнены, што не атрымаюць па галаве дзвярыма, ці яшчэ чым-небудзь больш непрыемным... Не жыццё было б тады, а казка!

А каб трапна пажартаваць, ён носіць у кішэні нататнік з «нарыхтоўкамі» (туды ён выпісвае ўсе анекдоты і гумарэскі з газет і часопісаў). Але нешта ў яго не атрымліваецца... Нехта заўсёды апярэджвае яго з «імгненным» жартам.

## 19

...Ужо прайшоў апошні аўтобус, што едзе ў Сухарава. Зноў прыйдзецца дабірацца «пехам» дамоў праз увесь горад.

Але няма ніякага шкадавання.

Мне і сябру па дзевятнаццаць! Чаго можна баяцца ў такім узросце?

Тым больш, што мы яшчэ не дагаварылі (нават зараз і не ўспомніць пра што). Пра музыку, пра кнігі, фільмы, дзяўчат? Пра ўсё на свеце! Таму што нічога не можа быць важнейшага за сустрэчу з сябрам (хай нават ужо ў мабільніку «высвяцілася» пяць прапушчаных званкоў ад бацькоў і столькі ж прайшло аўтобусаў)... Мы проста дыхаем вясной, дапіваем сваё таннае піва, дакурваем апошнюю (ты чуў?апошнюю!) цыгарэту.

І па дамах...

## 192 дні

Кінуў піць і паліць. Недзе паўгады таму.

Не дазваляю сабе гэтай спакусы нават па святах і «днях нараджэння».

Не дазваляю сабе ніякіх «заслужаных бутэлечак» напрыканцы працоўнага тыдня (толькі пачні, а далей зноў пойдзе па-старому).

Самае паганае ў гэтай справе, што я нейкіх кардынальных змяненняў за сабою не заўважыў.

Амаль з такой жа перыядычнасцю, як і раней, баліць галава; гэтак жа бывае цяжка падымацца па раніцах і ісці на працу; прыкладна з такім жа поспехам раблю нейкія справы.

Ніякага азарэння (празрэння), на вялікі жаль, не адбылося.

Але адно невялічкае змяненне ўсё ж такі здарылася.

Я перастаў смяяцца з фільмаў кшталту «Хлапечнік у Вегасе»...

## Пісьменнікі

Некаторыя пісьменнікі пішуць так, як быццам за іх спінамі стаіць сам граф Талстой і прыгаворвае: «Э, братка, пішы-пішы... Але ўсё роўна мяне не перапішаш!»

І пісьменнік з апошніх сіл спрабуе напісаць нешта вартае. Авось атрымаецца пацягацца з самім Графам-Галіяфам.

Бываюць такія пісьменнікі, пасля прачытання якіх, не хочацца нічога ствараць самому (і так жа ўсё напісаў!). Яны прыціскаюць сваёй асобай, сваім Геніем! Тытаны, адным словам...

А ёсць такія, якія быццам запрашаюць да сутворчасці.

З нашай літаратуры назаву Міхася Стральцова і Янку Брыля;

з рускай літаратуры — Чэхава, Буніна, Зошчанку, Казакова;

з замежнай — Чапэка, Гашэка, Акутагаву.

Вядома, у кагосьці будзе свая «абойма».

## Аб'явы

Мне падабаюцца аб'явы сваёй лаканічнасцю і шчырасцю. Чалавек у аб'яве выкладвае, без усялякіх «эківокаў», што яму трэба, што яго хвалюе, прапаноўвае нейкую паслугу. А ўжо твая асабістая справа: хочаш адказвай, а хочаш не.

Мне падабаецца, што ёсць бескарыслівыя аб'явы. І яны самыя лепшыя з усіх. Усё часцей можна сустрэць аб'явы з такімі тэкстамі: «Аддам у дар», «Аддам у добрыя рукі»... Якая вера ў чалавека! Вера ў тое, што яшчэ ёсць гэтыя добрыя рукі.

Прапаноўваюць розныя рэчы: кнігі, мэблю, нейкія музычныя інструменты...

Такія аб'явы даюць надзею і веру ў чалавека! Калі замест патрабавальнага «Дай!», прыходзіць бескарыслівае «На».

## Багоўка

У дачкі далоні пахнуць мёдам. Асабліва пасля сну; я ўдыхаю іх водар і напаўняюся адчуваннем спакою.

Мая маленькая сонная пчолка. Зараз паляціць збіраць букеты з кветак, траў і розных галінак. Ж-ж-ж... Паляціць далёка-далёка, а потым вернецца дадому, каб прынесці на далонях гэты чароўны пах мёду.

«Глядзі, тата, што я знайшла!»

Дачка працягвае далонь з багоўкай.

«Ого! Які скарб! Возьмем яе з сабой?»

Яе вочы загараюцца вясёлым бляскам. Але, падумаўшы трошкі, дачка адказвае:

«Не, тата, лепш адпусцім! Давай разам!»

І мы адначасова заспявалі тую самую знаёмую з дзяцінства кожнаму:

«Божая кароўка ляці на небка, там твае дзеткі...»

І паляцела. І паляцела!

## Прэміраваны

Ён зробіць усё дзеля таго, каб атрымаць прэстыжную прэмію!

Ён ведае правілы гульні і будзе падпарадкоўвацца ім, як належыць чалавеку вартаму гэтай узнагароды.

Ён ведае, што патрэбна людзям! Яго любімы выраз: «Піпал схАвае!». І сапраўды — хАвае! Ды яшчэ і дабаўкі просіць! Гэта поспех.

Ён яго адчувае амаль фізічна.

Ён упэўнены ў сабе.

Ён упэўнены, што ў яго ўсё атрымаецца па плане, які ён распрацаваў на некалькі год наперад. І нават яшчэ «настрачыў» нешта для ВЕЧНАСЦІ, каб застацца сур'ёзным... Можа, нават і атрымаецца!

А пакуль трэба паставіць на паліцу новы помнічак сваёй самавітасці і неверагоднай працаздольнасці.

## Факультэт непатрэбных рэчаў

Час ад часу ўспамінаю сваю «alma mater». Аналізую, прыгадваю, якія рэальныя веды я атрымаў пасля заканчэння ВНУ. Але так і не здолеў прыгадаць

хоць што-небудзь, што спатрэбілася ў рэальным жыцці. Да ўсяго прыйшлося даходзіць (дапаўзаць, дабягаць) сваім розумам і шмат працаваць над сабою! А галоўнае — праз тысячы памылак і гузакоў рабіць самастойныя крокі: развівацца, дабівацца пастаўленых мэтаў, руйнаваць стэрыятыпы, выціскаць з сябе страхі (раба), лічыцца з інтарэсамі іншых людзей, вучыцца паважаць сябе і шмат чаго яшчэ...

Але, на жаль, гэтаму не вучылі ў маім універсітэце.

Як і шмат чаму яшчэ.

## Дзверы

Калі я ў дзяцінстве хадзіў з бацькамі ў госці, мне здавалася, што вось, стоячы перад чарговымі дзвярыма, адкрыецца штосьці невядомае, нейкі іншы казачны свет. Пахі, фотаздымкі, карціны, чорнае піяніна з вазачкамі і белымі сурвэткамі, сабака, які спрабаваў «падпяваць» мелодыям, якія даносіліся ад гэтага піяніна...

Але цуд знікаў з прыходам да гэтых дзвярэй у другі раз...

А ў трэці раз дык наогул не хацелася ісці ў гэты сумны «разгаданы свет». Жадалася новых таямніц і скарбаў!

І мне станавілася так шкада, што я не паспею знайсці тыя самыя-самыя галоўныя дзверы, за якімі ўжо не прыйдзецца шукаць іншыя...

...Тое было ў дзяцінстве.

## Самападман

І нічога нікому не трэба даказваць! Але ўсё роўна даказваем. Спачатку бацькам, потым сябрам, потым нейкім незнаёмым людзям, якія не маюць ніякага дачынення да твайго жыцця, потым зноў нейкім знаёмым. Даказваць, што мы спрытнейшыя, разумнейшыя, лепшыя, чым мы ёсць! Што менавіта ў нас самая лепшая праца на Свеце (хай усе зайздросцяць), што менавіта ты і ёсць той самы найсапраўднейшы чалавечак, якому так пашанцавала ў гэтым няўстойлівым жыцці! А вось як сябе пераканаць, што ўсё так і ёсць? Сябе не падманеш.

## Натхненне

Раніцы. Якія яны бываюць розныя! Трывожныя, калі ты павінен нешта зрабіць такое неадкладнае і важнае, што ўжо загадзя няўпэўнены ў сваіх сілах. Ужо загадзя настройваешся на паразу. Здаецца, што ўсё супраць цябе. І дыяпазон тваіх пачуццяў адпавядае дыяпазону раздаўленнага чарвяка. І не заўважаеш, як яшчэ не падняўшыся з ложка, ты ўжо выматаны і ні на што не здольны.

А бываюць наадварот такія бесклапотныя раніцы, калі, як быццам, нехта падштурхоўвае ў спіну (вецер напаўняе твой ветразь); і усё атрымліваецца, і нават болей... І ты ведаеш, што трэба рабіць і што зробіш усё добра і дасканала...

Так прыкладна выглядае маё НАТХНЕННЕ.



# Аляксандр Трус

Аляксандр Трус нарадзіўся ў 1986 годзе ў горадзе Мінску. Закончыў факультэт радыёфізікі БДУ, магістр фізіка-матэматычных навук, восьмы нумар у камандзе рэгбістаў «Няміга» (Мінск), амаль што два гады правучыўся ў дактарантуры Эколь Сантраль г. Ліёна (Францыя), дзе таксама гуляў у рэгбі за сваю Эколь. Але скончыць не паспеў: невылечная на сённяшні дзень форма пухліны мозгу спачатку прыкавала да інваліднага крэсла, потым пазбавіла магчымасці размаўляць, а праз 2 гады і 4 месяцы (1 снежня 2014 г.) пазбавіла  і самога жыцця... Усе, хто сутыкаўся з ім у жудасны час хваробы, не маглі стрымаць свайго захаплення яго мужнасцю. Вось якім запомнілі Сашу ягоныя сябры. Ягор К.: *«Добразычлівы чалавек з неверагодным пачуццём гумару. Шчыры, сумленны, здольны падтрымаць у цяжкую хвіліну. Разумны, align рознабакова адукаваны, цікаўны, мог падтрымаць любую гутарку. Заўсёды імкнуўся да новага і незвычайнага. Дзяліўся сваімі марамі і захапляў ідэямі. Далёка не кожнаму пашанцавала мець такога сябра, і я вельмі рады, што гэты незвычайны чалавек быў (і застаецца) у маім жыцці.»*

Віка Г.: *«Мяне заўсёды ўражвала ў Сашы глыбіня ўспрыняцця жыцця, яго здольнасць заўважаць цікавае і прыгожае ў звычайных рэчах і з'явах, яго талент перадаць усё гэта ў вершах, прозе, музыцы. Неверагодна багатыя ўнутраны свет і фантазія! А яшчэ, Саша — гэта такі сябар, пра якога часцей можна прачытаць у добрай кніжцы, чым сустрэць у жыцці. Гэта сябар, чые думкі заўсёды аўтарытэтныя для мяне і чыіх поглядаў хочацца прытрымлівацца. Саша некалі сказаў пра сваё адчуванне, што нарадзіўся ён не ў той час і зусім не разумее, што і чаму так адбываецца на гэтым свеце. Дык вось, мне здаецца, што на самай справе ён не толькі вельмі добра ўсё разумеў, але і ведаў, як павінна быць на гэтым свеце, каб усім было добра. І разам з тым, ён шмат чаго даравау...»*

Саша ніколі не скардзіўся на лёс і не шукаў вінаватых. Ніколі ні на кога не наракаў і нікога не пакрыўдзіў. Я была побач з ім з першага дня хваробы і ЁН падтрымліваў мяне! Пайшоў, як і жыў: нікога не патурбаваўшы і не папрасіўшы нічога для сябе. Сям'я страціла цудоўнага Сына і Брата, свет — добрага і сонечнага чалавека, які толькі расправіў крылы для самастойнага жыцця: вучыўся, працаваў, захапляўся спортам, меў шмат планаў і мар, спрабаваў сябе ў музыцы, паэзіі і прозе... Адно з апавяданяў Аляксандра прапаную ўвазе чытачоў часопіса «Верасень».

Кацярына Муравіцкая *(мама Аляксандра).*

# Згубленая Краіна троляў

Гэта гісторыя пачынаецца ў тыя даўнія чароўныя часы, калі на Зямлі быў толькі адзін кантынент. У рэках тады цякло піва, а на дрэвах расла сушаная рыба. Цудоўныя гэта былі часы... Казкі пра дыназаўраў былі зусім не казкамі, а ў паветры ляталі драконы! (Яны, павінен вам сказаць, цудоўныя істоты, вельмі моцныя, працавітыя і добрыя).

У гэтыя самыя слаўныя часы на Зямлі жылі тролі. Так-так, тролі. Ды толькі не тыя, пра якіх нам расказвае ў сваіх казках Толкін. Тыя вялікія і нязграбныя істоты, якія камянеюць у сонечным святле, не маюць нічога агульнага з сапраўднымі тролямі, што жылі на Зямлі ў часы, ад якіх не засталося нават легенд.

Цывілізацыя троляў дасягнула такога развіцця, што сённяшнія людзі нават у самых неверагодных фантазіях не могуць сабе ўявіць, што такое магчыма. Некаторыя дасягненні і зараз працуюць, толькі людзі пра гэта не здагадваюцца. Але аб гэтым пазней.

Зразумела, піва не было адзінай вадкасцю на зямлі, але менавіта яно цякло ў рэках. Быў яшчэ квас, яго здабывалі на балотах і пілі па святах. Была і вада... Яе таксама пілі, але не часта і заўжды разводзілі півам... Яе выкарыстоўвалі ў асноўным для запраўкі самаходных павозак, ракет, ёй мылі шкло і драконаў — для іх было любімай забавай паплюхацца ў вадзічцы.

Слова «чалавек» тады мела зусім іншы сэнс: яно было сінонімам слова «вадапівец», ці, па-нашаму, алкаш. Троль, які злоўжываў вадой, співаўся і дэградаваў, станавіўся прыгодным толькі для фізічнай працы. Таму яго адсылалі за горы, дзе ён і дажываў астатак жыцця.

Ніхто не ведае, колькі праіснавалі тролі на Зямлі да таго часу, калі пачалі з'яўляцца людзі. Нават самі тролі гэтага не ведалі. Адно толькі вядома, што з таго моманту сонца чатыры разы пабывала на капітальным рамонце, бо на ім пасля кожнага ставілі пячатку і пісалі дату наступнага рамонту. Толькі даты гэтыя пісаліся заўжды на адным і тым жа полі. Таму ніхто дакладна не ведаў, калі быў папярэдні рамонт. Аб гэтым можна было толькі здагадвацца. На полі праступалі лічбы, ад якіх станавілася страшна, таму ўслых іх ніхто і не прамаўляў.

У сонца была брыгада троляў, якія сачылі за яго станам, закочвалі яго ў ангар нанач і выкочвалі днём на неба. Такая ж брыгада была і ў поўні. І яшчэ адна сачыла за зоркамі: кожны дзень праціралa іх, каб кожнай ноччу тролі маглі глядзець на неба і бачыць свае любімыя зорачкі вымытымі.

А глядзець на зоры тролі любілі. Сапраўды, што можа быць лепшым за тое, калі перад тым, як залезці на сваю любімую елку на начлег, зачарпнуць з любімай рэчкі піва ў любімы кубак, сарваць з дрэва якую-небудзь смачнасць, прылегчы на траву каля роднай елкі і глядзець-глядзець-глядзець на чыстае зорнае неба, слухаць, як цячэ рэчка і плюхаюцца ў піве рыбкі...

Асобнае месца ў жыцці кожнага троля займаў яго кубак — ён даваўся кожнаму тролю на дзень нараджэння. (А дзень нараджэння яны святкавалі толькі раз у жыцці — пры нараджэнні: тролям не быў цікавы час. Проста не цікавы і ўсё! Ніхто з іх нават не задумваўся, што гэта такое і для чаго ён патрэбны)  І гэты кубак быў з тролем усё яго жыццё: ён жыў і развіваўся разам з ім. Аднаго позірку на кубак было дастаткова, каб зразумець, які яго ўладальнік.

Тролі любілі свае кубкі. Калі адзін з іх губляўся, гэта было раўназначна страце жыцця. Заўжды вясёлы, задаволены і рознакаляровы, троль, які згубіў свой кубак, станавіўся ціхім, панурым і шэрым: яго больш не цікавілі ні зоркі, ні піва, ні елка, якая таксама пачынала сохнуць... Усе тролі краіны кідалі свае справы і дапамагалі шукаць кубак. Ніхто не весяліўся, не працаваў, не спаў... Толькі шукалі. Калі кубак не знаходзіўся, троль гінуў — сумны і шэры. І ўсю краіну ахопліваў смутак. Ніхто не ведаў — наколькі, бо ніхто не лічыў час. Жалоба спынялася толькі тады, калі памерлы троль з'яўляўся да ўсіх у сне са словамі «я знайшоў свой кубак». Пасля гэтага жыццё працягвалася. Добра, што тролі былі вельмі пільнымі і ўважлівымі ў дачыненні да сваіх кубкаў. Таму нават гісторыкі з цяжкасцю ўспаміналі, калі была апошняя жалоба. А калі апошні раз было такое, каб кубак не знайшлі — зусім ніхто і не прыпомніць. Таму ўсе жылі доўга і радасна.

Новыя тролі нараджаліся толькі тады, калі гэтага хацела Зямля. У такія гады выраслі новыя елкі, на елках раслі новыя тролі, а пад елкамі — іх кубкі. І жыў-быў адзін стары троль, якога ўсе астатнія называлі проста — Дзядуля. Ён адказваў за тое, каб зняць маладняк у час, каб яны не пераспелі, але і не былі зялёнымі. Бо калі троль пераспее — ён упадзе з елкі, ударыцца галавой (а растуць яны менавіта галавой уніз) і будзе тупым, вельмі вялікім і нязграбным. А калі сарваць яго раней часу, ён будзе зялёным, маленькім і вельмі-вельмі злым. І вось тады пачыналіся праблемы, бо тролі былі вельмі-вельмі добрымі і не ведалі, што рабіць, калі такое адбывалася. Але з тых часоў, калі Дзядуля пачаў сачыць за ўраджаем, усіх троляў збіралі толькі ў час.

Дзядуля быў самым старым з троляў, нават хадзілі чуткі, што ён бачыў сонца яшчэ да першага рамонту. А калі яно пагасла, ён сам зрабіў першы рамонт і стварыў брыгаду тэхагляду неба і нябесных свяціл. Ніхто дакладна не ведае, што з гэтых чутак праўда, што не. Калі аб гэтым пыталіся ў самога Дзядулі, ён толькі ўсміхаўся і нічога не казаў, хоць і вельмі любіў размаўляць і на ўсе іншыя пытанні адказваў... А як жа ён расказваў казкі! Ад яго расповеду заціхала ўсё: птушкі, рыбы, мошкі; спыняліся рэкі, суцішваўся вецер, драконы зляталіся, і нават елкі нагіналіся ніжэй, каб паслухаць. Усе слухалі, баючыся прапусціць хаця б адно слова, бо кожнае слова нараджала цэлы свет — сапраўдны свет са сваімі жыхарамі, легендамі, героямі і зладзеямі, свет, якім немагчыма было не захапіцца, і ў якім хацелася жыць... Гэтыя казкі трэба было не проста слухаць, трэба было пражываць кожнае іх слова, набрыняць кожным гукам, бясконцай мудрасцю сказанага. Пасля казкі распавядалі тысячы і нават міль-

ёны разоў. Усе на Зямлі вельмі любілі такія пасядзелкі. І вельмі любілі Дзядулю. (Тролі любілі яго нават больш за свае кубкі!)

Калі б у краіне троляў спатрэбіўся важак, які так неабходны людзям для кантралявання статка (раней такіх важакоў называлі князямі-каралямі, а цяпер называюць прэзідэнтамі), то ім дакладна стаў бы Дзядуля. Але... тролям не патрэбны быў кантроль, бо яны былі не статкам, яны проста жылі сабе ў згодзе — добра і разумна. Людзі так не ўмеюць — так умелі толькі тролі.

Успамінаючы пра Краіну троляў, нельга не ўзгадаць і драконаў, якія жылі побач з тролямі. Прычым жылі яны не проста мірна (як добрыя суседзі) — яны жылі як браты. Два такія высакародныя віды проста не маглі жыць інакш. Сучасны чалавек наўрад ці зможа ўявіць сабе сапраўднага Дракона. Дзецям іх заўжды малююць як вялікіх і злосных крылатых яшчураў, якія могуць дыхаць полымем і выпальваюць усё на сваім шляху. Але насамрэч такімі злоснымі і бязлітаснымі драконы ніколі не былі. Вядома, частка казак, якія захаваліся, — гэта праўда. Але далёка не ўсе. І не зусім з таго пункта гледжання, з якога гэтыя казкі распавядаюцца. Ды гэта ўжо зусім іншая гісторыя...

Трэба дадаць яшчэ адзін маленькі факт пра драконаў. Агнём яны дыхаць не ўмелі (тым агнём, да якога зараз прывучаны ўсе людзі). Што яны ўмелі і любілі — дык гэта плюхацца ў вадзе ў сваіх горных азерцах. Вада там была асабліва насычаная, і людзі яе зусім не пілі, а тролі выкарыстоўвалі толькі ў якасці ракетнага паліва. Дык вось. Той, хто хаця б раз па-сапраўднаму плюхаўся ў вадзе, добра разумее, што паплюхацца, не наглытаўшыся пры гэтым вады, ну проста немагчыма. Вось і ў драконаў гэта не атрымлівалася. Толькі ўздзейнічала вада на іх не так, як на троляў — у драконаў яна выклікала адрыжку. Вогненную. Вельмі смешна, павінен вам сказаць, атрымлівалася. Полымя было рознакаляровым. І пасля плюхання драконы заўжды вельмі доўга затрымліваліся на беразе, каб паваляцца на сонейку і павесяліць усіх рознакаляровым салютам. Часам спецыяльна для такіх відовішчаў тролі закочвалі сонца ў ангар, а пасля вогненнага шоу вярталі на неба зноў. Ну вельмі драконам падабалася валяцца на сонейку!

І вось так яны існавалі разам, на адной планеце, на адным кантыненце, у згодзе і парадку. Усе ведалі адзін аднаго, не гледзячы на тое, што Зямля раней была не меншая, чым зараз. Елкі, кубкі, тролі, драконы, піва... Так працягвалася невядома колькі. Можна нават сказаць, што тады жыццё праходзіла па-за часам. Магчыма, таму, што на яго ніхто не звяртаў увагі. А можа, так проста павінна было быць. Хто ведае?.. Пакуль не прыйшоў час перамен.

Як я казаў раней, людзей высылалі за горы, дзе яны пілі сваю ваду і дажывалі жыццё. Драконы прывозілі ім ежу і пітво. Людзі былі незадаволены такім раскладам, але нічога зрабіць не маглі: іх было вельмі мала. Елкі за гарамі не раслі, таму тролі не сумняваліся, што людзей не стане больш. І яны не памыляліся ў сваёй упэўненасці: насельніцтва загор'я павялічвалася толькі за кошт троляў, якія сталі «вадапійцамі». Але так было, пакуль не стала інакш.

Аднойчы на паляне сярод сасновага лесу пачала расці елачка. Так не павінна было быць. Можа, Зямля вырашыла пажартаваць, або хацела пацікавіцца, што з гэтага ўсяго будзе, бо не сказала нічога пра гэтую елачку Дзядулю. І, вядома, гэтага троля ніхто не сарваў у час. Ён зваліўся з елкі недаспелым, зялёным і злым. І ўсё яшчэ было б нармальна, калі б ён, зваліўшыся, моцна ўдарыўся галавой і страціў розум. Але і тут Зямля над усімі пасмяялася, бо прызямліўся ён на мяккую траву. Толькі трошкі, але неяк няўдала ўдарыўся галавой, ад чаго зрабіўся яшчэ больш злым. Пры гэтым ён не згубіў ні кропелькі тралінага розуму... І ўсё было б яшчэ не так дрэнна, калі б ён знайшоў свой кубак, але, на жаль, кубак застаўся незаўважаным у траве. А троль без кубка — гэта спустошаны троль. Яму нібы не далі сэрца, і замест яго запоўнілі нутро вакуумам, які немагчыма вытравіць нічым на свеце. Троль, які згубіў кубак, паміраў. А што ж было рабіць таму, у каго і не было свайго кубка, які нарадзіўся з такой спустошанасцю і не ведае, што можа быць інакш... Усё яшчэ магло змяніцца, калі б ён адразу патрапіў да іншых троляў ці да драконаў. Але гэтага не адбылося, і ён пайшоў блукаць па свеце, хаваючыся ад сонечнага святла. Ён не рваў ежу, якая расла на дрэвах, а паляваў і еў сырое мяса. Не таму, што не ведаў, што з дрэваў можна есці, а таму што ў момант забойства чарговай ахвяры спустошанасць знікала. Ненадоўга, але знікала. І гэтае пачуццё яму падабалася. З-за гэтага ён забіў першыя некалькі разоў. А потым пачаў забіваць не толькі, каб есці ці заглушыць спустошанасць... Ён пачаў паляваць, таму што гэта было весела! Яму падабалася пачуццё, калі ахвяра спатыкалася з ім позіркам і пачыналася пагоня. Яшчэ больш падабалася бачыць жах у вачах загнанай, абяссіленай істоты, якой не было ўжо куды бегчы, не было дзе схавацца. Ён смяяўся, калі бачыў надзею ў вачах ахвяры. Тады ён выпускаў яе, каб пагуляць яшчэ трошкі, пацягнуць час... Больш за ўсё яму падабалася безнадзейнасць і нямы страх тады, калі ад смерці звярка аддзяляў адзін маленькі момант, доля секунды. Ён пражываў гэтую секунду, усім целам скаланаючыся ад задавальнення: яму так хацелася, каб момант доўжыўся бясконца.

З часам забойствы станавіліся ўсё больш і больш жорсткімі, усё больш і больш крывавымі. Злы троль нават перастаў есці сваіх ахвяр. Часам толькі запіваў сарваную з дрэваў ежу крывёй, якую выцэжваў з яшчэ жывых істот.

Пра забойствы ў лесе хутка даведаліся. Але прайшло нямала часу, пакуль удалося злавіць вінаватага. Прычым ніхто не ведаў, што з ім рабіць, бо ніякіх злачынстваў на планеце раней не існавала. Нават слова такога не было, яго не здолеў успомніць нават Дзядуля. Прыйшлося прыдумаць слова. Цяжка паверыць у тое, чаго ніколі не было і не павінна было быць. Усё гэта здавалася... А чым яно магло здавацца? Такім паняццем як «дрэнны сон» таксама не карысталіся. Усе тролі заўжды спалі добра і не бачылі ніякіх дрэнных сноў.

Прыняць рашэнне трэба было вельмі хутка, бо ніякіх сродкаў утрымання злачынцаў, вядома, не існавала. І тролі, з-за сваёй лагоднасці, на жаль, зра-

білі апошнюю памылку. Яны выслалі крывапіўцу за горы, да людзей. І зноў настаў мір на іх Зямлі.

Прайшло колькі часу, і аднойчы дракон, які вазіў ежу за горы, заўважыў, што людзей стала больш, чым было. Каб праверыць гэта, ён абляцеў усё загор'е ў пошуках елак, але не знайшоў ніякіх прыкмет сваёй здагадкі. Вырашыўшы, што яму падалося, дракон вярнуўся дадому і адразу пра ўсё бачанае і нябачанае забыўся. А калі б і не забыўся, то наўрад ці каму расказаў бы. А калі б і расказаў, то ўсё адно нічога немагчыма было б зрабіць...

Калі людзей стала так многа, што яны вырваліся з-за гор і пачалі захопліваць Зямлю, лёс троляў ужо быў вырашаны. У апошнім намаганні штосьці змяніць і выратаваць свой народ, тролі селі на лодкі і пачалі грэбці ў надзеі на выратаванне. Але гэта не дапамагло. Людзі знішчалі лясы, напаўнялі рэкі і азёры смяротнай вадой, забівалі... Зніклі людзі толькі на тых кавалках сушы, якія з часам заледзянелі. Туды тролі і паплылі, хаваючыся ад крыважэрнага статка. Пад лёдам яны пабудавалі цывілізацыю, якую ў легендах называюць Атлантыдай. Некаторыя тролі з дапамогай магіі зрабілі сябе падобнымі да людзей і жывуць у гарадах і вёсках. Некаторыя засталіся ў самых непралазных лясах. Кажуць, што ў электрычным святле вушы троляў пачынаюць свяціцца. Але не верце! Калі б гэта сапраўды было так, мяне б ужо даўно заўважылі! А я яшчэ тут. І, здаецца, ніхто не звяртае на мяне ўвагі. Гэта добра. Добра, бо я магу працягваць вандраванні ў пошуках сваіх братоў, якія засталіся жыць сярод людзей. Я ведаю, што знайду іх, і ведаю, што, калі знайду, пазнаю. Як і яны пазнаюць мяне...

*Мінск, 2010 г.*



# Павел Ляхновіч

**празаік, перакладчык, журналіст. Аўтар кнігі «Пачатак сезона» і шматлікіх публікацый у беларускім друку. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сярэдняя на Міншчыне. Жыве ў Пінску.**

# Мяне клічуць «Міс»

Мама кажа — калі штосьці хвалюе, перажыванне, праблема — яе трэба некаму прагаварыць, сфармуляваць. Тады лягчэй рашэнне знайсці. У мяне не тое, каб праблема, так, лухта... І нельга сказаць, што перажываю надта... І рашэння ніякага не шукаю. Проста — карціць распавесці.

Мяне ў класе «Міс Марпл» называюць. Дакладней, раней называлі, а зараз мянушка скарацілася, стала проста «Міс». Часам «Міска». У нашым шостым «В» амаль усе з мянушкамі. Тамара Шчасная — «Рыжая». Яна сапраўды рыжая, як медны дрот. Пеця Малькевіч — «Блатны», Мішка Салавей — «Тыц». Міколка Дударчык — «Макс». Марыся Жукоўская — «Жучка»... Усе маюць. Толькі да мяне не прыліпала. Спрабавалі неяк «Трусам» называць, мы тады па беларускай літаратуры Паўлюка Труса праходзілі, а я таксама Паўлюк, Павел. Але «Трус» хуткаператварылася ў «Плюс», а потым і зусім знікла. А вось «Міска» даволі трывала прычапілася... «Міс Марпл» — гэта гераіня дэтэктываў Агаты Хрысці, самадзейная сышчыца. Я тое-сёе з гэтых твораў чытаў, тое-сёе па тэлевізары глядзеў.І мянушкай таемна ганарыўся. Бо вырашыў як стану дарослым на сышчыка вывучыцца пайду, на міліцыянера.

Пачалося з таго, што я летась фільм паглядзеў, «Место встречи изменить нельзя». І так мне гэты фільм спадабаўся, што нават у снах я з капітанам Жагловым — гэта галоўны герой фільма — сустракаўся, размаўляў, дапамагаў яму з бандай «Чорная котка» змагацца, са злодзеямі. Там яшчэ адзін герой — тата кажа, што гэта ён галоўны — старшы лейтэнант Шарапаў, але мне ўсё ж здаецца, што галоўны — Жаглоў.

Колькі сябе памятаю, я ўвесь час марыў кім-небудь стаць. У сэнсе — вырасці, вывучыцца і авалодаць якойсьці прафесіяй. Малым быў — марыў марозіва прадаваць. Думаў — можна есці колькі захочаш. Потым мама сказала, што прадавец, каб яго есці, павінен таксама купіць. Сам у сябе! Потым — кіроўцам аўтамабіля, толькі гэтая мара ў мяне неяк хутка прайшла. Потым па чарзе — ваенным, касманаўтам, лётчыкам... А зараз вось — хачу, як капітан Жаглоў. Міліцыянерам. Я дзіўлюся з нашых хлопцаў — пытаюся, да прыкладу таго ж Тыца, кім ён марыць стаць, як вырасце, а ён плячыма паціскае: «Не ведаю... Якая розніца?... Абы грошай шмат зарабляць...» — «А што ты на тыя грошы купляць будзеш?» — «Ну-у... Былі б грошы. Знайду што... »

Ага, дык вось даўно ўжо, з мінулага лета, як фільм пра Жаглова паглядзеў, хацеў міліцыянерам стаць. І неяк перад аднакласнікамі адкрыў гэтую мару. Ды я і не хаваў ніколі. Проста — нагоды не было. А летась, калі пяты скончылі, мы класам у паход пайшлі. Не ўсе, толькі хто захацеў, і каго бацькі адпусцілі. На тры дні. Наш класны павёў, Уладзімер Станіслававіч. Заплечнікі раздаў, сказаў што браць з сабою. Раніцою рушылі. Дзве трацiны класа пайшло, нас у класе дваццаць адзін вучань. З Ракава павінны былі да Івянца пехатою дай-

сці, там музей Фрунзэ наведаць і Дзяржынскага — гэта нейкія дзеячы вайсковыя — а яшчэ дом-музей Апалінарыя Пупко, народнага мастака, і пехатою ж назад, у Ракаў.

Спачатку весела было. Уладзімер Станіслававіч па дарозе шмат цікавага распавядаў. Пра расліны, пра вёскі, што дарогаю міналі. Ён вясёлы, наш класны, жартаўлівы. І заплечнікі, здавалася, зусім не цяжкія. Прайшлі Пярэжары, Казакі, потым па лесе выйшлі да Іслачы, перабраліся на правы бераг, прайшлі крыху па лузе, каля Кіяўца на шашу выйшлі. Заплечнікі пацяжэлі, і неяк настрой прапаў. Нават класны змоўк. За Кіяўцом зусім нешта нявесела зрабілася. Яшчэ кіламетры тры прайшлі, там справа ад шашы могілкі. Уладзімер Станіслававіч нас спачатку туды завёў. Аказваецца, там беларускі пісьменнік пахаваны, Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч. А злева ад шашы, зусім блізка, зноў Іслач. Мы ўжо ледзьве пляліся, зайшлі на могілкі, глянулі на тую магілу, яна там ля самай капліцы, з вялікім шэрым бюстам пісьменніка, і дзяўчаты пачалі канькаць, што стаміліся. Тады на беразе Іслачы вогнішча распалілі, і прывал зрабілі. Гадзіны тры адпачывалі. Дзяўчаты кашу з грэчкі зварылі, з тушонкай. Смаката невымоўная! Ляжалі на траве вакол вогнішча, Уладзімер Станіслававіч пра Фрунзэ распавядаў і пра Дзяржынскага.

Дзяржынскі, аказваецца, наш зямляк, родам з-за Івянца. Калі ў Расеі, у Піцеры цара скінулі, ён надзвычайную камісію ўзначаліў, з бандытамі змагацца. Я так зразумеў, што ён галоўны міліцыянер быў. Ну, тут і не вытрымаў, і сказануў, што, як вырасту, таксама міліцыянерам стану. Той-сёй з аднакласнікаў хіхікнуў і ўсё, а Уладзімер Станіслававіч неяк дзіўна на мяне паглядзеў і сказаў, што Дзяржынскі ў пятнаццаць год сястру Ванду застрэліў, а з ворагамі рэвалюцыі змагаўся метадамі, якія нельга назваць дапушчальнымі — тэрорам, правакацыямі, захопам закладнікаў. А я тады сказаў, што не Дзяржынскі для мяне аўтарытэт, а капітан Жаглоў. І што я хачу быць, як ён. Хачу лавіць злодзеяў. І словы яго з фільма працытаваў: «Вор-р должен сидеть в тюрьме!» Але Уладзімер Станіслававіч спрэчку скамечыў, пра Фрунзэ стаў нешта распавядаць. Не памятаю, што. Здаецца, Фрунзэ таксама ў Івянцы жыў, у мастака Пупко. Беларусь тады пад расейскай акупацыяй была. Ці пад нямецкай?... Хто ён такі, што рабіў — мне неяк не запомнілася.

Мянушку не тады прыляпілі, гэта пазней здарылася, увосень, ужо заняткі былі. А тым разам не да мянушак, тры гадзіны адпачынку сілаў нам няшмат прыбавілі. І ўсе са страхам думалі аб шляху да Івянца. Але Уладзімер Станіслававіч спыніў на шашы грузавік, мы пагрузіліся ў кузаў, і праз якіхсьці трыццаць хвілін ужо былі ля сценаў Івянецкага касцёла. Для чаго гэта я распавядаю? А! Гэта я здалёк гісторыю сваёй мянушкі... Мама кажа, што ў нас з татам «фамільнае» — пачаць нешта распавядаць, а потым забыцца пра што пачалі, і распавесці пра нешта зусім іншае.

Я тады ля вогнішча пра сваю мару сказаў, каб Антосю Грынявецкую, «Тоху», уразіць. Яна прыгожая. Вельмі мне падабаецца. Ды на яе шмат хто з на-

шага класа, з паралельных, і нават са старэйшых, увагу звяртаюць. А яна — ні на кога. Дарэчы, з-за яе Тыц мяне «міс Марплам» назваў. Ну, не зусім з-за яе, проста ў сувязі з ёю.

Тоху я тым разам відавочна не ўразіў...

Затое ўразіў іншым, крыху пазней. Я тату і маме неяк паведаміў, што не хачу больш быць лётчыкам, буду міліцыянерам. Мама засмяялася, а тата сказаў, што міліцыянер павінен развіваць уважлівасць, памяць і быць фізічна моцным. І навучыў мяне запамінаць шмат лічбаў. Гэта называецца «мнематэхніка». Кожнай лічбе ад нуля да дзевяці прысвойваецца літара. Адзінцы — «н», двойцы — «в», тройцы — «р», чацвёрцы — «ч», пяцёрцы — «п», шасцёрцы — «ш», сямёрцы — «с», васьмёрцы — «м», дзявятцы — «д». Цяпер, калі ёсць нейкія лічбы, напрыклад 8590324610, іх можна запісаць літарамі «мпдлрвчшнл». Гэтыя літары разбіваюцца па дзве ці тры, а да іх дадаюцца галосныя, каб атрымаліся словы. Напрыклад, у нашым выпадку гэта можа быць «мапед-ліра-вочы-шынэль». Гэтыя словы трэба ўявіць, як нейкую карцінку, як комікс. Чым незвычайней будзе карцінка, тым мацней яна запамінаецца. А потым ужо перарабіць гэтую карцінку назад у лічбы — справа зусім простая. Я крыху патрэніраваўся і вельмі хутка навучыўся запамінаць па трыццаць-сорак лічбаў. Прычым хоць справа-налева, хоць злева-направа. І некалькі разоў, калі захварэла настаўніца геаграфіі, і мы сядзелі ў класе без справы, правёў «паказальныя выступленні». Сеў на настаўніцкае крэсла, заплюшчыў вочы, і мне кожны называў лічбу, а Макс запісваў іх на дошцы, за маёй спіной. Сам я хуценька ператвараў лічбавыя пары ў словы, словы ў «карцінкі» і запамінаў. Потым з заплюшчанымі ж вачыма называў усе ў адным і другім накірунку, па ходзе — як называлі і наадварот. Мне нават заапладзіравалі, нібыта артысту! І Тоха таксама.

І яе вочы блішчэлі. Гэта было крута!

Я запомніў усе тэлефонныя нумары. Хоць яны ёсць у спісе мабільніка, але ж ведаць іх на памяць карысна! Напрыклад, можа здарыцца, што свой мабільнік забыўся, а тут узнікла пільная патрэба патэлефанаваць. Просіш мабілу ў сябра і па памяці набіраеш...

Мнематэхніку я трымаў у сакрэце. Хай думаюць, што гэта ў мяне такія надзвычайныя здольнасці. Прыемна, калі пра цябе гэтак думаюць. А яшчэ я ўсе гутаркі ўрэшце зводзіў да таго, што, як вырасту, стану міліцыянерам. Сышчыкам. Рэдкая, цікавая, нават гераічная прафесія. Не кожнаму па плячы.

Я ў класе «выдатнікам» лічуся, люблю вучыцца, нешта новае даведвацца. І дзявяткі-дзясяткі мне атрымоўваць прыемна. А калі часам сямёрка ці нават шасцёрка, я перажываю. Нікому не паказваю, але непрыемна. Раней мяне ў класе «немка» не любіла. Не ведаю за што. Адчуваў — не любіць. Як ні стараўся — не мог у яе дзясятку атрымаць. А калі пагалоска пайшла пра маю «фенаменальную» памяць, неяк палагоднела. І — не-не ды і пачала ставіць дзясяткі...

Каб трэніравацца, стаў кожны дзень пасля заняткаў з нататнікам па нашым мястэчку хадзіць, ды нумары ўсіх сустрэчаных машын запісваць і запамінаць. А ўвечары правяраў — ці ўсе запомніў, ці правільна. Да 80 лічбаў давёў — гуляючы...

Я ўжо не разумеў — ці то я ў міліцыянеры рыхтуюся, ці мне людзей здзіўляць прыемна. Але Жаглоў у мае сны прыходзіць не перастаў. Толькі рэдка.

Тым днём я выйшаў на цэнтральную плошчу нашага мястэчка, дзе большасць крамаў і сельсавет, і ўбачыў Тоху. Стаяла ля ровара, танюткая, стрункая, і вочы яе былі поўныя слёз. Мне ажно сэрца сціснула, такая яна была няшчасная. І прыгожая.

Аказалася — яе абакралі. Пакуль хадзіла ў краму за пакупкамі, нехта «распрануў» ровар. Скруцілі фару, дынамку, выкруцілі залатнікі з колаў. Добра, што, пакідаючы, прымкнула яго да слупа, а то б зусім звялі.

Я ж будучы сышчык! І я вырашыў — зраблю ўсё магчымае, каб высушыць Тохіны вочы. Агледзеў ровар, пляцоўку ля яго ў пошуках слядоў злодзея. У дэтэктывах злачынцы заўжды пакідалі сляды — недакуркі, пагрызеныя зубачысткі, адбіткі абутку, пальцаў, кроплі крыві. Ніякіх адбіткаў абутку, крыві на асфальце не было. Затое былі недакуркі, пяць штук, я сабраў іх, і схаваў у кішэнь. Хутчэй за ўсё на ровары можна было знайсці адбіткі пальцаў, але для мяне яны не мелі ніякай карысці, нават калі б удалося знайсці — не ўмею я па адбітках людзей шукаць.

Тоха глядзела на мае маніпуляцыі, як мне здалося — з недаверам і адначасова з надзеяй. А я не ведаў, што мне рабіць далей. Вось — сабраў недакуркі і што?

Яна пайшла, пакаціла ровар са спушчанымі коламі, а я застаўся і напружана думаў. Мне так хацелася знайсці і вярнуць скрадзеныя рэчы! «У мяне пяць недакуркаў, — думаў я. — Не факт, што сярод іх ёсць хоць бы адзін, які кінуў злодзей. Нават хутчэй за ўсё яны трапілі сюды выпадкова. Не мог жа злодзей, ведаючы, што гаспадыня ровара ў краме і можа кожную хвіліну вярнуцца, адкручваць фару, дынаму, выкручваць залатнікі і пры тым спакойна паліць. Не, не мог. Значыць, недакуркі тут кінуты іншымі курцамі. Добра. А раптам усё ж сярод гэтых пяці ёсць недакурак злодзея? Што тады? Як яго вызначыць? Дапусцім — нейкім чынам вызначыў. Тады наступнае — як знайсці таго, хто яго выпаліў? Не, недакуркі дапамагчы мне не маглі, і я высыпаў іх у сметніцу ля ганку адміністрацыі. Узгадаў, як важна збіраў іх ля ровара, з якой надзеяй глядзела на мяне Антося — і адчуў, што чырванею. Сорамна...»

...Я сядзеў на прыступках, і галава мая раскалвалася ад спробаў прыдумаць, як знайсці злодзея і скрадзеныя рэчы. Па месцы, дзе я падабраў непатрэбныя, як выявілася, недакуркі ішоў грак і хітра касіў на мяне вокам. Паторкаў дзюбай у асфальт, нібыта нешта там заўважыў. Узмахнуў крыламі, падскочыў, узляцеў на брыль перад уваходам у будынак адміністрацыі і за-

брахаў, як сабака. Гракі, яны нібыта папугаі — запамінаюць навакольныя гукі і потым крычаць чужымі галасамі. Я безуважна прасачыў яго палёт позіркам. Грак шпацыраваў туды-сюды і брахаў. Быцца хацеў мне нешта падказаць і не мог. І злаваў, што я нездагадлівы. Відэакамера! На брылі адміністрацыйнага будынка відэакамера! А на шкле дзвярэй — налепка «Вядзецца відэаназіранне». Аб'ектыў накіраваны не на тое месца, дзе стаяў прымкнуты да слупа ровар Антосі, але можа ён усё ж трапіў у кадр? Я кінуўся ў будынак...

Доўга распавядаць чаго гэта мне каштавала. Маю на ўвазе — колькі словаў я патраціў, пакуль пераканаў паказаць мне відэазапіс. Сакратарка старшыні сельсавета завяла мяне ў памяшканне з вялікім маніторам і відэарэгістратарам, пашчоўкала «мышкай», і на экране ўзнікла плошча перад будынкам, разам з крамамі і аўтобусным прыпынкам. Слуп ля якога Антося пакінула ровар у кадр трапіў! Зусім блізка ад краю, але трапіў!

— Глядзі. — Сказала сакратарка. — Толькі нічога не чапай. Глядзі, калі час ёсць... Мне б твае клопаты!

І пайшла.

Гэтыя дарослыя лічаць, што толькі іх клопаты вартыя ўвагі!

Па плошчы перад будынкам туды-сюды соўгаліся людзі, узляталі і садзіліся птушкі, спыняліся і праязджалі аўтамабілі. Я нібыта вярнуўся ў часе на гадзіну назад. Але постаці, і асабліва твары людзей, былі невыразнымі, і я занепакоіўся, што гэтае вяртанне ў часе можа здарыцца гэткім жа бясплённым, як і збіраньне недакуркаў...

...Увага! Вось пад'ехала на ровары Антося. Спрытна саскочыла, падвяла да слупа, абнесла слуп тросікам, якога не відаць на экране, прымкнула ровар. Забрала з багажніка... Пластыкавую торбу, здаецца? Выйшла з кадра...

Цягнуцца хвіліны, я напружаны, як выжла ў стойцы на цецярука. Вось плошчу перасякаюць дзве постаці. Падлеткі, прыкладна маіх гадоў. У аднаго блакітная майка, сінія нагавіцы, белы абутак, відаць красоўкі. Вельмі знаёмая хада! З падскокам. Гэта ж Тыц, Мішка Салавей! А з ім ці не Мікола Дударчык, Макс? Так — ён! Ідуць паўз ровар. Тыц спыняецца, нешта кажа Максу. Той выходзіць з кадра, а Тыц корпаецца ў кішэні, потым падступае да Антосінага ровара. Ну, так, у яго заўжды жалязякі ў кішэнях грымяць, ключы гаечныя, усялякія болцікі, дроцікі, адвёрткі... Без прыладаў там не вельмі і адкруціш...

...Хутка справіўся. Махае рукой і бегма з Максам праз плошчу. Так, а праз колькі Антося з'явіцца? А я? Бач, удала ў іх атрымалася. Праз чатыры хвіліны ўжо Антося, праз дзве — я. І якія дзёрзкія! Гэта ж сярод белага дня, на вачах у людзей!

Гадзіну назад мне больш за ўсё хацелася знайсці злодзея. Здавалася, знайду, і справа вырашана, забяру крадзеныя рэчы і аддам Антосі. Яна здзівіцца, будзе дзякаваць, а я сціпла апушчу вочы і скажу... Што скажу? Ну, маўляў, нічога асаблівага, я ж будучы сышчык, павінен абараняць пакрыўджаных... Неяк так...

І вось я ведаю, хто ўкраў. Але як забраць у Тыца з Максам крадзеныя рэчы — гэта раз. Як вярнуць іх гаспадыні — гэта два. Проста падысці, ды сказаць, — «я ведаю, што гэта вы, аддайце мне крадзенае, я вярну Антосі», — мне нешта перашкаджае. Як уяўлю, дык становіцца ніякавата. Нават чамусьці сорамна, нібыта гэта я злодзей, а не Тыц і Макс. Во не думаў, што так можа быць! Ну, забяру я, дапусцім, крадзенае і прынясу Антосі. Што яна падумае? Не магу ж я сказаць ёй, што гэта нашы аднакласнікі яе абакралі! З Тыцам і Максам мы не тое, што сябруем, але адносіны, можна сказаць, добрыя. І вось я аб'яўляю іх злодзеямі. Не, і гэтага я не магу. Тады што? Проста моўчкі аддаць? Можа вырашыць, што гэта я сам скруціў, а цяпер вяртаю, каб перад ёю выслужыцца? Можа.

Ніколі б не падумаў, што ў сышчыка гэткія праблемы паўстаюць. Вось ведаю злачынцаў, а што далей? Як хоць бы рэчы забраць? Хіба з татам параіцца?

... Тата доўга выпытваў, што і як. І чаго я раптам вырашыў заняцца «следствам», і як знайшоў злодзеяў, і што хачу атрымаць у выніку. Ён ужо забыўся, што я буду міліцыянерам. Прыйшлося яму ўсё распавядаць. Пра Жаглова з Шарапавым, пра маю мару стаць сышчыкам, пра Антосю, якой хачу вярнуць рэчы, пра аднакласнікаў, якія скралі чужыя рэчы, пра тое, што мне чамусьці сорамна сказаць «злодзеі» на Тыца і Макса, сорамна вяртаць рэчы...

«Добра... — Сказаў тата. — Ты выявіў злодзеяў і хочаш забраць у іх скрадзеныя рэчы гэтай дзяўчынкі, так? І прытым не хочаш, каб усе даведаліся, што кралі менавіта яны? А ці разумееш ты, што ў такім выпадку ты становішся іхным «саўдзельнікам»? Нават калі табе ўдасца неяк забраць крадзенае і вярнуць, хлопцы гэтыя будуць працягваць красці, бо ніякай кары, што прымусіла б іх задумацца пра недапушчальнасць браць чужое ці проста баяцца браць, не адбудзецца? А чаму б табе не аб'явіць публічна, што гэтыя твае аднакласнікі — злодзеі? Баішся, што да цябе будуць кепска адносіцца? Так, будуць. Могуць нават адлупцаваць. Але ж яны злодзеі! А ты — «следчы»! Злодзеі заўжды варагуюць са следчымі... Павінны варагаваць! Можа лепей пайсці са сваёй інфармацыяй у міліцыю? І, між іншым, калі ты рэалізуеш сваю мару, гэтак жа будзе ў тваім дарослым жыцці. Ну — як? Яшчэ не перадумаў ісці ў следчыя?»

Я хвілінку падумаў і сказаў тату, што не, не перадумаў. І што заяўляць у міліцыю не хачу. Усё ж аднакласнікі. І гатовы іх выкрыць. Але не перад усім класам, а толькі перад Антосяй.

Тады тата сказаў, што на яго думку трэба пагаварыць паасобку з Тыцам і Максам, сказаць, што бачыў іхны ганебны ўчынак, і калі яны самі не аддадуць крадзенае гаспадыні, я гатовы зрабіць гэта за іх. Калі будуць упарціцца, прыгразіць міліцыяй. А яшчэ сказаў, што маё нежаданне публічна выкрыць аднакласнікаў — прыкмета прафесійнай няздатнасці да працы сышчыка, шлях у карупцыянеры. Растлумачыў, што «карупцыянер» — гэта чалавек, які мае

пэўную ўладу і выкарыстоўвае яе для атрымання асабістай выгады. Глупства! Якую выгаду я атрымоўваю, калі не хачу аб'явіць у класе — хто злодзей? Мне проста не хочацца, каб клас палічыў мяне даносчыкам. І якую ўладу я маю над Тыцам і Максам? Ніякай!

...Увечары я знайшоў Мішку-Тыца, адазваў яго ўбок і пацікавіўся, ці ведае ён, што нехта абакраў ровар Антосі. Мішка захваляваўся, пачаў хаваць вочы і сказаў, што не ведае. Тады я распавёў яму ўсё, што бачыў на запісе камеры відэаназірання. Праўда, пра камеру казаць не стаў, паведаміў, што нібыта знаходзіўся непадалёк і бачыў усё на ўласныя вочы. Для чаго скрыў пра камеру — сам не ведаю. Не люблю ілгаць, а тут практычна салгаў проста так, ні для чаго.

Мішка захваляваўся яшчэ болей, пакрыўся плямамі і пачаў прасіць не выдаваць іх з Максам. Што ён забярэ ў Макса фару і залатнікі — дынамка ў яго — і патаемна верне ўсё назад, прыкруціць на ровар. А я падумаў, што гэтак было б найлепш, але дзе ён збіраецца рабіць гэтую аперацыю па вяртанні — пасля крадзяжу Антося хутчэй за ўсё ні на хвіліну не пакіне ровар без нагляду. Ды і вельмі хацелася ўласнаручна вярнуць крадзенае. Таму прапанаваў неадкладна аддаць рэчы мне.

Сваю «долю» Тыц прынёс мне праз дзесяць хвілін. Потым пайшоў да Макса і вярнуўся з ім разам. Макс быў раззлаваны і пачаў мне пагражаць расправай. Хлопец ён здаровы, самы дужы ў класе, ды яшчэ Тыц побач, таму мне стала ніякавата. Засмактала пад лыжачкай, узмакрэлі далоні. Але выгляду, што мне страшнавата, я не паказаў, а сам пайшоў у наступ і прыгразіў, што пра крадзеж раскажу Антосі і міліцыі. Тады Тыц адвёў Макса ўбок, яны пагаманілі напаўголаса, і Макс крыху збавіў тон: «Ці не сорамна табе быць стукачом? Ты ж сваіх выдаеш! «Тут я зноў ляпнуў пра сваю мару стаць сышчыкам, выкрываць злачынцаў, і Тыц фыркнуў: «Гляньце на яго! Міс Марпл!».

Назаўтра ў школе я працягнуў Антосі пластыкавы пакет з яе рэчамі. «Сама ўсталяваць здолееш, ці дапамагчы?»

Антося спачатку не зразумела, зазірнула ў пакет, потым завойкала, заахала, і ў вачах яе я прачытаў нешта такое, што мне вельмі спадабалася. За такі позірк можна горы перавярнуць.

А хто ўкраў, і як я знайшоў — я не распавёў. Сказаў, што гэта прафесійны сакрэт, і калі пра яго ўсе будуць ведаць, гэта дасць злачынцам шанец пазбегнуць выкрыцця. Так што Тыц з Максам ніякай кары не атрымалі, а я набыў ворагаў. І новую мянушку. Бо Тыц з Максам пачалі клікаць мяне «Міс Марпл», і яе вельмі хутка падхапілі ўсе.

Няпроста гэта, аказваецца — быць сышчыкам.

Яно і добра, што няпроста. Простыя прафесіі, дзе не трэба ніякай падрыхтоўкі, яны на мой погляд нецікавыя. Хоць, можа, патрэбныя больш, чым іншыя. Напрыклад — колькі краіне патрэбна сышчыкаў і колькі землякопаў? Або целаахоўнікаў і кіроўцаў? Мастакоў і агароднікаў? Хоць нельга сказаць, што кіроўцу ці агародніку не трэба ніякай падрыхтоўкі... А землякопу — фізічнай моцы...

Пасля «справы» з Тохіным роварам тата стаў часцей са мной гутарыць. Падобна на тое, што яму не вельмі падабаецца мая мара. Нядаўна завяліся з ім пра Жаглова. Тата сцвярджае, што ён зусім не герой, а нават наадварот — сам злачынец. Я, натуральна, кінуўся ў спрэчку, бо тата абразіў майго самага любімага чалавека. А тата сказаў, што я проста пад уражаннем таленту Уладзімера Высоцкага, які сыграў Жаглова ў фільме. А насамрэч Жаглоў — адмоўная фігура. І даў мне кнігу «Эра міласэрнасці», якую напісалі браты Вайнеры. Сказаў, што ніколі ніякі фільм нельга параўнаць з кнігай, па якой ён зняты. Кніга заўжды больш поўная і больш цікавая. Апрача таго, кніга вымушае чалавека працаваць — чытаць, уяўляць прачытанае, трэніраваць мозг. А фільм — гэта для лайдакоў з беднай фантазіяй. На той кніжцы, на вокладцы — Жаглоў і Шарапаў з фільма. У сэнсе — для афармлення кніжкі ўзялі партрэты Высоцкага і Конкіна, якія сыгралі ў фільме ролі Жаглова і Шарапава. Каб не гэтыя партрэты, я, відаць бы, не стаў яе чытаць. А твары маіх «куміраў» спакусілі, зацікавілі.

Кніжка мяне захапіла. Сапраўды, чытаць — велізарнае задавальненне! Я ж фільм увесь на памяць...— «Значыцца так!...», «...Гэта толькі ты разумны, а я так, на шпацыр выйшаў...», «Вор должен сидеть в тюрьме!»... — і ў кніжцы героі тымі ж словамі размаўляюць. Але вось такі сказ: «...А яна раптам зрабіла няўлоўны рух, струменьчыкам вады слізганула з футра і ўжо амаль паспела скінуць яго...» — як смачна напісана! І як гэтую фразу можна паказаць у кіно? Ніяк! Атрымоўваецца, што фільм — толькі вартая жалю, абрэзаная спроба паўтарыць сюжэт кнігі. А мова яе, манера падачы — гэта ж велізарнае задавальненне! Не меншы, чым апісаныя падзеі. І атрымоўваецца — праўду тата сказаў! — кніга непараўнальна больш багатая за фільм.

Спачатку я чытаў пра прыгоды Жаглова і Шарапава і ўяўляў менавіта кінагерояў. Пасля фільма я ніяк не мог уявіць іх іначай. Але чым далей чытаў, тым больш расплываўся ў маім уяўленні Жаглоў-Высоцкі, і на яго месцы ствараўся грубы і самаўпэўнены чалавек, што імкнецца да сваёй мэты, не зважаючы на іншых людзей, на правільнасць сваіх учынакаў. Хоча быць ва ўсім самым лепшым, так, гэта добра. Так — Жаглоў адважны, умелы. Так — нават спагадлівы. Аддаў жа сваю харчовую картку! Але эпізод, калі Жаглоў сілай засоўвае кішэннаму злодзею Сапрыкіну-«Кірпічу» за пазуху кашалёк, а потым пры панятых і пацярпелай дастае яго, мяне непрыемна ўразіў. У фільме Жаглоў засунуў кашалёк у кішэнь Сапрыкіна таемна, і я чамусьці ўспрыняў гэта нармальна — бо «Кірпіч» насамрэч жа скраў яго ў жанчыны! Зараз жа, пасля прачытання я падумаў — не, не ўсё роўна якім чынам злачынца трапляе ў турму. Ён на тое і злачынца, каб быць падступным, подлым, жорсткім. А абаронца людзей, змагар са злачынствам павінен быць высакародным, шчырым, годным чалавекам. Іначай, чым ён адрозніваецца ад таго, з кім змагаецца? І пасля гэтага эпізоду твар кніжнага Жаглова паступова перастаў быць для мяне тварам Высоцкага. Ды і Жаглоў з фільма неяк незаўважна перастаў прыходзіць да мяне ў сны.

Мне ўсё менеей хочацца станавіцца міліцыянерам. Чамусьці сорамна сабе ў гэтым прызнацца. Калі я «здраджваў» прадаўцу, кіроўцу, касманаўту — рабілася гэта лёгка. А зараз аднекуль адчуванне, быццам здзейсніў нешта непрыстойнае, пра што сорамна распавесці сябрам.

А сябры не ведаюць і па-ранейшаму клічуць мяне «Міс»...



# Вінцэсь Мудроў

**празаік. Аўтар кніг прозы: «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.**

# Чырвоны чалавек

— Змаганне з сеткавым пітонам у нетрах Амазоніі, — здушана гарлае ленінградзец, накруціўшы на шыю гумовы шланг. — Шланг ільсніцца на сонцы, віецца, як сапраўдны пітон, і дзятва, што сабралася навокал, глядзіць на гарадскога штукара, разявіўшы раты.

Каля дома, дзе жыве трактарыст Бохан, грувасціцца жалезная бочка на колах, у якой возяць ваду на пашу. Да бочкі прымацаваны шланг — вось ленінградзец і абкруціўся ім, дэманструючы змаганне з амазонскім удавам.

Мы з Мішкам стаім непадалёку, ціснем азадкі да агароджы, з усмешкамі на вуснах глядзім на тыя жарсці.

— Няма паратунку ад жалезных спохватаў, — каменціруе сітуацыю штукар, твар ягоны наліваецца крывёю, рукі страшэнна напружаны, усмешкі злятаюць з нашых вуснаў, і мы з Мішкам трывожна пераглядаемся: а раптам гэты недарэка і сапраўды задушыцца шлангам?

— А-аа! — гарлае, нібыта перад скананнем, ленінградзец, малеча, увабраўшы галовы ў плечы, адступае ад бочкі, нейкая дзеўчынёха заліваецца плачам, але тут з канца шланга праліваецца вада — якраз штукару за каршэнь, — і той, ачуўшыся, незадаволена выдыхае: — Ідыёцтва.

Ленінградзец, з выгляду наш аднагодак, прыехаў на вакацыі да цёткі — старой Авадзіхі. Удзень цягаўся па вуліцы, паказваючы дзятве розныя глупствы, а ўвечары, уладкаваўшыся на бярвенні каля цётчынай хаты, брынкаў на гітары ды спяваў шчымлівыя песні пра каханне. Паслухаць яго збіраліся дзеўкі не толькі з нашых Бычкоў, але і з суседніх вёсак. А Мішкава малодшая сястра Нюрка ў пеюна нават закахалася. Цыдулку яму напісала, паклала да часу ў кніжку, а брат знайшоў, і цяпер зводзіў сястру са свету.

Іншаму задаваку вяскоўцы б даўно натаўклі. Але пяюн убіўся ў сябры да Ваські Бохана: прывёз яму блок цыгарэт з фільтрам, напульснік з уштукаваным компасам, таму і ходзіць па вёсцы, задзёршы нос. А яшчэ падрадзіўся кінамеханіка Лябёдку гітарным акордам навучаць, і ў кінабудку, куды пабочным асобам уваход забаронены, дзверы нагой адчыняе.

Адкінуўшы шланг, ленінградзец паважнай хадою ідзе ўздоўж штыкетніку, а за ім, як за тым ільвом Баніфацыем — мультфільм гэты нядаўна круцілі ў клубе — сунецца вясковая дзятва.

Авадзішына карова ўнадзілася за быком бегаць, таму і пасвіцца ля хаты, прывязаная да штыкетніку. Праходзячы міма, штукар скінуў з сябе стракатую кашулю, патрос ёю каля каровінай мызы.

— Тора, тора, — стоена выдыхнуў ленінградзец і, узяўшы рукі ў бокі, крутнуўся на абцасах мадняцкіх туфель.

Карова з шумам увабрала носам паветра, рушыла, наставіўшы рогі, наперад, але зашмарга на шыі яе спыніла.

— Тора, тора, — ужо гучна азваўся ленінградзец, зноўку, грацыёзна закінуўшы рукі за спіну, крутнуўся, і рагуля, з налітымі крывёю вачамі, грукнула рагамі па штыкецінах.

— Тореадор смеле-эе! Тореадор! Тореадор! Знай, что испанок жгучие глаза-а на тебя смотрят страстно... — голасна заспяваў гарадскі блазан, але тут ад весніц пачуўся звяглівы цётчын голас:

— Чаго да каровы прычапіўся?! Есці ідзі, яечня стыне!

— Ідыёцтва, — выдыхнуў пяюн: ён быў відочна незадаволены, што перавалі ягоную песню.

Усё той жа валюхаста-фанабэрлівай хадою задавака пасунуў да цётчынай хаты, напяваючы гэтым разам пра Гіменэя, які яднае нявесту з жаніхом, і карова незадаволена рыкнула яму ўслед. Бацька ленінградца — Авадзіха казала тое кожнаму стрэчнаму — спяваў у оперы, вось сын і нахапаўся розных арый.

— Палкай носу не дастанеш, — буркнуў пад бокам Мішка. — Калі б не Бохан — я б яму хоць зараз нюхаўку натоўк.

Васька Бохан — «кароль» наваколля. Летась, пасля бойкі ў Азярышчанскім рэстаране, паўгода на зоне адседзеў. Два гады далі, ды выпусцілі па амністыі.

Увечары мы сядзім на лаве пад вокнамі Мішкавай хаты, грызем крамянаняспелы «белы наліў» — яблыкі вісяць над нашымі галовамі — і раўніва паглядаем на Авадзішыну хату. Пяюн вось-вось павінен выйсці з весніц. Чакаем яго выхаду не толькі мы, але і Мішкава сястра з сяброўкай Кацькай. Дзеўкі сядзяць на ганку, з гарачкавым імпэтам перашэптваюцца і раз-пораз пырскаюць смехам. Неўзабаве сяброўкі бягуць па двары, і Мішка, свіснуўшы ім услед, гарлае:

— «Мілы хлопчык, давай сябраваць!» — так напісана ў перахопленай цыдулцы.

Дзеўкі ідуць пад ручку да Авадзішынай хаты, і дзесьці непадалёку абуджаюцца гітарныя пераборы. Хвілін пяць пяюн настройвае гітару, а потым пытаецца ў дзевак, якія ўжо паселі на бярвенні, што ім збацаць.

— «Прапажу»! «Прапажу»! — азываюцца Нюрка з Кацькай, і музыка, бразнуўшы па струнах, надрыўна, што той Абадзінскі, спявае:

*Самой нежной любви наступает конец,*
*Бесконечной тоски обрывается пряжа.*
*Что мне делать с тобой, и с собой, наконец,*
*Как тебя позабыть, дорогая пропажа?..*

Гэтая «Прапажа» гучыць па дзесяць разоў за вечар. Мы ўжо яе на памяць завучылі.

— Сёння па абедзе Юльку, унучку Мандрысішыну, напужаў, — Мішка гучна чвякнуў кіслым яблыкам. — Яе сляпень укусіў, а пяюн паведаміў, што гэ-

та муха цэцэ, і што ад яе ўкусу людзі паміраюць. Юлька і зараўла. Карацей, Мандрычыха да Авадзіхі бегала лаяцца. Маўляў, шасцігадовае дзіця да ікаўкі напужалі.

Мандрычыха загадчыцай клуба працуе. Звяга — якіх пашукаць.

— Нічога, мы сёння піцерскага індыка таксама пужнем. У цябе, дарэчы, ліхтарык працуе? — сябар з сілай шпурляе пад плот яблычны абгрыздыш.

Ківаю галавой, намагаючыся ўцяміць, як можна напужаць піцерскага індыка звычайным «жучком».

— Пазычыш мне на вечар, — сябрук адрывае з галіны зялёную «налівіну», а пабачыўшы непаразуменне ў маіх вачах, пытаецца:

— Пра чырвонага чалавека чуў?

— Гэта якога Марштрупа бачыў? Чуў, вядома.

Марштрупа — наш мясцовы п'яніца. Аднойчы ўлетку напіўся ды заснуў у царкве, на прахалоднай цэментавай падлозе. Царква ў нас стаіць на ўскрайку вёскі. Напаўразбураная. Ні дзвярэй, ні вокнаў ужо даўно няма, а вось бляшаны купал, наскрозь пражжавелы, яшчэ нейкім чынам трымаецца. Карацей, прачнуўся Марштрупа сярод ночы, раздзёр павекі, а на яго, да сцяны прыціснуўшыся, чырвоны чалавек глядзіць. Небарака адразу ж працверазеў, пусціў у патарочу каменем і выкуліўся з царквы, немым голасам гарлаючы. Усю вёску сярод ночы на ногі падняў. З таго часу ў царкву цёмнай парой ніхто не заходзіць, бо там, нібыта, апоўначы чырвоны чалавек з'яўляецца.

Цяпер мне зразумелы Мішкавы план. Але ж невядома — ці пагодзіцца піцерскі індык зайсці ў царкву а дванаццатай ночы.

— Пагодзіцца, — адказвае, чытаючы мае думкі, сябар. — Надта ж ганарысты. Трэба ж перад намі сваю смеласць паказаць. Да таго ж, мы яму пра жахі царкоўныя ў прысутнасці дзевак распавядзём. Так што давядзецца індыку з чырвоным чалавекам пазнаёміцца.

— Ну добра, а як ты таго чалавека пакажаш?

— Цёмна стане — убачыш. Толькі абавязкова ліхтарык прыхапі.

Прызначаным часам — крадком, каб не нарабіць шуму, уздымаюся па драбінах на вышкі, дзе ўлетку спіць сябар, і Мішка, адчыніўшы дзверцы, пытаецца:

— Прынёс?

Я працягваю Мішку слізкі ад запацелай далоні «жучок».

Сябрук шамаціць сенам, адпаўзае ў дальні канец вышак і раптам там, у цемры, пад злавеснае гудзенне «жучка», узнікае штосьці агніста-чырвонае. Я напачатку нават рот разявіў, але тут жа ачомаўся. Ну вядома: Мішка абкруціў галаву піянерскім гальштукам і асвяціў ліхтарыкам.

— Ну як?

— Страшней ад таго, што Марштрупа бачыў.

Мы з Мішкам злазім з вышак, ступаем на зямлю і разам пераводзім дых. На сэрцы ў мяне трывожна.

— Можа, дарма ўсё гэта? Людзі спяць, а мы, як злодзеі, у поцемках сноўдаем.

— Гусь не ссыць, і ты не ссы, — рашуча прамаўляе сябрук і, памаўчаўшы, дадае: — Ідзі да клуба, а я агародамі да царквы пабягу. Буду вас там чакаць. Па дарозе вярзі яму розную лухту пра чырвонага чалавека. Наганяй, карацей, страху.

Над уваходам у клуб свеціцца лямпачка. Я стаю ў коле кволага святла і зацкавана ўглядаюся ў цемру. І прагну толькі аднаго: каб ленінградзец не прыйшоў. А то, сапраўды, немаведама чым можа скончыцца гэтая Мішкава прыдумка.

Наперадзе, з-за рога сельмага, выплывае чыйсьці цень, і сэрца маё абмірае. Ленінградзец! Але ідзе ён, не задзёршы нос, а сцярожка ступае на нягнуткіх нагах.

— А дзе твой сябрук? — пытаецца ленінградзец. — Голас ягоны прыкметна дрыжыць.

— Маці не пусціла. Я на гарышчы сплю, а ён у хаце — вось і тармазнулі.

Ленінградзец зацкавана паглядае ў бок нябачнай у цемры царквы.

— Ну дык што, пайшлі?

Колькі часу ідзем моўчкі, нарэшце ленінградзец перарывае маўчанне:

— А што, п'яніца той, які чырвонага чалавека бачыў, сапраўды ў дурдом патрапіў?

Пляменнік, відаць, ужо распытаў цётку пра тутэйшыя жахі. Тая яму і напляла абы-чаго.

— Праўда. Фельчарка казала, у яго белая гарачка была. Але чырвоную патарочу не толькі адзін Марштрупа бачыў. Яшчэ некалькі чалавек з ёй сутыкнуліся. І ўсе потым доўга хварэлі. А адзін, прыезджы, нават памёр, — пра прыезджага я, вядома, загнуў, і ленінградзец пасля такіх слоў зусім занепаў духам.

— А што з сябе чырвоны чалавек уяўляе? — суразмоўца паспрабаваў надаць голасу бадзёрыя ноткі.

— Я яго не бачыў, але, нібыта, галава агнём гарыць, і дым з вушэй ідзе. Сам з ім пазнаёмішся, калі пашанцуе. Дарма гітару не прыхапіў — збацаў бы яму «Прапажу», — выгляд у суразмоўцы быў панылы, вось з мяне і паперла красамоўства.

Ленінградзец, аднак, майго жарту як і не чуў. Спатыкнуўся на роўным месцы і плаксіва шапятнуў: «Ідыёцтва».

Неба спрэс зацягнутае хмарамі, і ў густой цемры царква выглядае велічна і таямніча. Там, дзе быў уваход, зеўрае вялізны пралом, з якога павявае чорная вусціш. Мне і самому, нават ведаючы, што ўнутры сядзіць сябрук, страшнавата туды заходзіць. Даўно калісьці, яшчэ малым падшыванцам, паспрачаўся з Мішкам, што зайду ноччу ў царкву. І дагэтуль памятаю, як дрыжэлі пальцы, кранаючыся халодных сцен, як парывіста білася сэрца, глуха адбіваючыся

ў вушах, і як яно сцялася, калі з пад ног маіх вылецеў голуб. Я тады застыў на месцы і, што дзіўна, страх адразу ж знік. Выліўся, відаць, у штаны, цёплым цурком кранулўшыся ног. Пасля таго я стаў мачыць ноччу прасціны, і маці вадзіла мяне ў суседнюю вёску Балбекі да Хадорыхі — старой шаптухі, што загаворвала пуд ды яшчэ нейкую рожу.

Мы спыняемся непадалёку ад пралому, ленінградзец, прыклаўшы да рота далоні, галасна крычыць, і дзесьці пад купалам нараджаецца працяглае рэха.

— Не гарлай, а то яго абудзіш.

— Каго? — пытаецца ленінградзец.

— Мішк... э-ээ... чырвонага чалавека.

Ленінградзец з цяжкасцю глытае сліну.

— Слухай, а можа разам зойдзем?

— Куды, у царкву? — мяне нават перасмыкнула ад такой прапановы. — У нас такой парой і за грошы ніхто не ўводзе, — мармычу, спрабуючы праглынуць халодны камяк, што знянацку захрас у горле. — Ён ужо, відаць, сочыць за намі.

— Ну тады і я не пайду, — задышліва шапоча ленінградзец, і я, надаючы голасу Мішкаву інтанацыю, сіплю:

— Ссыш?

— Хто, я?! — крычыць суразмоўца і, папляваўшы, як перад бойкай, на далоні, рашуча шыбуе да царквы.

Каля сцяны ён спыняецца, глядзіць, схіліўшы галаву, у чорную зеўру пралому, і йдзе — павольна, на цырлах, водзячы перад сабой рукамі, нібыта спрабуючы злавіць некага ў цемры.

Я на ўсякі выпадак адыходжу метраў на дзесяць, і ў гэты момант у царкве штосьці грукоча, хтосьці, з глухім рэхам, вохкае, і ўсе зыкі пакрывае капытлівы тупат. Выкуліўшыся з пралому, ленінградзец неяк дзіўна на мяне зыркае, нібыта ўпершыню ўбачыўшы, і, ні слова не сказаўшы, бяжыць па бальшаку ў бок Азярышча. Неўзабаве з цемры выплывае і Мішка. Ён дыбае, сагнуўшыся, ціснучы да лабешніка скамечаны піянерскі гальштук.

— Што з табой? — шапчу, угледзеўшы на Мішкавай шчацэ рухавую кроплю крыві.

— Камень шпурнуў. З перапуду.

Мішка выцірае гальштукам разбіты лабешнік. Цяпер сябар і сапраўды падобны на чырвонага чалавека. Увесь твар у крыві.

— Дзе ён? — пытаецца небарака, сплёўваючы крывавую сліну.

— У Азярышча пабег, праз паўгадзіны будзе на месцы, — спрабую я жартаваць (да райцэнтра роўна дваццаць пяць кіламетраў), — а пабачыўшы чорную рану, уражана прысвістваю: — Добра ён цябе пачаставаў. Трэба за фельчаркай бегчы. Так што ідзі да амбулаторыі, а я яе зараз прывяду. — І ўжо здалёк крычу Мішку: «А дзе ліхтарык?» «У царкве застаўся!» — адгукаецца сябар, і я асуджана махаю рукой.

Раніцай, як толькі маці ідзе даіць карову, вылятаю з хаты і подбегам шыбую па вільготнай ад расы, спрэс пакрэсленай даўгімі ценямі, вуліцы. Ранішняе сонца адбірае вочы і ў царкве, куды я, задыханы, прыбягаю, пануе ўрачыстая ціша, і ўсё наўкол працятае святлом. Міжволі заміраю, задзіраю голаў і доўга гляджу на барадатага святога з аблупленым носам. Той з дакорам глядзіць на мяне, пагрозліва выставіўшы ўгору два пальцы. «Ёсць нагода дакараць, — думаю я, аглядаючыся навокал, — трэба было адгаварыць Мішку і не лезці сюды сярод ночы».

Ліхтарык ляжыць на кучы друзу. Шкло, вядома, пабітае. Я голасна — аж водгулле пайшло, — аддзімаюся, гляджу на святога, і на сцятых вуснах ягоных адбіваецца кволая ўсмешка.

У самай бліжняй да царквы хаце жыве вядомая на ўсю акругу пляткарка — цётка Вараніха. На дварэ шостая раніцы, а да яе ўжо прыбегла з навінамі загадчыца клуба Мандрычыха.

— Дык ідзі ж ты сюды! — гукае Мандрычыха, наваліўшыся грудзямі на паркан.

Па інтанацыі выглядае, што загадчыца клуба мерыцца паведаміць штосьці надзвычайнае.

— Мішка-бязбацькавіч, пракуда гэты, прыбег сярод ночы ў амбулаторыю — і галава ўся разбітая, — гукае Мандрычыха Варанісе. — Тая, разявіўшы рот, шыбуе па капусных лехах да паркану. — А Авадзішын пляменнік — ну той, што з Ленінграду прыехаўшы, — уваліўся ў хату, збялелы. І слова сказаць не можа. Трасецца ўвесь. Авадзіха ўжо і вадой замоўленай пырскала, і свечку грамнічную ставіла. А потым да Ваські Бохана пабегла, каб той на трактары ў Балбекі ехаў ды Хадорыху прывёз — пуд загаворваць. Але ж Васька з вечару напіўся, так што яго і з ложку не падняли.

— Дык і Хадорыха ўжо, кажуць, не падымаецца. Дзевяноста гадоў агорала. Куды ёй на трактары ехаць, — задыхана азываецца Вараніха, і я прыспешваю хаду.

«І падкаснуў нячысцік пужаць пеюна. Зараз бы спаў на гарышчы, бяды не ведаючы. І ў Мішкі галава б была цэлая, і пяюн не перапудзіўся, і ў ліхтарыка шкло не трэснула», — думаю я, і раптам спыняюся і аднымі вуснамі, бязгучна прамаўляю: «А раптам і сапраўды ашалее? І што тады будзе?» І, ратуючыся ад такіх думак, на злом галавы лячу да хаты.

Я наведаў сябра адвячоркам. Удзень не пайшоў, каб не сустракацца з Мішкавай маці. Бо тая б адразу ўсчала роспыт: дзе мы ўчора цягаліся, і хто Мішку галаву рассадзіў. А ўвечары маці ў хаце няма — на ферме завіхаецца.

Напачатку нават не пазнаў сябра. Галава была забінтаваная, а левае вока дарэшты заплыло і не раскрывалася.

— Вось так, — з уздыхам прамовіў сябрук, хацеў паціснуць маю руку, але я міжволі сцяўся: за спінай бразнулі дзверы, і пачуўся ваяўнічы голас Мішкавай маці:

— Ну... кажы... дзе вы ўчора цягаліся?

Я шморгнуў носам, зірнуў, шукаючы падтрымкі, на Мішку, і той незадаволена прабубніў:

— Ды яго там не было.

— Заўтра ж на ранішняй малакавозцы ў Азярышча паедзеш. Хай у бальніцы праверацць — што там у цябе. Можа страсенне мазгоў. Чуў, што казала фельчарка?

— Не паеду, — сябар, па майму прыкладу, таксама шморгнуў носам, але больш жаласліва.

— Паедзеш, Мішанька, паедзеш, — падала голас з-за перабойкі Нюрка, і маці, падвысіўшы голас, выдыхнула:

— А ты хаця б посуд памыла. Цэлая гара стаіць! — Мішкава маці знянацку змоўкла, выцерла ражком выцвілай хусткі вочы: — Быў бы бацька, даў бы сечкі — і аднаму, і другому, — а так адна... б'юся з імі...

Дзверы, пад роспачныя ўсхліпы, зачыніліся, завісла гнятлівая цішыня і, падалося, нават ходзікі на сценцы сцішыліся і затахкалі напаўсілы.

Нюрка стала наліваць вады ў чыгун.

— Скончыліся, Нюра, канцэрты. Пяюн, як той Марштрупа, заікам стаў. «Што м-мне д-дзелать с-ссс табой і с-ссаб-бой н-наканец...»

Нюрка грукнула вядром, выбегла, следам за маці, з хаты, і я дакорліва зыркнуў на сябра. Ды Мішка і сам адчуў, што перабраў меру.

Мы доўга сядзелі моўчкі, напераменку ўздыхалі, нарэшце сябар, ні слова не кажучы, кіўнуў галавой ў бок разнасцежанага вакна. Пытаўся такім чынам: ці чуў я што пра ленінградца? У адказ я чарговым разам уздыхнуў.

— А што як сапраўды пачне заікацца? — прамовіў я, разглядаючы апухлае Мішкава вока.

— Заіканне — гэта лухта. Яно лёгка лякуецца. Трэба проста даць кулаком між лапатак — і ўсё стане на месца. Вось каб зусім не звар'яцеў, — Мішка аціх, крутнуў галавой, узняў, як той барадаты святы, два пальцы ўгору.

Я замёр і прыслухаўся. Знадворку, ля Авадзішынай хаты, засмяяліся, бразнулі па струнах, дрогкім голасам заспявалі.

Жывы! Здаровы! І, відаць, незвар'яцелы!

— Бесконечной тоски обрывается пряжа, — спяваў госць з Піцеру, мы з Мішкам вытыркнуліся па пояс з вакна, прычакалі канца куплета і, не згаворваючыся, на ўсю вёску загарлалі: — Як цябе адшука-аць, дарагая прапажа?!



# Людміла Юферава

украінская паэтка, журналістка. Сябра Нацыянальнага саюза журналістаў Украіны і Украінскай асацыяцыі пісьменнікаў. Аўтарка паэтычных зборнікаў: «Загубленыя сцежкі», «Пад крылом вечнасці», «Сельскія пастаралі». Нарадзілася ў 1959 годзе. Жыве і працуе ў Добравялічкаўцы (Кіраваградская вобласць, Украіна).

# Так вераснёва...

## Студня

Ва ўладзе двухвяковае самоты,
Якой дасюль віецца сумна ніць,
Прысеўшы ў пышнаснежныя сумёты
Прабацькаўская студня дрэмле-спіць.

Яе душа ўзнімаецца ў аблокі,
У зрэнках промень сонца не патух,
Ільдзінкі зруб укрылі крывабокі
І круціць калаўрот вятрыска-зух.

«Чаму ж даўно не падступаюць людзі?» —
Здзіўляецца яна штораз гарчэй.
І думае пра ўсіх, і не забудзе
Ні сотняў губ, ні тысячаў вачэй.

Развагі аб былым хінуць да Бога...
Зіма на коўдру белы пух прадзе.
Ад студні толькі памяць басанога
Цяпер з пустымі вёдрамі ідзе.

## Знай! Святло — гэта ўсё

Не згубіся ў вірах
незлічоных ідэй і турбот,
Перасільвай бяссілле,
сумневы, і смагу, і стому.
Знай! Святло — гэта ўсё:
і жыццё, і захмарны палёт,
І прасветлая радасць,
і шчасце вяртацца дадому.

То калі твае крылле
знявечаць вятры ў вышыні
І стрывожаны боль
будзе мучыць цябе ў паняверцы,
Ты свой твар да святла,
як сланечнік, хутчэй павярні
І праменню адкрый
і душу трапяткую, і сэрца.

## У бурна-вечаровай талачэчы

Рыпяць і стогнуць хвоі ды яліны,
Скідаюць футры срэбныя з сябе...
Мароз спраўляе колка імяніны,
Па шчоках, быццам кіпцямі, скрабе.

Кудзелістыя зоркі хмара тушыць,
Ім вусцішна ад сіберных віхур.
Нам задзімае выстылыя душы
Раз'юшаны скавыш з касмічных бур.

Стыхія ўзбушавалася над краем,
І напаўзае снег усё вышэй!
А мы праз роспач сінюю ступаем,
Захутаўшыся ў думкі ад завей.

У бурна-вечаровай талачэчы
З выццём, вятрамі, страхам ды слязьмі
Дубы-асілкі выпрасталі плечы
І стрымліваюць кудасу грудзьмі.

## Студзеньскі ранак

Гуляе ранак студзеньскі ў мароз,
Захуталіся людзі ўсе ад стыні.
На даляглядзе — хмар бухматых стос
Вярблюды цягнуць вышнія па сіні.

Я дзьмухаю ў азяблы кулачок —
Ужо пальчаткі вывязаць мне трэба.
А сонца, нібы белы павучок,
Па тонкім вецці дрэў спаўзае з неба.

Стрыгуць атары Божыя ўгары —
Руна плывуць пушыстыя патокі...
І пацалункі, быццам снегіры,
Злятаюць з губ маіх табе на шчокі.

***

О душа, не песці дум прагнілых,
Не хварэй на злосць і не зайздросць!
Словам лёгка нас пазбавіць сілы,
Перакрэсліць мары й весялосць.

Ах, як раніць з'едлівае слова!
Шчырыя раскаянні — штыхі!
У прыродзе ўсё, на жаль, часова,
Гаснуць нават зоркі і вякі.

О душа, глядзі, не страць кантролю,
Каб сусвету гнеў не раскалоў.
У людской гаворцы досыць болю,
Што ўдарае малаткамі слоў.

## Найлепшы твой настаўнік ёсць жыццё

Гады? — вярхі самотнасці і дум.
І нашча ўсмех мудрэйшы — май наўвеце.
Ты ж помніш: як у шэры ўліцца тлум,
Дык лепей аднаму ісці па свеце.

Табе дарогу лёс даўно абраў —
На ўсё ў яго сваё наканаванне.
Ты крыўдніку заўсёды зыч дабра:
Як кожны з нас, прад Богам ён паўстане.

Эмоцыі — шалёны вораг твой.
Не дазваляй ім вырвацца спадсподу.
Не множ даўгоў і крыўды супакой.
І не пускай зладзеяў у гасподу.

Нянавісць, лютасць, зло ў сабе душы.
Глядзі на свет прасцей і сам ласкавей.
Чым больш святла праменнага ў душы,
Тым і цяплей навокал, і яскравей.

Пабачыш шмат, на мудрасць і знаццё
Свае гады даўгія размяняеш.
Найлепшы твой настаўнік ёсць жыццё.
Яго навукі ты не прагуляеш.

***

А землякі ідуць, ідуць да Бога —
Мае найдаражэйшыя ў жыцці...
Ды я не плачу: не вярнуць былога —
Яны йшчэ будуць вішнямі цвісці.

Ідуць у вёску жалі трапяткія...
І лёс сяброў губляецца ў быллі...
Ды плачу я па думках іх, якія
Сіротамі блукаюць па зямлі.

## Дождж

Дождж! Ляціць у прыгаршчы напеў.
Дождж! Нарэшце ты да нас прыспеў!
Дождж! Ад шчасця клён вячысты змок.
Дождж! Квітнее бэзавы кусток.
Дождж! Бруі струменяцца ў траву.
Дождж! Тваёй стыхіяй я жыву.
Дождж! Змывае смутак, стрэсаў твань.
Дождж! Вада і неба — дзе ні глянь...
Дождж! Душы-маланкі ззяе смех.
Дождж! Натхнёны верш праз смех набег.
Дождж! Наскрозь прамоклі дум жмуткі!
Дождж! І хоць выкручвайце радкі!
Дождж! Люблю твой шал, тваю ігру!
Дождж... Напеў у прыгаршчы бяру...

## Я выстаю...

А я стаю няскорана, стаю,
Аж вецер лямантуе ад бяссілля.
Душу ён ахалоджвае маю,
Бязлітасна скубаючы мне крылле.

А я стаю на ветры і гару,
Танюткая, як свечка трапяткая...
Світанак сіні дорыць мне зару
І неба кветкі-чары распускае.

Стаю, спяваю з радасцяў ці згуб...
Калючы вецер, дзе б нам ні сустрэцца,
Я выстаю, бо белы свет мне люб,
Бо ластаўкі шчабечуць проста ў сэрцы.

## Эквілібрысты

Арэх у садзе ўвесну заквітнеў —
Ён мае, як і ўсе, свае сакрэты:

Ляціць з яго галля гуллівы спеў —
Кацінная даўгая аперэта.

Крычаць каты: «Прайшла, прайшла зіма!»
Бы вераб'і, гайдаюцца на веццi.
Якіх там толькі красуноў няма —
Усіх гадоў, усіх масцей на свеце!

Ніхто суседскай Мурцы не раўня:
Кажух срабрысты, вочкі — быццам стразы...
І балансуюць на галлі штодня
Худыя і мажныя верхалазы.

Наводзіць ранак зыркія масты...
І ўжо блакіт такі празрыста-чысты...
І ходзяць небам ласыя каты —
Ўвішныя пяюны-эквілібрысты.

## Так вераснёва...

Зайграў бурштынам золак ля сяла,
Туман прыйшоў на зношаных падборах,
Ды рэшткі вераснёвага цяпла
Яшчэ не стлелі ў стылых памідорах.

Яшчэ трапечуць астры край варот
І ловяць ранку водарныя цёкі,
Арганзава-пяшчотны дух шчадрот
Ружовасцю цалуе грушам шчокі.

На лаўцы ветрык у садку прысеў,
Плячом на студню абапёрся, прыткі...
І, разгарнуўшы прозелень між дрэў,
Так цёпла пазяхаюць аксаміткі.

Узняўшы фотакамеру ў руках,
Шукаю ў сене птушак — там іх схова...
І раптам — сонца, раптам дзень запах
Так соладка, мурожна, вераснёва...

**З украінскай мовы пераклаў Дзмітро Шчарбіна.**



# Пятро Франко

(28.06.1890, с. Нагуевічы, Драгобыцкі павет, Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі, Аўстра-Венгрыя — 1941).

Навуковец-хімік, педагог, пісьменнік, адзін з заснавальнікаў украінскага скаўцкага руху *«Пласт»*, адзін з першых украінскіх авіятараў. Трэці, малодшы сын вялікага Каменяра *(Івана Франко)* і адзіны з яго дзяцей, хто нарадзіўся там, дзе іх бацька, — у вёсцы Нагуевічы Драгобыцкага павета на Львоўшчыне.

У часы існавання Заходнеўкраінскай Народнай Рэспублікі (ЗУНР) (1918—1919) вызначыўся як першы арганізатар ваеннай авіяцыі Украінскай галіцкай арміі, з'яўляўся камандзірам лётнага аддзела і рэферэнтам Лётальства пры Дзяржаўным Сакратарыяце Ваенных Спраў ЗУНР. Член Навуковага таварыства імя Шаўчэнкі — сусветнай украінскай акадэмічнай арганізацыі. У 1939—1941 гг. — дэкан таваразнаўчага факультэта Інстытута савецкага гандлю (г. Львоў), у 1940—1941 гг. — дэпутат Вярхоўнага Савета УССР. Першы дырэктар літаратурна-мемарыяльнага музея Івана Франко ў Львове (сёння — Львоўскі нацыянальны літаратурна-мемарыяльны музей Івана Франко).

Творы Пятра Франко дагэтуль амаль невядомы беларускаму чытачу. Ягоныя апавяданні, за выключэннем толькі аднаго — «Руды пацук» *(«Рудий щур»)*, ніводнага разу не перакладаліся на беларускую мову, у адрозненне ад твораў яго славутага бацькі — Івана Франко (1856 — 1916). Імя П. Франко ў шэрагу іншых імёнаў выдатных нацыянальных дзеячаў вярнулася з забыцця ў часы незалежнасці Украіны. Але з якога забыцця? На гэты конт яго пляменніца, дачка старэйшага брата Тараса, вядомы ўкраінскі мовазнавец і грамадская дзеячка Зяновія Франко (1925 — 1991) трапна заўважыла: *«Пятро Франко, асоба далёка не аднамерная, сёння паступова выходзіць з таго, ніяк не людскога забыцця, бо ў памяці львавянаў ён быў не проста сынам вялікага пісьменніка, але і гістарычнай асобаю, з імем якой увязваліся перыпетыі падзей 20-х і 30-х гадоў, потым уз'яднанне 1939 г. і, нарэшце, таемная расправа, з таго забыцця вымушанага, на дзіва алагічнага пры афіцыйнай версіі яго пагібелі пад бамбёжкай. Ды і насамрэч досыць парадаксальна: чалавек загінуў ад фашысцкай бомбы, а яго імя нельга было згадваць нават у музеі яго бацькі, першым дырэктарам якога ён быў».*

У творчым набытку Пятра Франко, акрамя навуковых прац, падручнікаў і вынаходніцтваў у галіне хіміі, камедыі *«Заздрісні»* (1929), *«Марко Спотикайло»* (1929), аповесці *«Від Стрипи до Дамаску»* (1937), *«Іван Франко зблизька»* (1937) і *«Іван Франко»* (засталася незавершанай), а таксама шмат апавяданняў, частка якіх увайшла ў зборнік прозы *«Дядько шкіпер»* (Каламыя, 1930).

Варта адзначыць, што П. Франко шмат зрабіў для папулярызацыі спадчыны свайго знакамітага бацькі. Перарабіў на драмы аповесці Івана Франко *«Борислав сміється»*, *«Захар Беркут»*, казку *«Без праці»*. Пераклаў на польскую мову яго паэмы *«Мойсей»* і *«Іван Вишеньский»*. Прымаў удзел у падрыхтоўцы 30-томнага выдання твораў І. Франко...

# Іван Франко зблізу

***(Успаміны)***

Памятаю бацьку, калі мы яшчэ былі вельмі малыя і з Глыбокай вуліцы[1] перабраліся на даўнюю Крыжову, 12 (цяпер Патоцкага)[2].

На Глыбокай бацька выдаваў газету «Грамадскі голас»[3]. Мы з радасцю наклейвалі маркі. Часам налеплівалі па дзве. Гэта было вельмі непрыемна, бо злосная пошта вяртала газеты, і іх трэба было яшчэ раз пасылаць.

Ужо тады бацька меў дужа багата кніжак дый працаваў вельмі рупліва. Тая неверагодная працавітасць — гэта адна з прыкмет бацькі, якую я запомніў з самай ранняй маладосці.

Узімку мы нярэдка бавіліся каля печы, пяклі ў млынку для кавы каштаны.

Я або сястра сядалі ў таты на каленях (мы, дзеці[4], гаварылі заўсёды тату «ты», а маці — «вы»), і тата чытаў нам казкі. Тата, чытаючы плаўна, перакладаў з нямецкай мовы казкі братоў Грым, якія пакінулі на нас незабыўныя ўражанні. Пасля тых казак я баяўся спаць адзін і ўначы ішоў да маці або да таты.

Тата, калі быў у добрым настроі, любіў спяваць і наспяваў часам мелодыі без слоў.

Вельмі часта прыходзілі да нас сяляне, якія, бывала, заставаліся і нанач. Вельмі добра прыгадваю яшчэ Паўла Думку. Сяляне распавядалі нам розныя прыгоды з памежжа, а мы чыталі газеты. Я ўмеў чытаць, маючы чатыры гады, ды дэкламаваў Шаўчэнку: *«Думи мої»*, *«Причинна»*, *«Галаган»*.

Памяшканне на вул. Крыжовай, 12 было значна шырэйшае. Там было чатыры пакоі. Кутні пакой з балконам — гэта быў працоўны кабінет бацькі. Бацька любіў працаваць да позняе ночы, затое позна ўставаў. Бацька працаваў да 1 — 2 гадзіны ночы, а ўставаў а дзявятай.

---

[1] Сям'я Франко жыла на вул. Глыбокай, 7 (верасень 1893 — ліпень 1895 г.). Дом не захаваўся. *(Тут і далей тлумачальныя зноскі перакладчыка.)*

[2] Кватэра на вул. Крыжовай, 12 (сёння — вул. Генерала Чупрынкі, 14) — апошняя здымная кватэра сям'і Франко (верасень 1895 — кастрычнік 1902 г.). Па ўспамінах дачкі І. Франко Ганны, кватэра знаходзілася на першым паверсе. Але як даводзіць у сваіх публікацыях вядомы франказнавец Раман Горак (дырэктар Львоўскага нацыянальнага літаратурна-мемарыяльнага музея Івана Франко ў 1993 — 2017 гг.), кватэра знаходзілася менавіта на трэцім паверсе. Крыніца: Франко-Ключко, А. Іван Франко і його родина : спомини / Анна Франко-Ключко. — Торонто, 1956. — С. 10.

[3] «Грамадскі голас» (укр. *«Громадський голос»*) — заходнеўкраінская газета, якая з рознай перыядычнасцю і пад рознымі назвамі друкавалася ў Львове ў 1895 — 1939 гг. Першы нумар газеты выйшаў 20 сакавіка 1895 г.

[4] Дзеці І. Франко — Андрэй (16.07.1887, г. Львоў — 22.04.1913, г. Львоў), Тарас (09.03.1889, г. Львоў — 13.11.1971, г. Кіеў), Пятро (28.06.1890, с. Нагуевічы, Драгобыцкі павет, Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі, Аўстра-Венгрыя — 1941), Ганна (03.09.1892, г. Львоў — 24.04.1988, г. Таронта, Канада).

Мы, усе чатыры малыя «башыбузукі»[5], былі па характары рухавымі, шумнымі, і пакуль мы не заснем, працаваць бацьку было цяжка. Не раз ён нас супакойваў словамі: *«Ша, бухеле!»*[6]

Да нас вельмі часта прыходзілі знаёмыя. Прыходзілі часта Кацоўскі[7], К. Грыневічава[8], Нементоўскі, Кабрынскі[9]. Мы часта ладзілі сумесныя прагулкі ў Вульку[10] ў Зубрыцкі лес, на Высокі Замак[11], у Крыўчыцы[12], Лысынычы[13], на

---

[5] Башыбузукі — назва непастаянных вайсковых фарміраванняў (ірэгулярных ваенных атрадаў) у Асманскай імперыі. У перакладзе з турэцкай гэта слова азначае «з дурной галавой». Супастаўляльнае з беларускім «адарвірог».

[6] Тоеснае дыялектнаму *«Ша, бахури!»*. На львоўскай гаворцы (львівська івара), дыялекце ўкраінскай мовы, які ўжываецца ў Львове, словы *бахір, бахур* — дзіця, хлопец. Адно з тлумачэнняў слова *баіхурі* азначае «свавольныя дзеці» (з габрэйскай bahur — юнак). Ганна Франко-Ключко падае ў сваіх успамінах іншы варыянт: *«...дивився ніби суворо на нас і говорив звичайно «ша бухери»»* (Франко-Ключко, А. Іван Франко і його родина : спомини / Анна Франко-Ключко. — Торонто, 1956. — С. 14).

[7] Кацоўскі Уладзімір Мікалаевіч (укр. *Коцовський Володимир Миколайович*; 10 верасня 1860 г., Атыневічы, Бобркаўскі павет, Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі, Аўстрыйская імперыя — 11 лютага 1921 г., Сакаль (сёння — Львоўскай вобл.)) — украінскі галіцкі літаратуразнаўца, філолаг, пісьменнік, перакладчык. Таварыш І. Франко па вучобе на філасофскім факультэце Львоўскага ўніверсітэта (1878 — 1879 гг.). Дзеяч Навуковага таварыства імя Шаўчэнкі.

[8] Кацярына Грыневічава (укр. *Катря Гриневичева*; сапраўднае прозвішча — Грыневіч (Банах) Кацярына Васільеўна; 19 лістапада 1875 г., Віннікі, Віннікаўскі судовы павет, Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі, Аўстра-Венгрыя — 25 снежня 1947 г., Нямеччына) — украінская пісьменніца, як даводзяць літаратуразнаўцы, адна з любімых суразмоўніц і. Франко.

[9] Кабрынскі Уладзімір (укр. *Кобринський Володимир*; 1858, Мышын (сёння — Каламыйскі р-н Івана-Франкоўскай вобл.) — 1942, г. Каламыя Станіслаўскай вобл.) — лекар. Сын вядомага ўкраінскага грэка-каталіцкага святара і грамадска-культурнага дзеяча іясафата Кабрынскага (укр. *Кобринський Йосафат Миколайович*; 1818 — 1901), заснавальніка Народнага дома ў Каламыі, цяпер — Нацыянальны музей народнага мастацтва Гуцульшчыны і Пакуцця імя Й. Кабрынскага. Скончыў Чарнавіцкую гімназію (г. Чарнаўцы, Украіна) і Венскі ўніверсітэт (1887). Працаваў у Харватыі (1887 — 1891), а з 1891 г. пачаў прыватную практыку ў Каламыі. У 1905 — 1918 гг. працаваў лекарам у Львове. Сярод тых, каго ён лекаваў, вядомыя ўкраінскія дзеячы М. Грушэўскі (укр. *Михайло Грушевський*, 1866 — 1934), і. Франко, а таксама яго жонка Вольга Франко (1864 — 1941), Л. Украінка (укр. *Леся Українка*; 1871 — 1913) і інш. Крыніцы: Горак, Я. Листи до Івана Франка та спогади про нього Кирила Трильовського / Яким Горак // Українське літературознавство : зб. наук. пр. / Львів. нац. ун-т ім. Івана Франка. — Львів, 2015. — Вип. 79. — С. 199 — 311.; Пундій, П. Кобринський Володимир / П. Пундій, Ю. Б. Ковалів // Енциклопедія Сучасної України [Электронны рэсурс]. — 2017. — Рэжым доступу : http://esu.com.ua/search_articles.phpiid=8895. — Дата доступу : 15.05.2017.

[10] Вулька (укр. *Вуілька*) — прыгараднае паўднёвае паселішча Львова. У цяперашні час уваходзіць у склад Франкоўскага раёна Львова.

[11] Высокі Замак — так называецца месца ў Львове на тэрыторыі Замкавай гары, дзе ў канцы XIV ст.. быў узведзены мураваны замак. Не захаваўся, зберагліся толькі фрагменты сцяны ў паўднёвай частцы. Сёння на Замкавай гары (найвышэйшая кропка — 413 м над узроўнем мора) размешчаны комплекс помнікаў, сярод якіх парк «Высокі Замак».

[12] Крыўчыцы (укр. *Криівчиці*) — старажытнае сяло пад Львовам (1447 г.). Сёння ў складзе Лычакіўскага раёна Львова, размешчана на паўночным усходзе горада.

[13] Лысынычы (укр. *Лисиінечі*) — адно з самых старых паселішч пад Львовам (1411 г.), сёння ся-

Чортаву Скалу[14]. Галоўным чынам хадзілі ў Вульку ў цудоўны лес, дзе было так багата птушак і дзе раслі грыбы. Бацька быў па-спартыўнаму захоплены дзвюма рэчамі: любіў збіраць грыбы і лавіць рыбу. У Вуліцкі лес хадзілі з намі мастак Труш[15], Драгаманаўна[16] дый іншыя знаёмыя. Др. Кабрынскі густа перасыпаў свае дыскусіі нямецкімі, радзей лацінскімі словамі, праф. Кацоўскі спрачаўся вельмі тэмпераментна. Яшчэ і дагэтуль прыгадваю дыскусію на тэму окаючых і акаючых славян. Др. Кацоўскі чамусьці бараніў меркаванне, што ўкраінцы першапачаткова былі акаючымі, пазней перайшлі на оканне, а аканне ссунулася на поўнач.

Мы ўсе ўважліва прыслухоўваліся да надта доўгай дыскусіі. Болей гаварыў праф. Кацоўскі, дужа запальваючыся. Калі пайшоў, бацька казаў: «Вось прыклад дыскусіі, якая нікога не пераконвае».

Бацька з задавальненнем апранаўся ў шэрае адзенне. Амаль заўсёды насіў вышываную кашулю. Любіў насіць нешнураваныя чаравікі з гумавымі бакамі. На ўрачыстыя прыёмы апранаў чорны «шлюсрок»[17], рэдка фрак. Перад адным юбілеем, аглядаючы фрак, сказаў незадаволена: «Можна падымаць рукі, але не трэба раздзіраць пазычанага фрака».

У ядзе быў бацька надзвычай непераборлівы. Маці гатавала проста, але вельмі добра. На снеданне бацька піў каву з булкай (часта дамашняй), на абед былі: булён, вітамінавы суп з дадаткам шчаўя, крапівы, грыбоў, летам і восенню гародніна ды супы з гародніны, мяса і прысмакі. Бацька ніколі не курыў. У піцці быў вельмі стрыманы. Рэдка мог выпіць чарку віна «Злата Рыца» або

ло ў Пустамыціўскім раёне Львоўскай вобл. Размешчана на паўночных схілах нізкагорнай грады Львоўскага плато, якія спускаюцца ў даліну ракі Полтвы. З-за маляўнічых краявідаў ваколіцы гэтага сяла называюць «львоўскай Швейцарыяй». Да Лысыныч шчыльна прылягаюць усходнія прадмесці Львова, частка гэтага прыгараднага паселішча ўваходзіць у склад Лычакіўскага раёна горада.

[14] Такую назву мае група скал, размешчаных у паўднёвых ваколіцах сяла Лысынычы, на вяршыні і паўночных схілах высокага ляснога пагорка (414 м над узроўнем мора). Гэта Чотавы (укр. *Чоітові скелі*) або па найбольш распаўсюджанай назве — Чортавы скалы (укр. *Чоіртові скелі*). З гэтымі скаламі звязана шмат легендаў і многія старонкі львоўскай гісторыі. З XIX ст. улюбёнае месца адпачынку львавян. Тут любілі бываць такія вядомыя ўкраінцы, як спявачка Саламея Крушальніцкая (*Соломія Крушельницька*), пісьменнік Васіль Стэфанік (*Василь Стефаник*), мастак Іван Труш, кампазітар Філарэт Калеса (*Філарет Колесса*) і інш.

[15] Труш Іван (укр. *Труш Іван*; 17 студзеня 1869 г., с. Высоцка, Бродыўскі павет, Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі, Аўстра-Венгрыя — 22 сакавіка 1941 г., г. Львоў) — вядомы ўкраінскі мастак-імпрэсіяніст («паэт колеру і Сонца»), арганізатар мастацкага жыцця ў Галіччыне.

[16] Арыадна Міхайлаўна Труш (Драгаманава) (укр. *Аріадна Михайлівна Труш*) — жонка Івана Труша. Яе бацька — Міхаіл Пятровіч Драгаманаў (укр. *Михайло Петрович Драгоманов*, 1841 — 1895), вядомы ўкраінскі грамадскі дзеяч, публіцыст, гісторык, філосаф, літаратуразнаўца, фалькларыст, брат пісьменніцы Алены Пчілкі (укр. *Олена Пчілка*), маці Лесі Украінкі.

[17] Слова з львоўскай гаворкі, азначае сурдут — мужчынскую двухбортную вопратку з доўгім крыссём, якая шчыльна аблягае цела. Шлюсрок (schlussrock) паходзіць ад нямецкага слова rock (асноўнае значэнне — спадніца; дыялектнае — пінжак, сурдут).

якога іншага далмацінскага. Ад п. Пяленскага[18] прывёз раз бацька з Камарна[19] бутэльку віна з агародніны, яблычніка, якое бацьку вельмі спадабалася.

Колькі памятаю, бацька ў размове быў стрыманы і не любіў шмат гаварыць, хоць заўсёды быў вясёлы і ветлівы. Заняты цяжкай працай, нам часу ўдзяляў мала. Са мной толькі раз ці два перарабіў урок па латыні.

На вакацыі мы ўсе кудысьці ездзілі: у Завадава[20] (да п. Дзергаля[21]), у Галабутава[22] (да п. Карынца[23]), да п. Тышаўніцкага[24], а найлепшыя вакацыі праводзілі ў гарах, цудоўных Карпатах. Спачатку ездзілі ў Косава[25] (да п. Паўлікаў[26]),

[18] Гаўрыла Пяленскі (укр. *Гаврила Пеленськи*й). Дзейны член філіяла таварыства *«Просвіта»* (украінская культурна-асветніцкая арганізацыя) ў Камарна. Па розных крыніцах, займаўся традыцыйным украінскім рамяством — кушнірствам (выраб скуры з футрам і пашыў з яе рознага адзення) і садоўніцтвам. Бацька знанага ўкраінскага археолага і гісторыка мастацтваў Іосіфа Пяленскага (31 снежня 1879 г., м. Камарна Рудкоўскага павета — 27 лістапада 1957 г., г. Львоў)

[19] У той час Камарна (укр. *Комаірно*) — мястэчка ў Рудкоўскім павеце (цэнтр — Рудкі (укр. *Рудки*)) Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі Аўстра-Венгрыі. На пачатку XX ст. 5,7 тыс. жыхароў. Сёння — горад раённага значэння Гарадоцкага раёна Львоўскай вобласці.

[20] Завадаў (укр. *Заваідів*) — сяло ў Стрыйскім раёне Львоўскай вобласці. У гэтым сяле І. Франко пісаў сваю аповесць *«Борислав сміється»* (1882).

[21] Фёдар Дзяргаль (укр. *Дергаль*) — селянін сяла Завадаў.

[22] Галабутаў (укр. *Голобуиітів*) — сяло ў Стрыйскім раёне Львоўскай вобласці.

[23] Дмітро Карынец (укр. *Корінець*) — селянін сяла Галабутаў.

[24] Раман Тышаўніцкі (укр. *Тишовницький*) — заможны селянін сяла Сінявіднае (укр. *Синьовидне*, старая назва — *Синьовидсько*), сёння — у Сколіўскім раёне Львоўскай вобласці), арганізатар гандлёвага сялянскага таварыства. Як піша ўлюбёны ў сваё селішча ў кнізе «Верхнє Синєвидне: минуле і сучасне» кандыдат гістарычных навук Іван Думінец, спасылаючыся на ўспаміны грамадска-палітычнага дзеяча Стрыйшчыны, знаёмага І. Франко яшчэ са студэнцкіх гадоў Яўгена Алясніцкага: *«Раман Тышаўніцкі, ураджэнец Сінявідска, быў добрым гаспадаром, кіраўніком гандлёвай кампаніі па гандлі гароднінай (садавіной). Селянін, чалавек без адукацыі, але вельмі спрытны і кемлівы. Займаючыся гандлем, дамогся немалых грошай і ў 90-х гг. XIX ст. за дзевяноста тысяч крон купіў маёнтак (больш за тысячу моргаў зямлі і некалькі моргаў дубовага лесу каля с. Даўгалука). Стаўшы, як тады называлі буйных землеўладальнікаў, «дзідзічам», Р. Тышаўніцкі вельмі добра ставіўся да сялян, быў украінскім патрыётам, падтрымліваў украінскія таварыствы і арганізацыі, быў адным з ініцыятараў адкрыцця чытальні «Просвіта» ў Синявідску». Ён сябраваў і перапісваўся з выдатнымі прадстаўнікамі ўкраінскай культуры, у тым ліку з і. Франко. Гэта быў фактычна адзін буйны землеўладальнік — украінец на ўсю Стрыйшчыну і Сколеўшчыну»*. Крыніца: Гаврилів, О. Цікаві люди. Дещо про двох славних бойків: мудрого та багатого / Орест Гаврилів // Синьовидне моє любе... [Электронны рэсурс]. — 2017. — Рэжым доступу : https://geografiamozil4.jimdo.com/цікаві-люди/. — Дата доступу : 01.05.2017.

[25] Косаў (укр. *Косів*) — раённы цэнтр у Івана-Франкоўскай вобласці. У часы Аўстра-Венгрыі павятовы горад (з 1867 г.).

[26] Паўлікі — Міхал Іванавіч Паўлік (укр. *Михайло Павлик*; 17 верасня 1853 г., Манастырскае, Косаўскі павет, Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі, Аўстрыйская імперыя — 26 студзеня 1915 г., Львоў) — вядомы заходнеўкраінскі пісьменнік і грамадска-палітычны дзеяч, стваральнік разам з І. Франко Украінскай радыкальнай партыі, і яго родная сястра Ганна Паўлік (26 студзеня 1855 г., Манастырскае, Косаўскі павет, Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі, Аўстрыйская імперыя — 13 кастрычніка 1928 г., Львоў) — украінская грамадска-культурная дзяячка і пісьменніца, актыўная ўдзельніца жаночага руху ў Галіччыне.

але ўвесь час жылі ў Печажакаў[27] у Манастырскім, потым у Крываруўню[28] (да Валянскага[29], Якібюка[30], Мітчука[31]), далей у Буркут[32] (якім валодалі тады пп. Лакусты[33]). Бацька ахвотна збіраў у гарах грыбы, афіны, гогадзы, суніцы, драпакі34[34].

[27] Печажакі (укр. *Печежаки*) — жыхары сяла Манастырскае Косаўскага павета, суседзі Паўлікаў.

[28] Крываруўня (укр. *Криворіівня*) — сёння сяло ў Вэрхавынскім раёне Івана-Франкоўскай вобл., на Гуцульшчыне — украінскім этнакультурным рэгіёне, арэал якога ахоплівае ўвесь Вэрхавынскі раён. У Крываруўні вядомы кінарэжысёр Сяргей Параджанаў здымаў знакавы ўкраінскі фільм «Цені забытых продкаў» (1964) паводле аповесці М. Кацюбінскага.

[29] Айцец Аляксій Валянскі (укр. *Волянський Олекса*; 7 кастрычніка 1862 г., Звіняч, Чарткіўскі павет, Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі, Аўстрыйская імперыя — 2 сакавіка 1947 г., Сакалоўка, Косіўскі р-н, Станіслаўская вобл.) — святар, грамадска-культурны дзеяч, настаяцель царквы Раства Прасвятой Багародзіцы ў Крываруўні ў 1893 — 1923 гг. Пакінуў успаміны пра І. Франко «Мої спомини про Івана Франка» (Волянський, О. А. Мої спомини про Івана Франка / О. Волянський // Спогади про Івана Франка ; упорядкування, вступна ст. і примітки М. Гнатюка. — Львів, 1997). У прыватнасці, характарызуючы адносіны І. Франко да дзяцей, А. Валянскі пісаў: *«Да дзяцей, не толькі сваіх, але да ўсіх дзяцей, быў незвычайна ласкавы, а ў любові і пяшчоце да іх магла яму не адна жанчына і маці пазайздросціць»*

[30] Васіль Якібюк (укр. *Василь Якібюк*; 1866 — 16 кастрычніка 1944 г.) — вядомы гуцульскі народны разьбяр па дрэве, добры знаўца народнай медыцыны і фатограф-самавук. У яго хаце І. Франко праводзіў з сям'ёй летнія адпачынкі і пісаў свае творы (1906 — 1914). В. Якібюк узгадваў: «*Позна клаўся спаць, а 10 — 11-й, уставаў рана, дзесьці так ужо а 5-й гадзіне, збіраўся, з'еў снеданне, кошык на руку і — па грыбы. Толькі прынёс, адразу — да працы. Чытаў мала, сядзеў пад яварам і дыктаваў мне, я запісваў, згадваў, што з даўняга часу, згадваў дату, год, лічбу, дзе было і як тое было, без кнігі. Абярнецца, а я пагляджу ў кнігу, то праўда, не памыліўся. Але ніколі не памыляўся, галаву меў дужа ясную, калі браў даўнія часы, то ўсё з галавы»*. Крыніца: Атаманюк, Ю. Іван Франко і Криворівня. Минуло 150 років із дня народження господаря садиби, в якій тривалий час жив і працював Іван Франко / Юрій Атаманюк // «Час і Події» [Электронны рэсурс]. — 2016. — Рэжым доступу : http://www.chasipodii.net/article/18004/. — Дата доступу : 17.05.2017. З 1960 г. у хаце В. Якібюка дзейнічае літаратурна-мемарыяльны музей Івана Франко (с. Крываруўня, Вэрхавынскі раён, Івана-Франкоўская вобл.). У 1970 — 2014 гг. у музеі працаваў вядомы ўкраінскі франказнавец, ураджэнец Крываруўні, Мікалай Іванавіч Дзурак (07.10.1946 — 27.07.2014).

[31] Мітчук (укр. *Проць Мітчук*) — жыхар с. Крываруўня, мясцовы гуцул-знахар. Падчас сямейнага адпачынку ў Крываруўні (1901 — 1914) І. Франко спачатку спыняўся ў яго хаце, што знаходзілася на правым беразе Чарамоша, у прыселку Зарэчча.

[32] Буркут (укр. *Буіркут*) — горнае паселішча ў Вэрхавынскім раёне Івана-Франкоўскай вобл. Вядома сваёй крыніцай з мінеральнай вадой. На гуцульскай гаворцы адно з значэнняў слова «буркут» — прыродная крыніца. Сёння гэта паселішча закінута, тут не засталося ніводнага жыхара.

[33] Тэафіля Лакуста — дачка святара з Жаб'яга (з 1962 г. — Вэрхавына (укр. *Верховина*), раённы цэнтр у Івана-Франкоўскай вобл.) Тэадора Каржынскага (1831 — 1902), збіральніка гуцульскага фальклору, і ўдава святара М. Лакусты з сяла Ясяніва Гарышняга (сёння — сяло Верхні Ясяніў Вэрхавынскага раёна Івана-Франкоўскай вобл.). Каб выхаваць траіх дзяцей, здымала ў лясніцтве ў Буркуце памяшканне, у якім утрымлівала невялікую водалячэбніцу. Яе называлі «гаспадыняй курорта». Як адзначаюць даследчыкі, час, калі курортам кіравала Тэафіля Лакуста, быў самым цікавым перыядам у жыцці Буркута. Сюды прыязджалі пісьменнікі, грамадскія дзеячы, навукоўцы, мастакі. Крыніца: Тимінський, Б. «Заклад купелевий» у Буркуті / Богдан Тимінський // Часоп. «Гуцули і Гуцульщина» [Электронны рэсурс]. — 2017. — Рэжым доступу : http://gig.if.ua/89/.- Дата доступу : 16.05.2017.

[34] Дыялектныя (гуцульскія) назвы ягад: афіны (укр. *аіфини*) — чарніцы, гогадзы (укр. іоіїодзи) — брусніца, драпакі (укр. драпакиі) — ажына.


*Іван Франко*

Мы хутка навучыліся ад бацькі адрозніваць грыбы: ядомыя (праўдзівыя), галубінкі (шэрыя, ружовыя, чырвоныя), пістракі, баранова вуха, гіркані, іваныкі, каравякі, казары, апенькі, мухаморы, рыжыкі добрыя і неядомыя (тых апошніх надзвычай багата было ў Крыварыўні)[35].

Бацька цікавіўся і кузуркамі, збіраючы іх у бутэлечкі і заліваючы спіртам. Дзве такія бутэлечкі я перадаў у музей Франко ў Н. Т. Шаўчэнкі (Навуковае таварыства імя Т. Шаўчэнкі. — *Ю. К.*). Гуцулы ў Крываравыўні (у першую чаргу Якібюк) звярнулі былі ўвагу бацькі на «волас» — звярынку, зусім падобную на тоўсты волас, таўшчынёй 1 — 1,1 мм, даўжынёй ад 15 да 18 см, якіх шмат на рэчках і крыніцах. Сцвярджалі, што калі выпіць такі волас, то з'явіцца «валлё». Тата назбіраў тых валасоў у бутэлечку і завёз іх праф. Верхрацкаму[36]. Але праф. Верхрацкі не хацеў верыць, што гэта маглі быць жывыя звярынкі.

У Крываравыўні бацька дапамог Мітчукам купіць дзялянку з ляском, і за гэта мы маглі жыць у іх усе вакацыі. Мы і жылі ў іх да самай вайны. У Крываравыўні бацька сабраў дастаткова этнаграфічнага матэрыялу, запісваючы старанна прымаўкі, апавяданні (асабліва пра Доўбуша[37]) і песні.

[35] Тут аўтар падае пераважна народныя (на заходнеўкраінскіх гаворках) назвы карпацкіх грыбоў: галубінка (*голубіінка*) — сыраежка, гіркані (*гіркані*) — грузды, іваныкі (*іваники*) — лісічкі, казары (*козаірі*) — падбярозавікі.

[36] Верхрацкі Іван Рыгоравіч (укр. *Верхратський Іван Григорович*; 1846—1919) — выдатны ўкраінскі прыродазнавец, мовазнавец, педагог заснавальнік украінскай навуковай тэрміналогіі ў галіне прыродазнаўства, член Навуковага таварыства імя Т. Шаўчэнкі. Шэраг яго навуковых работ прысвечаны даследаванню флоры і фаўны Заходняга Падолля (Галіцкага Падолля) — гістарычна-геаграфічнага рэгіёна Украіны ў басейне Паўднёвага Буга і Днястра. У свой час І. Верхрацкі выкладаў украінскую і нямецкую мовы ў Драгобыцкай дзяржаўнай гімназіі імя Франца Іосіфа І, дзе яго вучнем быў Іван Франко, які там вучыўся з 1867 па 1875 г. Дарэчы, менавіта І. Верхрацкі разам з выкладчыкам польскай мовы Юліем Турчынскім (укр. Турчинський, 1833 — 1913) былі тымі настаўнікамі, якія, як адзначаў і.Франко, зрабілі ўплыў на «выпрацоўку ў мяне літаратурнага густу». А Ганна Франко-Ключко ў сваіх успамінах падкрэслівала, што пры дапамозе І. Верхрацкага Іван Франко таксама набыў «глыбокія веды і разуменне прыроды» (Франко-Ключко, А. Іван Франко і його родина : спомини / Анна Франко-Ключко. — Торонто, 1956. — С. 12).

[37] Алекса Доўбуш (укр. *Олекса Довбуш*, 1700 — 1745) — найвядомы верхавод карпацкіх апрышкаў, удзельнікаў сялянскага паўстанчага руху ў Прыкарпацці, Закарпацці і Букавіне ў 1730 —1740 гг. Апрышкі здзяйснялі набегі на панскія маёнткі, дамы ліхвяроў, гандляроў, заможных сялян. Захопленыя рэчы аддавалі бедным сялянам, сярод якіх яны мелі вялікую падтрымку.

Гэты збор этнаграфічнага матэрыялу меў свой уплыў і на найстарэйшага сына Андрэя, і на мяне. І Андрэй, і я таксама збіралі старанна. Я сабраў асабліва шмат прымавак і каламыек[38] у Нагуевічах[39], а цэлы зборнік па бацькавай парадзе перадаў праф. Гнацюку[40] для выдання ў Запісках Т. Шаўчэнкі[41]. На жаль, выданне не было завершана. Праф. Гнацюк некалькі разоў абяцаў вярнуць мне матэрыял, але з розных прычын гэтага не зрабіў, і матэрыял застаўся ў яго жонкі.

Бацька з ахвотаю выпраўляўся на далёкія прагулкі. З Крываросўні хадзіў да Царквы[42], дзе знаходзіцца падземная пячора, у якой і летам можна знайсці лёд, або на кычэры[43] вакол Крываросўні. На адной з іх ёсць камень, выдзеўбаны пасярэдзіне, дзе Доўбуш у свой час замураваў быў 2 — 3 бэрбэныцы[44] саракоўцаў[45]. Хтосьці шчаслівы пастукаў барткой[46] у камень і сказаў: «О, калі

[38] Каламыйкі (укр. *коломийки*) — традыцыйны жанр украінскай фольк-музыкі і харэаграфіі — двухрадковая народная песня (співанка), кожны радок якой мае 14 складоў з абавязковай паўзай пасля восьмага складу. Каламыйкамі таксама называюць кароценькія песенькі, якія могуць выступаць як прыпеўкі да танца. Месца ўзнікнення — горад Каламыя Івана-Франкоўскай вобласці Украіны. Крыніца: Коломийка // Вікіпедія [Электронны рэсурс]. — 2017. — Рэжым доступу : https://uk.wikipedia.org/wiki/Коломийка/. — Дата доступу : 09.05.2017.

[39] Нагуевічы (укр. *Нагуєвичі*) — сёння сяло ў Драгобыцкім раёне Львоўскай вобласці, дзе 27 жніўня 1856 г. нарадзіўся Іван Франко.

[40] Гнацюк Уладзімір Міхайлавіч (укр. *Гнатюк Володимир Михайлович*; 9 мая 1871 г., Велеснеў, цяпер Манастырыскага раёна Цярнопальскай вобласці — 6 кастрычніка 1926 г., Львоў) — украінскі этнограф, фалькларыст, мовазнаўца, літаратуразнаўца, мастацтвазнаўца, перакладчык і грамадскі дзеяч, член-карэспандэнт Пецярбургскай Акадэміі навук (1902), акадэмік Усеўкраінскай акадэміі навук (1924, цяпер — Акадэмія навук Украіны), сябра Чэшскага навуковага таварыства (1905), Пражскай і Венскай Акадэмій навук, навуковы сакратар Навуковага таварыства імя Т. Шаўчэнкі (з 1899 г.). Крыніца: Гнатюк Володимир Михайлович // Вікіпедія [Электронны рэсурс]. — 2017. — Рэжым доступу : https://uk.wikipedia.org/wiki/Гнатюк_Володимир_Михайлович. — Дата доступу : 27.05.2017.

[41] Запіскі Навуковага таварыства імя Т. Шаўчэнкі (укр. *Записки Наукового товариства імені Т. Шевченка, Записки НТШ*) — галоўнае серыйнае выданне НТШ. Па стану на 2009 год выйшла 257 тамоў «Запісак НТШ». Крыніца: Записки Наукового товариства імені Шевченка // Вікіпедія [Электронны рэсурс]. — 2017. — Рэжым доступу : https://uk.wikipedia.org/wiki/Записки_Наукового_товариства_імені_Шевченка. — Дата доступу : 27.05.2017

[42] П. Франко ў сваёй нясконачанай аповесці «Іван Франко» пісаў: *«Вельмі была рамантычная дарога да царквы. Гэта былі скалы, да якіх трэба было ісці паўдня спачатку па гары, пад якой стаяла хата Мітчукоў, потым паланінай (высакагорны луг. — Ю.К.), на якой пасвіліся статкі рагатай жывёлы і авечак»* (Франко, Петро. Іван Франко / Петро Франко. — Львів, 2013. — С. 188).

[43] Кычэра (укр. дыял. *киічера*) — гара, пакрытая лесам, акрамя вяршыні.

[44] Бэрбэныцы (укр., гуцульская гаворка, *бербениці*) — драўляная пасудзіна падоўжанай формы (дзежка, бочка) з двума днішчамі для захоўвання прадуктаў (пераважна малака і брынзы).

[45] Сараковец — аўстрыйская сярэбраная манета.

[46] Бартка (укр. *бартка*) — традыцыйная сякера жыхароў Карпат: з вузкім палатном на доўгім, тонкім тапарышчы і маленькім тупым абухом (малаточкам).

б быў у ім скарб Доўбуша». Тонкая сценка каменя праламілася, і знаходнік дастаў поўную кучу сярэбраных саракоўцаў. Той камень яшчэ ў 1912 г. паказваў мне Якібюк, які ўмеў распавядаць нямала гісторый пра Доўбуша і апрышкаў.

Бацька раз ці два разы быў на Пісаным Камені з пп. Арсенічамі з сяла Ясяніва Гарышняга[47] ніжэй Крыварыўні над Чарамошам.

На Пісаным Камені, мабыць, яшчэ і да гэтага часу напісана «І. Франко». Там знаходзіцца і подпіс Ю. Фядзьковіча[48]. Але найлепшыя вакацыі праводзіў бацька ў Буркуце. Там мы хадзілі на Лукавіцу, Ватанарку, Сіні Плёс, рачулку Добрын, Чыўчын[49]. У лясах было багата грыбоў, у плынях — шмат стронгаў, сліжоў і бабак. Сліжоў і бабак бацька навучыў нас лавіць відэльцам, ходзячы ў плыткай вадзе ніжэй каленяў і зрушваючы камень палкай. Галавастая бабка або сліж уцякае і затрымліваецца каля каменя, тады яе насаджваеш на восць або на відэлец. Бацька не любіў лавіць вудай, затое знаходзіў уцеху ў лоўлі сеткамі: заўсёды вазіў з сабой нераты, сачкі і сеці. У Каладніцы каля Стрыя бацька лавіў шмат галаўнёў і шчупакоў, у Галабутаве — печкуроў, акунёў, плотак і ракаў, у Яйкіўцах траплялі і мянькі. Шчупакоў лавіў бацька сеткай, а то і на казулю (двайны кручок у выглядзе якара), на жыўца. Гуцулы некалькі разоў прыносілі бацьку галаватыц[50]. Адну вельмі добрую галаватыцу даслаў быў бацьку ў Львоў Мітчук з Крыварыўні. У Буркуце бацька штодня хадзіў па ваду да крыніцы.

Усё-такі і на вакацыях бацька працаваў дужа багата. Здавалася, што асноўным правілам бацькі ўсё жыццё было: «Праца, праца і яшчэ раз праца». Найвышэйшую пахвалу працы знаходзім у некалькіх вершах, напрыклад, у вершы «Зямлі» 1880 г.:

*Моцы рукам дай, каб путы ламаць,*
*Думкам прастор — сэрца крыўд пазбаўляць,*
*Дай працаваць, працаваць, працаваць,*
*У працы сканаць!*[51]

---

[47] Сёння гэта сяло Верхні Ясяніў (укр. *Веірхній Ясенів*) у Вэрхавынскім раёне Івана-Франкоўскай вобл., да 1922 г. мела назву Ясяніў Гарышні (укр. *Ясенів Горішній*).

[48] Юрый Фядзьковіч (укр. поўнае імя *Осип Домінік Гординський де Федькович*, 8 жніўня 1834 г. — 11 студзеня 1888 г.) — вядомы ўкраінскі пісьменнік-рамантык, адзін з актыўных удзельнікаў украінскага нацыянальнага адраджэння Букавіны.

[49] Яе вынікае з назваў, І. Франко з сямейнікамі ладзілі выправы на паланіны і вяршыні Чыўчынскіх (укр. *Чивчиінські*) і Грыняўскіх (укр. *Гриняївські*) гор, раздзеленых далінай рэчкі Чорны Чарамош, і размешчаных на поўдзень ад Буркута. Яны з'яўляюцца горнымі масівамі ўкраінскіх Карпат. Лукавіца (укр. *Лукаівиця*) — паланіна (1506 м). Ватанарка (укр. *Ватонарка*) — гара, дзе ў той час сыходзіліся дзяржаўныя межы Аўстра-Венгрыі і Румыніі. Добрын (укр. *Добрин*) — рэчка, упадае ў Чорны Чарамош. Чыўчын (укр. *Чивчин*) — самая высокая гара (1766 м) у масіве Чыўчынскіх гор, па вяршыні галоўнага храбта якіх сёння праходзіць украінска-румынская граніца.

[50] Ласось дунайскі, вядомы па іншай назве, як галаватыца (укр. *головатиця*).

[51] Апошні слупок безназоўнага верша І. Франко (1880), які пачынаецца словамі *«Земле, моя*



*Літаратурна-мемарыяльны музей Івана Франко (с. Крываварыўня, Вэрхавынскі раён, Івана-Франкоўская вобл.) — фота Ю.Кур'яновіча, ліпень 2007 г.*

У санеце таго ж года:

*І толькі праца іржу сатрэ, што нас з'ядае.*
*І толькі ў працы цела набрыняе сілай,*
*І толькі праца свет, такім, якім ёсць, стварыла,*
*І толькі ў працы вартасць можна нам набыць*[52]*.*

У вершы «Песня і праца»:

*Песня і праца — магутныя сілы!*
*Ім я да скону жадаю служыць*[53]*.*

Калі бацька заглыбляўся ў працу, не чуў нічога болей, што рабілася вакол яго. Бацька працаваў нястомна адным захадам 5 — 6 гадзін. Кароткі перапынак на абед, і бацька працаваў да вячэры, а пасля вячэры — да позняй ночы. Бацька часам хадзіў з намі ў тэатр. Першым спектаклем, на якім бацька быў з намі, было «Зачараванае кола», потым «Ясь і Малгося» ў гарадскім тэатры. Я меў тады пяць гадоў, не хадзіў яшчэ ў школу.

Апошнім спектаклем быў «Пэр Гюнт», калі бацька быў ужо хворы. Бацька не выседзеў да канца. Спеў Азы так усхваляваў бацьку, што прыйшлося адвезці яго дадому...

**Прадмова і пераклад з украінскай мовы Юры Кур'яновіча.**

---

*всеплодющая мати»*. Пераклад Алеся Гібок-Гібкоўскага, 2017 г.

[52] Радкі з розных слупкоў безназоўнага верша І. Франко (1880), якія пачынаецца словамі *«Як те залізо з силою дивною»*. Першы цытуемы радок — першы радок прадапошняга слупка, астатнія тры — апошні слупок верша. Пераклад Алеся Гібок-Гібкоўскага, 2017 г.

[53] Першыя радкі апошняга слупка верша І. Франко *«Пісня і праця»* (1883). Пераклад Алеся Гібок-Гібкоўскага, 2017 г.



# Эдуард Дубянецкі

паэт, гісторык, культуролаг, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі: «Душы маёй няскончаны палёт» (2011 г.) і «Покліч самотнага неба» (2013 г.), навукова-папулярных кніг, энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі Беларусі, беларусазнаўству, культуралогіі. Кандыдат гістарычных навук (1995 г.). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Дэвальвацыя

***Трагіфарс у дзвюх карцінах***

**Дзейныя асобы:**
М у ж
Ж о н к а
С ы н
П р ы в і д

## Карціна першая

Восеньскі вечар. Невялікая аднапакаёвая кватэра ў звычайным панэльным дзевяціпавярховіку. М у ж (паэт) і Ж о н к а (мастачка), людзі сярэдняга ўзросту, сядзяць на канапе ў паўцёмным пакоі і ціха глядзяць па тэлевізары нейкі крымінальны серыял. Іх С ы н, падлетак гадоў 14-ці, сядзіць за камп'ютарам і іграе ў свае любімыя гульні-«стралялкі». Спачатку моўчкі глядзяць тэлебачанне і іграюць, а затым пачынаюць усё больш і больш ажыўлена размаўляць, нават горача і гучна спрачацца.

М у ж. Паслухай, колькі ўжо год мы з табой па вечарах глядзім гэтае нецікавае тэлебачанне.

Ж о н к а. Як колькі?! З тых часоў, як пераехалі на новую кватэру.

М у ж. А гэта было... Гадоў, відаць, пяць таму...

Ж о н к а. Ну і памяць у цябе — няйначай дзіравая! Дзе ж пяць?! Ужо амаль сем.

М у ж. А, дык значыць амаль сем... Нішто сабе! Сем гадоў, як мы пераехалі і набылі нарэшце тэлевізар, і з тых часоў усё глядзім гэтую абрыдлую тэлескрыню. Ты можаш мне сказаць, навошта мы яе глядзім?

Ж о н к а. Як навошта?! *(Павышаючы голас, незадаволена)*. Дык ты ж сам якраз столькі гадоў не хочаш вечарамі нікуды хадзіць. Дык што ж нам застаецца, акрамя прагляду розных серыялаў ды ток-шоу. А хто ўвёў такую завядзёнку? Хіба ж не ты? Ты ж сам не хочаш нікуды хадзіць па вечарах. Чаму ты стаў такім? Раней жа цябе штосьці цікавіла і мы хоць зрэдку хадзілі ў кіно, музеі, тэатры. Дык чаму ты так моцна змяніўся, чаму стаў такім пасіўным, чаму?!

М у ж. Ой, усё чаму, чаму, чаму.. Надакучыла слухаць твае папрокі. Чаму, чаму... А таму, што я стаміўся.

Ж о н к а. Што?! *(Амаль абурана)*. Ты стаміўся?! Ад чаго? А што ты такое цяжкое робіш?! Як ты можаш стамляцца, калі ўжо некалькі год таму кінуў працу і пішаш пераважна псеўдафіласофскія вершаваныя мініяцюры? Ты ж жывеш, ясі, апранаешся толькі за мой кошт. Дакладней, за кошт майго заробку і продажу некаторых маіх карцін. Як тут можна стамляцца — не разумею, хоць мяне забі!

М у ж. А што, часам і стамляюся. *(Жонка гучна рагоча)*. Ну-ну-ну, не рагачы, бо ты ж не паэт, ты не пішаш вершаў... дакладней, папросту не ўмееш іх пісаць. У цябе няма іскры Божай.

Ж о н к а. *(Пакрыўджана).* А-ну, перастань папракаць мяне адсутнасцю ў маёй душы гэтых міфічных іскраў! Кожны раз толькі пра гэта і чую. Столькі гадоў — і ўвесь час пра гэта! Дарэчы, а колькі год мы жывем як афіцыйныя муж і жонка. Відаць, чатырнаццаць?

М у ж. Не, сямнаццаць. Ты ж забылася, што тры гады да нашага незабыўнага вяселля мы жылі грамадзянскім шлюбам.

С ы н *(Незадаволена).* Сціхніце! З-за вашага серыяла і вашых бясконцых «бу-бу-бу» ды «бла-бла-бла» я не магу сканцэнтравацца і нарэшце забіць-«замачыць» гэтых ненавісных монстраў.

М у ж і Ж о н к а нібы не чуюць С ы н а і працягваюць сваю размову.

Ж о н к а. Ах, сапраўды, я й забылася пра тыя дзіўныя гады. Ну вось, і ўсе гэтыя сямнаццаць год ты пастаянна кажаш пра свае вершы. І яшчэ б паўбяды, калі б ты, як і ў юнацтве, пісаў і прысвячаў мне свае мілыя кранальныя вершыкі. Дык не, даўно ўжо не пішаш такіх вершаў, не прысвячаеш іх мне, не цалуеш пры гэтым мяне ў шчочку... А цяпер даводзіцца чуць тваё аднастайнае вершаванае нудоцце, у якім я амаль нічога не разумею. Няўжо гэта прыйдзецца мне слухаць і сёння, і заўтра, і праз тыдзень, і праз год...

М у ж. Стоп! Не пералічвай! Канечне, ты іх будзеш чуць заўжды. Так, так, дарагая, заўжды, пакуль мы будзем жыць разам.

Ж о н к а. Што — заўжды?! О, не-не-не! Я гэтага не вытрымаю. Няўжо ты хочаш давесці мяне да вар'яцтва? Я й так ужо колькі год знаходжуся на мяжы нярвовага зрыву. Няўжо ты не можаш спыніцца? Чаму ты такі ўпарты, нібы асёл?

М у ж. А таму, мая ненаглядная, што паэзія — гэта мой лёс, маё наканаванне, мая, калі хочаш, карма...

Ж о н к а. Карма, карма. *(Ізноў пачынае рагатаць).* А-ха-ха! Карма! А я табе скажу, што ўсё марна — вось і ўся твая карма! Так-так, усе твае высілкі марныя і нікому не патрэбныя. Хто зараз можа ўсур'ёз цікавіцца тваёй паэзіяй? Людзям цяпер не да паэзіі — ім бы выжыць, ім бы пратрымацца да лепшых часоў, якія, праўда, усё ніяк не наступяць. Да таго ж, тваю ўскладнёную паэзію амаль ніхто не разумее. Бо ты ж у нас, як сам любіш казаць, паэт-герметыст, паэт-метафізік. Высакалобы інтэлектуал. Аўтар твораў для эліты, для багемы. І што твая багема?! Хіба яна цябе носіць на руках? Хіба дае табе які прыбытак? І ўвогуле, хіба яна мае хоць мізэрную вагу ў нашым не-паэтычным грамадстве?

М у ж. Ну што табе сказаць — твая праўда! Так, на руках не носяць, вагі не маюць. Але ж не я ў гэтым вінаваты. І не мае сябры, не мае калегі па творчым цэху.

Ж о н к а. Не ты?! Не яны?! А хто ж тады?!

М у ж. *(З выклікам).* Само грамадства. Яно не падрыхтаванае да такой высокай паэзіі. Яно...яно...я-но...

Ж о н к а. Што «яно»? Грамадства як грамадства — звычайнае. А вось табе і тваім сябрам-калегам трэба быць бліжэй да грамадства, да звычайнага чалавека, да яго штодзённых клопатаў і перажыванняў.

М у ж. Не, такім, як большасць, я быць не магу, не ўмею. Ды і грамадства наша мне, дарэчы, не здаецца звычайным.

Ж о н к а. А якое ж яно?

М у ж. Ну, нейкае...нятворчае, бясталентнае, нават (даруй, Божа!)...бяздумнае.

Ж о н к а. *(Здзіўлена, з шырока расплюшчанымі вачыма).* Ну, ты даеш! А ты што, няўжо самы-самы разумны і таленавіты? Разумнейшы за ўсіх?! А яшчэ што табе не падабаецца ў нашым грамадстве?

М у ж. Так, я вельмі разумны і адукаваны чалавек, прынамсі, не роўня гэтай шэрай масе. І мне сапраўды шмат што не падабаецца.

Ж о н к а. Ну, кажы, што канкрэтна табе не падабаецца.

М у ж. Ты хочаш гэта чуць? Калі ласка... Найперш мяне расчароўвае і нават абурае тое, што сёння амаль усё абясцэньваецца, дэвальвуецца, дэградуе — і мастацтва, і вера, і фінансы, і словы, і ідэалы, і, урэшце, чалавечыя душы.

Ж о н к а. Ну-ну-ну, супакойся. Спыніся. Ізноў пачынаеш скуголіць. Нічога ты сваім вечным ныццём не дакажаш, нікому не дапаможаш. Дык можа лепей памаўчаць, га?

М у ж. А як можна маўчаць у такой сітуацыі! Ты што, не бачыш, не адчуваеш што робіцца наўкол?!

Ж о н к а. Так, не адчуваю. Гэта ж у цябе такая чуллівая паэтычная душа, што ты нават здольны адчуць тое, чаго яшчэ няма і, магчыма, ніколі не будзе.

М у ж. Так, я адчуваю. А чаму ты гэтага не можаш адчуць, не можаш зразумець. Няўжо ты стала такой бяздушнай?!

Ж о н к а. *(Абурана, павышаючы голас).* Я — бяздушнай?! Ты што, зусім здурнеў?! Хіба ж ты не ведаеш, што я таленавітая мастачка, якая малюе прыгожыя і адухоўленыя, так-так, адухоўленыя карціны. І як ты можаш, ведаючы гэта, папракаць мяне ў нейкай бяздушнасці, бездухоўнасці. Эх, не чакала ад цябе такога!.. А папраўдзе кажучы, гэта ты сам ужо стаў бяздушным тыпам...

М у ж. *(Ад нечаканасці нават пачаў заікацца).* Ад...ад...ад...куль ты гэ...гэ...та ўзяла? І як та...та...табе магла прыйсці та...та...такая бязглуздая думка?

Ж о н к а. А што, хіба твае вершы можна назваць адухоўленымі? Хіба ты імі каму-небудзь прынёс духоўную радасць, хіба спараўдзіў у кагосьці ўзлёт душы? Натуральна, не.

М у ж. А можа, і прынёс, а можа, і спарадзіў. Адкуль ты ведаеш?

Ж о н к а. Я ўсё ведаю... Але хопіць пра гэта. Давай зменім тэму. І ўвогуле, лепш пераключы канал, бо не магу больш чуць і бачыць гэтых бясконцых крымінальных разборак.

М у ж пераключае тэлеканалы і трапляе на выпуск навінаў, дзе расказваецца пра сённяшнюю дэвальвацыю.

М у ж. Вось, пераключыў, палюбуйся, пра што тут размова. Глядзі і слухай, дарагая! Ну, хіба ж я не меў рацыі, што ўсё а-бяс-цэнь-ва-ец-ца. Вось табе і сапраўдная дэвальвацыя. Нашы грошыкі ў чарговы раз абясцэніліся... Во дзе галоўная навіна!

Ж о н к а. Дык ясна, што сёння гэта галоўная навіна дня. А табе, між іншым, не варта асабліва хвалявацца з гэтай нагоды, бо ў нас ніколі не было і няма практычна ніякіх зберажэнняў. А значыць, няма падстаў перажываць, што нашыя грошы, так бы мовіць, умомант згарэлі, ляснуліся...

М у ж. *(Пагаджаючыся, ківае галавой).* Так, зберажэнняў няма. Але ўсё роўна непрыемна, усё роўна крыўдна.

Ж о н к а. Крыўдна, крыўдна... Табе няма на каго крыўдаваць, акрамя як на самога сябе.

М у ж. *(Здзіўлена).* А чаму я павінен крыўдаваць на самога сябе?

Ж о н к а. Як чаму?! *(З заўважным папрокам у голасе).* А таму, мой даражэнькі, што не змог зрабіць добрую кар'еру, не змог разбагацець, не змог купіць мне шыкоўную машыну, не змог звазіць мяне ў адпачынак на Канары, урэшце, не змог...

М у ж. Стоп, стоп, стоп! *(Са шчырым абурэннем).* Супакойся і паглядзі лепш на сябе. А ты змагла хоць нечага ў жыцці дабіцца?! А ты змагла стаць знакамітай асобай, пра што марыла з маладосці?! А ты змагла нарадзіць і выхаваць дзіцёнка-вундэркінда? А ты...

Ж о н к а. Стоп! Хопіць мяне папракаць ва ўсіх... ва ўсіх смяротных грахах. І ў цябе тых грахоў не меней. Чуеш, не ме-ней!

М у ж . Чую, чую... Давай лепш супакоімся, бо мы ўжо, здаецца, надта далёка зайшлі. Трэба спыніць гэту нашу бессэнсоўную спрэчку.

Пачуўшы, што гаворка ў навінах ідзе пра нейкую незразумелую яму дэвальвацыю, С ы н па сваёй завядзёнцы пачынае ўтвараць з гэтага слова іншыя словы.

С ы н. Ага, дэвальвацыя... Новае слова. Не чуў яго раней, трэба паспрабаваць. Значыцца, дэ-валь-ва-цыя. Хм-хм...да-ва-цыя...ва-да-цыя... Не, не атрымліваецца... Во, знайшоў — ва-да, вада. О'кей! І сапраўды, нядаўна падаражэла вада... дый не толькі яна... А яшчэ, яшчэ... Гм, гм... цэль. Не, відаць, не падыходзіць, нейкая няправільнае слова... *(Звяртаючыся да бацькі).* Паслухай, татка, учора мы казалі пра слова «нацыя». А са слова дэвальвацыя можна ўтварыць слова «нацыя»?

М у ж. Вядома ж, не. Гэта абсалютна розныя словы. Сапраўдная нацыя не можа дазволіць сабе ніякай дэвальвацыі.

С ы н. Так-так, зразумеў. Значыцца, нацыя з дэвальвацыі не атрымаецца. Ну і добра... А што яшчэ можна ўтварыць з гэтага новага слоўца.

М у ж. Ну, хопіць, сын, колькі можна чапляцца за розныя слоўцы, тым больш такія непрыемныя па сваёй сутнасці. Карацей, пара табе спыніцца, бо мне надакучылі твае амаль штодзённыя словаўтварэнні.

Ж о н к а. *(Падхопліваючы словы мужа).* І мне, мой дарагі! Мне надакучыла. Дакладней, надакучылі...вы абодва. Супакойцеся і кіньце сваю балбатню! Я хачу цішыні. Чуеце, ці-шы-ні!

С ы н. А навошта яна табе, мама? Мяне і тату ты не хочаш слухаць, мы табе не патрэбныя. Табе, бачыш, патрэбна цішыня. Хо-хо! *(Пачынае нервова смяяцца).* Значыцца, мы горшыя за...цішыню. Нішто сабе! Як табе не сорамна, мама?!

Ж о н к а. Я такога не гаварыла! Не трэба выдумляць. Вечна вы нешта выдумляеце-прыдумляеце і...і...і...

С ы н. Што «і», мама?! Чаму ты нас так... так не паважаеш?!

М у ж. Усё слушна, сынку! Твая матуля, а мая жонка, нас, на вялікі жаль, не цэніць, не паважае.

М а ц і *(Раззлавана).* Як гэта не паважаю, як не цаню?! Якія б вы ні былі, але ж бліжэй за вас у мяне нікога не было і няма. І як вам не сорамна такое казаць? Вы што, зусім звар'яцелі?! За каго вы мяне прымаеце? *(Запальчыва).* Ну, кажыце, смялей кажыце, хто для вас насамрэч ваша жонка і маці...

М у ж. Ну-ну-ну, не кіпяціся, дарагая! Мы цябе любім. Ну, прынамсі, я цябе любіў ды й ця пер...люблю, нягледзячы ні на што.

Ж о н к а. Не веру! Замаўчы! Так, у маладосці любіў, кахаў, а цяпер — не. Я табе больш не падабаюся. Хіба не так?

М у ж. Не, не так. Ты памыляешся.

Ж о н к а. Не, не памыляюся. Тады хто ж табе падабаецца? Відаць, твая новая маладзенькая палюбоўніца?

М у ж. *(З непрыхаваным абурэннем).* Ты што?! Як ты такое можаш пра мяне не толькі казаць, але нават падумаць! Якая палюбоўніца, якая новая?! Як табе не сорамна?! Ды ў мяне ўвогуле, можа быць, ніколі не было ніякіх палюбоўніц.

Ж о н к а. *(Раззлавана, ледзь не зрываючыся на крык).* Гэта табе як не сорамна! Ды за каго ты мяне прымаеш? Я ўсё ведаю і...заўжды ведала. Але ж маўчала, бо не хацелася разбураць наш сямейнае гняздо, не хацела выносіць бруд з сям'і... Эх ты, падманшчык! Які сорам, які сорам!

С ы н *(Пачуўшы слова «сорам», спрабуе ўтварыць з яго новае слова).* Сорам... Ма-рос. Марс. Не-не, мы не Марсе. Мо-ра, мора. Так-так, мора...Мора сораму ці, наадварот, сорам мора... Хе-хе, мора сораму...

П р ы в і д *(З'яўляецца ў паўзмроку ледзь бачнай ценню на сцяне і гаворыць ціхім голасам)*. Кіньце вы гэтую дурноту. Займіцеся чым-небудзь карысным!

Прывід імгненна знікае.

М у ж. *(Здзіўлена).* Вы чулі?

Ж о н к а. Што чулі? Я нічога, акрамя вашых папрокаў, тут не чую.

М у ж. З намі тут, аказваецца, яшчэ нехта ёсць.

Ж о н к а. *(З пагардлівай усмешкай).* Ты што, зусім здурнеў?! Хто тут можа быць апроч нас?!

С ы н. І мне падалося, што нехта ўсё ж ёсць. І той, хто ёсць, па-мойму штосьці сказаў.

Ж о н к а. І што ж ён сказаў?

С ы н. Здаецца, каб мы перасталі спрачацца і каб мы, калі мне гэта не здалося, узялі яго ў сябры.

Ж о н к а. Каго — яго?! І як гэта ўвогуле магчыма — узяць кагосьці ў сябры, калі невядома, хто гэта?

С ы н. Ну, яго — прывіда. Гэта, мяркую, сапраўды быў прывід. Па-мойму, ягоны цень прамільгнуў на сцяне, а потым знік.

Ж о н к а. *(Зацікаўлена)*. Сынку, а ў якія сябры яго ўзяць? Відаць, у фэйсбучныя фрэнды...

С ы н. *(Не стрымаўшыся, з нарастаючым абурэннем).* Якія фрэнды, мама! Кінь ты свае фэйсбучныя гульні ў сяброўства. У цябе ж там сапраўдных сяброў з камаровы нос, а астатніх (а іх жа некалькі тысяч!) ты зусім не ведаеш... Мо, сярод тваіх фрэндаў ёсць і вычварэнцы, і маньякі, і проста вальтанутыя тыпы... Навошта яны ўсе табе?! І яшчэ. Кінь ты нарэшце посціць сваіх коцікаў і сабачак, кінь выстаўляць бясконцыя сэлфі! Займіся лепш хатнімі справамі, згатуй хоць штосьці на вячэру. Я галодны, бы воўк. І тата, відаць, ужо хоча есці, але, здаецца, трошкі саромеецца сказаць пра гэта.

М у ж. Не, не саромеюся. Таму смела і гучна кажу — я хачу есці! І сапраўды, мне зараз тэрмінова трэба заесці стрэс, да якога, дарагая, ты мяне сама й давяла.

Ж о н к а. Есці, есці, есці... А чаму я павінна гэта рабіць?! Чаму вы самі ніколі не можаце сабе хоць штосьці прыгатаваць. Што, лянота перашкаджае, ці вы такія беларучкі, што не хочаце брацца ні за якую працу?

М у ж. Дык гэта ж твая жаночая справа! Вось ідзі ды займіся ёй! А я пакуль пачытаю сённяшнюю газету. *(Бярэ газету, разгортвае і робіць выгляд, што ўважліва яе чытае).*

С ы н. Мама, а што ты ад мяне хочаш? Я ж зусім не ўмею гатаваць, бо ты мяне не навучыла. Да таго ж, мне абавязкова трэба прайсці сваю гульню да канца, забіўшы па дарозе ўсіх ворагаў...

У паветры павісае маўчанне, а затым на сцяне ізноў з'яўляецца цень прывіда.

П р ы в і д. *(Са шчырым хваляваннем)*. Ды кіньце вы гэтыя свае бясконцыя разборкі! Адарвіцеся ўрэшце ад тэлевізара і ад камп'ютара і паспрабуйце пачуць адзін аднаго, зразумець адзін аднаго! Нарэшце, выйдзіце са свайго каменнага мяшка на вуліцу, выйдзіце са сваёй віртуальнай шкарлупіны ў рэальны свет. Схадзіце кудысьці ўсе разам, пагаварыце з іншымі людзьмі, паспявайце з імі, паспрачайцеся з імі...

М у ж. *(Грозным голасам).* Што ты сказаў?! А ну сыдзі прэч, бясплотнае стварэнне, і не перашкаджай нашай сямейнай, кхе-кхе-кхе *(з іранічнай усмешкай)*, «ідыліі»!

Ж о н к а. Не лезь у нашы справы! Як-небудзь самі разбяромся. Ідзі прэч! А ты, дарагі, лепш не іранізаваў бы над станам нашага сямейнага гняздзечка, а стварыў бы ў ім сапраўдную ідылію.

С ы н. А прывід, здаецца, мае рацыю. Нам штосьці трэба рабіць. Трэба неяк рухацца, кудысьці хадзіць, з кімсьці сустракацца.

Ж о н к а. Рабіць...рухацца...хадзіць...сустракацца. І чаго ўжо табе не хапае?! У цябе і так усё ёсць, мы цябе ўсім, што ты хацеў і аб чым ты марыў, забяспечылі. У цябе ёсць і свой камп'ютар і новы смартфон, і дыскі з тваімі любімымі гульнямі, і...і... Карацей, у цябе ёсць усё неабходнае для сучаснага падлетка. Дык чаго табе не хапае і які, уласна кажучы, рух табе патрэбны, мой харошы? *(З ледзь прыхаванай іроніяй).* Ох, рухавы ты наш, ох, рухавы...

М у ж. І сапраўды, куды рухацца, куды хадзіць. Мне і так даволі някепска, прынамсі, я ў гэтым сябе пераконваю...амаль штодня. А спакой, дарэчы, беражэ нервы і жыццёвыя сілы. А вось рух, асабліва бязмэтны і тлумны, наадварот, забірае тыя сілы...

С ы н. Не, не, не! Трэба штосьці мяняць. А давайце я паспрабую спытаць у нашага дзіўнага прывіда, куды нам лепш было б схадзіць. Ён, пэўна, кепскага не параіць. *(Гучным голасам).* Эй, прывід, а куды нам усім пайсці?! Адкажы, бо ты ж, відаць, усёведны.

Пр ы в і д. Слухайце, у мяне ідэя! Заўтра ўвечары ў адной вядомай вам кнігарні будзе праводзіцца прэзентацыя дзвюх цікавых кніг модных сучасных аўтараў, дык схадзіце туды, не пашкадуеце. Упэўнены, будзе цікава і вы запомніце гэтую прэзентацыю надоўга, а можа, і на ўсё жыццё.

С ы н. Ого, файная ідэя! Давайце пойдзем туды.

М у ж. Ну, не ведаю. Мне не надта хочацца. Але ж калі ты хочаш...

Ж о н к а. І я не ведаю. І мне не цікава. Але ж калі ты, сынуля, і наш новы сябра прывід так хоча, тады мо й пойдзем.

М у ж. Так-так, мы абавязкова заўтра пойдзем туды. Бо як жа мы, дарагая, можам адмовіць просьбам нашых адзіных і непаўторных — сынулі і прывіда.

С ы н. *(Радасна).* О'кей! Лаўлю вас на слове.

П р ы в і д. Я вельмі ўсцешаны тым, што вы пойдзеце. Ну, а цяпер бывайце! Я знікаю да заўтра...

М у ж. Пачакай хвіліначку! Дарагі наш нябачны суразмоўца, скажы, калі ласка. ці змагу я заўтра прачытаць на гэтай вечарыне свой новы верш.

П р ы в і д. Думаю, зможаш. Я пастараюся дамовіцца на гэты конт арганізатарамі. Пакуль!..

Прывід знікае. Амаль адначасова ўсе пачынаюць пазяхаюць. Маўчанне цягнецца некалькі хвілін.

М у ж *(Паўсонным голасам).* Ну, усё, на сёння хопіць. Трэба ісці спаць. Тут больш няма чаго і каго слухаць-глядзець, а ўсё самае важнае мы ўжо абмеркавалі. Пайшлі!

Ж о н к а. Пайшлі!

С ы н. А я застаюся...

М у ж і Ж о н к а ідуць класціся спаць, а іх С ы н працягвае іграць на камп'ютары і ў глыбіні душы разлічваць на новую размову з таямнічым прывідам.

**Карціна другая**

Вечар. Даволі вялікая папулярная кнігарня, у якой сёння павінны адбыцца выступы двух модных, раскручаных паэтаў на фоне музычнага суправаджэння нейкага экзатычнага гурта, у склад якога ўваходзяць некалькі каларытных, ярка апранутых маладых хлопцаў і дзяўчат. Перад пачаткам імпрэзы гледачы займаюць свае месцы на крэслах у цэнтры залы і вядуць павольныя размовы.

Ж о н к а. *(Трошкі нервуючыся).* Ну, і навошта мы сюды прыпёрліся? Лепш бы сядзелі дома.

М у ж. І што б ты такое дома рабіла? *(З выклікам).* Няўжо знайшла б сабе якую-небудзь архіважную справу?! Таму лепш сядзі ціха і слухай, бо, падобна, зараз пачнецца штосьці цікавае.

Ж о н к а. Важная ці, як ты сказаў, архіважная справа... Х-хе-хе! Дарэчы, а табе якая да гэтага справа?! Цікавішся, што б я рабіла дома. Што, што... Ну, хутчэй за ўсё малявала б. Мне трэба скончыць сваю новую карціну. Ведаеш, якую?

М у ж. Не, не ведаю.

Ж о н к а. А я ж табе казала. А ты... а ты альбо мяне ў той момант не слухаў, альбо ў цябе надта кароткая памяць. *(Лагодна і летуценна-ўзнёсла).* Так што сёння я б малявала карціну пад назвай «Блакітны сон шчаслівай жанчыны» і атрымлівала ад гэтага працэсу сапраўдную духоўную асалоду. *(З лёгкім уздыхам).* Так-так, менавіта духоўную, бо фізічнай асалоды ты мяне, на жаль, ужо даўно пазбавіў. Ты ж, небарака, ужо нават не спіш сам мной колькі месяцаў...

М у ж. Памаўчы, тут жа людзі! І папрашу, па-першае, абысціся без гэтых зласлівых падколак, а па-другое, хачу табе прапанаваць лепш увогуле кінуць

сваё маляванне... Між іншым, ты ж таксама часам адмаўляла мне ў інтымнай блізкасці з-за таго, што табе нібыта трэба было штосьці тэрмінова намаляваць. А насамрэч, мяркую, прычынай гэтага было тое, што ў цябе тады быў малады палюбоўнік...

Ж о н к а. *(Абурана).* Што ты вярзеш! Спыніся, а то зараз я не вытрымаю і прылюдна дам табе аплявуху за такі брудны паклёп! І хай людзі думаюць што хочуць — мне ўсё роўна...

М у ж. Ну-ну-ну, ціха! Тут не месца высвятляць адносіны. Лепш пагаворым пра гэта дома, калі вакол не будзе чужых вачэй і вушэй. Тым больш, што на гэтую тэму мне яшчэ многа чаго можна сказаць. Мне цяпер важней даведацца, няўжо ты насамрэч лічыш сябе таленавітай мастачкай.

Ж о н к а. А як жа! Канечне, лічу. Прычым часам мне здаецца, што хтосьці сядзіць у глыбіні маёй душы і адтуль ціхім голасам падказвае, што насамрэч я не проста здольная мастачка, а выдатная, нават геніяльная. Вось так, мой дарагі...

Пачатак вечарыны зацягваецца, і асобныя прысутныя ўжо трошкі нервуюцца. Некаторым гледачам не хапіла месца, і яны вымушаны стаяць уздоўж доўгіх кніжных паліц. М у ж і Ж о н к а працягваюць сваю спрэчку.

М у ж. Ой-ой-ой, выдатная мастачка! Не смяшы мяне і людзей. Добра, што я зараз сяджу, а калі б стаяў, то мог бы ўпасці. Кажаш, выдатная, геніяльная. Не іначай, другая Фрыда Кала! Ха-ха-ха! *(Амаль паўхвіліны не можа спыніць свой смех).*

Ж о н к а. Ты што, супакойся! *(Разгублена азіраючыся па баках).* Тут жа столькі людзей. Ты ўяўляеш, што яны могуць падумаць пра цябе і пра нас? За каго яны нас прымуць?

М у ж. Хай думаюць, што хочуць. Я ўжо не магу больш трываць, не магу слухаць тваю бясконцую самапахвальбу.

С ы н. *(Моцна незадаволены).* Ды супакойцеся вы, кіньце сварыцца! Вы што, не разумееце, што зараз пачнецца мерапрыемства. Бачыце, колькі ў зале гледачоў — сапраўдны аншлаг. Думаю, што будзе цікава і, спадзяюся, вельмі крута. Таму сядзіце моўчкі, уважліва слухайце і нічога не каментуйце, нікога не абгаворвайце.

М у ж. Ты сам супакойся! Мы дарослыя людзі і ведаем, як сябе паводзіць.

Ж о н к а. Не вучы нас, сынок! Мы й самі разбярэмся, што да чаго. Няўжо ты насамрэч думаеш, что твае бацькі не ў стане ацаніць, зразумець высокую культуру, высокае мастацтва, элітарную паэзію...

С ы н. Так, я ў гэтым моцна сумняваюся. Як вы можаце разумець высокае мастацтва, калі вы не ў стане зразумець адзін аднаго і...мяне. Але скончым размову, бо вунь выходзяць выступоўцы.

М у ж. І сапраўды, выходзяць. Усё, сціхаем і маўчым.

Ж о н к а. Так-так, маўчым.

Нарэшце, пасля даволі доўгай затрымкі, імпрэза пачынаецца. Яе вядучы, два паэты і музыкі выходзяць да мікрафонаў. Вядучы ўрачыста абвяшчае пра пачатак імпрэзы і дае слова першаму паэту-метафізіку. Той, ветліва павітаўшыся з прысутнымі, спачатку прапанаваў музыкам зайграць прыгожую медытатаўную мелодыю, а калі тыя хутка настроілі свае інструменты і зайгралі, пачаў, прымружыўшы вейкі, ціхім ліслівым голасам нетаропка чытаць свой вершаваны твор:

«Вечнасць аддае нам у арэнду сваю хаціну
самапазнанне корпаецца бруднымі пальцамі ўва мне
усміхаецца на ўсе свае зубы звышмаўклівая Прастора
і з дыскурсамі Час гуляе ў хованкі
стаіць на варце сэнсу Метафізіка

Тут паэт робіць нібыта глыбакадумную паўзу, але якраз у гэты момант з залы раздаецца гучны абураны голас: «Хопіць! Хопіць! Гэта Нейкая лухта пад выглядам нібыта глыбокай філасофіі». Насуперак гэтаму меркаванню хтосьці выкрыквае: «Эй ты, крытыкан! Супакойся! Ты нічога не разумееш. Гэта выдатны, надзвычай глыбокі і звышарыгінальны верш! Сучасная класіка! Цудоўны твор авангарднага паэтычнага мастацтва!». Усчыняецца невялікая слоўная сварка, у якую ўцягваюцца іншыя прысутныя. Музыкі працягваюць граць, а паэт пасля невялічкай замінкі працягвае, як быццам нічога не адбываецца:

«быццю Хайдэгер вектар задае
у летаргію ўпаў задумлівы нябыт
схавалася за тым кустом вар'яцтва
а там прасвечвае ледзь-ледзь містычны сэнс...»

Музыка сціхае. Паэт абвяшчае, што ён скончыў, затым дзякуе за ўвагу, за высокую ацэнку яго творчасці і адыходзіць ад мікрафона. Сярод прысутных чуваць як раздражнёныя галасы, так і словы гарачай ухвалы на адрас выступоўца. Некаторыя падтрымліваюць паэта-метафізіка нягучнымі воплескамі.

Ж о н к а *(З незадаволеным выглядам твару).* Абы што! Мне зусім не спадабалася. Ды я і ўвогуле не зразумела, што ён хацеў сказаць.

М у ж. Шчыра кажучы, і мне не спадабалася.

С ы н. А мне здаецца, што ў гэтым штосьці ёсць.

Ж о н к а. *(Мужу).* Дарэчы, а ты ж таксама лічыш сябе паэтам-метафізікам, паэтам-філосафам. Дык давай, устань, папрасі слова і прачытай свой верш.

М у ж. Не, яшчэ не час. Я чакаю сігнала ад нашага прывіда. Ён павінен мне ў пэўны момант даць знак, і тады я выступлю. Я ім дакажу, што я таленавіты, ха-

ця й амаль невядомы паэт, што мяне хвалююць найперш сур'ёзныя, актуальныя праблемы, а не спрэчныя і даўно састарэлыя творы Хайдэгера і Ніцшэ.

Ж о н к а. Нічога ты ім не дакажаш. Нават можаш і не спрабаваць — усё бессэнсоўна... Але добра, зараз будзе выступаць другі паэт, мо, будзе цікавей. Глядзім і слухаем.

Музыкі пачынаюць досыць гучна граць дзіўную авангардную музыку, якая больш нагадвае нейкую какафонію. Пад гэтыя не надта прыемныя музычныя гукі да мікрафона падыходзіць наступны выступоўца — паэт—постмадэрніст, які, нават ні з кім не павітаўшыся, адразу пачынае чытаць свой вершаваны опус, пры гэтым паступова павышаючы голас, час ад часу завываючы, бы галодны воўк у лесе, і ледзь не зрываючыся на крык:

«У маёй галаве лётаюць рознакаляровыя дырыжаблі
сабака вядзе на вяроўцы пакаранага на эшафот
вялікія чорна-белыя мухі
кружляюць бы амерыканскія аэробусы
над чэрапамі маіх суграмадзян
давайце давайце
лётайце лётайце у-у-у-у-у-у
але я вас не баюся
чуеце не баюся
дык слухайце у-у-у-у-у-у
вы сабакі дырыжаблі мухі»

Тут амаль адначасова ў зале раздаюцца галасы абурэння і захаплення. Людзі пачынаюць наперабой крычаць. Адны выкрыкваюць: «Лухта! Поўная бязглуздзіца! Адыдзі ад мікрафона, няздара!» А другія, наадварот, горача падтрымліваюць выступоўцу: «Малайчына! Файны верш! Працягвай! Так трымаць!» Музыкі не спыняюцца і працягваюць выконваць свой авангардны твор. Вядучы просіць прысутных супакоіцца, а паэту даць магчымасць завяршыць свой выступ. Паэт, трошкі шакаваны рэакцыяй часткі публікі, тым не менш працягвае чытаць свой опус:

«адпусціце маю галаву
чым яна вам замінае ч-ы-ы-ы-ы-м
дык пакіньце мяне
і маю бедную галаву у спакоі
хай яна вас болей не турбуе у-у-у-у-у-у
хай варагуюць між сабою мухі сабакі ды дырыжаблі
хай пазабіваюць адны аднаго
але ж ад мяне чуеце
ад мяне а не ад сабакі чуеце
адчапіцеся ад-ча-пі-це-ся-я-я-я Я-Я-Я».

Паэт скончыў выступ і хуценька, не падзякаваўшы, адыходзіць ад мікрафона і збіраецца выйсці з кнігарні на перакур. Па дарозе яго вітаюць і паціскаюць руку яго сябры і прыхільнікі. Меркаванні публікі наконт толькі што пачутага і ўбачанага кардынальна разыходзяцца. Хтосьці з прысутных горача вітае паэта-верлібрыста і крычыць «Брава!», «Супер!», «Геніяльна»», «Вось такая паэзія нам патрэбна!», але гэтыя воклічы перабіваюцца гучнымі крыкамі незадаволеных: «Халтура», «Ахінея!», «Падман!», «Нам непатрэбны такія вершы!». Некаторыя прысутныя ўстаюць і выходзяць з залы на вуліцу, астатнія сядзяць, здаецца, амаль раўнадушна і чакаюць, што будзе далей. Неўзабаве з'яўляецца П р ы в і д, якога ўсе толькі чуюць, але не бачаць.

П р ы в і д *(Сам сабе пад нос).* І што тут робіцца? Не чакаў такога. Не чакаў. *(Гучней, прысутным).* І хто ўсчыніў тут такі гармідар?! Трымайцеся прыстойна, людцы! Не абражайце адзін аднога і ўрэшце супакойцеся!

М у ж. Ого, прыляцеў усё ж сюды наш прывід! Малайчына, выканаў сваё абяцанне, не падвёў нас. Відаць, зараз ён дасць мне слова.

Сярод прысутных раздаецца раздражнёны голас: «Эй ты, нябачны самазванец, замаўчы! Хто ты такі, каб нам загадваць!» І тут нечакана з крэсла ўскоквае пажылы мужчына, які з дзікім крыкам «Яны не паэты, а я сапраўдны паэт!» падбягае да мікрафона і пачынае пафасна дэкламаць свой верш:

«Я глядзеў дзесяць год на бярозку з аконца,
Закахаўся ў яе амаль так, як у жонку.
І свяціла над хатаю радасна сонца,
Палюбіў я адчайна ўсю нашу старонку.
Палюбіў я яе, закахаўся да болю,
Яна ў думках маіх, ў маіх мроях і снах,
Ёй аддаць я гатовы ўсе вершы і волю,
Нават розум увесь свой. О край родны, ах!».

У зале зноў пачынаецца сапраўдны вэрхал, калі наперабой даносяцца раздражнёныя і іранічныя галасы: «Прымітыў!», «Банальшчына!», «Танны пафас!», «Савецкая рыторыка!», «Ідзі прэч, стары графаман!», «Давай, дзядуля, запальвай па поўнай!», «Пакажы ім кузькіну матку!». Вядучы разам з нейкім хлопцам бяруць старога за грудкі і, хоць той адчайна супраціўляецца, адцягваюць яго ад мікрафона. Большая частка прысутных пакідае будынак кнігарні.

П р ы в і д. Людцы, супакойцеся! Дайце дагаварыць старому! Давайце паважаць адзін аднаго! Мажліва, ён хацеў яшчэ сказаць штосьці важнае ці зрабіць якую заяву.

Галасы прысутных: «Не трэба нам ніякія яго заявы!», «Хай ідзе дадому, там яго ўжо зачакалася бабуля!», «Хопіць!», «Пара заканчваць гэтую імпрэзу!», «Зусім мне настрой сапсавалі!». З залы працягваюць выходзіць асобныя гледачы.

П р ы в і д. Не-не, пачакайце хвілінку, калі ласка! Бо зараз перад вамі павінен яшчэ выступіць са сваім цудоўным вершам мой новы сябра — таленавіты паэт-філосаф. Сустракайце паэта!

Галасы з залы: «Хопіць нам паэтаў!», «Не патрэбны нам філосафы!», «Усё, баста!». Пад гэтыя воклічы да мікрафона падыходзіць М у ж і, хоць моцна нервуецца і голас яго трошкі дрыжыць, тым не менш стараецца чытаць свой верш як мага больш спакойна і ўпэўнена:

«Стаім маўкліва на краю
туманнай бездані, але
не хочам схамянуцца ў жаху
і адысці ўбок ад яе.
Анёл нам шэпча: «Разам, разам!»
Над намі ўецца едкі дым
бязвер'я. А мы паасобку,
нібы слупы, стаім, стаім...

М у ж, расчырванеўшыся, вяртаецца на сваё месца. А навокал чуюцца галасы з супрацьлеглымі ацэнкамі пачутага: «Ты сам нібы слуп, таварыш!», «Не варта «мыкаць», паэце, а лепш казаць ад уласнага імя», «Ды што гэта за верш, так, нейкая натужлівая філасофшчына», «Не разумею галоўнага пасылу верша!», «І што ён хацеў нам гэтым сказаць?!», «А мне збольшага спадабаўся верш, толькі яго цяжка ўспрымаць у такой наэлектрызаванай шумнай абстаноўцы!», «У цэлым някепска, так трымаць!» Музыкі пасля перапынку, звязанага з незапланаванымі выступамі двух творцаў, зноў нягучна зайгралі. Ж о н к а і С ы н спрабуюць супакоіць свайго родзіча, але той не можа прыйсці ў сябе і ўвесь дрыжыць.

П р ы в і д. *(З надзеяй).* Я спадзяюся, дарагія прысутныя, што вы ўсё-ткі змаглі адчуць талент майго сябра-паэта, што вы зразумелі яго непадробны боль, яго шчырую заклапочанасць нашай сённяшняй сітуацыяй, што вы, урэшце, словам ці справай зможаце падтрымаць нашага творцу.

Ж о н к а. Дзякуй, прывід, за добрыя словы ў адрас майго мужа! Яму зараз вельмі няпроста справіцца са сваімі эмоцыямі ды перажываннямі. Не ведаю нават, як табе аддзячыць.

С ы н. І я табе вельмі ўдзячны, мой новы нябачны дружа! Твая падтрымка так патрэбна зараз майму бацьку.

П р ы в і д. *(Трошкі збянтэжана).* Няма за што мне дзякаваць, сябры! Я ўсё зрабіў так, як мне падказвала сумленне. Але тым не менш, дзякуй і вам, за такія цёплыя словы, якія я заўжды буду помніць.

М у ж *(Амаль супакоіўшыся).* Ты малайчына, прывід! Я табе, канечне, таксама вельмі ўдзячны за дапамогу. Будзем сябрамі і надалей!

П р ы в і д. Абавязкова будзем!

Вядучы абвяшчае, што імпрэза яшчэ не скончана і запрашае ўсіх нешматлікіх прысутных застацца. Ён кажа, што наперадзе яшчэ будзе невялічкі канцэрт з песнямі папулярных і модных спевакоў, а мажліва, і выступамі яшчэ некалькіх адораных паэтаў. Абстаноўка ў зале працягвае заставацца дастаткова напружанай, паколькі амаль усе людзі размаўляюць між сабой на павышаных танах, жыва абмяркоўваючы выступы ўсіх творцаў.

Ж о н к а. Ой, мне нават і самой ад усіх гэтых перажыванняў-хваляванняў стала неяк не па сабе. У мяне, відаць, падняўся ціск, у мяне баліць галава. *(Мужу)* Дай мне хутчэй таблетку.

М у ж. На, рассмакчы яе — мо, стане трошкі лягчэй. Ды і ўвогуле, хутчэй пайшлі адсюль, бо ні ты, ні мы болей тут не вытрымаем. Між іншым, ужо позна і табе, як і ўсім нам, трэба зняць стрэс, адпачыць і набрацца сіл для заўтрашняга дня. Што нам тут рабіць? Пайшлі дадому!

Ж о н к а. *(Ледзь чутным стомленым голасам).* Так-так, хопіць. Тут няма чаго слухаць і глядзець. Пайшлі!

С ы н. А я не пайду, бо хачу яшчэ застацца і трошкі паглядзець, што ж будзе далей. А вы ідзіце. Я прыйду пазней.

М у ж. Яшчэ раз па-добраму прашу — пайшлі! Ты што, не бачыш, што ўсё гэта — дэградацыя мастацтва. Яны ўсе, сынуля, не-сапраўдныя паэты. Яны, як і іх прыхільнікі, пакутуюць на дэвальвацыю душы...

Ж о н к а. *(Крыху ачуняўшы).* ...і дэвальвацыю розуму. Так-так, твой татка мае рацыю, сынок!

С ы н. Ну, я ж вам сказаў — не пайду! Колькі разоў вам паўтараць. Вы — прадстаўнікі іншага пакалення, у нечым вы несучасныя людзі. Таму вам і нецікава, а мне па-свойму цікава, бо творцы асобныя эксперыментуюць, шукаюць новыя шляхі ў мастацтве. І гэта ніякая не дэградацыя, ніякая не дэвальвацыя, а... пэўны росквіт.

Ж о н к а. Ну, як ты можаш так казаць! Чаму ты такі ўпарты?! Гэта ты нічога не разумееш, сынку. І гэта мяне крыўдзіць. І татку твайму непрыемна такое чуць. Пайшлі!

С ы н. Не пайду — і кропка! Баста! Сыходзьце адсюль самі, а я застануся.

Ж о н к а. Так, мы сыходзім, бо заставацца тут — гэта вышэй маіх сіл. І праўду ж казаў наш прывід, што мы запомнім гэтую імпрэзу надоўга, дакладней, на ўсё жыццё.

М у ж. *(Згодна ківаючы галавой).* І сапраўды, ён, безумоўна, меў рацыю. Мы ніколі не зможам забыць сённяшні вечар.

С ы н. Ну, усё, давайце скончым размову, бо зараз, відаць, будуць гучаць цікавыя песні.

Ж о н к а. Усё. Мы пайшлі. Будзь асцярожным, сынок! Глядзі, каб з табой тут нічога не здарылася.

С ы н. Не здарыцца, не хвалюйцеся! А калі б што і здарылася, то я б даў крыўдзіцелям варты адпор. Бо я ж ведаю, як змагацца з ворагамі — прыблізна так, як я ўчора змагаўся з камп'ютарнымі монстрамі. Ну, а цяпер — да пабачэння, бацькі!

Да мікрафона выходзяць тыя ж музыкі і некалькі новых выканаўцаў. Пачынае гучаць ціхая самотная мелодыя. М у ж і Ж о н к а ўстаюць і сыходзяць, а Сын застаецца.
М у ж. Да пабачэння, сын! Буду чакаць цябе дома.

Ж о н к а. Да сустрэчы, сынок! Я прыгатую табе сёння смачную вячэру — абяцаю. *(Цалуе сына ў шчаку).* Абяцаю і чакаю.

С ы н. Не хвалюйцеся, усё будзе добра. У мяне ўжо зараз ледзь не слінкі пабеглі. Але ж спачатку пагляджу канцэрт, а потым вам усё раскажу. Да сустрэчы, родненькія!

**Заслона.**

# ВЕРАСЕНЬ

## КРЫТЫКА
## ПУБЛІЦЫСТЫКА
## Э С Э

тацццяна мацюхіна людміла шчэрба
эдуард акулін раіса крывальцэвіч
алесь гібок-гібкоўскі эдуард мядзведскі
тамара аўсяннікава сяргей чыгрын
генадзь лапацін анатоль трафімчык



# Таццяна Мацюхіна

**паэтка, крытык. Навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук. Аўтар кнігі паэзіі: «Адчуць гармонію душы» (2015 г.) і манаграфіі «Беларускі імпрэсіянізм» (2015 г.). Нарадзілася ў 1984 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.**

# Неарамантык Уладзімір Жылка

Як вядома, паэтычная, крытычная і перакладчыцкая дзейнасць У. Жылкі наскрозь прасякнутая ідэяй пра лёс Радзімы. Глыбокае адчуванне падзей гісторыі і іх шматбаковая аўтарская выява ў паэзіі надаюць творчай манеры гэтага аўтара прыкмету прасторава-часавай дакладнасці і вобразна-мастацкай выразнасці (вершы «Беларусь», «Я — грамнічная свечка прад Богам...», «Пралескі»). Паэт і перакладчык М. Скобла падкрэслівае: «Паэт <...> працягваў распачатую Багдановічам справу. Потым з падказкі таго ж А. Луцкевіча за творцамі падобнага кшталту замацуецца вызначэнне «песняры чыстае красы» <...>» [7, с. 18]. М. Багдановіч і У. Жылка развівалі нацыянальныя традыцыі сваёй краіны, не забываючыся пра інтэлектуальна-эстэтычныя здабыткі еўрапейскай навукі і культуры, філасофіі і мастацтва. У творчасці абодвух беларускіх аўтараў неарамантызм, аднак, не існуе ў чыстым выглядзе.

Паводле меркавання І. Ворана, «...неарамантыкі праяўляюць схільнасць да міфалагізацыі рэчаіснасці, фантастыкі, містыкі, якія дазваляюць увасобіць ідэальнае ў зямных формах, надаючы перакананасці, жыццёвасці створанай рэальнасці» [2, с. 10]. Міфалагізацыя рэчаіснасці ў паэзіі У. Жылкі цесна звязаная з грэчаскім міфа-эпасам (верш «Праметэй»), сталымі славянскімі фальклорнымі матывамі (вершы «Месячыку-месяц...», «Нібы вялізны чорны птах...», «Перайманне»), сярэднявечнымі летапіснымі паданнямі і рукапісамі (вершы «Мы любім даўнія паданні...», «Палімпсест»), сярэднявечным рыцарскім канонам (верш «Меч»).

Неарамантызм характарызуецца дуальнасцю аўтарскіх падыходаў да лірычнага героя і яго духоўных каштоўнасцей. З аднаго боку, лірычны герой у мастацкім творы адасоблены ад несправядлівага, як яму здаецца, свету, паказаны як адзінокі, горды і непахісны ў сваіх прынцыпах і перакананнях шукальнік шчасця. З другога боку, дзеючая асоба ўспрымаецца як ранімая і высакародная, імпульсіўная — у дзеянні, але меланхалічная — у мысленні. Так, неарамантычны лірычны герой У. Жылкі натуралістычна (!) — пры канкрэтызацыі рэалій рэчаіснасці — проціпастаўлены няўмольна-жорсткай рэчаіснасці (вершы «Дзень і ноч», «Безнадзейнасць», «Верш развітання»). У творчасці беларускага паэта духоўны свет асобы з яе пачуццямі, эмоцыямі не засланяе знешняе асяроддзе ў яе «падзейнасці», г. зн. серыі пэўных сітуацый, з якіх герою трэба годна і з мінімальнымі стратамі выйсці. Нягледзячы на летуценны, мройліва-рамантычны склад характару, у жыцці У. Жылка быў скептычна настроеным у плане грамадскіх пераўтварэнняў рэалістам, нават фаталістам. А ягоны чытач у паэзіі прадстаўлены як крытычны — «<...> саўдзельнік, сааўтар, які ўспрымае тэкст з эстэтычнага пункту гледжання <...>» [5, с. 331]. Мае вялікае значэнне і тое, што мастацкая канцэпцыя паэта закранае эстэтыку ідэалізму і платонаўскае вучэнне аб прыгажосці і несмяротнасці душы.

Безумоўна, вобраз неарамантычнага героя ў беларускай літаратуры ва ўсе часы быў неадназначным. Так, І. Воран у артыкуле «Канцэптуалізацыя неарамантызму ў беларускай і ўкраінскай літаратурах пачатку ХХ стагоддзя» сцвярджае: «Неарамантычная канцэптуалізацыя асобы непарыўна звязана з ідэяй вызвалення, якая спалучае «еўрапейскія» рысы бунтуючай, складанай асобы, што імкнецца да ўнутранай свабоды, і «перыферыйныя» рысы нацыянальна вызначанай асобы <...>» [2, с. 12]. На творчасць У. Жылкі паўплывала і тое, што непарыўная повязь розных пакаленняў (вершы «Мы любім даўнія паданні...», «Люблю, не знаючы пуціны...»), канкрэтна ўвасобленая ў дзеянні любоў да зямлі (верш «Дзед») ўяўлялі для яго найвялікшую каштоўнасць. Для паэта адзнакай памяці знамянальных момантаў у гісторыі беларускага народа выступае палімпсест: «Ёсць рукапісы, змест якіх сцярты, ледзь знаць, // Ці нат другі напісан сэнс бязбожна. // Іх палімпсестамі прынята здаўна зваць, // І першы іхні змысл пайме не кожны» [3, с. 35]. Знакавыя вобразы, да якіх звяртаецца У. Жылка ў сваёй творчасці (да прыкладу, меч — у аднайменным вершы), падаюцца ім у іншасказальным, алегарычным ракурсе.

У. Жылка высока цаніў хараство ва ўсіх праявах: унутраную і знешнюю прыгажосць жанчыны (вершы «Крыху ўзрушаны і рады...», «Скажы», «Зацвілі твае вочы між тлуму...»), чысціню душы высакароднай і неардынарнай асобы (верш «Хто мужны, хто смелы, хто дужы...»), магутную моц стыхій (зямлі — у вершах «Дзіця», «На ростані»; паветра — у вершах «Вецер», «Векавечны хмуры бор...», «Чырванее заход ад марозу...»). Неарамантычная форма светаўспрымання ў творчасці гэтага аўтара абумоўленая патрыятычна-выхаваўчай ідэяй, згодна з якой «нашы тайны й жаданні, як рэчы, як кветы, маюць водар і якасці фарб» [3, с. 68].

Ва ўспрыманні У. Жылкі паняцці «туга» і «хараство» ў рэчышчы беларускай паэзіі былі свайго роду сінонімамі: натоўп не здольны ў сваёй большасці адчуць сябе шчаслівым, бо нематываванае памкненне да дасканаласці і разуменне таго, што ідэал недасягальны, разбурае ўстоі грамадства (верш «Хараство»), — і гэта раз'ядноўвае людзей. Менавіта зварот да алегорыі і сімвала далі магчымасць У. Жылку адчуць гармонію свету ў яго недасканаласці і гістарычнай самабытнасці (рэвалюцыя ў алегарычным вобразе віхору — у вершы «Віхор»; палімпсест як сімвал даўніны, нацыянальнай памяці — ў вершы «Палімпсест»). Вышэйназваныя сродкі мастацкай выразнасці спрыяюць «замацаванню» ў творы за пэўным часам, месцам дзеяння тых вобразаў-тыпаў, вобразаў-характараў, якія ў неарамантызме вызначаюцца драматызмам і лірызмам. Алегарычны, міфалагічны, фантастычны, містычны, гераічны аспекты паэтычнай творчасці У. Жылкі напластоўваюцца на свет рэальнасці, далёкі ад ідэальнага выдуманага свету. У вершах паэта хараство паступова саступае месца духоўнай чысціні, Боскаму прасвятленню: «І верым мы, што злучны дух і маса, // Гармонія ў жыцці і сэнс-акраса; // Прытулак ёсць, дзе адпачыць ільга, // Дзе дасканаласці чаруе ўсмешка» [3, с. 57].

У штодзённай барацьбе з сусветным злом неарамантыкі не баяліся ні смерці, ні пакутаў, ні нядолі (паэма «Босыя на вогнішчы» М. Чарота; вершы «Паязджане», «...О так! Я — пралетар!..» Я. Купалы; вершы «Згінь, нядоля», «Покліч» У. Жылкі»). Як і ў творчасці А. Пашкевіч, у кранальнай паэзіі У. Жылкі героі гатовыя ахвяраваць сваім жыццём дзеля шчасця народа, бо аскетызм і скептыцызм іх светасузірання звязаныя з імпульсіўным, стыхійным выражэннем думкі Грамады: «Ляпей чужыны золь, // Сцякаць ад чорнай працы потам; // Ляпей, не змогшы боль, // Сканаць самотнаму пад плотам, — // Але не лёс раба // З бязволля ўласнага й бяссілля <...>» [3, с. 49].

Уладзімір Жылка, як і рэаліст Якуб Колас і неарамантык Янка Купала, вядзе ў сваіх мастацкіх творах псіхалагізаваны дыялог, дзякуючы чаму разважанні пра падзеі, пачуцці, уражанні вытлумачваюцца чытачом адназначна. Прычына адназначнай інтэрпрэтацыі чытачом неарамантычных тэкстаў У. Жылкі і ў тым, што «ментальная прырода мастацкага вобраза (чытача) яднаецца тут з ментальна-вобразнай прыродай успрымання (літаратурнага тэксту)» [1, с. 538]. Паэтычны свет У. Жылкі нельга лічыць у поўнай ступені змрочным і песімістычным, аднак, пэўная доля скепсісу, самаіроніі ў ім прысутнічае («мы абвеяны злой сухавеяй, і балот душыць ліпкая плесня» — у вершы «Я — грамнічная свечка прад Богам...»).

У сваёй кнізе «Агульнае і адметнае: творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003) Е. Лявонава вызначае ўласцівасці неарамантычнага светаадчування: «Непрыманне рэчаіснасці; моцная асоба, духоўна неўтаймоўная і часта адзінокая, што кіруецца ў сваёй дзейнасці альтруістычнымі ідэаламі; вастрыня этычнай праблематыкі; максімалізм і рамантызацыя пачуцця, страсці; напружанасць фабульных сітуацый <...> — характэрныя рысы неарамантызму <...>» [6, с. 7]. Аднак, у цэнтры ўвагі многіх вершаў У. Жылкі — не толькі лірычны герой, але і самі ўражанні, адчуванні ад падзей у грамадстве, соцыуме, г. зн. стан неарамантыка, які знаходзіцца ў пошуку самога сябе на скрыжаваннях лёсу. Менавіта таму ў творчасці гэтага паэта асабістыя, індывідуальныя і агульнаграмадскія вобразы, матывы, сімвалы, нават настроі, выяўленыя праз алегарычны, іншасказальны рад асацыяцый, градацыя якіх «узмацняе» гераічны пафас вершаў («шукальнікі новых прастораў, і знаходцы краёў невядомых», «падарожныя ў тайнасці ведаў», «песняры, мастакі і музыкі, хараства і сугучнасці слугі», «будаўнічыя вежаў і гмахаў» — у вершы «Антону Навіне»). Дзеючая асоба ў паэзіі У. Жылкі — герой-бунтар, герой-філосаф і герой-рыцар у сінтэтычным адзінстве яскравых вобразаў.

Варта адзначыць і спецыфічныя адносіны неарамантыкаў да кахання, рэвалюцыі і духоўнай эвалюцыі асобы. Як ні дзіўна, гэтыя тры паняцці якраз і ўтвараюць своеасаблівы падмурак для непрымірымай барацьбы герояў У. Жылкі з несправядлівасцю і злом. Так, першае чыстае каханне нясе ў сваім зародку прасвятленне, а каханне-«рацыё» ўспрымаецца як пракляцце, якое

не надае асобе пачуцця адвагі, але ўзмацняе адчуванне фаталізму і нянавісці ў адносінах да свету пры асэнсаванні згубленых духоўных каштоўнасцей (вершы «Я кахаў...», «Твае блакітнасці нязменны...»).

Рэвалюцыя, сацыяльныя пераўтварэнні — у разуменні неарамантычна настроенага У. Жылкі — павінны былі весці людзей не да паразы і смерці, а настройваць на шчаслівы лад жыцця. Нездарма А. Сузько адзначае, гаворачы пра творчасць беларускага паэта: «Жылкаўскі ваяк, ратнік адначасова нагадвае і купалаўскага ваяра, і горкаўскага Данка, што ахвяруе сабой дзеля ўсталявання ісціны. <...>. Адсюль вынікае, што лірычны герой у маральных адносінах настолькі чуйны, што любая праява зла прыносіць яму невыносны боль» [8, с. 204—205]. А значыць, герой У. Жылкі не ўспрымаецца чытачамі ў якасці «злога генія» [як у творчасці Дж. Байрана ці М. Лермантава. — Т. М.], для якога разбурэнне грамадска-сацыяльнай сістэмы магло б стаць звыклым, прымальным спосабам сцвярджэння свайго alter-ego...

Для лірычнага героя У. Жылкі характэрная павага да звычаяў, звыклага ўсталяванага ўкладу жыцця, вясковых традыцый. Лірычны герой паэта ўспрымаецца як чалавек-аграрый, які вырас на роднай зямлі і поўнасцю адчувае сябе прыналежным да сялянства; проціпастаўляе сябе мяшчанам, не прымаючы іх духоўнай пыхі, крыважэрнасці, карыслівасці і двудушнасці. У вершы «Люблю, не знаючы пуціны...» паэт узгадвае беларускую вёску («вёска бедная, шэрая з панурым радам сумных хат»), з горыччу адзначае здалёк убачаныя «руіны ў полі, дзе мох на рэшце сцен узрос» [3, с. 30].

У сваіх творах У. Жылка ўзгадвае «веду гісторыі з пажоўклых кніг», «быт прадзедаў», «вялікія ў мінулым дзеі» (верш «Мы любім даўнія паданні...»), падкрэсліваючы гераізм і самаахвярнасць беларусаў. Памяць аб продках (верш «Дзед»), ушанаванне мясцовых святаў (верш «Сёмуха»), любоў да вандровак (верш «Люблю, не знаючы пуціны...») — усё гэта характарызуе яго як аўтара, схільнага да роздуму, рэфлексіі, паглыбленага самааналізу.

У сувязі з хваробай і неспрыяльнымі грамадска-палітычнымі падзеямі першай трэці XX ст., у творчасці беларускага паэта ўсё часцей з'яўляюцца матывы рэвалюцыйных пераўтварэнняў (вершы «Віхор», «Покліч») і матывы смерці (вершы «Смяротны пах», «Я — грамнічная свечка прад Богам...»). Відавочна, у творчасці У. Жылкі паняцці «жыццё» і «смерць» знітаваныя паміж сабою канцэпцыяй вітаізму і аквітызму, але само паняцце «хараство» ў ягоных вершах набывае прыкмету меланхалічнай трагедыйнасці ў адчуванні незваротнасці падзей.

Варта падкрэсліць і тое, што У. Жылка марыў пражыць доўгае жыццё ў творчым запале, але, як і ў большасці прадстаўнікоў неарамантызму таго часу, ягонае ўспрыманне рэальнасці было антаганістычным: паэтавы мары пра глабальныя, кардынальныя змены ў грамадстве не здзейсніліся; пошукі свайго шляху ў партыі эсэраў, Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, а таксама ў суполках «Маладняк» і «Узвышша» не далі яму магчымасці сцвердзіць

ідэю разняволення беларускай інтэлігенцыі, сялянства.У сваіх вершах беларускі паэт сцвярджаў ідэал моцнай, валявой, альтруістычнай, па сутнасці супярэчлівай асобы, якая адчувае хуткаплыннасць жыцця, пераадольвае ўсе магчымыя перашкоды, але страчвае сям'ю, Радзіму, губляе веру ў Боскую справядлівасць і адмаўляе псіхалогію рабскай пакорлівасці лёсу (вершы «Усе мы страчаныя...», «Развітанне, «Над калыскаю», «На эміграцыі»).

Як і рускі паэт Міхаіл Лермантаў, Уладзімір Жылка абагаўляў і паэтызаваў горы, якія сімвалізуюць пераадоленне цяжкай перашкоды: «І здаюцца мне раніцай снежныя горы, // Там нічый непракладзены шлях, // І альпійскай фіялкі ў празрыстым прасторы // Ледзьве чутны чаруючы пах» [3, с. 68]. Фіялка на гары ў вершы «Нашы тайны й жаданні, як рэчы, як кветы...» становіцца сімвалам перамогі над іспытамі лёсу, свайго роду эмблемай хараства, дасканаласці і Боскага цуду.

Паводле меркавання У. Калесніка, «трагічны лёс Максіма Багдановіча і яго творчасць, што так пераклікаліся з Жылкавымі, натхнілі на філасофскі роздум пра дзіўную складанасць жыцця і хараства» [4, с. 296]. У творчасці М. Багдановіча і У. Жылкі шмат сугучнага, тыпалагічна роднаснага: шматлікія пераезды, хвароба, склад характару, любоў да айчыннай і еўрапейскай культуры, ранняя заўчасная смерць. Матывы безнадзейнасці, журбы, пакуты і смерці («згубы») гучаць у вершы «Смяротны пах» У. Жылкі. Ёсць яны і ў вершы «Дзе вы, лясоў, палёў цвяты?..» М. Багдановіча. Аднак, у творчасці абодвух аўтараў мы ніколі не заўважым праяў чалавеканенавісніцтва, богаадступніцтва.

Як і М. Багдановіч, У. Жылка паэтызаваў навакольнае асяроддзе (вершы «Ясната, пекната...», «Насоўвае пушча...»), перадаваў каларыт зорнага неба ў вечаровых пейзажах (верш «Вечарам»), звяртаўся да кніжных і фальклорных крыніц (вершы «Да Пятра зязюленька...», «Маёй маці», «Гекзаметры», «Месячыку-месяц...», «Антону Навіне»). Аднак ягоны зварот у паэзіі да пейзажу, фальклорнай традыцыі ў поўнай меры выяўляе каштоўнасці творцы з неарамантычным тыпам мастацкага мыслення. Нездарма Е. Лявонава адзначае, што «героі неарамантыкаў — гэта найчасцей не тытаны і не казачна-міфічныя істоты, а персанажы, спароджаныя канкрэтнай рэчаіснасцю <...>» [6, с. 8].

Тыповыя прадстаўнікі неарамантызму, у ліку якіх былі Янка Купала і У. Жылка, М. Чарот і М. Зарэцкі, лічылі гераізм і самаахвярнасць асобы важнымі праявамі ідэальнага характару лірычнага героя ці персанажа. Самаадданы, непадкупны чалавек змагаўся са злом сусветнага маштабу ў рэальных умовах і нярэдка прайграваў у гэтай духоўнай ці маральна-этычнай бітве з прычыны заўчаснай уласнай смерці, супярэчлівасці характару, з'яўлення «трэцяга лішняга» прадстаўніка зла ці святла. Дух неарамантызму ва ўсе часы яго існавання — і асабліва ў 1905—1918-я гг. — быў прасякнуты ідэяй аб радыкальных грамадска-сацыяльных зменах, пераўтварэннях, самой рэвалюцыі, што знайшлі сваё ўвасабленне ў вобразах мора (верш «Мора» А. Пашкевіч), віхору (верш Віхор» У. Жылкі), завеі (верш «Зімовае» У. Жылкі), пажару (паэма «Сон

на кургане» Янкі Купалы). У творах неарамантычнай скіраванасці раскрываецца тэма перадолення цяжкасцей згодна з прынцыпамі героя ці персанажа, якія лічаць свабоду выбару ва ўсіх сферах жыцця не проста правам, а духоўнай неабходнасцю.

## Спіс літаратуры:

1. Большакова, А. Теория читателя и литературно-теоретическая мысль XX века / А. Большакова // Теоретико-литературные итоги XX века / Т. 4. Читатель: проблемы восприятия / Редкол.: С.А. Макуренкова (отв. ред.), С.Г. Бочаров, В.П. Большаков, А.В. Марков и др. — М.: Праксис, 2005. — С. 512—565.

2. Воран, І.А. Канцэптуалізацыя неарамантызму ў беларускай і ўкраінскай літаратурах пачатку XX стагоддзя / І.А. Воран // Вестник Полоцкого государственного университета. Серия А. Гуманитарные науки. — 2011. — № 2. — С. 9—13.

3. Жылка, Ул. Выбраныя творы / Укладанне, прадмова і каментарыі М. Скоблы. — Мінск: «Беларускі кнігазбор», 1998. — 358 с.

4. Калеснік, У. Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі / У. Калеснік. — Мінск: Маст. літ., 1977. — 328 с.

5. Кісялёва, Л.Г. Роля Чытача ў літаратурным працэсе / Л.Г. Кісялёва // Чалавечае вымярэнне ў сучаснай беларускай літаратуры / М.А. Тычына [і інш.]; навук. рэд. М.А. Тычына; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. — Мінск : Беларус. навука, 2010. — С. 283—352.

6. Лявонава, Е.А. Агульнае і адметнае: творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры / Е.А. Лявонава. — Мінск: Маст. літ., 2003. — 198 с.

7. Скобла, М. Шукальнік хараства / М. Скобла // Жылка, Ул. Выбраныя творы / Укладанне, прадмова і каментарыі М. Скоблы. — Мінск: «Беларускі кнігазбор», 1998. — С. 5—20.

8. Сузько, А. Праметэізм заходнебеларускай паэзіі: Уладзімір Жылка і Максім Танк / Да 100-годдзя Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Кузьмы Чорнага: зборнік навуковых артыкулаў / Рэдкал.: А.І. Бельскі, В.А. Максімовіч, П.І. Навуменка, А.А. Пашкевіч і інш.; пад агульнай рэд. Л.Дз. Сіньковай. — Мінск: БДУ, 2001. — С. 203—209.



# Людміла Шчэрба

празаік, паэтка, спявачка. Аўтар рамана-фільмаслова «Уладар рыбаў» (электронная кніга, 2016 г.), нанарамана-правакARTцыі «Урб@н.М: Адзін дзень майго жыцця» (2017 г.). Нарадзілася ў 1973 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Для мяне важная гармонія...

***З яе знешнасцю, музычнай адукацыяй і вакальнымі дадзенымі яна магла стаць беларускай попдзівай і заваёўваць эстрадныя залы як у Беларусі, так і за яе межамі. А яна замахнулася на большае — захацела стаць вядомай пісьменніцай... Для гэтага трэба няшмат — напісаць адзін, а лепей два, таленавітыя раманы... Што яна, мая суразмоўніца Людміла Шчэрба, і зрабіла.***

**Эдуард Акулін:** — *Спадарыня Людміла, амаль адначасовы выхад вашых раманаў «Уладар рыбаў» і «Урб@н.М: Адзін дзень майго жыцця» выклікаў велізарную цікавасць як сярод шараговых чытачоў, так і ў асяродку літаратурных крытыкаў. Тым не менш, шырокаму колу чытачоў ваша імя яшчэ мала вядома. Калі ласка, распавядзіце крыху пра сябе...*

**Людміла Шчэрба:** — Не дужа люблю, калі трэба ўцісквацца ў прасторавачасавы каркас пад назовам «Мая біяграфія», таму майму раману «Урб@н.М» папярэднічае жартоўная аўтабіяграфія — для аматараў павесяліцца з гэтага нуднаватага жанру. Ну а калі па парадку, дык нарадзілася я ў Мінску. І, наслухаўшыся ад маці дарослай і дзіцячай паэзіі, з уласнага верша гады ў чатыры распачала сваю сцежку ў літаратуру, якая прывяла мяне спачатку ў радыёперадачу «Першыя сцяжынкі» паэта Міколы Чарняўскага, потым на філфак БДУ, у літаб'яднанне «Першацвет» пісьменніка Алеся Масарэнкі ды ў аспірантуру Інстытута літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Ну і, вядома ж, друкавалася ў розных беларускіх выданнях, удзельнічала ў перадачах на радыё ды тэлебачанні.

**Э.А.:** — *Наколькі я разумею, абодва творы напісаны ў постмадэрновых традыцыях. Аб гэтым яскрава сведчаць іх жанравыя вызначэнні: раманфільмаслоў і нанараман-правакARTцыя... Здаецца, такога яшчэ не было ў гісторыі беларускай літаратуры. Таму — колькі слоў пра жанравыя адметнасці вашых раманаў...*

**Л.Ш.:** — Сапраўды не было, і не толькі ў беларускай літаратуры. Гэта мае аўтарскія жанры. Адзінства зместа і формы ўласна і ўтварае мастацкі твор. Чым больш складаны змест, тым больш багатай павінна быць і форма. Згодна з Гегелем, цэласнасць твора вынікае з творчай канцэпцыі: адзінства разумеецца як падпарадкаванне кожнай дэталі ідэі — яно ўнутранае, а не знешняе. Таму скажу, што наўмысна я нічога не выштукоўвала і не прыдумляла, гэтыя формы нарадзіліся натуральна разам са зместам. «Уладар рыбаў» — фільмаслоў, бо словы і вобразы тут настолькі выразныя і інтэрактыўныя, што, калі чытаеш, ствараецца ўражанне, нібы глядзіш кіно. Нана-арт як візуальны від мастацтва ўзнік на мяжы навукі, мастацтва і тэхнікі — гэта стварэнне «скульптур» і «пейзажаў» нанапамераў пад уздзеяннем

хімічных ці фізічных працэсаў апрацоўкі матэрыялаў ды фатаграфаванне гэтых нанавобразаў з дапамогай электроннага мікраскопа. Заснавальнік яго — румынскі вучоны і мастак Крыс Арфеску. Нішто тэхналагічнае літаратуры не чужое. І ўсё, што тычыцца новых тэхналогій у мастацтве ў цэлым, пранікае і ў літаратуру ў прыватнасці. «Урб@н.М» складаецца з невялічкіх частачак (смс-перапіскі, каментаў на форуме ў сацсетках, правілаў жыцця і г. д. — бо хуткасць жыцця вымагае кароткай формы для інфармацыі), як своеасаблівы літаратурны пэчворк — гэтакая лапікавая тэкставая коўдра — адсюль вызначэнне нанараман. А яшчэ і таму, што зрухі чалавечай душы ў рамане літаральна прэпаруюцца і разглядаюцца настолькі пільна, пры максімальным набліжэнні, што ты нібы жывеш у гэтым псіхалагічным нанасвеце. А правакARTцыя — здольнасць тэкста справакаваць чытача, выклікаць эмоцыі, суперажыванні сродкамі мастацтва.

**Э.А.:** — *Вас не бянтэжыць, што выкарыстанне ў рамане «Урб@н.М» такога мастацкага прыёму, як літаратурны рэмікс, можа выклікаць абвінавачванне ў мастацкай кампіляцыі?*

**Л.Ш.:** — Тут трэба крышачку расставіць акцэнты, каб не заблытацца ў азначэннях. Рэмікс — гэта пераробка, новы варыянт старога твора. Кампіляцыя — твор, складзены са звестак, запазычаных з чужых твораў. Ні першым, ні другім «Урб@н.М» не з'яўляецца, усё не так прасталінейна. Як і «Уладар рыбаў», гэта постмадэрновы раман з характэрнымі прыкметамі: тэкставай шматузроўневасцю, цытатнасцю, алюзіямі, «іранічным модусам» і г. д. Ён разлічаны на любога чытача. Дзякуючы такой асаблівасці постмадэрновых твораў, як «падвойнае кадаванне» (тэрмін уведзены Ч. Джэнксам і Т. Д'анам), постмадэрновы твор, выкарыстоўваючы матэрыял і тэхніку масавай культуры, валодае прывабнасцю як для не асабліва адукаванага ў мастацтве чытача, так і для самага дасведчанага — дзякуючы іранічнай трактоўцы і парадыйнаму пераасэнсаванню іншых твораў, іх сюжэтаў і прыёмаў. Якраз новы для беларускай літаратуры прыём мэшап (ад англ. mash-up — «змешваць кампазіцыі») я выкарыстоўваю ў рамане «Урб@н.М». Мэшап мае на ўвазе кампаноўку(!) дзвюх крыніц у адну, якая з'яўляецца арыгінальным творам. Толькі ва «Урб@не.М» іх не адна, а некалькі: Баркалабаўскі летапіс, навуковыя манаграфіі, біблейская прытча пра Адама ды Еву, старажытная легенда пра Ліліт — на грунце арыгінальнага аўтарскага тэкста. Разам з гэтым нароўні з выдуманымі персанажамі дзейнічаюць рэальныя гістарычныя асобы (напрыклад, Януш Радзівіл, каралева Людвіка Ганзага, Канстанцін Паклонскі). Таму, канешне, і не дзіўна, што ў гэтай мастацкай насычанасці можна паддацца на правакARTцыю і трапіцца на вуду спрошчанага звыклага ўспрымання, а аналіз падмяніць абвінавачваннямі.

**Э.А.:** — *Як вы ставіцеся да літаратурнай крытыкі на свой адрас? Якія пачуцці выклікае ў вас такая прыкрая з'ява, як літтролінг? Чаму неабходна бараніць пісьменніка ад крытыкі?*

**Л.Ш.:** — Да крытыкі — абсалютна нармалёва. Толькі тут усё трэба называць сваімі імёнамі. Літаратурная крытыка — гэта аргументаваны аналіз на грунтоўнай літаратуразнаўчай і агульнакультурнай базе. Водгук — гэта прыватнае, больш эмацыйнае меркаванне, якое тым не менш таксама мае на ўвазе хаця б элементарнае валоданне літаратурнымі паняццямі. На жаль, сёння ў асноўнай масе назіраецца поўнае неразуменне самога паняцця «літаратурная крытыка». За яго выдаюць дзіцячыя гульні ў Белінскага, у якіх ролі вызначаныя адпачатку: пісьменнік — дурань, крытык — разумнік, які ўпэўнены, што твор трэба «бэсціць», не грэбуючы нават абразай. Твор трэба — аналізаваць! А інакш гэта ўжо тролінг — тонкі або тоўсты, залежыць ад культурнага ўзроўню і выхавання. З аднаго боку, гэта піяр для твора, і негатыў уздзейнічае заўсёды мацней ад пазітыву. З другога — асноўная маса не хоча разбірацца ў «тонкасці» ды «таўшчыні», і атрымліваецца, як у тым анекдоце: «Ці спадабалася вам опера? — Не! — А вы слухалі? — Не, мне Рабіновіч наспяваў — не спадабалася». Хочацца, каб людзі мелі сваё меркаванне, а не з чужога голасу. Ну а свайго троля трэба заслужыць. Бо чалавек жа вас вылучыў, выдаткоўвае на вас свой час ды высілкі адпаведна свайму розуму. Значыць, усё не марна — калі да пазітыву ўзнікае негатыў, да правіла — выключэнне, да гарэлкі — піва і да ласося — мармелад. Так што, асобны дзякуй, за іх тужлівую працу. А бараніць трэба ад абразы і неразумення.

**Э.А.:** — *У сваім літаратуразнаўчым эсэ «Крытыка Tabula rasa» вы выказалі занепакоенасць адсутнасцю ў сучаснага чытача «смакавых рэцэптараў», неабходных для правільнай дэгустацыі твора і распазнання сапраўднай літаратуры з «першых нот»... Што, на вашу думку, уплывае на фармаванне мастацкага густу чытача?*



**Л.Ш.:** — Штодзённае існаванне ў нашай інфармацыйнай прасторы — калі любыя крыніцы інфармацыі метадычна б'юць па асноўных кропках чалавечай успрымальнасці: смерць, грошы, сэкс, дзеці, пасяховасць і г. д. — ператварае чалавека ў таўстаскурую істоту, бо гэта ягоная адэкватная ахоўная рэакцыя. Таму ў мяне выклікае захапленне эмацыйная жывучасць чытача і яго здольнасць да эмпатыі. Але ж і занепакоенасць, што ўжо выхавалася пакаленне, для якога Дэн Браўн — гэта навуковая літаратура, а Каэльа — філасофская, хаця насамрэч — прыгодніцкая ды псіхатэрапеўтычная. Лекі для смакавых рэцэптараў і мастацкага густу — чытанне класікі, беларускай, сусветнай, рускай, ды разумнае сумненне да рэкламы.

**Э.А.:** — *Ведаю, што, як творца, вы пачыналі з вершаў... Чым абумоўлены пераход да суровай прозы: набытым жыццёвым досведам, неабхонасцю выказацца па-новаму, узроставым бар'ерам ці нечым іншым?*

**Л.Ш.:** — Так, пачынала з вершаў, але ж у тым жа «Першацвеце» друкаваліся і мае лірычныя замалёўкі ды апавяданні. Проза, відаць, сапраўды проста іншая форма выказвання для мяне. Тут, магчыма, прасочваецца больш глабальная тэндэнцыя. Калі адбываецца нейкая падзея, першы водгук на яе — эмацыйны. Нездарма першымі заўсёды выказваюцца паэты. Проза ўжо мае на ўвазе асэнсаванне і аналіз, а ён робіцца зазвычай, калі эмоцыі ўжо крыху ўлягуцца. Магчыма, жыццёвы вопыт надае большую глыбіню выказванню ў прозе. Але ж і вершы я не кінула...

**Э.А.:** — *Ці мае права на існаванне літаратурны «шырспажыў»? Ваша стаўленне да так званай «канвеернай» літаратуры? Па якіх крытэрах адрозніваецца сапраўднае мастацтва ад мастацкай прафанацыі?*

**Л.Ш.:** — Калі ёсць попыт, то будзе і прапанова. Думаю, усё мае права на існаванне, аднак чытач павінен разумець, з чым ён мае справу — з літаратурнай папсой (калі не шкада часу, можна не напружваючыся яго бавіць), класікай, андэграўндам, псіхадэлам або цяжкім рокам ці чым іншым. Знарок выкарыстоўваю музычную тэрміналогію, бо музыкі ўжо прывучылі людзей разумець і арыентавацца ў музыцы «для ног» і «для душы». Задача пісьменнікаў — выхаваць пісьменнага чытача. Бо прафанацыя вынікае з невуцтва, са зняважлівага стаўлення да мастацтва, але — увага! — ненаўмыснага. Таму трэба яшчэ ў дзяцінстве рабіць прышчэпку ад канвеернай літаратуры — чытаць усё лепшае, што створана майстрамі за ўсю гісторыю існавання літаратуры, тлумачыць і навучаць думаць. Не даваць дзіцяці кожны раз рыбу, а даць адзін раз вуду і навучыць лоўлі. Крытэры — тэма вечная, якая выклікае шмат спрэчак і па сённяшні дзень. Таму назаву толькі адзін крытэр сапраўднага мастацтва — майстэрства.

**Э.А.:** — *Як вы лічыце, ці патрэбны сучаснаму пісьменніку піяр-менеджар? Ці пра сваю літпапулярнасць павінны дбаць сам творца? Якія формы піяр-маркетынгу найбольш эфектыўныя на сённяшні дзень?*

**Л.Ш.:** — У творцу рэдка спалучаюцца талент пісьменніка і талент піяршчыка — гэта велізарная ўдача. Я за прафесіяналізм ва ўсім: пісьменнік піша, вы-



давец выдае, піяр-менеджар рэкламуе і прасоўвае. Як гэта ні прыкра, але твор і сам пісьменнік — гэта тавар на літаратурным рынку, і зараз папулярнасць ствараюць піяр-тэхналогіі. Чалавек уладкаваны такім чынам, што яму трэба шляхам шматразовага паўтарэння даводзіць пэўную інфармацыю, каб яна адклалася ды зафіксавалася. Прымітыўна кажучы, калі ўсе сродкі інфармацыі пазіцыянуюць, скажам, Джулію Робертс як прыгажуню, у пяты раз паважаны таблоід называе яе самай сэксуальнай жанчынай у свеце, то нават тыя, каму яна не падабаецца, пачынаюць з гэтым лічыцца і шукаць гэтыя якасці. Так і з творам: з кожнага праса казаць, які ёнварты, і пажадана, каб гэта рабілі аўтарытэтныя асобы. А ў астатнім — ужо прафесійныя тонкасці піяру.

**Э.А.:** — *Як вядома, Уладзімір Караткевіч, перад тым як сядаць за пісьмовы стол, абавязкова апранаў чыстую кашулю... Калі ласка, падзяліцеся сакрэтамі сваёй «творчай кухні». Што вам патрэбна для аптымізацыі творчага працэсу?*

**Л.Ш.:** — Камп'ютар ці ноўтбук ды кубачак кавы. А яшчэ каб з сабою заўсёды была асадка ды аркуш — калі раптам дзе верш заспее.

**Э.А.:** — *З творчай кухняй усё зразумела... А займацца кухарствам вам падабаецца? Калі так, то якія вашы любімыя стравы?*



**Л.Ш.:** — Падабаецца, бо раблю гэта выключна ў добрым гуморы і з радасцю, тады ўсё атрымліваецца смачна. Трэба, каб ежа несла добрую энергетыку. Найбольш усім падабаецца піца ды пірагі. Сама люблю смажаную бульбу.

**Э.А.:** — *Ці падзяляеце вы думку Аляксандра Блока аб тым, што творчая і сэксуальная энергія маюць адну і тую ж прыроду? У сувязі з гэтым якое месца ў вашым жыцці займае каханне? І ці праўда, што для вас яно павінна быць абавязкова замешаным на небяспецы і таямніцы?*

**Л.Ш.:** — Думаю, Блок тут не зрабіў адкрыццё. Яшчэ ў Бібліі чытаем: і сказаў Бог Адаму ды Еве — пладзіцеся ды размножвайцеся, а адна з запаведзяў кажа аб любові да блізкага. Такім чынам, плён узнікае з любові. Ужо іншая справа, як хто разумее любоў ды каханне. Лічу, што патрэба ў любові з'яўляецца адной з базавых для чалавека — як дыхаць, піць, есці, любоў — гэта паветра для душы. А наконт небяспекі ды таямніцы — не варта атаясамліваць аўтара з яго героямі.

**Э.А.:** — *У вашых творах значнае месца надаецца эротыцы... Гэта даніна сучаснай літаратурнай модзе ці адзін з бакоў вашай творчай індывідуальнасці? Што для вас з'яўляецца асновай творчасці? Ці гатовая вы на поўную духоўную аголенасць перад чытачом?*

**Л.Ш.:** — Гэта нежаданне збядняць палітру праяваў жыцця. Гэта жаданне падняць некаторыя «сараматныя» тэмы і паставіць пэўныя праблемы перад грамадствам для зрухаў у іх вырашэнні. І, відаць, гэта ўжо сталася маім адметным почыркам. А наконт аголенасці... Памятаеце ў рамане «Тэатр» Сомерсэта Моэма, калі Джулія Ламбэрт на сцэне выплюхнула голыя ўласныя эмоцыі і перажыванні, упіваючыся імі, ёй падавалася, што яна іграе сёння, як ніколі, геніяльна, а ўсе ў адзін голас папракнулі яе ў бяздарным выкананні і не разумелі, што з ёй здарылася. Таму шчырасць — безумоўна, аголенасць — як мастацкая форма.

**Э.А.:** — *Я ведаю, што вы закончылі музычную школу па класе цымбалаў. Ці дапамагае вам у творчасці музычная адукацыя? Каго з айчынных, і не толькі, музыкаў вы любіце слухаць? Ці маеце ўласны песенны досвед?*

**Л.Ш.:** — Музычная адукацыя, у прыватнасці, дапамагла поліфанічнаму гучанню рамана «Урб@н.М», трымаць у галаве ўсю «партытуру» на працягу твора. Можа, тут выявілася мая любоў да арганнай музыкі. Баха, Моцарта, Вівальдзі магу слухаць заўсёды. Падабаецца фолк-рок. Зараз слухаю фінаў — «Корпіклаані». З беларускіх — Flat, Omut. Уласных песень яшчэ няшмат. Трэба навучыцца пісаць тэксты песень, бо не кожны верш можа стаць песняй.

**Э.А.:** — *З вашымі знешнімі і вакальнымі дадзенымі вы запраста маглі б рэалізавацца на сцэне... Ці не ўзнікала ў вас думка пра заснаванне музычнага гурта? Нават назоў ужо сам напрошваецца — «Урб@нband»...*

**Л.Ш.:** — Дзякуй, Эдуард! І за назву таксама — шыкоўная. Я адкрытая для супрацоўніцтва.

**Э.А.:** — *Ці любіце вы, спадарыня Людміла, падарожнічаць? Калі так, то дзе вам пашчасціла пабываць? Які ваш любімы від адпачынку? Ці маеце нейкае хобі?*

**Л.Ш.:** — Так, пашчасціла шмат дзе пабываць. Найбольш уразіў Стакгольм і фьёрды, грабніцы ды саркафагі егіпецкіх фараонаў у Луксоры, Чырвонае мора — акварыум, сталактыты ды сталагміты ў пячорах, а яшчэ нашая Беларусь — замкавая ды храмавая. Люблю хадзіць у грыбы ды з вудай на беразе пасядзець, толькі каб клёў быў «як на чорных камянях» (смяецца).

**Э.А.:** — *Апошнім часам з'явілася шмат літаратурных прэмій... На вашу думку, гэта стымулюе развіццё сучаснай літаратуры ці, наадварот, выклікае зайздрасць і нядобразычлівасць у творчым асяродку, раздзімае полымя літаратурных скандалаў...*

**Л.Ш.:** — Любая прэмія ці рэйтынг — вынік спалучэння некалькіх складнікаў. Першы — безумоўна, таленавіты твор, другі — піяр, трэці — руплівая праца па кантактаванні, над стасункамі ў патрэбным асяродку, каб цябе добра ведалі. Трэба таксама памятаць, што прэмія «не гумавая», і творы, не адзначаныя ёю, з'яўляюцца не менш цікавымі ды вартымі. А калі зайздрасць ёсць у чалавеку, дык ужо ўсё адно чаму зайздросціць — заколцы ў валасах або літаратурнай прэміі. А сучасная калялітаратурная сітуацыя мне нагадвае англійскі анекдот. На незаселеным востраве знайшлі рабінзона-англічаніна, які абжыўся там і паказвае гаспадарку сваім ратавальнікам. Падводзіць да адной пабудовы і кажа: «Гэта клуб, які я наведваю». — «А там што за будынак?» — пытаюцца ў яго. — «А гэта клуб, які я ігнарую».

**Э.А.:** — *Як вы ставіцеся да такой рысы характару, як рэўнасць? Ці сутыкаліся ў сваім жыцці з літаратурнай рэўнасцю? Ваш муж не раўнуе вас да творчасці? Ці не пераносяцца ў звязку з гэтым псіхалагічныя дуэлі паміж мужнынам і жанчынай са старонак вашых раманаў на рэаліі сямейнага жыцця?*

**Л.Ш.:** — На жаль, сутыкалася ва ўсіх праявах поруч з зайздрасцю. Муж да творчасці ставіцца з разуменнем. Яшчэ раз падкрэслю, што жыццё пісьменніка не тоеснае жыццю ягоных герояў. Неяк едзем з мужам у машыне на працу. Па радыё: «Сын Нікаля Сарказі пайшоў сцежкай бацькі». Я: «У сэнсе гэтакса-ма ажаніўся з мадэллю?» Муж: «У палітыку пайшоў! А ты, перш чым сцябацца, паспрабуй дасягнуць чаго сур'ёзнага!» Я: «Што, і пажартаваць ужо нельга?» Муж: «Думаеш, гэта лёгка?» Слова за слова — пасварыліся, сядзім надзьмутыя, маўчым. І тут я ўзрываюся ад рогату: «Цікавая мы сям'я. Пасварыліся з-за... Нікаля Сарказі!» Вось такія «дуэлі» (смяецца).

**Э.А.:** — *Ці падзяляеце вы думку аб тым, што ў чалавеку павінна быць усё прыгожа? Што для вас важней — фізічнае ці духоўнае хараство? Ці любіце вы модна апранацца? Што выбераце для творчага раўта — красоўкі ці лабутэны? Ці мае значэнне знешні выгляд творцы для ягоных чытачоў?*

**Л.Ш.:** — Для мяне важная гармонія. І калі чалавек знаходзіць гэты баланс — духоўнага і фізічнага, то заўсёды цікава зазірнуць за яго знешнасць — «фасад». Апранаюся я вобразамі — ствараю іх пад сённяшні настрой, і красоўкі з лабутэнамі залежаць ад майго ўнутранага адчування на той момант. Ну і, як і Янка Купала, люблю з гэтага пажартаваць. Ва «Урб@не.М» я моцна павесялілася з брэндазалежнасці асноўнай сучаснай масы. А творца абавязаны быць цікавым, хай гэта будзе яго адметны позірк, рух, голас ці што іншае, тады ён будзе прыгожым.

**Э.А.:** — *Каго з беларускіх пісьменнікаў вы лічыце сваімі духоўнымі настаўнікамі? Ці цікавіцеся творчасцю маладых? Назавіце апошні прачытаны вамі твор...*

**Л.Ш.:** — Купалу, Чорнага, Мележа. Маладых адкрываю з вялікай цікавасцю для сябе, і бывае прыемна адчуць сугучнасць з уласнай творчасцю. З апошніх прачытаных — «Сядзіба» Алеся Аркуша і «Дагератып» Людмілы Рублеўскай. Жыве літаратура!

**Э.А.:** — *Ваша любімая літаратурная пара года...*

**Л.Ш.:** — Пара, калі пішуцца вершы.

**Э.А.:** — *Вашы любімыя кветкі... І ад каго іх прыемней атрымоўваць?*

**Л.Ш.:** — Нечаканыя. Ад каханага.

**Э.А.:** — *У якіх выдавецтвах выйшлі вашы кнігі? Які фармат выхаду? І дзе іх сёння можна набыць, каб прачытаць?*

**Л.Ш.:** — «Уладар рыбаў» выйшаў у «Выдавецтве «Янушкевіч» электроннай кнігай у мінулым годзе. Набыць яго можна на сайтах kniharnia.by, smashwords.com і інш. «Урб@н.М» — таксама ў «Выдавецтве «Янушкевіч», у гэтым годзе, у друкаванай версіі. Прыдбаць можна ў самім выдавецтве, у буйных кнігарнях (напрыклад, «Акадэмкнізе») і ў мяне таксама — з аўтографам.

**Э.А.:** — *Вашы пажаданні чытачам часопіса «Верасень»...*

**Л.Ш.:** — Чытайце як мага больш якаснай літаратуры. І не журыцеся ў наш цяжкі час. Жадаю ўсім шчасця!



# Раіса Крывальцэвіч

празаік. Аўтар кнігаў: «Дарога» (2014 г.) і «Блізкі свет. Хатні слоўнік — успамін» (2016 г.). Адна з пераможцаў конкурсу Саюза беларускіх пісьменнікаў «Жанчына ў сучасным грамадстве» (2010 г.). Нарадзілася ў 1960 годзе на Наваградчыне. Жыве ў Мінску.

# Смак яблычных зярняткаў

Люблю яблыкі. (У нас удома казалі — «яблыка»)... Яшчэ і за тое, што ў кожным схаванае Неба — разрэзанае ўпоперак, мае ўсярэдзіне адбітак зорачкі — у ёй зярняткі хаваюцца...

Штодзённая патрэба ў яблыках. Не бачаць іх вочы — успамінаеш пра іх, хочаш іх, потым прагнеш. Не хапае, як кахання...

У дзяцінстве яблычная праблема вырашалася проста — мы кралі іх у суседскіх садах. Папярэдне згаварыўшыся, чакалі вечара. Назаўтра нявінна глядзелі дарослым у вочы. Што, калі хочацца? Ім гэтага не зразумець.

З каханнем цяжэй. Не пойдзеш, як сцямнее, і не ўкрадзеш.

Няспелыя, зялёныя яшчэ яблыкі білі аб гострыя, пазбіваныя «на горкі яблык» ад скакання па платах падлеткавыя калені — прыспешвалі мяккасць, «спялілі». Бацька сварыўся — дарогі папракладалі пад яблыні, усю бульбу «злажылі». Шукалі найлепшы ўпалы «белы наліў». Не падаў — трэслі яблыню і чакалі самага смачнага — жоўтага, духмянага, сопкага — ну, давай, падай!

Віця кажа, што «белы наліў» — гэта па-руску, а па правільнаму — «папяроўкі». Не ведаю...У нас так казалі.

Пасля летняга дажджу — няхай толькі скончыцца — несліся з драпежным пачуццём паляўнічага па бульбяніку, церпячы халодную мокрань на сукенцы і лытках, грузнучы ў размяклай зямлі — яблыкі ляжалі «як мост»... Гэта было шчасце — выбраць найлепшае, прыкласці да носу і доўга цешыцца пахам...

Ёсць гатунак восеньскіх яблык, якія хвалююць успамінам маленства. Нядаўна, праз шмат год, іх ела. Яны — асаблівага смаку. Не толькі таму, што нагадваюць даўняе, а яшчэ ад таго, што сустракаюцца рэдка. Ці не «цыганкі»гэта?

У пані Ломскай такія ляжалі горбаю пад сталом у вялізнай кухні-сталоўцы. Пакуль старэнькая, у шэрых доўгіх лахманах — так запомнілася — пані вызваляла літровы слоічак ад малака і ўкладала туды абавязковы кавалачак хлеба — каб кароўка і далей добра даілася — я, малая зладзейка, з выгляду пужлівая, ціхмяная, паспявала ўсунуць у кішэні «штук паро».

Зімовых яблык у нас не было. Аднойчы зімою сусед Косцік здымаў кошычак такіх жа, як у Ломскай, «з гары» (гарышча), і мне праз плот у снег кінуў: «Лаві!»...Косцік даўно пайшоў у лепшы свет, а ўдзячны ўспамін той жыве...

Непаўторныя яблыкі дзяцінства. Спачатку тыя, што прывозіў дзед Язэп мне, малой унучцы. Ягоная сумка, прапахлы водарам першых летніх лешчанскіх яблыкаў — чароўны куфэрачак з бліскучастай рыжавата-чырвонай у няроўныя дробныя прамакутнічкі скуры і сёння стаіць перад вачыма — дзед прывозіў прысмакі! Разам з яблыкамі ў сумцы магла быць салодкая радасць — «кішчарыны» — пчаліныя соты з мёдам у маленькіх васковых ячэйках.

Бабы Аўдоліна слухавіцкая яблыня — салодкія ў ружовыя пасачкі яблычкі — ранеты — была стымулам зайсці ў госці, калі дзіцячай грамадою ішлі гарачым летнім днём да возера...

Печаныя ў духоўцы яблыкі, пасыпаныя цукрам... У халодны — ужо восеньскі! — дзень былі яны сімвалам хатняй утульнасці і спакою — скончылася лета...

Потым мы выраслі і больш не стоптвалі бульбоўніку, вандруючы пад яблыні.

Бацька, чакаючы нашага прыезду, лепшыя яблыкі складаў на двары на падваконне. Заварочваеш за вугал хаты — яблыкі чакаюць цябе... Цёпла робіцца на душы. Бацька і зараз так робіць. Нават калі год неўраджайны — яблыні родзяць праз год, — нейкім цудам знойдзе прыгожае з тых нешматлікіх, што зусім незаўважныя былі сярод лісця...

На Яблычнага Спаса, 19 жніўня, прысніла Хрыста. Прыходзіў да мяне, малавернай. Тады мне было трыццаць. Прыходзіў у цяжкі час, каб супакоіць...

У бацькоў свае ўспаміны пра яблыкі. Мама малою цешылася, калі яе мама, мая баба Марыля, працуючы ў асадніка, прыносіла колькі «ападаў». Дома яблыкаў не было — дрэваў не садзілі, зямлю ашчаджалі.

Бацьку малому запомніўся саракавы год. Якраз па прыходзе бальшавікоў і надвор'е да людзей невыносна жорсткае было — у саракаградусныя маразы вымерз вялікі слухавіцкі сад у атачэнні старых ліпаў...

Яблыкі сімвалізуюць любоў. Гэта праўда.

Так было здаўна. Не ведала гэтага. Але падсвядома, відаць, адчувала іх сілу. Аднойчы прывозіла табе з нашага саду. Гэта былі больш чым проста яблыкі...

Ты купіў яблыкаў і прынёс мне ў Вільні. Вельмі ярка памятаю... Шчаслівы ўспамін. Іх шмат, шчаслівых успамінаў...

Мусіць, не дзіўна, што Марыля захацела намаляваць мой партрэт з чырвоным яблыкам у руцэ. Адчула мой стан...

Без яблык няма жыцця. Без іх немагчыма, невыносна. Толькі і думаеш пра іх. На нейкі час іх можна замяніць морквай. Але ненадоўга.

Яблыкі ядуць па-рознаму. Я пакідаю адзін хвосцік. Як Ганна з кнігі немкі Катарыны Хагены «Смак яблычных зярняткаў». Штэфан падараваў. Сказаў, што ў Нямеччыне гэта — бестселлер....

*5 лютага 2012 г.*

# Прыязджай па яблыкі

Прыязджай па яблыкі! Іх столькі!..

Прыедзеш — набярэш па мяху — якіх захочаш.

Можаш набраць сакавітых, з чырвонымі пасачкамі на цвёрдых зялёных шчочках, яны так добра ляжаць. Пакуль што ў траве. Пасыплеш на падлозе, як я, і будзе стаяць у тваім пакоі яблычны водар — натхненне...

«Целесарый»» называюцца...

Ёсць яблыкі яшчэ цвярдзейшыя, зялёныя, з дробнымі рудымі кропачкамі — паляжаць, у сонечныя ператвараюцца. Зусім не баяцца часу... «Бананавыя» ім імя...

А можа, ты захочаш цёмных-цёмных, падобных на «чарнагузаў» з бацькавага дзяцінства? Мне яны нагадваюць гранатавы камень, што на маім пярсцёнку. Мы былі разам у Вільні, калі сяброўка Надзя захацела падараваць мне — «У цябе зусім нічога няма на руках!»

Ведаеш, немка Даратэя, якую вучыла беларускай мове, калі ўбачыла пярсцёнак, была ўражаная — дакладна такі быў у яе бабулі Эмы, якая даўно пайшла. Шкадую, не распытала пра гэтую жанчыну.

Гранату, камню на пальцы перадаецца сардэчнае пачуццё — згушчаецца чырвань да чарнаты... Гэта праўда...

Дык вось, можа, набяром «гранатавых яблык» з прыгожаю назвай «Джонатан» — цёмна-вішнёвых, бы набраклых віном кахання. Прывозіла табе ў Вільню. Накрывала на гарышчы посцілкамі, правярала, каб не змерзлі — так доўга трэба было чакаць сустрэчы ... Табе спадабаліся.

А мо, ты захочаш антонаўкі — яе смак не зблытаеш ні з якім іншым. Антонаўка і «грабштэйн» па-бацькаваму, а на Камароўцы ў Менску называюць іх іншым нямецкім словам — «штрыфель» — самыя старыя яблыні ў нашым садзе. Яны памятаюць нашых бацькоў, калі ім было гадоў па трыццаць... І нас, малых — яшчэ ў тую пару, калі «раздзетыя» маглі выскачыць зімовым днём, каб сарваць з голай яблыні перамерзлае зморшчанае цёмнае яблычка — смакоцце!

Грабштэйн і выбіраць не трэба — усе яблыкі, якое ні вазьмі — мяккія, смачныя.

Некалі ў школьныя гады з сабою «на бульбу» бралі. «Калхозніка», класнага нашага, настаўніка хіміі, не частавалі — не ўмелі, дзікія вясковыя дзеці, недаверлівыя да дарослых. Гігікалі, калі Калхознік, стары для нас дзядзька (трошкі за сорак) і стары халасцяк, зазіраў у сваю торбачку падчас абеду: «Ну, што мне тут мамка палажыла?»

Палічыла — ты можаш набраць яблыкаў шасці гатункаў... Праўда, ярка-вогненных, вялікіх, спелых — упадзе — бок мяккі-мяккі зробіцца — не так шмат... «Слава пабядзіцелю» называюцца...

Затое астатніх — галіны ломяцца, зямля ўсыпаная. Цісну патрохі сок. Бацька кажа — «бровар адкрыла»...

Будзем размаўляць.

Я раскажу табе гісторыю, што некалі чыталі з дзецьмі па-польску: пра апошні яблычак, які прасіўся ў ветра: *«Ветжык-ветжык, стрэньсь ме на земе!»* — хацеў у кладоўку — спіжарню. Яшчэ там быў *«красны людэк огродовы»* — пудзіла агароднае. Нас цешылі гэтыя словы і фразы, і малюнкі, і ўспаміналася мамінае «красналюдак» — так яна называла прыгожых маленькіх дзетак. Цяпер ведаю — па-польску krasnoludek — карузлік, гном.

Распавяду табе каторы раз (ужо як бацько стала — адно і тое ж!) пра пані Ломскую, у якой цягала з-пад стала яблыкі, пакуль старая пералівала прынесенае малако, і пра суседа Косціка, які, здымаючы ў кошыку з гарышча, кінуў праз плот у снег некалькі зімовых яблык — нечаканае шчасце! І нават заадно пра слівы, як удзень хадзілі да іх са злачынным намерам — каб прыгледзець, як украсці ўвечары, а баба Каштыляніха выйшла і ласкава прапанавала нам іх. Пра сорам і вялікае здзіўленне — няўжо дарослыя могуць разумець дзяцей?

А можа, працытую адзін з двух вершыкаў, якія за дзяцінства адолела маленькая Марыля, — яна не выносіла навучання і моўчкі, ціхенька ўцякала пры маёй спробе «адукаваць»:

«Яблык румяны, чысты, крамяны,

у расе купаўся, сонцам выціраўся».

Марылька казала яго падчас «канцэрту» скарагаворкай, у адрозненне ад Настулькі, якая любіла «выступіць» шмат і выразна. Затое добра спявалі хорам — Марылька старанна і ад таго вельмі кранальна падцягвала за Настусяю канчаткі...

І яшчэ... Я так і не распавяла табе, здаецца, пра вельмі важнае —Яблычны Спас трошкі больш як дзесяцігадовай даўнасці, які так урэзаўся ў памяць...

Прыязджай... Яблыкі родзяць не кожны год...

*18 верасня 2012 г.*

# Восенню

Яблычкі паслухмяна — толькі трасяні!— злятаюць з галінкаў у зялёную, прыбеленую марозам траву — у цяпло хочуць. Нарэшце! — скачуць з ямкаў, што вылежалі ў траве ў чаканні лепшага дня, у вядро. На гарышча — «гару» захоўвацца пойдуць.Усю ночку ад холаду хаваліся, лісцейкам накрываліся, не здаваліся... Ледзьве шчочкі не адмарозілі — празрыстая тонкая скурка... Дажылі, дачакаліся раніцы сонечнай — уцякае мароз з травы, расой заблішчэў, слязьмі вадзянымі заплакаў пад сонцам...Шпачок ля бацькавай шпакоўні дзень вітае — гарлячок хадуном ходзіць — выспеўвае сонейку ўдзячная птушачка ...Сінічкі палахлівыя сланечнік спяшаюцца выбраць...Сонейка прыгрэла, і ўкамянелую шэрую зямлю адпусціла — стала вільготна-чорная. Павуцінне нізенька па зямлі, па скалелым абвіслым зеллі — блішчастымі нітачкамі — часта — часта... Калыша іх сонечнае паветра, і здалёк здаецца — хвалі вады бліскучай.... Нечаканая, дзівосная карціна!

*17 кастрычніка 2016 г.*
*Слухавічы.*

# Пра коней

*Ідучы дадому па былой Віленскай, кожны раз бачу гару і дарогу, што ўецца да яе, то падаючы ўніз, то ўздымаючыся ўверх. Гэта высокая гара па дарозе на Уселюб. Там, у дальняй далечыні, на сумежжы блакітнага неба і зялёнага поля, пасвіўся мінулым летам прыгожы сваімі велічнымі абрысамі цела конь... Здалёк быў жывою карцінаю лета...*

*18.04.2012 г.*

У святочны дзень бацька «глядзіць цілівізара» — канцэрт Пугачовай. Яму трэба выказацца: «Адны дурцэ скачуць — мае мілыя!.. Ала гэта мужыкоў мяняе, як цыган коней... Год каня... Конь... Правяльна, гэто жывотно разумно. Свайго хазяіна зная. Я свайго карміў аўсом. Краў у бацька аўса...

І апавяданне паўтараецца наноў — «пражыто, але не забыто!..»

*7 студзеня 2014 г.*

***

Калі ты ехаў на высока — аж страшна ўніз глянуць — накладзеным бахматым возе, пакалыхваючыся, пагойдваючыся, прыцішана ў сіняе неба паглядаючы, у жаваранкавыя песні ўслухоўваючыся, то носам у духмянае сена ўткнуўшыся, то за вяроўку хапаючыся, каб не ўпасці, калі конь пад высокую гару цярэбіцца, тады на бацьку неспакойна паглядаючы, а ён — сам спакой, здаецца — ідзе сабе, паноквае... Конь чхане, бацька паважліва адгукнецца: «Здароў будзь!..»»Калі ты так ехаў, то шчасце дзяцінства не абмінула цябе...

Базным канём Буянам бацька вёз мяне немаўлём, баючыся за маё жыццё, у бальніцу — «Як шухнуў цераз поле!» Конь быў падзеяй у нашым дзіцячым жыцці. Спачатку чакалі, ведаючы — бацька пайшоў па каня... І вось — цяжкі мерны тупат капытоў па двары, бацька з лейцамі, сур'ёзны, засяроджаны, прыцмоквае, вядзе Дарэшку ці Мальчыка. («Ні здзекаваліся, каня ўсе на базі давалі...»). Запрагае: хамут, дуга, аглоблі ...

Шкада коньскай шыі... І наогул шкада «базнага каня» (прыёмны пункт скаціны —«Заготскот», дзе бацька працаваў, называлі «базаю»), ягонага магутнага цела са слядамі пісягоў ад пугі, ягоных ног з цяжкімі падковамі на капытах — як жа іх прымацавалі? А калі — невыносна балела?.. Страшна ад гэтай думкі. Гладзіш па храпе — «Кося, кося...»... Мяккімі адтапыранымі губамі, паказваючы вялікія зубы, асцярожна бярэ траву ці хлеб з далоні...

Каты, сабакі і асабліва коні (па значнасці ў гаспадарцы) і здарэнні з імі — яркі ўспамін бацькавага дзяцінства...

...«Дзед Дзямян гараў у свае дачкі, Марыі Малахоўскай. Якраз кірмаш быў, пасля Сёмухі, на «Дзісятуху», як казалі. На плошчадзі, блізко. Абрабіўся і паехаў на базар патаргаваць каня — скоко даюць. А там нека банда была. «Ско-

ко хочаш за каня?» «Стоко і стоко». Сцягнулі з каня — грошы ў руку — і пашоў пяшком дадому... Во патаргаваў!.. Воз у Малахоўскай стаяў...

Тады купіў некаго. Дзядзько Міхась ні панаравіў, біў того каня. Купілі другого. Дзядзько дзяржаў харошых коней — сытыя, красівыя. Як зеркало... І збруя ўсягда чысто змазана. За Польшчаю мы каня ні дзяржалі — дзядзько Міхась абрабляў зямлю. Сястры, мацяры маёй, памагаў...»

Не шанцавала дзеду Дзямяну з коньмі. «Аднаго воўк заеў. На Баловічах. Раней ноччу пасвілі... А воўк хітры... Каня бярэ спераду. Ззаду ні падыходзіць, бо зная, што мазге выскачаць... Ідзе, выкачаяцца ў балото, тады падыходзіць да каня. Як страсянецца, пырскі ляцяць, конь галаву падымае, а ён тады як скочыць, як хваціць за гарляк, а лапамі ў персні ўпіраецца. І конь падая... Дзедава кабыла, як падала, забілася — на камень ці на корч упала. Плакаў... Астаўся на бабах, прышла вясна...

Каня пасля вайны бацько купіў. У Навагрудку гандлярэ прадалі, а ў яго двохрадовыя зубы — ні мог сена есці. Вот, яшчэ траву, то так... Як напалі вошы — уводзіў у кухню, мыў... Ён за лето адпасвіўся, на пашу пашоў — паправіўся. Шэсць гадоў каню, дочка! — стары конь... Бацько варыў кашу яму, крупу...

Прадалі гэтаго каня і цялушку-пабегалку. Купіў другого ў Лідзе. З мужчынамі ездзіў з Гарадэчні. Разам ездзілі, каб грошы ні адабралі...

...Купілі нікастрыраванага. Кастрыравалі. Добры быў конь... З Мачулаў, з Ладзенік лес вазіў. Я яго шкадаваў. Бацько то, каб прымеў, усей лес на яго злажыў бы. Ён задам станавіўся і падымаў воз набок. Але не любіў, каб верхам на яго садзіўся — кідаў задам. Як сядзеш — нясецца... Раз бацька скінуў — ляцеў, ляцеў у галоп і раптам стаў. Стаў і нагнуўся — бацько і кульнуўся!

Есці ён любіў. І сечкі, і аўса, як вясна пачнецца. Робім што ў гумне. Бацько пойдзя снедаць, а я будто ў туалет. Бацько думае — уср-ўся. А я каню аўса ўкраду, занясу.

Застойваўся. Бацько кажа: «Спахмурнеў... Захварэў нешто...». Вывядзя на двор, а той калі чмыхне, калі кіне задам, калі папрэ! Як вылеціць — толькі снег ці пыл курыць. Быў крэпкі конь! Ляцеў на Бальчыцы. У Шырка быў жарабец, біўся, вот ён туды ляцеў, тады дваіх біліся, грызліся. Я то забіраць ніколі ні хадзіў, бацько хадзіў...

Любіў вадзіць каня — гэто любіма работа была, як малацілі ў Ладзеніках. У Колі Фурсы быў манеж, малацілка. Трое коней запрагалі: Галенін, дзядзька Мікалая кабыла бела і наш красны конь.

На фэст, на Яна, ездзілі ва Уселюб за чатырнаццаць кіломятраў. З бацькамі ездзіў. Сямнаццаць год было, перад арміяй. Конь добры быў. Заязджалі да Глябовічаў... На Пакровы ездзілі ў Сянежычы, дванаццаць кіломятраў ад нас.

... У калхозе ўмер. З голаду здох. Выеў яму. Брыгадзір казаў бацьку: «Пайдзі, паглядзі.» А чаго ісці? Хай вы самыя... Ні пайшоў».

Бацька і пра суседзяў Валынцаў — Надзю і Галену — добра памятае.

... «Надзін конь адарваўся. Прышоў без сядла. Ішоў дадому і папаў да нас у загон. Па загарадзі — да хлява. Што конь прышоў — замальдавалі. Тады ў вайну Поклад бурмішчам быў выбраны. А вобруць Галена забрала. Бацько баранаваў гэтым канём — мусі з тыдзень у нас быў. А потым забралі казакі ці хто...

...Галена — даўлюд, дундук, як мужчына была... А Надзя хароша была, красіва, двое дзяцей... У вайну Надзя у парцізанах была — дванаццаць пакотаў калёс і сямёра коней людскіх прадала. Валынец хату за гэтыя грошы ў горадзе купіў. Ні пайшла яна яму — за людскі труд... Усё скруціласё, змуціласё... А Надзю воўк шалёны ўкусіў — думала — сабака, свайго сабаку бараніла — напаў... А Галенін конь у балоце ўтапіўся. Есці хацеў і ўваліўся...»

На кані па бацьку прыскакаў участковы («прыязджае конно нараніцу»), калі бацька — навабранец — прызыўнік, аддаўшы мяшок таварышам, «гэйснуў цераз плот» дадому з ваенкамата, даведаўшыся, што «ні прышоў поезд»... «Я ў армію ні хацеў... Далі некіх камсамольцаў, і яны мяне саправаждалі да Днепрапятроўска, пакуль сваіх не нагнаў...»

Як бацька жаніўся — на возе ехалі. З «шаластунамі» — для ўрачыстасці. «Круглыя такія званочкі, падшпільваліся на шыю каню.» «Сват, як ехаў, каню даваў водкі, каб вясёлы быў...»

Слухаю бацьку, чытаю пра коней у тых, што зведалі, як і бацька, сялянскае жыццё.

Янка Брыль пісаў пра ранейшыя конскія кірмашы ў Міры. Але цікавей за звесткі гэтыя — асабістыя перажыванні маладога Янкі, які «многа працаваў, але і чытаў нямала», і з кнігаў ужо патрохі ўяўляў сваю далёкую жанчыну...

Аднойчы, «за Польшчаю», прыйшлося весці кабылу да жарабца на панскі конезавод у Міры. Гарачае хваляванне і «нейкі сорам» ахапілі «вуграватага пятнаццацігадовага боўдзілу», калі прыгожая паненка — «у той час кожны, хто чыста апрануты ў будзень, здаваўся і называўся панам» — «у белай кофтачцы, нізка адкрытай над грудзьмі» — запаўняла афіцыйны бланк пад загалоўкам «Swiadectwo pokrycia». З цяжкасцю ўспомніў мянушку свае кабылы — Каштанка...

Бацька распавядаў пра махлярства падчас продажу коней, калі, імкнучыся ўдала прадаць, кляліся, што не хлусяць, і казалі: «Каб я сваіх дзяцей ні аглядаў, як я іх сёння калыхаў!» А дзецьмі былі кацяняты, якіх гушкаў у калысцы з раніцы, да кірмаша ... «Тыя верацы!..»

Потым пацверджанне бацькавым словам знайшла ў Вінцука Адважнага (Язэпа Германовіча). Ён апісваў альшанцаў у «Адаме і Анэльцы». «Альшанцы ...мелі вялікую славу на кірмашах: ніхто гэтак не патрапіў сагнаць дыхавіцу, паправіць зубы, каб конь быў малодшы, або ... падпаіць каня, як альшанскія канаводы... Колькі альшанец, бывала, за адзін кірмаш набажыўся, колькі накляўся — і на дзяцей, і на жонку, і на старую матку, што асталася ў хаце, дык гэтага, як той кажа, і на валовай скуры не апісаў бы. Найбольш на жонку і на

дзяцей прысягаліся нежанатыя. ... Альшанцаў ужо добра ведалі па блізкіх кірмашах, дык яны сталі ездзіць далей: у Дзявенішкі, Тургелі, Іўе, нават у Любчу, Лебедзева. Альшанцы патраплялі ашукваць жыдоў, цыганоў і гандляроў віленскіх.

...У адным суседнім мястэчку зрабілі на альшанцаў аблаву пасля кірмашу. Вечарам на альшанскім гасцінцы зроблена была застава і кожнаму альшанцу сыпнулі, чым хто меў, па плячах і ніжэй плячэй. Але альшанскія ўхітрыліся — не прызнаюцца; адзін кажа: «Я з Міхалоўшчыны», другі: «Я з Барун». Дык тыя — як пазнаць? Давай рабіць рэвізію: калі каторы мае каптан ваўняны, ручной работы, той альшанец, і спрачацца годзе. Кладуць на санкі і малоцяць, як па снапе. Усе акалічныя празвалі альшанцаў канаводамі, нягледзячы, ці хто вінен, ці невінаваты».

Дзед Язэп, мамін бацька, таксама пацярпеў ад махляроў. «Выгадаваў каня, і харошы ўдаўся конь, ён яго абвучыў, усё. Жыдэ-гандлярэ падабралі яму кабылу, напаілі, набілі яе, каб варушылася, і давай мяняцца. 250 ці 350 (?) злотых даплочвалі. На грошы пагнаўся... А кабыла дыхавічная, наравістая, дабітая. Плакаў патым, а старая грыззю грызла. А жыдэ, кажуць, у Слачву, два кіломятры ад Лешчанкі, каня загналі і там прадалі. Добрыя грошы ўзялі!»

Бацька пра цесця ведаў, пра майго дзеда Юзіка. «Дзед быў у пляну ў немца. У немца парабкам быў. Немяц яго чатэры разэ карміў — прывозіў на полё...Купіў яму часэ — штампоўку. Каб воўрамя коні ставіў на канюшню. Абед жа ж, трэба два часа абеду...»

Гэта ў першую сусветную.

У другую вайну ў дзеда быў конь. «Забралі парцізаны. На Немні загінуў. Бачылі знакомыя з вёскі, расказвалі. Напрадвесні абарваўся лёд. Рваўся, рваўся, мучыўся і патануў... »

Дзед Язэп сам добрую брычку зрабіць мог. «Парцізаны як сталі страляць, пасеклі кулямі...»

Пасля вайны, «за Саветамі» — налогамі абкладалі. 70 кубоў лесу — налог на каня». Дзед зімою лес вазіў, але норма была непасільная — «гадзіў начальство», каб прыпісалі што, каб у лагер не трапіць... Маме гэты час запомніўся — малая, секла дровы — бацькам дапамагала...

Потым каня забралі. Плакаў мой дзед па сваім лешчанскім кані, якога спаткала тая ж доля, што і слухавіцкага, што майму дзеду Сяргею належаў. Выгрыз вугал калхознай стайні... Гэтаксама Савіцкаму, як і Мякчылу, наказвалі, каб каня свайго наведаў. Ці здзек такі з людзей быў, ці, можа, усё ж да каня як да чалавека ставіліся?..

Хату, што бацька ставіў для нас, свае сям'і, таксама без каня не збудаваць было. «Адзін дзеравіну ў лесе ўкладаў. Быў конь, Верны... Скажаш: «тпру» — то ні паварушыцца. Я воз пераварочваў на бок і калком папіхаў на воз. Пастронкі былі, і ён гэту дзеравіну цягнуў, а я паддзержваў. Во, на шчыт елку зрэзаў тут на Буіншчыне, злажыў і прывёз».

Сёння ў нас па Слухавіцкай праедзе калі які воз... На паганятых каня сумна глядзець, недалужныя — ці спітыя, ці «ністопрацантовыя». Бацька сядзіць на лаўцы, заўважае ездакоў, каментуе: «Некі «Шэпо» паехаў. Адныя інваліды і нідарэчныя... Сміесся... Ціпер жа ж німа нармальных. Бальшавіке ўсех панішчылі. Пажывеш, паглядзіш — яшчэ лепшыя будуць...»

*20 траўня 2012 г.*
*Слухавічы.*




# Алесь Гібок-Гібкоўскі

паэт, публіцыст. Аўтар кнігі паэзіі «Насамрэч» (2007 г.). Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро» (1999 г.), Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001 г.). Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Рупейкі на Ваўкавышчыне. Жыве ў Мінску.

# А потым была вайна...

**Гэтую кнігу пра свайго бацьку — Сямёна Фёдаравіча — чалавека вельмі няпростага, драматычнага лёсу, урыўкі з якой прапануюцца ўвазе чытачоў часопіса «Верасень», я спрабаваў пісаць яшчэ ад пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі яго нястала на свеце. Але доўгі час ў мяне нічога не атрымлівалася. Відаць, нездарма пісаў калісьці С. Ясенін, што «Лицом к лицу — лица не увидать...». Вядомыя мне асобныя факты, штрыхі з бацькавага жыцця ніяк не складваліся ў агульную мазаіку, і я ўсё адкладваў гэтую справу на потым. І толькі праз больш чым дваццаць гадоў, калі час унёс свае важкія карэктывы і ў мой светапогляд, і ў мае суб'ектыўныя адчуванні жыцця, я нарэшце знайшоў у сабе сілы ўзяцца за гэты матэрыял.**

***

А непасрэднай нагодай, нават штуршком для пачатку працы, паслужыў даволі незвычайны, нават у нечым містычны, момант. Вясной мінулага 2016 года мая дачка знайшла ў Нэце інфармацыю пра тое, што мой бацька Сямён Фёдаравіч (а, значыць, і яе дзед), які перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны служыў у Чывонай арміі ў раёне беларускага горада Ваўкавыска, быццам бы прапаў там без вестак у чэрвені 1941 года падчас першых баёў з немцамі. Нагадаю яшчэ раз, што гэтую інфармацыю дачка знайшла ў маі 2016 года, а, значыць, на гэты час па афіцыйных дакументах вайсковых архіваў Савецкай арміі выходзіла, што мой «прапаўшы без вестак» бацька так і не знайшоўся...

У рэальнасці ж мой бацька пражыў пасля тых страшных падзей пачатку вайны яшчэ 47 гадоў, прычым сумленна адваяваўшы ўсю вайну. А паколькі ў мінулым 2016 годзе яму магло б споўніцца 100 гадоў, я палічыў гэтую інфармацыю ад дачкі своеасаблівым Божым знакам для мяне, як чалавека творчай прафесіі, узяцца нарэшце за гэтую працу. Спачатку я планаваў зрабіць у памяць бацькі невялікі артыкул, але ў працэсе працы матэрыялу назбіралася на цэлую кнігу.

Бацька пакінў гэты свет яшчэ на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, акурат падчас усталявання незалежнасці нашай краіны, і па вялікім рахунку не заспеў яе, гэтай незалежнасці, як і ўсіх тых драматычных падзей, што адбываліся ў першыя гады пасля яе набыцця. Але, пражыўшы немалое жыццё, паспеў стаць сведкам і непасрэдным удзельнікам многіх важных гістарычных падзей XX стагоддзя. Гэта і першая беларусізацыя 20-х гадоў, і драматычная калектывізацыя вёскі, і малазнаёмы сучаснікам савецка-японскі канфлікт 1938 года на возеры Хасан, і канечне ж, — Вялікая Айчынная вайна, якая ўладна падзяліла ягонае жыццё на дзве часткі — «Да» і «Пасля», беззваротна яго змяніўшы.

Шмат інфармацыі, якую я выкарыстаў пры напісанні кнігі, у мяне засталося ў памяці ад непасрэдных бацькавых аповедаў пра сваё мінулае. Нешто расказала ўжо напрыканцы свайго жыцця маці. Нешта распавялі бацькавы землякі і родныя, калі я наведаў у свой час бацькаву малую радзіму. Дарэчы, непасрэдна ў гэтым матэрыяле я выкарыстоўваю інфармацыю, атрыманую найперш з апошняй крыніцы...

***

Пра бацькава дзяцінства я ведаю няшмат. У ім таксама мела месца ўсё тая ж, да болю знаёмая з твораў класікаў, гісторыя пра наведванне школкі толькі ў цёплую пару года, калі можна было абысціся без абутку, і доўгія зімова-веснавыя вакацыі з-за немагчымасці абысціся без яго. Бацькава адукацыя прыпала акурат на блаславенныя гады беларусізацыі ў нашай краіне ў 20-х гадах, таму ўся яна, зразумела, была беларускамоўнай, за выключэннем урокаў рускай мовы. Не зважаючы на ўсе бытавыя праблемы, бацьку ўдалося скончыць 6 класаў мясцовай школкі і атрымаць такія-сякія веды, з часткай якіх і мне давялося даволі шчыльна пазнаёміцца ў маім раннім дзяцінстве.

Бацька быў акурат тым чалавекам, з вуснаў якога я і пачуў упершыню роднае слова, бо маці мая была родам з Украіны і яе матчынай мовай, зразумела, была ўкраінская. Бацька лёгка чытаў мне на памяць многія дзясяткі вершаў беларускіх паэтаў, а паколькі рабіў гэта не раз, то частку з іх я завучыў на памяць. Я і цяпер памятаю некаторыя з тых вершаў: «Ручэй» і «Доля батрачкі» Якуба Коласа, «Я — сялянская карова», «Вечарынка ў калгасе» Кандрата Крапівы і іншыя...

І сёння не перастаю здзіўляцца бацькавай фенаменальнай памяці, якую ён выявіў у тыя гады. Апрача вершаў, бацька ведаў на памяць нямала апавяданняў, што таксама запомніліся яму з часоў навучання ў школцы, і якія таксама распавядаў мне ў часы майго ранняга дзяцінства. Ды што апавяданні!.. Напачатку 60-х бацька неяк паехаў па працы ў доўгую камандзіроўку ў адзін з гарадкоў Беларусі, дзе, каб скараталь вольныя вечары, паспяхова засвойваў фонды мясцовай бібліятэкі. Там яму пашчасціла натыкнуцца на адзін вельмі займальны прыгодніцкі раман, прычым даволі вялікі па аб'ёме, які ён проста «праглынуў» за адну ноч. Па вяртанні дадому, ён аднойчы падчас нейкіх гаспадарчых справаў (я, як старэйшы сын, заўсёды нешта дапамагаў у іх) распавёў мне ўвесь той вялікі раман па памяці!.. Назву таго рамана я памятаю і цяпер, але, на жаль, усе мае спробы знайсці яго тэкст (нават у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі!) не мелі поспеху, бо імя аўтара мне бацька, на жаль, тады не паведаміў!..

Апроч унікальнай памяці бацька меў яшчэ і цудоўны творчы дар апавядальніка, што, на мой погляд, ёсць ці не асноўным элементам дару сапраўднага пісьменніка. Ніколі не забуду з якой шчырай увагай слухалі бацькавы аповеды пра вайну госці, якія ў гады майго дзяцінства часта збіраліся ў нашым доме.

Прычым з захапленнем слухалі не толькі дарослыя, але і дзеці. Думаю, што калі б лёс у бацькі склаўся па-іншаму, то ён меў усе шанцы стаць выдатным пісьменнікам. Але не склаўся...

***

З бацькавых падлеткавых гадоў вельмі ўразіла гісторыя пра «абяззбройванне» Святабагародзіцкай царквы ў ягонай вёсцы Комсічы ў 1928 годзе. Тады мясцовае бальшавіцкае начальства вырашыла сарваць з яе макаўкі крыж. І гэтая гісторыя мела непасрэднае дачыненне да бацькавага лёсу.

Крыж той да таго ўзвышаўся над ваколіцай каля сотні гадоў і, відаць, даўно калоў вочы згаданаму начальству. З мэтаю яго ліквідацыі ў адзін з восенькіх дзён таго года ў гэтую вёску наведаўся ўласнаю персонаю валасны начальнік ГПУ. На неардынарную падзею сабраўся вялікі натоўп месцічаў. Ды скінуць крыж аказалася зусім няпроста. Прынамсі ніхто з мяцовых актывістаў аказаўся на тое здольны, бо трэба было ўзабрацца на макаўку і зачапіць крыж вяроўкай.

Але тут нехта раптам успомніў, што ўлетку на макаўку царквы на спрэчку паспяхова ўзбіраўся адзін з мясцовых хлапчукоў. Героя таго ўзыходжання хутка знайшлі і падвялі да кіраўніка «аперацыі па ліквідацыі» — таго самага начальніка мяцовай ГПУ, і той прапанаваў падлетку паўтарыць манеўр.

Падлетак нейкі час вагаўся. Быццам нейкая сіла ў тую хвіліну перашкаджала хлопчыку даць згоду. І ўсё ж устаяць у той момант 12-гадоваму хлапчуку было практычна немагчыма — упершыню ў сваім жыцці ён апынуўся ў цэнтры ўвагі ўжо не сваёй купкі аднагодкаў, а ўсёй вёскі. Яму прычапілі на пояс вяроўку і хлопчык палез, зразумела, без усялякіх прыстасаванняў і страхоўкі, па мокрых у той дзень сценах царквы ў накірунку да святога крыжа. Як вынік і другое ўзыходжанне было паспяховым — падлетак на вачах усяго натоўпу ўзабраўся да самага крыжа і пачапіўшы на яго вяроўку, асцярожна спусціўся ўніз. За тую вяроўку учапіліся дзясяткі чалавечых рук і праз колькі імгненняў крыж рухнуў долу. Паверажаную святыню пагрузілі на вазок і некуды хутка вывезлі. У выніку вёска апынулася пазбаўленай ад апекі і абароны сваёй святыні.

Тым хлопчыкам, які безражважна кінуў у тыя восеньскія дні 1928 года выклік самому Небу, і быў мой будучы бацька, тады проста Сымонка, сын сціплых вясковых сялян Хведара і Кацярыны. У выніку ўвесь далейшы ягоны лёс прайшоў пад знакам таго фатальнага ўзыходжання, прыдаўшы яму відавочнае драматычнае адценне...

***

Калі напачатку 30-х гадоў у Комсічах пачаў функцыянаваць калгас з паэтычнай назвай «Май», там неўзабаве за нейкія грахі знялі мясцовага брыгадзіра. І ягоную пасаду прапанавалі заняць майму будучаму бацьку, тады ўсяго толькі шаснаццацігадоваму юнаку. Важкім аргументам было тое, што ён меў

ажно 6 класаў адукацыі (а гэта было тады для вёскі вялікай рэдкасцю) ды і быў даволі рашучым па характары, як сёння кажуць, здольным на ўчынак. Ды, мяркую, мясцовыя ўлады не забыліся і на ягоныя антырэлігійныя «заслугі». Такая тады была палітыка!.. Для выканання адказнага абавязку брыгадзіра Сымонку нават выдзелілі персанальнага каня.

Дарэчы, як апынуўся тады мой бацька верхам, так, вобразна кажучы, амаль 10 гадоў — ледзь не да самай Вялікай Айчыннай — і не злазіў з каня. Спачатку гэта была згаданая, прычым даволі нялёгкая, праца калгаснага «цівуна», а з 1936 года — служба ў кавалерыі Чырвонай арміі.

Асноўнай задачай юнага брыгадзіра было «арганізоўваць» сваіх, дасюль моцна сапсаваных «індывідуальным» гаспадараннем, аднавяскоўцаў на здзяйсненне цяпер ужо калектыўных працоўных подзвігаў, і, па ўспамінах бацькі, ён ніколі не прыбягаў у дачыненні людзей да нейкага прымусу, гвалту, наадварот, стараўся заўсёды найперш дамаўляцца з імі. Як яму, тады яшчэ зусім зялёнаму юнаку, гэта ўдавалася, адзін Бог ведае. Але ў выніку ягоная брыгада хутка стала адной з лепшых у калгасе. І Сымонку, як перадавіка калгаснай справы, аднойчы нават адправілі на нейкі адмысловы злёт перадавікоў калгасаў.

Але Сымонка — Фёдараў сын — быў вядомы ў сваёй вёсцы не толькі сваім брыгадзірствам. Як распавялі мне тыя ж бацькавы землякі, ён быў у Комсічах, бадай, ці не самым хвацкім і баявым хлопцам, што ў спалучэнні з кіруючай пасадай, рабіла яго, як сёння кажуць, яшчэ і адным з нефармальных лідараў. У спрэчных сітуацыях з Сымонкам не хацелі звязвацца нават значна старэйшыя і фізічна больш моцныя хлопцы-аднавяскоўцы. Бо вынік усялякага двубою быў прадвызначаны — Сымонка, адораны ад прыроды фенаменальнымі спрытам і сілай, заўсёды апынаўся зверху.

І аднойчы тое лідарства выявілася даволі выразна і магло каштаваць майму будучаму бацьку даволі дорага — прынамсі не адзін год волі. Гэта, дарэчы, якраз адзін з тых эпізодаў ягонага жыцця, якімі бацька лічыў за лепшае не хваліцца, і нам, сваім дзецям пра яго ніколі не распавядаў... Відаць, з педагагічных меркаванняў ...

***

Неяк у Комсічы наведаўся гурт чужакоў на чале са здаравенным — амаль двухмятровага росту — боўдзілам па мянушцы Чарціла, вядомым усёй акрузе сваім жорсткім бандыцкім норавам. Той Чарціла са сваёй камандай літаральна затэрарызаваў тады ўсе навакольныя вёскі, рэгулярна наведваючыся ў іх для, як ён казаў, «навядзення парадку». Чарцілаў «парадак» выяўляўся найперш у здзеку з людзей і ў самым рэальным іх рабаванні. Па вялікім рахунку ён абклаў усе навакольныя вёскі адмысловай данінай. Калі Чарцілу ў той ці іншай вёсцы падабалася нейкая рэч, ён тут жа рабіў яе сваёй уласнасцю. І калі ранейшы ўласнік спрабаваў не пагадзіцца з «экспрапрыяцыяй», то заканчвалася для яго гэта сумна. Пра прыгоды Чарцілы выдатна ведала мясцовая

міліцыя, але чамусьці глядзела на ўсе ягоныя выкрунтасы скрозь пальцы. Гаварылі, што ягоны родны дзяцька быццам бы займае вялікую пасаду ў Мінску, і ўжо даўно абяцае забраць туды Чарцілу, прычым на працу не абы куды, а якраз у міліцыю.

І вось аднойчы гэты самы Чарціла вырашыў наведацца ў Комсічы, якія на той час былі даволі вялікай вёскай. Тым адвячоркам акурат ладзіліся танцы, якія звычайна збіраліся ў хаце аднаго з заможных мясцовых сялян. Дарэчы, прыняць танцы ў сваім доме лічылася тады ў Комсічах за немалы гонар. Моладзь, як звычайна, дружна пацягнулася да месца будучай забавы. І якраз у той момант і з'явіўся ў Комсічах са сваёй бандай Чарціла.

Паводзіў боўдзіла сябе вельмі нахабна. Падчас танцавальнай вечарынкі ён уразвалку падыходзіў да танцуючых пар і, ні слова ні кажучы, адкідваў убок, нібы якое-небудзь кацяня, мясцовага хлопца, а пасля гэтага, як ні ў чым ні бывала, працягваў таньчыць з ягонай дзяўчынай, якая, зразумела, баялася нават вочы падняць на свайго новага кавалера. Прыніжаныя месцічы адступалі, дакладней, адпаўзалі, скрыгочучы зубамі, але цярпелі — надта ж нябёснымі здаваліся ім сілы!

Дайшла чарга і да майго бацькі, які таньчыў са сваёй дзяўчынай. А паколькі масы целаў Чарцілы і Сымонкі былі несупаставімыя, то і Сымонка не пазбег лёсу іншых сваіх маладых аднавяскоўцаў. Сымонкава дзяўчына, працягваючы танец з боўдзілам, трэслася, як асінавы ліст, але нават заплакаць баялася...

Ніхто і не заўважыў, як Сымонка на нейкі момант знік з месца танцаў, а потым раптам зноў з'явіўся і рашуча накіраваўся ў бок Чарцілы. Мясцовы люд літаральна знямеў, ведаючы адчайны, рызыкоўны нораў Сымонкі. Але здаравенны дзяцюк нават галаву не павярнуў у ягоны бок, робячы выгляд, што проста яго не заўважае. І тады Сымонка нешта гучна крыкнуў боўдзілу, што прымусіла таго звярнуць-такі на хлопца ўвагу. Чарціла няспешліва адсунуў ад сябе дзяўчыну і, быццам здаравенны мядзведзь, пачаў марудна паварочвацца да Сымонкі, ледзь не на дзве галавы ніжэйшага за яго. Усе навокал ажно ахнулі, мяркуючы, што для іхняга юнага аднавяскоўца надышлі апошнія хвіліны жыцця. Але, тым не менш, ні адзін чалавек і з месца не скрануўся, каб стаць поруч з Сымонкам у ягоную падтрымку — занадта моцным быў страх перад грамілам!.. І тут задарылася нешта для ўсіх нечаканае — раптам Чарціла, як падкошаны, цяжка рухнуў на падлогу. Усё адбылося так хутка, што ніхто толкам нічога не зразумеў!..

А адбылося наступнае... Пасля публічнага фіяска Сымонка збегаў дадому, балазе ягоны дом быў блізка, узяў там маленькую гірку ад бытавых вагаў і, прывязаўшы яе на гумку да кісці рукі, схаваў у рукаве кашулі. І ў танцавальнай хаце, у момант, калі Чарціла пачаў да яго паварочвацца, Сымонка літаральна выстраліў гэтай гіркай гіганту акурат у самы цэнтр ілба. Удар быў, відаць, настолькі нечаканым і моцным, што Чарціла зваліўся долу, як слуп, нават не войкнуўшы. Ён, мусіць, на нейкі час нават страціў прытомнасць, і ўсім прысут-

ным нават падалося, што ненавісны гвалтаўнік знайшоў нарэшце свой канец. Але Чарціла ўрэшце-такі апрытомнеў, зашавяліўся, і ягоныя сябрукі, падхапіўшы правадыра пад рукі, павалаклі яго да лаўкі, дзе і пасадзілі. Комсіцкі люд з жахам чакаў развязкі. Ведаючы нораў Чарцілы, яна мусіла быць страшнай. Вакол Сымонкі, які сам ашаломлены, працягваў аслупянела стаяць пасярод хаты, вокаімгненна ўтварылася пустэча...

Але развязка гэтай падзеі была таксама зусім нечаканай для ўсіх. Крыху адседзеўшыся, боўдзіла неўзабаве цяжка падняўся і, ні слова не кажучы, хістаючыся, паклыпаў прэч разам з усёй сваёй хеўрай. Прычым не толькі з хаты, дзе ладзіліся танцы, але, як праз некі час пераканаліся камсічане, і ўвогуле з іхняй вёскі.

Ці трэба казаць, як была ўзрушана вёска той падзеяй. У сваіх адносінах да Сымонкі камсічане падзяліліся на два лагеры. Адныя глядзелі на яго як на героя, іншыя пры сустрэчах проста пазбягалі яго, баючыся сябе скампраметаваць на выпадак вяртання ў вёску Чарцілы. Многія і насамрэч чакалі, што праз які час Сымонку давядзецца расплачвацца за той ягоны адчайны ўчынак, бо, па-першае, сам Чарціла дасюль нікому нічога не дараваў. А па-другое, у выпадку нейкіх наступстваў для здароўя боўдзілы, Сымонку маглі запраста прыцягнуць да крымінальнай адказнасці. Але Чарціла так і не наведаўся больш у Комсічы. Не прыехала разбірацца з тым здарэннем і мясцовая міліцыя. Болей за тое, з таго часу пра Чарцілу камсічане ўвогуле больш не чулі, як не чула больш пра яго і ўся ваколіца. Казалі, што быццам бы той самы важны ягоны мінскі сваяк урэшце-такі забраў яго да сябе на працу. Так гэта было ці не так, сказаць цяжка, у любым выпадку Чарціла больш ніколі не з'явіўся на бацькавым жыццёвым шляху.

***

І ўсё ж такі пасля таго выпадку з Чарцілам аўтарытэт Сымонкі ўзрос у вёсцы яшчэ вышэй. І калі дасюль ён быў адным з верхаводаў комсіцкай моладзі, то цяпер стаў яе безумоўным лідарам.. Самае цікавае, што два значна старэйшыя браты Сымонкі — Іван і Уладзімір, таксама як і ўсе маладыя камсічане, прызнавалі гэты ягоны аўтарытэт і лідарства. І ў нярэдкіх агульных «акцыях», да прыкладу, высвятленнях адносін з суседнімі вёскамі (а такіх канфліктаў тады не бракавала!), старэшыя браты, як і ўся моладзь, без пярэчанняў падпарадкоўваліся свайму малодшаму брату.

Трохі пазней, калі Сымонка ўжо з год як служыў у Чырвонай кавалерыі, у ягонага старэйшага брата Івана адбыўся ў вёсцы вельмі непрыемны выпадак. Яго з нейкай нагоды добра адлупцавалі прадстаўнікі аднаго даволі дружнага тады комсіцкага клана па прозвішчы Сабалеўскія. Прыкладаліся няслаба, бо пасля гэтага Іван тыдзень адлежваўся дома. І трэба ж было здарыцца такому супадзенню, што акурат у гэтыя дні Сымона за выдатную службу ў войску прэміравалі водпускам на радзіму!..

Як толькі Сымон зайшоў у родную хату, то яму адразу кінуўся ў вочы ўвесь у сіняках твар старэйшага брата. Імгненна ўсё зразумеўшы, ён толькі коратка спытаў: «Хто?». Пачуўшы адказ, ён у той жа момант, кінуўшы на падлогу свой рэчавы мяшок, і як быў у вайсковай форме, стралою выляцеў з хаты. Дзіўная рэч — на сяле тады не было ніякай сувязі, але ўся вёска ўжо ведала, што прыехаў з войска Гібкоў Сымонка і збіраецца расквітацца з Сабалеўскімі за брата!..

І што вы думаеце, зрабіў тады той дружны клан Сабалеўскіх, у шэрагах якога было больш за дзясятак дужых мужыкоў? Сабраліся разам і спакойна чакалі мсціўцу, каб даць яму годны адлуп і навучыць яго розуму? Як бы не так! Аўтарытэт Сымона і страх перад ягоным гарачымноравам быў такі, што ўсе гэтыя мужыкі, як адзін, кінуліся хавацца хто куды — хто на гарышча, хто ў пуню, а хто і ў падпечак!

Гісторыю гэтую праз шмат гадоў мне распавёў якраз адзін з Сабалеўскіх — прычым той самы, што схаваўся ў падпечку. Распавядаў без ніякай крыўды, нават з непрыхаваным захапленнем ад тагачаснага імпэту майго бацькі. Для яго тады ўсё абышлося, як кажуць, толькі непрыемнымі эмоцыямі...

***

Калі майго будучага бацьку ўлетку 1936 года прызывалі служыць у Чырвоную Армію, сумненняў у прызыўной камісіі не было аніякіх — яго прызначылі на службу ў вельмі папулярны тады від войскаў — можна сказаць, тагачасны спецназ — Чырвоную кавалерыю. Туды, дарэчы, абы-каго не бралі — адбіралі найбольш спрытных і фізічна падрыхтаваных хлопцаў.

Служыў бацька за многія тысячы кіламетраў ад Беларусі ў Забайкальскай ваеннай акрузе, дзе ўзімку маразы і ўлетку спякота сягалі за 40 градусаў па Цэльсію. У кавалерыйскім палку за Сымонам адразу замацавалі персанальнага каня, дакладней, пародзістую кабылу па мянушцы Асатрына. Гэта была, па словах бацькі, выключна разумная, нават мудрая жывёліна, якая разумела яго з паўслова. Яна потым не раз у складаных сітуацыях, дэманструючы прыклады адданасці і любові, выратоўвала яму жыццё.

У 1938 годзе падчас згаданага савецка-японскага пагранічнага канфлікту на Хасане бацькаў кавалерыйскі полк адным з першых кінулі для «спынення правакацыі японскай ваеншчыны». Полк «спыняў» тую правакацыю ў лепшых традыцыях часоў Грамадзянскай вайны — смела і рашуча атакаваў самураяў з ходу. Зразумела, як і ў Грамадзянскую вайну, без падтрымкі авіяцыі і танкаў, што нават па тагачасным статуце Чырвонай арміі ўжо было абавязковым. Але нехта з начальства (потым казалі, што быццам бы сам Блюхер, якога, па сцвярджэнні бацькі, яму пашанцавала некалькі разоў бачыць, прычым акурат у яго любімым белым мундзіры!) палічыў, што японцаў можна змахнуць з твару зямлі адразу і хутка — адным узмахам шашак нашых доблесных кавалерыстаў!..

Атака і насмрэч была суперэфектнай, але малаэфектыўнай. Усё атрымалася якраз, як у вядомай песні «Тры танкісты», толькі са знакам наадварот. «Наземь» «под напором стали и огня» паляцелі не самураі, а адчайныя чырвоныя вершнікі, у тым ліку і мой бацька. Ад выбуху снарада на месцы загінула верная Асатрына, а ён сам атрымаў тады сваё першае баявое раненне.

Нейкі час бацька лячыўся ў шпіталі, а потым ізноў вярнуўся на службу ў свой полк, моцна абноўлены пасля падзей на Хасане — у згаданай атацы на самураяў загінула амаль усё бацькава начальства ад камандзіра роты да камандзіра палка! І не дзіва — нехта ж мусіў весці сваіх байцоў у тую бязглуздую атаку асабістым прыкладам!.. У выніку «перамогі» пад Хасанам Чырвоная армія мела страты ледзь не ў два разы большыя, чым «пабітыя» самураі.

Крыху пазней быў яшчэ адзін канфлікт з японцамі — на рацэ Халхін-гол, у якім бацьку ўдзельнічаць не давялося — ягоную кавалерыйскую дывізію так і не паспелі вывесці з рэзерву і кінуць у бой. А магчыма не вывелі і свядома, навучаныя стратамі кавалерыстаў у баях пад Хасанам. Але ў звязку з пастаянна напружаным становішчам на межах Далёкага Усходу СССР замест законных двух гадоў бацьку давялося адслужыць у суровым Забайкаллі чатыры. Зрэшты, і пасля гэтага яму не было наканавана зняць вайсковую форму......

Увесь час сваёй службы ў Забайкаллі Сымон моцна сумаваў па роднай Беларусі. Здавалася, што пабачыць яе давядзецца вельмі няхутка, бо з войска ў тыя напружаныя часы амаль нікога не дэмабілізоўвалі. Але раптам напачатку 1940 года ў іхнім злучэнні аб'явілі загад, што яно перафарміроўваецца з кавалерыйскага ў мотастралковае і будзе перадыслакаванае ў Заходнюю ваенную акругу СССР, то бок, у Беларусь.

Пасля прыбыцця ў маі 1940 года ў Беларусь бацьку адправілі на курсы малодшых лейтэнантаў — чырвоных афіцэраў. І ўжо ў кастрычніку таго ж года ён атрымаў сваё першае (і, як аказалася, і апошняе!) афіцэрскае званне малодшага лейтэнанта. Бацька быў прызначаны камандзірам кулямётнага ўзвода стралковага палка асобай стралковай механізаванай дывізіі, якая дыслакавалася пад Ваўкавыскам.

На Ваўкавышчыне для майго бацькі пачалася зусім новая служба, хоць і вельмі напружаная, але і надзвычай цікавая. А неўзабаве надышлі і тыя грандыёзныя падзеі 1941 года, у выніку якіх бацька і «прапаў без вестак»...

Дарэчы, на той трагічны выходны — нядзелю 22 чэрвеня 1941 года — мой бацька Сямён Фёдаравіч збіраўся паехаць у Комсічы да сям'і, але ягоным планам не было суджана здзейсніцца. Напярэдадні камандзір палка сваёй уладай адмяніў усе звальненні ў часці — адчуваў, відаць, якая каша заварваецца на мяжы. На вялікі жаль, так зрабілі далёка не ўсе камандзіры...

І ўсё ж, як успамінаў бацька, верыць, што заўтра будзе вайна, што заўтра прыйдзе смерць і разбурэнне, гледзячы на квітненне летняй прыроды, ніхто не хацеў. Але яна, тая страшная вайна, і насамрэч ужо стаяла на парозе...



# Эдуард Мядзведскі

паэт, журналіст. Аўтар шасці паэтычных кніг, рэдактар звыш 40 кніг беларускіх аўтараў. Сябар беларускага ПЭН-цэнтра (з 1999 г.) і Беларускай асацыяцыі журналістаў (з 1997 г.). Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Кніга — маё жыццё...

*У пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог... У Ім было жыццё, і жыццё было святлом чалавекаў.*
Евангелле ад Іаана

**Эдуард Іосіфавіч Мядзведскі. Журналіст, паэт, філосаф-эзатэрык, настаўнік-асветнік — так звычайна пра яго гавораць. Я дадам: чалавек закрыты, дзіўнаваты, неадназначны, не вельмі зручны ў зносінах для тых, хто яго не ведае, і вельмі шчыры, адкрыты, іранічны, з пачуццём гумару для тых, хто з ім сябруе. Калі бачыш яго на вуліцы, у натоўпе, то кідаецца ў вочы — непрысутнасць. Такое ўражанне, што нясе ён на сваіх пахілых плячах час, адбітак мінуўшчыны. Эдуард Іосіфавіч — чалавек сярэдняга росту, аскетычнага складу, з кавенькай у левай руцэ — апранаецца проста: у тое, што ёсць. Калі адпала неабходнасць хадзіць на працу, неяк само сабой атрымалася, што адпусціў Эдуард Іосіфавіч доўгую бараду і стаў падобны на свайго прапрадзеда. Барада патрабуе асаблівага дагляду і прыйшлося яе пастрыгчы. Таму зараз бародка Мядзведскага нагадвае то чэхаўскую, то фрэйдаўскую, то дубоўкаўскую...**

**З 2005 па 2011 год Эдуард Мядзведскі — нязменны старшыня журы фестывалю паэзіі «Пластылінавы бусел», арганізаванага Вольгай Касабуцкай для маладых аўтараў. За сем гадоў існавання фестываль выйшаў за межы горада Магілёва і набыў статус Міжнароднага, усяго праведзена 14 конкурсаў. Пераможцам першага стаў Віталь Рыжкоў, таленавіты малады паэт.**

**Эдуард Іосіфавіч — аматар песннай творчасці, асабліва захапляецца аўтарскай песняй. Ён быў членам журы і вядучым паэтычных майстэрань бардаўскіх фестываляў «Мартаўскі кот» (Магілёў), «Віцебскі лістапад», «Лицедейство старого города» (Віцебск). Музыку на яго вершы пісалі Яўген Гранд (Ульянаўск), Тарас Юркевіч (Брэст), Аляксей Нежавец (Мінск) і іншыя...**

**Мядзведскі — Настаўнік. Свае веды ён гатовы аддаваць кожнаму, хто яго зможа не толькі слухаць, але і пачуць. Патрабальнасць да сябе і да вучняў вельмі высокая.**

**Больш за ўсё на свеце ён цэніць кнігу. У яго прыватнай бібліятэцы захоўваецца звыш 6 тысяч кніг.**

**Мяне зацікавіў агульны сшытак з уклеенымі аркушамі, сапраўдны «гросбух», дзе зарэгістраваны прачытанныя кнігі ў алфавітным парадку, пачынаючы з 1961 года. Іх больш за 14 тыс. А да 1961 года было прачытана каля тысячы кніг, але першы сшытак з назвамі твораў, па словах гаспадара, ужо даўно стаў макулатурай. І гэты, другі сшытак, чакае такі**

**ж лёс. Я даводзіла Эдуарду Іосіфавічу, што гэткі найцікавейшы дакумент нельга адпраўляць на сметнік. Але ж...**

**Мне пашанцавала — я атрымала дазвол азнаёміцца з запісамі. Эдуард Іосіфавіч стаяў побач і назіраў, нібы архіварыус, як я перагортвала старонкі. Дзе спынялася, даваў каментарыі. Гэта не проста сшытак, гэта — фаліянт, жыццяпіс. Толькі пагартаўшы яго, адчуваеш маштаб асобы яго ўладальніка. І нарэшце, пасля перамоў (ён прынцыпова адказваецца ад якіх бы то ні было інтэрв'ю), я вяду гутарку з чалавекам, якога глыбока паважаю, якому ўдзячна за размовы.**

**Тамара Аўсяннікава:** — *Эдуард Іосіфавіч, скажыце, ці чыталі вам бацькі кніжкі ў дзяцінстве? Якая кніга, прачытаная самастойна, Вам запомнілася?*

**Эдуард Мядзведскі:** — Не, бацькі не чыталі. Некалі ім было. Цяга да кніг у мяне праявілася толькі ў школе. У першым класе нас павялі ў гарадскую бібліятэку імя Якуба Коласа. Мяне зацікавіў першы том поўнага збору твораў Маякоўскага ў 13 тамах і чарадзейныя казкі. На кнігу паэта я звярнуў увагу таму, што яна была новенькая і так чароўна пахла тыпаграфскай фарбаю. Маякоўскага я прачытаў запоем і нічога не зразумеў, але палюбіў за рытм. Казкі спадабаліся сваёй таямнічасцю. Узнікла многа пытанняў, якія я сам сабе задаваў і на якія сам шукаў адказы.

**Т. А.:** — *Ці знайшлі адказы на свае пытанні?*

**Э.М.:** — Прачытаўшы казку «Пакацігарошак», я запытаў у сябе: чаму яе героі не пераходзяць мост і чаго чакаюць. Адказ прыйшоў адразу — драконаў. А хто такія драконы я зразумеў ужо ў юнацкім узросце. Гэта — чалавечыя эмоцыі. Калінаў мост не можа перайсці чалавек у плоці, так як па той бок маста знаходзіцца Кашчэева царства...

Пытанняў па гэтай казцы было шмат, як і па іншых чароўных казках. Адказы прыходзілі інтуітыўна, або з часам — па меры назапашвання ведаў.

Напрыклад, аб чым апавядаецца ў казцы «Калабок»? Ды аб тым, як сыходзіць месяц з поўні да першай квадры, праходзячы па сузор'ях.

**Т. А.:** — *Як даўно Вы пачалі збіраць сваю бібліятэку і па якому прынцыпу?*

**Э.М.:** — Вось з таго часу, як упершыню наведаў бібліятэку і прачытаў узятыя там кнігі. Дома кніг не было. А я ўжо зацікавіўся паэзіяй. Таму пачаў збіраць «Библиотечку «Огонька», пяць капеек каштавалі гэтыя брашуры на 40 старонак. Шкадую, што не захаваліся апавяданні кампазітара Мікіты Багаслоўскага, выданыя ў «Библиотечке «Крокодила». Вельмі цікавыя, авангардныя. Даў некаму пачытаць і не вярнулі.

Калі ў кішэні былі грошы, то ўсе яны траціліся на кніжкі. «Калевала» — карэла-фінскі эпас пра подзвігі і прыгоды герояў казачнай краіны Калева, куплена ў 1959 за 20 капеек, бо цана была зніжана — ніхто не браў, а ў 1956 яна каштавала 17 рублёў 50 капеек.

Потым набыў кнігу літоўскага паэта 18 стагоддзя Хрысціонаса Данелайціса. Гэта самы вядомы, па сутнасці, самы першы літоўскі паэт. Яго паэма «Поры

года» і пяць баек напісаны гекзаметрам. (*Данелайціс (1714 — 1780) — лютэранскі пастар, школьны кантар — займаўся яшчэ будаўніцтвам, механікай, садаводствам. Вельмі цікавы чалавек* — **Т.А**.).

У дзявятым класе набыў Эдуарда Багрыцкага з серыіі «Библиотека поэта». З таго часу пачаў мэтанакіравана збіраць гэтую серыю. Другое выданне «БП» (вялікая серыя) налічвае 232 кнігі. У мяне — 200. Яны ў сіняй вокладцы. З 1986 года пачалося трэцяе выданне — у зялёнай вокладцы. За кошт трэцяга выдання я папоўніў серыю «БП» яшчэ на 57 кніг.

У 1963 годзе падпісаўся на васьмітомнік Дзям'яна Беднага. Гэта першы мнагатомны збор твораў у маёй бібліятэцы. У 1965 годзе з'явіўся дадатковы том да збору твораў Блока, а праз пяць гадоў, дзякуючы букіністычнаму аддзелу, я стаў шчаслівым уладальнікам гэтага падпіснога выдання ў 8 тамах . У 1968 годзе атрымаў падпіску «Библиотечки «Огонька» на Астапа Вішню ў 3-х тамах. Па матывах паляўнічых апавяданняў Астапа Вішні быў зняты фільм. (*Астап Вішня — псеўданім украінскага пісьменніка Губенка Паўла Міхайлавіча. Ён малодшы брат пісьменніка-гумарыста Васіля Чачвянскага, які быў расстраляны ў 1937 годзе. Астап Вішня таксама быў рэпрэсіраваны, але яму пашанцавала, таму што змог вярнуцца да літаратурнай працы. І першым творам пасля канцлагера было апавяданне «Зянітка».* — **Т.А**.)

Трынаццацітомнік Маякоўскага знайшоў у букіністычным магазіне ў пачатку 70-х гадоў.

У зборах твораў у мяне 138 аўтараў — беларуская, руская і замежная класіка. Звыш 1000 кніг складае сусветная паэзія.



**Т. А.:** — *Хочацца пачуць пра антычную літаратуру. Чым яна зацікавіла?*

**Э.М.:** — Серыя «Библиотека античной литературы» пачала выходзіць напрыканцы 50-х гадоў XX стагоддзя. З 30 выданых тамоў я маю 22.

Чым зацікавіла? Антычная літаратура — папярэдніца заходняй, рускай і беларускай літаратуры. Яна першай паказала чалавека-змагара, данесла да нас міфалагічныя сюжэты, якія цесна звязаны з гісторыяй старажытнага свету. Лічу, што Гамер і яго «Іліяда» і «Адзісея» — на ўсе вякі.

Апрача антычнай літаратуры мяне цікавіць яшчэ філасофія, рэлігія, міфалогія. Таму я набыў чатырохтомнікі Платона і Арыстоцеля, «Гісторыю філасофіі» Фейербаха ў 3-х тамах і яго выбраныя філасофскія творы ў 2-х тамах, «Эстэтыку» Гегеля ў 4-х тамах. Ёсць творы алхіміка Фулканэллі, «Шаманізм: архаічная тэхніка экстаза» Мірча Эліадэ, кнігі па эзатэрыцы і многае іншае.

**Т. А.:** — *Я думаю, што Вы не абмінулі ўвагай і дзіцячую літаратуру. Які падыход быў абраны?*

**Э.М.:** — Падыход просты: у сям'і нарадзіўся першы сын, затым — другі. Так што ўсё, што выдавалася, я набываў: кнігі, брашуры. Ужо ў чатырохгадовым узросце абодва сыны самастойна чыталі. Чаго не разумелі, тое тлумачыў...

**Т. А.:** — *Эдуард Іосіфавіч, а якое месца займае ў Вашай бібліятэцы беларуская літаратура?*

**Э.М.:** — Беларускай літаратуры адведзена пачэснае месца ў маёй бібліятэцы. Класічная паэзія ёсць практычна ўся, пачынаючы з Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча па сённяшні дзень. Любімы мой паэт — Янка Купала. Усе творы яго высока цаню, за выключэннем афіцыйнай паэзіі 30-х гадоў, якую ён сам называў «дрындушкамі». У Коласа падабаюцца два творы — «Сымон музыка» (першая рэдакцыя) і «Новая зямля». З празаікаў мне па душы Кузьма Чорны, М. Гарэцкі, В. Быкаў, Ул. Караткевіч... Караткевіча лічу лепшым стылістам. Беларуская мова ў яго творах адметная, ва ўсёй сваёй прыгажосці. Карані беларускай літаратуры і яе культуры — у гістарычным мінулым, у народнай творчасці. 47 тамоў беларускага фальклору набыта мною, — усё, што выходзіла да 2007 года. Вялікую цікавасць выклікалі фальклорныя зборнікі, укладзеныя Нілам Гілевічам, ён жа і навуковы рэдактар іх: «Песні сямі вёсак» (1973), «Песні народных свят і абрадаў» (1974), «Лірычныя песні» (1976). А таксама «Беларускія народныя прыкметы і павер'і» у 3-х тамах, укладальнік Уладзімір Васілевіч.

**Т. А.:** — *Скажыце, калі ласка, якія кнігі фарміравалі Ваш светапогляд?*

**Э.М.:** — Кнігі дапамаглі пашырыць кругагляд. Мой светапогляд фарміравалі не толькі кнігі, але і тое, што я адкрыў у сабе сам, і што перадалі мне яшчэ ў раннім дзяцінстве носьбіты тайных ведаў, — шаптухі, траўніцы, вясковыя ведзьмакі. У кнігах я шукаў пацверджанне сваім думкам, сваім здагадкам.

У паэтычных творах выдатных майстроў слова, я заўважыў, што іх бачанне навакольнага свету супадае з светапоглядам носьбітаў тайных ведаў. Толькі ў паэзіі гэтыя веды ў падтэксце.

**Т. А.:** — *Аб паэзіі Мандэльштам у вершы «Silentium» гаварыў: «она и музыка и слово», а для Вас — што ёсць паэзія?*

**Э.М.:** — Мандэльштам — мой любімы паэт, і я згодзен з ім. Музыка і слова ў паэзіі непадзельныя і залежныя адно ад другога. У кожным слове свая непаўторная музыка. І задача паэта пачуць гэтую музыку. Возьмем, напрыклад, ударныя інструменты — барабан, бубен — гэта рытмаўтваральныя інструменты, гіпнатычныя; духавыя — такія, як любімая народам жалейка, — перадаюць гукі прыроды, у іх — душа народа; струнныя — імкненне ў прастору, дзе адчуваеш сябе вольным. Струну я параўнаў бы з гукам стралы, з гукам нацягнутай цецівы. Як музыкант валодае інструментам, так паэт павінен валодаць словам. Толькі тады, калі адчуваеш у душы музыку слова, яго касмічную энергетыку, і адчуваеш, як паэтычны радок нараджае падтэкст, можна стаць Паэтам з вялікай літары. Графаману гэтага не дадзена, як бы ён ні надзімаўся, бо глухі.

**Т. А.:** — *Эдуард Іосіфавіч, да літаратурнага жыцця горада Магілёва Вы далучыліся вельмі рана, яшчэ вучнем сярэдняй школы № 17. Былі знаёмыя з вядомымі пісьменнікамі. Распавядзіце аб гэтым, калі ласка.*

**Э.М.:** — У школе я наладзіў выданне рукапіснага часопіса «Усходы», які зацікавіў старшыню Магілёўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР Пятра Шасцерыкова. Па яго запрашэнні з 1964 года я прысутнічаў на пісьменніцкіх пасяджэннях. У 1970 годзе Шасцерыкова змяніў на гэтай пасадзе Васіль Матэушаў, а з 1973 па 1981 год Магілёўскае аддзяленне ўзначальваў Аляксей Пысін...

Паэзію Аляксея Васільевіча люблю, бо ён сапраўдны майстар слова. У 1975 годзе, прачытаўшы яго новую кнігу «Вярбовы мост», я напісаў рэцэнзію, якая была надрукавана ў Круглянскай раённай газеце. Пераклаў на рускую мову яго верш «Вузел». У 1970 годзе, калі вучыўся ў БДУ, пазнаёміўся з дзядзькам Рыгорам (Р.І. Барадуліным). У мяне шмат яго паэтычных кніжак.

Я рады знаёмству з усімі, вышэй названымі пісьменнікамі, а таксама — з Міхаілам Шумавым (Шульманам), Аркадзем Кандрусевічам, Янкам Непачаловічам, Іванам Аношкіным, Анатолем Сербантовічам, Аляксандрам Мельнікавым, Карласам Шэрманам, Давідам Сімановічам, Сямёнам Букчыным і іншымі, з кім мне пашанцавала сустрэцца ў жыцці.

Хачу адзначыць, што я ніколі не парываў сувязі з магілёўскімі пісьменнікамі і мастакамі. Сярод іх ў мяне многа знаёмых, якіх я паважаю за талент. Назаву некаторых, з кім мяне звязваюць добрыя адносіны. Гэта публіцыст і перакладчык Міхась Булавацкі, паэт і празаік Сяргей Украінка, мастак Базыль Камароў, скульптар і графік Уладзімір Конанаў... З павагай адношуся да творчасці літаратуразнаўцы і крытыка Яраслава Клімуця.

**Т. А.:** — *А як складвалася Вашая журналісцкая кар'ера?*

**Э.М.:** — Я прывык не гнявіць Бога і прыняў той шлях, па якому Ён мяне вядзе. Напрыканцы 60-х гадоў мною было напісана некалькі эпіграм. Вось адна з іх:

*Свет коммунизма миру дарим,*
*Но поступаем, как варяги:*
*Свободу мысли танком давим*
*От Будапешта и до Праги.*

Ад аўтарства ў той час я адхрысціўся — іншага выхаду ў мяне не было, каб не скончыць жыццё на нарах ці ў псіхушцы і каб не напаткаў мяне лёс маіх двух дзядоў, якія загінулі ў засценках НКУС. Абышоўся толькі негалоснай забаронай на прафесію і стратай часткі архіва, які прыйшлося спаліць. І ўсё ж 20 гадоў, з часоў перабудовы, я прысвяціў журналістыцы. Так што я шчаслівы.

**Т. А.:** — *З чаго пачынаецца Мядзведскі?*

**Э.М.:** — З кропкі. Задумацца над пытаннем — хто я? — мяне падштурхнуў яшчэ ў юнацкім узросце вядомы афарызм Казьмы Пруткова: «Где начало того конца, которым оканчивается начало?» Яго я пераасэнсаваў у сваім вершы.

*Где начало того Конца,*
*где начинается Начало?*
*Точка.*
*Путь в глубь себя —*
*на сферу взгляд глубокий.*

**Т. А.:** — *Эдуард Іосіфавіч, сёння толькі лянівы не піша вершы. Што Вы можаце сказаць пра стан сённяшняй паэзіі?*

**Э.М.:** — Пра сусветную паэзію нічога не магу сказаць. А вось руская і беларуская паэзія, на мой погляд, у застоі. Асноўная маса сённяшніх маладых аўтараў таньчаць вакол сябе, лічачы сябе паэтамі, і паўтараюць паэтычныя штампы. Маладыя насамрэч не ведаюць сваіх геніяльных папярэднікаў, а ўзорам ім служаць другарадныя аўтары інтэрнэтнага сеціва, якія боўтаюцца ў абывацельскім балоце, не ведаюць мовы, не адчуваюць фактуры слова, яго энергетычнай сутнасці. Хачу верыць, што час выкрышталізуе з сённяшніх маладых паэтаў самых таленавітых. А пакуль, іх далейшы шлях мне проста невядомы.

**Т. А.:** — *На Вашу думку, што патрэбна, каб з'явіліся паэты, кшталту Купалы, Багдановіча, Мандэльштама?..*

**Э.М.:** — Сацыяльныя ўзрушэнні. За 10-15 гадоў да такіх катастроф заўсёды з'яўляюцца прарокі-геніі. Так было заўсёды. Геніяльны паэт, пішучы аб дні сёняшнім, з'яўляецца прадвеснікам будучыні, які сваёй творчасцю пракладвае шлях да Бога. Вывучаючы сусветную літаратуру мяне заўсёды цікавіла пытанне: чаму перавыдаюцца старажытныя паэты (Гамер, Эсхіл, Вяргілій, Авідзій) тысячнымі тыражамі. І я зразумеў, што яны якраз і нясуць думку: «Ідзіце да Бога». А гэта значыць, да першаснага паняцця Слова, сэнс якога з цягам часу страчаны. Сённяшнім словам не стае энергіі, яны мёртвыя. А Слова павінна быць заўсёды жыццятворным. У Евангеллі ад Іаана сказана: «У пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог... У Ім (Слове — Э.М.) было жыццё, і жыццё было святлом чалавекаў».

**Т. А.:** — *Эдуард Іосіфавіч, Вы аўтар шасці паэтычных кніг, але вельмі крытычна адносіцеся да сябе і нават гаворыце, што Вы не паэт? Як гэта разумець?*

**Э.М.:** — Я лічу сябе творцам толькі аднаго монаверша «Мироздание», напісанага ў 16 гадоў: «Сущее несущее не сущее», у якім я выказаў свой філасофскі светапогляд. Усё астатняе — рамяство.



Але пісьменніку абавязкова трэба разумець сэнс фразы М.І. Цвятаевай, калі яна казала: «Ремесленник, я знаю ремесло!», бо Паэт — званне пасмяротнае. У маім жыцці так склалася, што я больш увагі аддаваў не сваёй творчасці, а творчасці іншых. Много часу прысвяціў рэдакцыйнай працы. Адрэдагаваў каля 40 кніг маладых і не вельмі маладых літаратараў.

**Т. А.:** — *У Вас ёсць кнігі, аўтары, да якіх Вы час ад часу вяртаецеся?*

**Э.М.:** — Так, ёсць. Гэта — Гамер, Дантэ, Гётэ, Пушкін, Лермантаў, Чэхаў, Блок, Мандэльштам, Купала, Чыжэўскі, Юнг, Фулканеллі, Мірча Эліадэ, Умберто Эко, браты Стругацкія і іншыя. На днях перачытваў Ул.І. Вярнадскага (1863 — 1945). Гэта геніяльны мысляр, грамадскі дзеяч, стваральнік навук біягеахіміі, біясферы, ноосферы, адзін з прадстаўнікоў рускага касмізму. Яго цікавіла многае: крысталаграфія, мінералогія, радыёгеалогія і інш.

Я вяртаюся да тых аўтараў, у якіх я знаходжу незаштампаваную думку, думку ў развіцці, якая спрыяе нараджэнню новай думкі. Геніяльныя Творцы — прарокі, яны прадбачаць не толькі будучыню, але і распазнаюць мінулае. Таму што гісторыя палітызавана і пішуць яе пераможцы. Польскі паэт, філосаф, пісьменнік-сатырык Станіслаў Ежы Лец (1909 — 1966) у адным з афарызмаў заўважыў: «Калі з гісторыі выкінуць хлусню, то гэта зусім не значыць, што застанецца адна толькі праўда — у выніку можа зусім нічога не застацца».

**Т. А.:** — *Эдуард Іосіфавіч, што для Вас кніга?*

**Э.М.:** — Тое, што для антраполага археалагічныя раскопкі. Кніга дапамагае спасцігнуць душу чалавека, Сусвет і яго Боскую сутнасць. Праз розум чалавецтва ідзе да Бога.

**Тамара Аўсяннікава**



# Сяргей Чыгрын

паэт, гісторык, краязнавец, журналіст. Напісаў і выдаў дзясяткі гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых кніг. У тым ліку: «Слонімскія падмуркі», «Такі іх лёс», «Па слядах Купалы і Коласа», «Беларуская Беласточчына», «Хочацца дахаты», «Іншых шляхоў не было», «На радзіме Ігната Дварчаніна» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

# Шляхі і краты Валянціна Таўлая

Вёска Рудаўка на Слонімшчыне — адна з аддаленых вёсак раёна. Ад Слоніма да Рудаўкі — 30 кіламетраў. Ніхто ніколі пра Рудаўку не згадаў бы, калі б там не прайшлі дзіцячыя і юначыя гады беларускага паэта, літаратуразнаўца, заходнебеларускага дзеяча Валянціна Таўлая (1914-1947).

З Рудаўкі быў родам бацька Валянціна Таўлая Павел Дзям'янавіч. Таму сям'я шмат гадоў жыла на радзіме бацькі. Адсюль Валянцін паступіў у Слонімскую настаўніцкую семінарыю, з якой яго ў 1925 годзе выключылі, бо адмовіўся юнак пісацца палякам.

У 1927 годзе паступіў у трэці клас Віленскай беларускай гімназіі. Але праз год яго выключаюць і з гэтай навучальнай установы за ўдзел у вучнёўскім страйку. Пад паліцэйскім канвоем юнак быў выпраўлены да бацькоў у Рудаўку.

Так што Рудаўка для Валянціна Таўлая была і засталася роднаю вёскай назаўсёды. Сёння, праз 70 гадоў пасля таго, як не стала Валянціна Таўлая, захацелася паглядзець, як выглядае Таўлаеўская Рудаўка? Таму вырашыў завітаць у гэту далёкую слонімскую вёску. Ехаў з нейкім настроем, радасцю, бо ехаў туды, дзе бегаў маленькі Валік Таўлай, дзе ён вучыўся, скуль яго бацька адвозіў на возе да станцыі Азярніца, каб на цягніку даехаць у Слонім, Гародню ці ў Вільню...

Калі б сёння ўбачыў Валянцін Таўлай родную Рудаўку — ён ад убачанага жахлівага малюнка вёскі проста мог бы заплакаць. Не паверыце, мужны Таўлай пусціў бы слязу. Бо ён не пазнаў бы родную, некалі вясёлую, шматлюдную вёску, якой яна была ў 1920-1950-х гадах. Вёска страшэнна апусцела. Пустыя хаты, нібы людзі просяцца, каб хтосьці зайшоў да іх, пратапіў печы, зашкліў вокны. Адна хата, другая, дзясятая... Усе пустыя, ніхто не жыве. Раптам з адной з іх выходзіць чалавек. Пытаюся, а людзі ў Рудаўцы жывуць? «Жывуць, але ў другім канцы вёскі. А ў пачатку вёскі толькі я і яшчэ адна сям'я», — адказаў мужчына.

Іду далей па вёсцы. Сустракаю бабульку. Пытаюся: скуль вы шпацыруеце? «З суседняй вёскі Вялікая Кракотка, была ў царкве», — адказала жанчына. «А чаму з Рудаўкі толькі вы адны ходзіце ў царкву?» — зноў задаю пытанне вясковай бабульцы. «Няма каму хадзіць, бо ўсе старыя. Чалавек трыццаць жыве. Няма ў нас крамы, лазні, нічога няма. Нават часам пагутарыць няма з кім. Прывезлі б нам людзей, хай жылі б тут, бо хат пустых хапае», — пачала распавядаць вясковая кабета. «А вы ведаеце, што ваша вёска з'яўляецца радзімай паэта Валянціна Таўлая?», — задаю пытанне старой. «Ведаю, — адказвае жанчына. — У доме № 77 жыве нават яго пляменнік Міхась Іванавіч Таўлай, завітайце да яго, ён вам раскажа пра Таўлая», — параіла жанчына. Іду да хаты Міхася Таўлая. Зачынены веснічкі і хата на замку. Кудысьці ён паехаў ці пайшоў. Не дачакаўся яго.

Ад хаты Міхася Таўлая іду далей па вёсцы. Пуста, ціха, запушчана, толькі вясковы сабачка падбег і пачаў глядзець мне проста ў фотааб'ектыў. Магчыма прасіў, каб даў кавалачак хлеба ці ўзрадаваўся, што ўбачыў жывую істоту...



*Валянціну Таўлаю 15 гадоў. Рудаўка, 19 жніўня 1929 г.*

На вялікі жаль, Валянцін Таўлай з Рудаўкі не памяшчаўся ў свой час, у свае пражытыя 33 гады. Гады Хрыста. Яго постаць выключна адметная, таленавітая, знакавая, мужная, ён прарастае ў многія часы, эпохі. Якіх стратаў здароўя, увагнанага ў сэрца калецтва, каштавалі потым, напрыклад, допыты ў катоўні ў Маладзечне, дзе ў яго, бывалага функцыянера, спрабавалі вырваць намеры пераходу мяжы ў Мінск — па загадкаваму выкліку, загадкаваму нават для самога Таўлая і Якуба Міско, земляка, з вёскі Чамяры Слонімскага павета. Якуб Міско ў апошнія гады свайго жыцця часта расказваў пра жах тых допытаў, а яшчэ пра тое, што потым, ужо ў пасляваенны час ён, працуючы ў Мінску, у адной з цэнтральных газет, спрабаваў высветліць, якая ж у тыя дні, у 1934 годзе адбылася важная нарада ў сталіцы рэспублікі, на якую выклікалі з падполля яго з Валянцінам Таўлаем? Не было такой нарады, яна не значылася. Выклікалі, можа дзеля... Ажно дрыжыкамі праймала жахлівая здагадка. Там, куды рвалася Таўлаева душа — там пачынала раскручвацца рэпрэсіўная машына, ёй патрэбны былі ўсё новыя ахвяры. Дарэчы, прагавітыя шасцерні ўжо ўцягвалі Алеся Салагуба, з якім Таўлай шчыра сябраваў.

Які ж ён быў цярністы і скалісты для Таўлая гэты ягоны шлях у творчае сталенне і ўзмужненне: сем гадоў турмы! Сем — самых маладых, патэнцыйна росквітных для працы таленту — забрала, праглынула, з'ела турма. Вось чаму паэт усімі, як кажуць, фібрамі душы ўзненавідзеў краты — ва ўсіх сэнсах. Турма ведала, якім чынам таптаць таленты. Яна ведае і сёння, як гэта рабіць. Нават свой першы зборнік паэт назваў «Шляхі і краты», але ён не выйшаў пры жыцці з друку. Пасля смерці паэта гэты зборнік быў надрукаваны пад загалоўкам «Выбранае».

Творчы подзвіг Валянціна Таўлая быў у бітве яго верша, яго паэзіі з кратамі, у глыбока ўсхваляваным і філасофскім асэнсаванні гэтага мужнага паядынку, гэтага двубою: паэта і турмы, паэта і кратаў над родным краем і ўласным лёсам. Ратуючыся ад судовага выраку, маю на ўвазе турмаў у Слоніме і Гародні, Таўлай, як вядома, перайшоў мяжу, сасмягла акунуўся ў грамадска-літаратурнае жыццё і ўжо ў Мінску не хаваўся нават ад свайго імя, бо лічыў, што яму ў Савецкай Беларусі ўжо не патрэбна былая падпольная канспірацыя. Ды яго ўсё ж рыхтавалі ў шлях зваротны. Клікала Заходняя — ёй быў ён больш патрэбны. Праводзіла да «пагранічнага ўзгорку вясны» даражэнькая Кацюша,

мілая простая дзяўчына, работніца абутковай фабрыкі. Памяць паэта на Лукішках раніцца той балючай ростанню, калі каханню дарогу перайшла небяспечная праца ў падполлі, усё тая ж турма. Узамен перарванай інтымнасці — пакуты катоўні, немач нараў, мокрая глухасць сцен:

А як сцежка мая за высокай сцяной абарвецца
І на кратах абные крылом акрываўлены сцяг...

Валянцін Таўлай у маленстве застаўся сіратой. Маці Марыя Антонаўна, вяртаючыся з сям'ёй з бежанства, на пад'ездзе да роднага парога, памерла ў Зэльве ад халеры. Гэта да яе, да магілы маці на зэльвенскіх могілках, нібыта на параду і паратунак, заспяшаўся Валянцін Таўлай, пасланы з Мінска ў Заходнюю. Ды па дарозе, вымушаны быў ён саскочыць на хаду з цягніка, вырываючыся з лапаў улёгшых за ім шпіцляў. Мінорная танальнасць ад страты маці напрасілася, дарэчы, у псеўдонім першага рукапіснага таго ж самага зборніка Таўлая—Паўлюка Сіраты «Шляхі і краты». Таму ўся сыноўняя любасць перадалася бацьку Паўлу Дзям'янавічу, слыннаму грамадаўцу, аўтарытэту на ўсю ваколіцу. Сына моцна дапякала адчуванне віны перад бацькам, няспоўненага абавязку перад ім, няспраўджаных бацькавых надзей на яго. Гэта бацька хадзіў з падаянкамі да астрожных брамаў, выглядаючы спаткання з любым Валянцінам. Зрэшты, гэта ён закінуў першыя зярняты свядомасці ў душу падлетка і справакаваў. Хоць і зусім не наўмысна, тое першае сутыкненне сына са слонімскай «прэпарандай», школай-паланізатаркай, што рыхтавала свежыя кадры для апалячвання. Незгаворлівы навучэнец усё ж настоеў, каб не «тутэйшым» і не палякам запісалі, а беларусам. Сцэна ў аповесці «Аб сабе» дужа каларытная, шматзначная. Вось яна:

«...Пакуль настаўнік выгаварыў маё прозвішча, я ўжо стаяў. Настаўнік, нат не ўзнімаючы вачэй, задае шаблонныя пытанні...

*Родная вёска Валяніна Таўлая*



лення. Я трымаюся свайго. Пяро злосна скрыпіць, запісваючы мой упарты адказ.

— Родная мова ў сям'і?

— Беларуская.

— Няма такой мовы!

— Відаць ёсць — калі гаворым...

— Гэта мужыцкая гаворка, бескультурная трасянка, якую забываецца кожны культурны выхадзец з тутэйшых і пасля саромеецца нат прыпамінаць!

— Я не саромеюся.

І зноў ідзе доўгая патэтычная «саната» ў прозе. Астаюся пры сваім. Злоснае пяро скончыла скрыпець. Пад грозным позіркам настаўніка — сядаю, адчуваючы, што хоць бой скончыўся, але цяжкая артылерыя яшчэ загаворыць...» (Валянцін Таўлай.Выбраныя творы. Мн., 1951.С.204-205).

На пачатку вайны, ідучы на ўсход, Валянцін Таўлай вымушаны быў уладкавацца на Наваградчыне ў Ваўкавічах гмінным сакратаром. Узяўся аднаўляць былыя падпольныя сувязі. Наведаўся неяк на хутар да Вайнілаў. І гэта аднойчы ўратавала. Вясной 1942 года ў Ваўкавічы заскочылі партызаны з атрада з-пад Карэліч. І, падняўшы сярод ночы з пасцелі бурмістра гміны і Валянціна Таўлая, пагналі на ўскраек вёскі. Размова была кароткай. Першым ніцма ля плоту ўпаў бурмістр. Дзякаваць, партызан Вайніла-малодшы пазнаў Валянціна — па тым наведванні на хутар. Уратаваў ад «ганебнай» смерці. Ды і самому Валянціну не раз прыходзілася ратаваць сваіх сяброў...



*Зборнік Валянціна Таўлая, які не пабачыў свет*

Паэт з Рудаўкі ніколі не быў фанатычным — ні ў жыцці, ні ў літаратуры. Ад праяў катэгарычнасці ў радках ён ішоў пакручастымі сцежкамі эвалюцыі ў бок глыбока чалавечага паразумення са светам — акаляючым і глабальным. Сваю справу рабіла роздумнае светапазнанне. Нутром была адчута і ўсё больш спазнавалася кардынальная супярэчлівасць, што вяла да самазнішчальнага сутыкнення непрымірымых сіл. Трагедыя Таўлая пачалася даўно, бадай, з падлеткавага ўзросту. У вершы «Малой сястрычцы» паэт спавядальна прагаварыўся: «Не зразумееш мо мяне — пішу табе яго навырост». Гэтак жа і маладым Валянцінам, яго неакрэплай свядомасцю былі прыняты «навырост»



*Валянцін Таўлай з сяброўкай Кацярынай,*
*якой прысвяціў свой верш «Таварышу маёй вясны». Мінск, 1932 г.*

многія зманлівыя ідэі сацыяльна-палітычнай скіраванасці. Таўлай прызнаваўся, што на яго юнацтва —

І арлы садзіліся ахвоча,
Часам — каб да лёту заманіць,
Часам — каб выдзёўбваць вочы...

Выходзіла, што якраз тыя «арлы», што «заманьвалі да лёту», на справе нярэдка аказваліся звычайнымі груганамі, чорнымі воранамі, варанкамі...

У суседняй з Рудаўкай вёсцы Вялікая Кракотка мясцовая моладзь у 1927 годзе адкрыла беларускую бібліятэку, якую ўсе разам ёй дружна надалі імя Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры ў Беларусі, якая насіла імя народнага песняра. Вялікі ўдзел у гэтай справе прымаў і Валянцін Таўлай, які з Вільні разам са сваімі землякамі прывозіў для бібліятэкі кнігі.

Вялікакракоцкая бібліятэка праіснавала 80 гадоў. Яе ўжо няма. Толькі застаўся ў вёсцы ад бібліятэкі вялікі двухпавярховы будынак, у якім сёння гуляе вецер. На першым паверсе бібліятэкі ў холе некалі стаяў бюст Валянціна Таўлая. Знік і гэты бюст. Паціху паміраюць Рудаўка, Вялікая Кракотка, Вецявічы і іншыя вёскі-суседкі. Але памяць пра Валянціна Таўлая, кажучы словамі Максіма Танка, гучыць «набатным звонам над краем».



# Генадзь Лапацін

паэт, фальклярыст. Аўтар кніг паэзіі: «Без чисел и дат» (1997 г., 2003 г.), «Лепить из снега» (2002 г.), «Луны преобладанье» (2003 г.), «Увидеть дерево» (2008 г.), «Около облака» (2012 г.) а таксама шматлікіх публікацый у альманахах і часопісах. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# «На гармоні можна сыграць усё...»

Жыхар вёскі Хальч Емяльян Аўрамавіч Бабкоў. Гэтага чалавека з яго нязменнай гармонню ў руках можна пабачыць у Ветцы на любым гарадскім свяце, на любым кірмашы. Прычым ён не чакае нейкага афіцыйнага запрашэння. Яго запрашае само свята, якое само ўсведамляе, што без музыкі яму не абысціся. Гэта традыцыя пачынаецца з самай глыбокай мінуўшчыны. Выявы музыкаў XI— XII стст. захаваліся на фрэсках Кіеўскага Сафійскага сабора і на бранзалетах ручных гадзіннікаў ранняга Сярэднявечча, на кафлі ў Полацку, мядзельскім замку ды ў іншых мясцінах. Расейскі даследчык Аляксандр Сяргеевіч Фамінцын у сваёй кнізе «Скоморохи на Руси» (1889), вызначае, што прадстаўнікамі свецкай музыкі на Русі з найстаражытных часоў, на працягу шматлікіх стагоддзяў, служылі мастакі ці пацешнікі, якія здаўна насілі назву скамарохаў. Увесь працяглы перыяд гісторыі свецкай музыкі з XI стагоддзя (раней гэтага часу мы не маем пісьмовых сведчанняў) да сярэдзіны XVII стагоддзя можа па справядлівасці быць названы эпохай скамарохаў. Трэба заўважыць, што ў сваёй манаграфіі даследчык прыводзіць шмат тэкстаў адмыслова беларускіх са збораў Пятра Шэйна і Паўла Бяссонава. Самыя першыя скамарохі, як вызначае А. Фамініцын, ігралі на гуслях. Потым да іх далучаюцца спачатку трубы, звонкі, саплі, пазней — сурны, домры, дуды, гудкі (змычкі), ліры, арганы, жалейкі ды інш. Але спачатку былі менавіта ГУСЛІ. На жаль, мы не маем ніводнага адмысловага навуковага даследавання на беларускім матэрыяле. Але сустракаем наступнае вызначэнне скамароха ў «Словаре белорусского наречия» І.І. Насовіча (1870): «Скоморох — скрыпач, простанародны музыка». Паводле прыказкі, якую таксама прыводзіць І.І. Насовіч: «Не бывае вяселля без скамароха». Рыхтуючы гэтую публікацыю, я проста па наітію вырашыў звярнуцца да паэмы Янкі Купалы «Курган». І што? Усяго ў 206 радкоў паэмы ўмясцілася амаль уся салідная манаграфія. Вобраз купалаўскага Гусляра вызначаецца ў вышэйшай ступені этнаграфічнай дакладнасцю. Супастаўляючы купалаўскага Гусляра з хальчанскім музыкам, я заўважыў паміж імі шмат агульнага і ў разуменні таго, што такое сапраўдная музыка, і якое месца займае музыка ў грамадскім жыцці, і якім чынам будуюцца яго стасункі з праваўладнымі структурамі. Але яшчэ больш уразіла іхняе знешняе падабенства. Апісаць знешні выгляд хальчанца можна таксама радкамі з «Кургана»:

*Барада, як снег белы — такая,*
*Незвычайны агонь у задумных вачах,*
*На каленях ляглі гуслі-баі...*

Усё тое самае, толькі замест гусляў у руках Емяльяна Бабкова ягоны ўлюбёны гармонік.

Гарманіст з Хальча Емяльян Бабкоў кажа: «Я іграю для сібе. Сёдні свята. І я доўжын быць на любым сваці... Я сібе счытаю скамарохам. Скамарох, той, што людзей весяліць». І вызначае сваю незалежнасць і сваю непадуладнасць:

«Я скамарох. Я сам па сабе. Я люблю, штобы обшчыства вісяліць. Вот эта называіцца скамарох. Эта ні арціст, эта ні прыдставіцель якой-та ўласці. А эта сам па сабе. Чылавек этат называіцца так. Вот ён узяў гармонь і рады, што ён іграе сам сабе і людзям». Аляксандр Сяргеевіч Фамінцын у сваёй кнізе выказвае меркаванне, што адносна скамарохаў нельга ўжываць словы: «развесяляць», «весяліць» і г. д., у літаральным сэнсе — яны могуць вызначаць і дастаўленне мастацкага задавальнення наогул, якое давала і «вялікае гранне» тых самых гусляроў.

Сапраўдны музыка, паводле меркаванняў Емяльяна Бабкова, гэта не проста чалавек, які ўмела націскае на клавішы альбо перабірае струны, а той, хто здольны здабываць з інструмента музыку. Як гаворыць ён сам: «Як я ўжэ халасцікаваў, у нас было дваццаць чатыры гарманісты, каторыя ўладзелі гармонню. Ні то шта б ён іграў... Што глаўнае ў гарманіста?.. У гарманіста самае глаўнае соль. Еслі ірая вісёла — эта называіцца соль. А другі правільна ірая, з пугаўкі на пугаўку, а солі німа...»

Са старых часоў гарманіст на вясковым свяце быў асобай пажаданай і недатыкальнай. Паводле ўспамінаў Емельяна Бабкова, гарманіста ніхто не мог пакрыўдзіць: «Гарманіста ніхто ні трогаў. Гарманіста віздзе зашчышчалі, як камандуюшчага на фронці. На любой вечарынцы, хоць у чужой дзірэўні... Ніхто ні даўжны трогаць гарманіста, патаму шта гарманіст, ён большы ні прыдзя».

Гармонь прынесла музыканту вядомасць, якая выходзіць далёка за межы Веткаўскага раёна. Пад яго гармонь таньчыў адзін з былых міністраў культуры Беларусі Анатоль Бутэвіч. Вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Ліпскі, які з'яўляецца арганізатарам Фетывалю гумару ў Аўцюках, убачыўшы на адным з фестываляў Емельяна Бабкова нават узрадаваўся: «Аўрамавіч прыехаў, значыць, фестываль адбудзецца!». Сваім сябрам Емяльяна Бабкова лічыць Дзмітры Ровенскі, кіраўнік «Дударыкаў». Як успамінае музыка: «Дзмітрый Дзімтрыевіч Ровенскі на фісціваль міне зваў. Пазнакоміліся мы ў Пінску. Я іму дужэ панаравіўся. Ён міне прыгласіў на фесціваль «Гармонік збірае сяброў». Там была ўся эліта гарманістаў. З Гомельскай вобласці я быў і жанчына з Чычэрска». Заўважу, што III фестываль гарманістаў, пра які ён ўзгадвае, адбыўся ў траўні 2010 года ў Мінску. На памяць пра гэту падзею ў Емельяна Аўрамавіча застаўся вельмі прыгожы плакат з фотаздымкамі ўдзельнікаў. І яшчэ Емяльян Бабкоў ганарыцца сваім сяброўствам з Аляксандрам Завалокіным, які разам з братам Генадзем у свой час стварыў вельмі папулярную на расійскім тэлебачанні праграму «Играй, гармонь», удзел у якой прымалі самыя адметныя гарманісты ўсяго былога Савецкага Саюза.

Мне таксама пашчасціла атрымаць сапраўднае задавальненне ад ігры гарманіста. Падчас адной з нашых сустрэч ён спецыяльна для мяне адыграў цалкам усе вячоркі. Я пачуў у яго выкананні і «Польку», і «Факстрот», і «Барыню», і «Страданія», і «Падыспань», і абавязковыя на вячорках прыпеўкі. І яшчэ мы шмат размаўлялі. І падчас нашых размоў Емяльян Аўрамавіч праявіў сябе

не толькі як цудоўны музыка, але і як сапраўдны знаўца гісторыі гармоні, і як знаўца народнай культуры.

## «І я доўжын быць на любым свяці...»

Я іграю для сібе. Сёдні свята. І я доўжын быць на любым свяці... Як кагда-та свята... Вот напрымер, так: еслі ў хаці гарманіст, значыцца сім'я села, дапусцім, Пасха, разгавеліся... Дак раньшэ на Пасху, на первы дзень, бацька гаварыў, што гармонь ні іграла. А ўжэ на ўтары дзень, тады ж цэлую нідзелю гулялі Пасху да праводнага васкрысення. Значыць, вот ў сям'е гарманісцік, ён іграя вісяліць сваю сім'ю. Так і ета. А патом ужэ начылі хадзіць па вуліцах, на кварціру хадзілі, танцавалі, пелі! А сійчас жа вот я мілодзію вазьму. Спрашываю, жэншчыны маладыя, гаварю: «Што за мілодзія?» І ні знаюць. А када я запеў: «А, да!..» Ужэ забылі песні, песні счас ні пеюць. А маладзёж ужэ гармонь, як старага чылавека... Ужэ мішая ў сім'е. Яго нада здаць у інтэрнат, у Шубіна.

## «Тут заложына ўся гармонія прыроды...»

«Былі венскія гармоні... А патом ужэ нашы масціра... Венская гармонь... Так называіцца німецкі строй... У ніх, напрымер, так: када іграя гарманіст, мехам нада падлажываць. У адну старану іграя, у другую не. А патом ужэ нашы масціра здзелалі гармонь, дзе і ад сібе, і к сабе... Туды і сюды, і звук саздаецца. Называіцца двухгалосыя. Эта была «хромка». І первая гармонь паявілася ў началі васімнаццатага века. Самая папулярная была гармонь — «хромка». Гармонь адна, тока называіцца: «аднарадная», «двохрадная» і «трохрадная». Аднарадная... Эта якая гармонь? Акардзівон. Двохрадная — эта «хромка». А трохрадная — эта баян. Баян... Эта, па-мойму, Белабародаў здзелаў. Быў певец, дрыўнейшы сказіцель і паэт. І масцер пачуў, як ён пея песні, і здзелаў баян. І назваў ні сваім іменем, а іменем Баяна. Гармошка... Былі «лівенкі»... Мех у ніх у адну сторану цяніш на разжым, а кагда зжім, голаса не было. Адзін голас быў. А нашы масціра здзелалі двхгалосае. На немецкай гармоні сложна было іграць, падбіваць нада мех. Што я хачу сказаць... Эта ж — гармонь! Чылавек создан із гармонаў... Гаворaць: «Чылавек такі гарманічны». Гармонія прыроды. А пачаму мы такую красату забылі. А патом будуць шукаць зноў пра гармонь. Но масціроў ужэ ні будзя. І ніхто нічога ні раскажа пра гармонь. А гармонь... Масцер, каторы дзелаў перваю гармонь, ён вышаў у лес, у поле і пачуў музыку прыроды, і ён залажыў усе гармоны этай прыроды і чылавечыства. А скрыпка, мандаліна, балалаічка — там усё не заложына. А тут заложына ўся гармонія прыроды. Тут цэлы аркестр. Эта ж я так іграю. А іграюць дажэ і Бітховіна. Ну, ё прафісіаналы. <А вы не спрабавалі?> Я ж када халасцікаваў, ішчэ і ні ў клубі, ішчэ мы гулялі па хатах, кварціры былі, што іграя первы гарманіст, і я ўжэ перыхватываю. А штоб ён іграў Бітховіна, і я б перыхваціў Бітховіна. Сакалоўскага, я б Сакалоўскага. На ёй можна іграць усё. Усё чыста! Любога кампазітара».



*Емяльян Бабкоў*

## Першая гармонь, альбо сляпы гарманіст Сцяпан Дзярбееў

«Кагда прыехалі ў сорак трэццім гаду із бежанцаў, уся дзірэня ў нас была згарэўшы. Толькі асталося пітнаццаць полуразбітых домікаў. Хто што пазахватываў, хто акоп, хто свой погрыб паддзелаў... І ўжэ вайна прашла... Людзі, удовы плачуць... Бацькі німа... Вайна ж прадаўжаіцца ішчэ... І вот ужэ дзе-та у сорак чыцвёртым, сорак пятым гаду... Тут жыла Ганначка... Тутака была кварціра... І я ўжэ адзену палушубак... Мне было ўжэ дзевяць гадоў... А ў нас был Сціфан Дзербеіў... Ад самага дзецтва сліпой... У іго была гармошка... І я вот этай гармошкай так уўлёкся... Сяджу, так вот гляджу і думаю: «Ух, штоб мне гармонь!» Ну, і што... Раз бацьку папрасіў... Іду с этай кварціры... Іе называлі кварціра... А этаму Сціфану дзевачкі плацілі па рублю ў месяц і прывозілі яму на саначках-самацяжках дравішак... Ён ад сабе навучыўся на гармоні і очэнь

красіва іграў. І я этай гармоняў уўлёкся... Ні то шта, уўлёкся... У міне ген заработаў... У міне чатыры дзядзькі былі, і ўсе ігралі на гармошках. А дзядзька Мікіта да первай міравой вайны іграў на скрыпкі, а потом у перваю міравую вайну яму атарвала руку, ён стаў інвалідам, і скрыпка яго замаўчала. Дваюрадны брат Кузьма іграў... Я пабягу к яму... У яго да вайны была гармонь. А ён ўжэ міне навучыў і на басах... І вот бацьку раз сказаў: «Купі мне гармонь!» Ён: «Мой сынок, ну, за што? Нам есць нечыга... У нас німа ні каровы, ні кабана, нічога... За што ж я куплю табе гармонь?» Што я панімаў тады... А патом я ўтары раз... Ён тожа са мной пагаварыў... А трэцці раз, як пагаварыў... У нас рэмінь вісеў... Такі штырь забіты дзіравянны... Там бацька і шапку вешаў, і палушубак вешаў... Ён як ухваціў этат рэмінь, міне за руку я цапнуў, і здзелаў з маіх плічэй... Во як мех на гармоні... Рубцы чорныя сталі... Я сначала ні бачыў... Зеркала ж не было... Я ж ні бачыў, што там рубцы... І яны ўжэ так пазажывалі... Я і пашоў з хлопцамі на рэчку купацца... Раздзеўся... Хлопцы гавораць: «Што эта такое?» Я гавару: «Эта я прасіў бацьку гармонь купіць... Дак ён міне так біў...» А тады там дзядзька, дзед быў з барадой, падышоў, да гаворя: «Дзетачка, а што эта ў цібе с плічамы?» Я гаварю: «Эта я лез чэраз пліцень, да ўпаў, дак абадраўся...» А ўжэ прызнаўся хлопцам, што бацька міне атлупіў рымнём. Ані гаваряць: «Эта яго бацька... Гармонь хацеў купіць... Дак ён даў гармонь...» Дак бацьку майго агледзіў той дзед і гавора: «Аўрам Сціпанавіч, зачэм ты так дзіцёнка казніў?» «А ён, — гавора,— мяне не казніў? Мне незашта хлеба купіць, а ён гармонь захацеў». А патом ужэ я шосты клас кончыў і сказаў бацьку: «Я ў школу не пайду!» А ён мне так сказаў: «Не пойдзіш у навуку, пойдзіш кароў пасціць». Я яму нічога ні сказаў, рад, што бацька ні застаўляе ўчыцца... А ўжэ пайду з саседам, тут чэраз двор с Мішкам. Началі пасціць цілятак... Нам шчэ кароў ні давіралі, патаму шта карова... Еслі што-та случыцца, судзіць нільзя... А за цілёнка бацька заплоця, судзіць міня ўжэ нільзя... І вот адпасціў я год, у калхозі начыслілі шысот рублей. Ну, ні год, а лета... Даглідалі цілятак, сенам карміліў сараі... Бацька прынося ўжэ этыя грошы, гавора: «Ну, мой сын, ідзі, купі сабе гармонь». Уй! Якая была ў міне радасць. Эта шчасце... У міне такога ні было шчасця, што бацька аддаў мне грошы. А тутака на Станках мой брат быў Кузьма. Я прыбягаю: «Кузьма, бацька даў мне грошы... Пашлі купім». Ён гавора: «Што ты купіш за этыя шысот?» — «Што-нібудзь купім». І прышлі... Самаю такую развалюшку купілі... І начаў ужэ на ёй вучыцца. І кагда мы ўжэ ішлі с Лешчынца, там была таўкушка... У магазіні гармоней не было, а толькі на таўчку... Ён мне паказаў, а на басах я ўжэ ўмеў... І пака дашлі с тыя таўкушкі, я трохі навучыўся... І прама, мы ж пашлі ў васкрысенне, і пашлі ўжэ ў клуб гуляць... Эта быў лазовы клуб у нас, двохэтажны такі... Я давай ужэ учыцца... Дома, у хаці рыпаю-рыпаю, міне выганяюць... А ў нас быў паграбок такі. Дак я туда, у паграбок, залезу, услончык вазьму... Ні свету... Нічога... І там пачці да ўтра... Вот так я і навучыўся іграць. І так у міне ўдачна палучылась... Я ўжэ пашоў у армію, умеў іграць... Іграў ужэ на сваім перакростку... Дзевачкі басіка, хлопчыкі басіка, старушкі стаяць... Глідзяць... Тады старыкоў была многа...

Старыкі з барадамі глідзяць... Успамінаюць моладасць... І я іграю, яны танцуюць... І вот у то ўрэмя... Пачот быў для гарманіста...»

## «У нас фабрыкі закрылісь, а яны там здзелаюць...»

«Гармонь нікагда ні прападзе... Знайце эта... Патаму шта, што такое мода?.. Мода — забытае старае. У міне ёсць друг Ровенскі Дзмітрый Дзмітрыевіч, рукавадзіцель «Дударыкаў». У яго сто піцьдзісят гармоній кустарных, разных марак. І гаворя: «Еслі б з-за граніцы хто агледзіў і ўзнаў, што гармонь кустарная, значыцца: «Прадайце мне гармонь». Не спрышыя: «Сколькі яна стоя?» Сколькі ў цябе совісці ё, сколькі сказаў, столькі і плоця», эта маё мненіе, што баян, гармонь і акардівон — музыкальныя інструменты нікагда ні даўжны ісчэзнуць з памяці людской. Аны даўжны вазрадзіцца. Січас акардзіон і баян... Акардзіон — эта загранічная музыка, там на акардзіонах у аснаўном іграюць... А баян ёсць і за граніцай... Но даўжна і гармонь абратна вірнуцца ў свае сцязі. Патаму шта гармонія ёсць гармонія, гарманічны... Гарманічны чылавек... Чылавек здзелан з гармонаў... Значыцца, гармонь даўжна абратна вазраціцца... У нас фабрыкі закрылісь, масціра ўжэ памерлі, кустары... Дзеці ні пашлі па стапам бацькоў... А яны там здзелаюць і фабрыку і навучуць сваіх людзей іграць, і будуць ад нас адмываць грошы такія!.. І бацька самую дарагую машыну прадасць і купя гармонь»...

## «Для любой пары года былі песні...»

<*Чым ранейшыя песні былі лепшыя за новыя?*>

«Це песні былі і радасныя, былі і гарасныя, была пасіўная песня, была песня ўборачная. Раньшэ на поле зімля пела. А січас на полі зімля плача. Тока чутна стон. Раней бярэ плуг, запрягая каня і на ўсё поле арэ, плуг арэ і ён арэ, ні сцісняіцца нікога. Луг пеў і плясаў. Ідуць дзевачкі, сім'ёй едуць на луг. Там песні пеюць. Косюць старыкі з расой — песні!.. Грабуць дзевачкі, песні пеюць. Эта былі для сінакоса спецальныя песні. Для жніва былі песні. Канешна, я іх не знаю, но так старыкі гаварылі. Для любой пары года былі песні. А ціпер песні... Счас німа сэнса ў песні. Эта так: што бачу, то і паю.

<*Чаму старыя не блыталі, калі што пець: калі калядныя, калі жніўныя?*>

«Патаму шта тады была... Первае, тады цэрква правіла ўсім, і цэрква давала ўстаноўку ў якія празнікі пець песні, і складалі песні спецальныя. Вот есць такая песня.

Чаму ж мне ні пець,
Чаму ж ні гудзець,
Када ў маей хатачке
Парадак ідзець...
Када парадак, чаму ні пець, чаму ні гудзець?»

## «Гарманіста віздзе зашчышчалі, як камандуюшчага на фронці...»

<*Гарманіст мог пайці ў іншую вёску?*>

Канешна... Гарманіста ніхто ні трогаў. Гарманіста віздзе зашчышчалі, як камандуюшчага на фронці. Но былі рэўныя, што маглі атазваць, сказаць: «Ухадзі атсюда!..» Ну, што мне... Сбраўся і пашоў...

<*Абаранялі ў сваёй?*>

У сваёй дзірэўні... Этат гарманіст... Я прышоў і пачаў іграць красівей яго, тут рэўнасць: «Давай яму ўломім, штоб больш ні хадзіў!..» А так я сколькі хадзіў у Навасёлкі, я дружыў з ёй тры гады... Ну, у міне там была многа друзей. Дак міне міне ні трогалі... А так... Ні адзін гарманіст ідзе, а ідуць хлопцы, барабаншчык ідзе, хлопцы песні пеяць. Прышлі, дапусцім, летам на пітачок, дзе гуляюць. Еслі залезлі, там ідзе бойня, да панажоўшчыны. І рэзаліся, і садзіліся ў цюрму. Было ўсяк.

На любой вечарынцы, хоць у чужой дзірэўні... Ніхто ні даўжны трогаць гарманіста, патаму шта гарманіст, ён большы ні прыдзя.

## «І эту частушку я сам слажыў...»

У Навасёлках была ў міня падруга... І шлі мы гуляць.. Чыво ж і слажыў я эту частушку... Я чэраз раўчак я перапрыгнуў, як парань, а яна... Я руку падаў... Я бачыў, што зачарпнула, такія былі боцікі разінавыя, такія уклішоныя, яна зачэрпала ваду... І глаўнае, пры мне не вылліла, так і гуляла вечар. А патом я яе праважаў. Я на яе гавару: «Пашлі дамоў... Можа ногі памерзлі?..» Яна гавора: «Не..» І бачу нагу вынімая із сапожыка і пад пальто хавая... А тады другую нагу. Я ўжэ бачу, жалка яе стала, гавару: «Не... Пашлі-ка мы ўжэ дамоў». А тады я будта пашоў, падышоў пад вакно... Яна хату адкрыла і этат свой румынак як кінула!.. А сама на ліжанку ўскочыла, села і ногі палажыла... І частушку сачыніў:

*Успомні, мілка, як бывала,*
*Ногі мёрзлі, ты стаяла.*

А ўжэ, када пастрэлі, ён старухі спеў частушку:

Дак яна яму на старасці лет гавора:

*А січас жа, мілы мой,*
*Ногі цёплыя, а мы дамой.*

І эту частушку я сам слажыў, і этай сваёй падругі я ні разу не прызнаўся, што эта я сам слажыў, а пеў... Пад гармонь... Там жэ танцуюць... У Навасёлках там тожэ была такая красата!.. Пітачок... У Навасёлках там пад дубам гулялі. Но там конзавадскія гулялі. Там козавод, адзяленіе была... Был там адзін гарманіст, забыў фамілію, рукі такія, што гармонь возьмя, яна як дзецкая. І так красіва іграў...

## «Восем гадоў не браў у рукі гармонь...»

«Не... Тады я іграў очэнь красіва, а ў армію пашоў, у році ў нас гармоні не было, а з арміі прышоў, я пракцічэскі і забыў... Начаў па-новаму. Купіў послі арміі гармонь «Ленінградачку». А то ў міне была гармонь кустарная, самая дзішовінькая, на талкушкі купілі. А када ўжэ... Восем гадоў не браў у рукі гармонь... Як памерла жонка... Я гармонь восем гадоў ні браў у рукі. А патом бачу, цяне мяне... Я гляну на гармонь... Я давай трохі прывыкаць... І я за восем гадоў пракцічэскі забыў іграць... У міне счас ігра не тая, каторая была... Перва іграў... Тады «Полька» ў міне была, такая чоткая «Полічка».

«Мой умер брат Васіль старшы... Так што сорак дней я гармонь не чапаў... Ні песні, нічога.. Я саблюдаю абычаі сваіх прэдкаў...»

## «Вясёлыя музыкі»

*Ансамбль «Вясёлыя музыкі» — сапраўдны брэнд Веткі. Створаны пры Веткаўскім гарадскім Доме культуры ў 1992 годзе, ансамбль з цягам часу атрымаў ганаровае званне народнага, стаў лаўрэатам шматлікіх конкурсаў. І практычна ніхто ўжо не ведае, што ўсё пачалося з ідэі, якая ўзнікла аднойчы ў Емяльяна Бабкова.*

«Вот этат анасмбль... Я ездзіў па фісцівалях і бачыў, як у дуэці іграюць, як іграюць у трыо. І я надумаўся: «Пайду к Савоставу Міхаілу Пятровічу». (Міхаіл Пятровіч Савостаў на той час працаваў загадчыкам Аддзела культуры Веткаўскага райвыканкама. — Г.Л.) «Гавару: «Міхаіл Пятровіч, нада ў Ветцы саздаць ансамбль гарманістаў». Ён: «Пажалуйста!» Я абраціўся к Байдуку. Гавару: «Сціпан, у цібе ё магнітафон?» Ён гавора: «Ё». Ён сначала прышоў ка мне дамоў. Мы з ім паігралі, у нас палучаіцца... Красіва... Я ж бачыў, як там выступаюць.. Займаюць места. Я гавару: «Знаіш, што... Прыдзі ты з магнітафонам ка мне, запішым, паслухаім». Ён прышоў, мы запісалі «Страданія», вальсы... Палучаіцца красіва. Дак я яму гавару: «Шукай хлопцаў!» Луткоў быў Пецька. А патом к нам прысаедзяніўся Мішка Пажаркоў, а патом Васіль Шэвелеў, а патом прысаедзяніўся к нам Халіпаў Міша, а патом Самонаў. Нас сабралася... А патом Рослікаў Павел. Но факт, што мы сабралі харошы ансамбль. Такі быў ансамбль! Што ўтарое места ў Мінске ў рэспубліке заняў».

## «Як сімфанічыскіе аркестры...»

«На гармошкі, еслі харошы масцір, ён мажэ іграць, як сімфанічыскіе аркестры. І гляжу, у нас жа німа гармоній у бальшых сімфанічыскіх аркестрах. Гармоній німа. Баян ё. Акардзіона і гармошкі німа. У музыкальных школах, у музыкальных вучылішчах ні вучаць гармошку. Дажэ і ў праграме німа. Такую красату ні ізучаюць. Баян — эта тожэ гармонь. І акардзіон тожэ гармонь. Народ любіў. А счас ужэ не любя. Я ў Веткі калі пайду з гармонню, падхажу, маладыя аж атварачываюцца. Ну, як эта так? Ад гармошкі атаварачываіюцца.

Дажэ ў музыкальных вучылішчах гармонь ні прыпадаюць. Эта як паняць?! Пачыму баян ізучаюць, акардзіон? А пачаму гармонь? Прыходзя паступаць... «На якой музыцы іграіш?» — «На гармоні?» — «А мы гармонь ні прыпадаём». А людзі-то ідуць... Маладзёж ідзе на гармонь вучыцца... А ні прыпадаюць... Нашы прэдкі ні ігралі на баянах... Наша нацыянальная была скрыпка... Бабкі пад скрыпку... Ён ірая... Яны: та-та-та, та-та-та... Танцуюць. А када гармонь паявілася, скрыпачы пашлі ў адстаўку... Гармонь вісялей начыла іграць... І пад скрыпку ты так ні падпеіш, як пад гармонь.

Дажэ гітара. Я ў гітары нічога ні панімаю... Гітары я ні панімаю, хоць я і гарманіст. Там жы мілодзіі німа. Мне ні панятна, ні знаю у каго спрасіць».

## «Гармонь бывая плакучая і пявучая...»

«Гармонь бывая плакучая і пявучая... Мілодзію можна сыграць і плакучую і пявучую... Гармонь пявучая, каторая шчэ ні тронісся клавіша, а яна ўжэ адзываіцца. А плакучая — эта так: на кнопку нажмеш, а яна ні зразу, а патом адзываіцца, адстае... Эта так называлісь гармоні няўдачныя. Пачыму ж прыходзяць к масціру заказываць гармонь, к кустару... І гавора: «Вот у мяне тры гармоні... Я іх здзелаў на прадажу... Я ўжэ саабшчыў, штоб прыехалі забіраць... Выбірай сабе любую...» Ён на адной паіграў, на другой, на трэццяй, тады гавора: «Вот эта пявучая гармонь... Такую мне здзелайце...» — «А чаго эта?» — «А эта пявучая... Мне наравіцца». Тока каснуўся пугавіц, яна ўжэ атвеціла... А на тую нажмеш, ждзеш, пака яна табе дасць свой голас».

## «У то ўрэмя гарманісты былі ў пачоці...»

*<Вы казалі, што калі хлопец не іграе на гармоні, дзеўка не хацела з ім дружыць.>*

«Да. Эта мае словы... Ні хацела хадзіць, дружыць... Ён счытаўся непаўнацэнны... А на гармоні еслі... Стараліся на басах навучыцца... І ўжэ ў хаці, хварціры, клубаў жэ не было послі вайны... На басы... «Мой ўжэ на гармоні ірая!..» Яна ж ні панімая, што такое басы і галасы... Нада сводзіць... «Мой ужэ на гармоні ірая!..» У то ўрэмя гарманісты былі ў пачоці. А счас... Я вот гавару... А са слізамі на вачах... Як эта так! Такую музыку забыць... Гармонь — эта пішча для душы чылавека... Гармонь выігрывала баі... А счас што за музыка... Вот як на стройку заходзіш... Я счытаю, што эта не музыка... Эта шэлуха з рыбы, каторую любы звер галодны не хоча есць... Уключаюць дзінамікі... Я люблю меладзічнаю музыку... Када-та духавы аркестр іграя вальс, серенады... Іна тожэ очэнь радуя душу чылавека... Я ехаў з фісціваля Аўцюкі... І заехаў к брату... І прышлося ехаць на маршрутцы... Я ж гарманіст... Я ж вон як громка іграю... А эта: ііііііііііііііііі! І ўсяк... Эта не музыка, а проста іздзевацільства... Дак штоб я ні ехаў лесам, я б ужэ ні пажалеў за той білет... А меснасць неізвесная... Вылезу з гармонню... Я іму, праўда, гаварю: «Давайці-ка я вам сыграю...» — «Дзедушка, ні нада. Гармошка — эта ўжэ ні модна...» Я

паслухаў, прыехаў на вакзал, вылез, гаварю: «Знаіш што, дарагой, відна, што ты маладой... А я ўжэ пажылой... Прэждзе, чым уключыць музыку, ты доўжэн спрасіць у пасажыраў: «Можна ўключыць музыку?..» Вот прыдзі на стройку і паслухай... Там б'юць сваі... Дзізель-молат... «Ву!.. Ву!..» Точна ў этай музыкі... Музыка даўжна быць, штоб душа ўпітывала...»

## «І я падымаюся, заходжу ў хату, сам сабе паіграю...»

«Вот утамлюся, чуць парог пераступлю, на гармонь палідзеў, як усё адно ў спарцмена ўтароя дыханіе. Узяў гармонь, паіграў, усталасць прашла».

«Счас людзі ўтомленныя, ні чуюць нашых абычаў, ні чуюць ні песен нашых, ні музыкі нашай ні чуюць, і полнасцю ў людзей дзіпрэсія. Ужэ ідзёць малады хлопіц у армію, дак ні ім кожа гавора. І такія ж гады былі ціжолыя, посліваенныя, і пелі людзі, пелі. Ідуць на луг, на сінакос с косамі, з граблямі, грэсць сена, песні пеюць! Музыка!.. Песні!.. Музыкі... Песні... Гармонь ніхто ні браў... А песні пеюць... Жнуць на полі, сірпамі жнуць... Тамака адна брыгада, пеюць!.. Там утарая брыгада, пеюць! Людзі весяліліся... Эта ішчэ саблюдалі традзіцыі сваіх прэдкаў... А патом... Штой-та палучылася, што песні німа... Я сійчас бы рад бы выці на вуліцу... Выходжу, сяду на стула і мне становіцца стыдна на гармоні іграць... І я падымаюся, заходжу ў хату, сам сабе паіграю... Ідуць па вуліцы, і хоць бы хто падышоў... Ета хто, ужэ пад гальштук заклаў, дак стане пастаіць. А другія: «Зачэм ты?! Што ета за музыка?! Перастань іграць!..»

«Я быў на Дне Незавісімасці, ішоў с астаноўкі, іграў, дак мне перадаў адзін: «Баба адна: «Дзед ішоў з барадой. Напіўся, і так іграя на гармоні! Пея песні!» Бачыш, ужэ яна... Дак я сказаў: «Ён у рот ні бірэ водкі». Дак удзівілася: «Ні можа быць...» Ні паверыла.

Каторыя ні любяць, ані відны. Я ўжэ па ліцу бачу, што атварачываіцца, ні любя гармонь эту. А я падхожу, гавару: «Чыго ў цібя ўлыбкі німа. Гармонь іграя, доўжын чылавек улыбацца, вісяліцца, пець, танцываць». Ішчэ хужэ атвярнуўся, думая: «Што ты мне надаідаіш, стары дзед?».

## «Гармоні трэба даваць ордзен...»

«Без гармоні празнік пахож на п'янку... І ўсё... Када-та гармонь... Еслі прыстольны празнік, первую чарку выпілі, і за сталом начынаюць пець... А еслі гармонь, дак тада празнік от і до!.. Еслі німа песні на празніке... Я ўжэ ні хачу сказаць па-другому... Эта — похараны... На похаранах ні пеюць... Дак і эта...»

«Дзірэўня без гарманіста— эта, як сім'я... Мужык умер, памерла гармонь — эта ўдава ўжэ... Без гармоні жыве... Жонка памерла... Эта ўжэ жыве без гармоні мужык. Без жонкі мужык — эта ўжэ ні сім'я. Даже і песня ё «Якая Марь'я без Івана...» Так і эта. Раз німа гармоні — эта ўжэ ўдава».

«І гармонь дажэ ва ўтарую міраваю вайну, да і пры любой ўласці, первай нада была даваць ордзен гармоні... Первы ордзен — герой. Яна ў бой віла, яна з боя выводзіла, ана голад... Адзін гарманіст ... У яго восемь дзяцей было, а послі вайны німа чыво есці, дак ён атверніцца, гавора: «Дзеткі, танцуйця, танцуйця...» І сам плача... Адаўлікаў ад голада...»

## Замест пасляслоўя

Аднойчы мне сапраўды падалося, што гармонь Емяльяна Аўрамавіча Бабкова гучыць як цэлы аркестр. Тады і нарадзіўся верш-прысвячэнне музыку.

* * *

*Емяльяну Бабкову*

1
гармонь іграе як аркестр
як быццам з самых розных месц
музыкаў тут сабрала скруха
не на дуэль
на свята Духу

і кожны з іх дакладна знае
як душы музыка яднае
дзе прамаўчаць
дзе ўставіць сола
дзе заспяваць патрэбна хорам
а гарманіст за дырыжора...
2
а гарманіст
нібы сам Бог
пацешнік
зух і скамарох
як дзеўку ён гармонь прасватаў
каб з ёю быць на кожным свяце

вачэй яму ні засціць зайздрасць
ён вышай гора
вышай шчасця
якімі перапоўнен свет
бо ён музычны Запавет



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт.
Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.

# Унук Багдановіча?..

***Арцёмаў А. Скрозь кіламетры: вершы і пераклады. Мінск: Кнігазбор, 2016. 66 с.***

*Юры Верэшчака, «Наша Ніва», 1913, №26-27. С. 1-2.*

«Прывітанне! Я — Аляксей Арцёмаў, беларускі паэт рускага паходжання (гучыць, га?)», — так прадстаўляецца нядаўні першакніжнік, фіналіст конкурсу беларускага ПЭН-цэнтра для маладых літаратараў, «шорт-лісціст» прэміі «Дэбют», тульскі творца (туляк? але не туляга!), такой іпастассю больш вядомы ў Беларусі, чым у Расіі, на сваім сайце з характарыстычнай назвай[1]. Паэт гадоў пару як увайшоў у беларускую літаратурна-медыйную прастору праз публікацыі ў перыёдыках — «Маладосць», «ЛіМ», «Верасень». А летась ён саспеў для кнігі. Яна выйшла ў серыі «Кнігарня пісьменніка» (што само па сабе самавіта) і, здаецца, звярнула на сябе ўвагу (прынамсі пра гэта сведчыць вышэйадзначаны поспех).

Назва выдання — «Скрозь кіламетры» — толькі на першы погляд адназначная: нібыта гаворыць пра пераадоленне лірычным героем сцежак-дарожак, прапануемых у кнізе вершаў. Як той казаў, тэма не новая. Аўтар выступае як бы ў працяг традыцый. У тым ліку беларускай літаратуры. Успомнім класічнае:

Дарогі, вечныя дарогі!
Знаць, вам спрадвеку самі богі,
Калі красёнцы жыцця ткалі,
І вашы лёсы вызначалі,
Няма канца вам, ні супыну;
Вы жывы кожную часіну,
То задуменны, смутна строгі,
Як след захованай трывогі,
То поўны чараў спадзявання,
То страхаў цёмнага знікання,

[1] Сайт Аляксея Арцёмава [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://paet.by/index.html. Дата доступу: 13.04.2017.

Калі душа свой лёс прачуе
І ноч нябыту зацянюе...[2]

Аднак знаходзіцца яшчэ адно, магчыма, меней ужывальнае «адгалінаванне» сэнсу — калі слова «скрозь» разглядаць у якасці прыслоўя. Тады яно мае значэнне «ўсюды» або «заўсёды, увесь час»[3]. Відаць, для кнігі А. Арцёмава пасуе больш менавіта апошняе. І тады хранатопныя па сутнасці кіламетры паўстаюць не толькі і не столькі перад лірычным героем.

Ці не хочаце купіць гадзіннік вы?
Ён стары — бадай, не менш за сто гадоў.
Дзед яго рамантаваў, як быў жывы,
Я ж нядаўна папраўляў прыбор наноў:

Механізм заводзіў, чысціў цыферблат...
У камплекце ключ аддам і гіры дзве.
Толькі стрэлкі вырваў я даўно з-пад шкла,
Каб не бачыць, як згарае ўласны век.

*(«Гадзіннік», с. 32)*

Сам жа паэт у гэтых нетрах кіламетраў «шукае дарогу да сіняй вады» — так называецца адзіны раздзел арыгінальных вершаў у выданні (другі — «Смугой пакрыліся нябёсы...» — перакладны). Прычым, пачынаючы ўжо ад назвы раздзела, пошук той пахне дзэнам. Як слушна заўважыла Наста Грышчук, «герой ніколі не выступае актыўным удзельнікам хоць якога дзейства. Ён заўжды — «чалавек за камерай». Калі ж размова заходзіць пра яго самога, герой гэтаксама застаецца ў нерухомасці: за шклянкай віна, перад вогнішчам, у сузіранні навальніцы...»[4]

Я чую, як недзе далёка
Маленькая птушка пяе.
Вітаю цябе, валавока[5]!
Вітаю напевы твае!

*(«Ляці, валавока!», с. 5)*

Такімі радкамі адкрываецца кніга. Характарыстычна!

У гэтым жа вершы паэт прыадкрывае таямніцу свайго ~~псіхічнага комплексу~~ «творчага метаду»:

Шукаў іх (сады, дзе... ўтульна заўжды. — *А. Т.*) у град і залеву,

---

[2] Колас Я. Збор твораў. У 20 т. Т. 8. Паэма «Новая зямля» / рэд. тома М.і. Мушынскі; падрыхт. тэкстаў і камент. Э.А. Золавай; Нац. акад. навук Беларусі, ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. Мінск: Беларус. навука, 2009. С. 249.

[3] Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы: Больш за 65 000 слоў / Пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко; Афармленне А.М. Хількевіча. Мінск: БелЭн, 1996. С. 604.

[4] Грышчук Н. Аляксей Арцёмаў. Скрозь кіламетры: Вершы, пераклады // Саюз беларускіх пісьменнікаў [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://lit-bel.org/by/library/aljaksjej-arcjomau.-skroz-kilamjetry-vjershy,-pjeraklady.html. Дата доступу: 13.04.2017.

[5] Заўвага. Валавока — невялікая лясная пеўчая птушка атрада вераб'іных шаравата-бурага колеру з кароткім, прыўзнятым хвастом (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.skarnik.by/tsbm/11686. Дата доступу: 13.04.2017).

Дарэмна хадзіў па зямлі,
І толькі птушыныя спевы
Надзеі згарэць не далі.

З прыведзеных радкоў відаць, што лірычны герой пакінуў марны пошук і засяродзіўся на сузіранні. А верш, які даў назву раздзелу, лакалізуе топас дарогі: «...Дзе віецца Бярэзіна цёмнай змяёй...» (с. 24).

Паэзію А. Арцёмава можна выразіць наступнай тэзай: усходнія матывы заключаныя ў традыцыйныя еўрапейскія вершаформы. Часам тыя матывы акрэсліваюцца выразна, нарошчваючы яшчэ адзін корань-прыдомак «лейт»[6] — вядучы:

Я хутка знікну тут, сярод вады,
Каб праз стагоддзі рыбай нарадзіцца.
*(«Маўчыць напаўпразрыстая вада...», с. 9)*

У сувязі з гэтай тэзай варта азнаёміцца таксама з вершам «Я — частка той шэрай масы, што кулю зямную таўхае...» (с. 39) пра фізічную «рэінкарнацыю» (даруйце аксюмарон) лірычнага героя ў грушы. Тым не менш паэтычны суб'ект захоўвае еўрапейскае, можна сказаць, матэрыялістычнае ўсведамленне канчатковасці свайго існавання:

Так! Мне не ажыць ніколі, ды толькі ўсцешаны буду,
Што я зрабіўся нарэшце маўклівым і шчырым дрэвам.

Таму лірычнаму герою баліць не толькі «за ўсе мільярды двухногіх» (У. Караткевіч — адзін з любімых аўтараў туляка), але і за раслінны свет («Вяргіня», с. 10).

Менавіта праз гэты боль асэнсоўваюцца жыццёвыя тэмы, якія так ці інакш зачапілі паэта, турбуюць і не адпускаюць яго. Хай гэта будзе ці то каханне, ці то Чарнобыль, ці то — хіба самая прысутная тэма — пытанні жыцця і смерці.

Сімптаматычна, што аўтар нібы імкнецца «замедытаваць» боль. Але ўсё адно па-еўрапейску прарываецца нешта, якое знаходзіцца паміж пачуццямі і сэнсам і не мае адэкватнага наймення. А можа, і мае? — Паэзія.

Гарбата гарачая, даўкая
Ратуе ад даўніх турбот.
Ля ног задаволена каўкае
Мурлаты дагледжаны кот.

Паўзмрок жоўтай лямпай расквечаны,
Сумуе герань на акне...
Жыві, як умееш. І ўвечары
Ніколі не згадвай мяне.
*(«Гарбата гарачая, даўкая...», с. 30)*

З гэтых радкоў таксама бачна, што А. Арцёмаў знаходзіць і новыя (ці прынамсі малараспаўсюджаныя) варыяцыі тэмы кахання. Нават знаёмыя яе вырашэнні маюць павеў свежасці. Напрыклад, вось як перадаецца сублімацыя:

---

[6] Цікава, што ў нашай мове знаходзіцца амонім-неалагізм, які ўзыходзіць да англійскага «late» і азначае познюю стадыю камп'ютарнай гульні, калі героі ўжо дасягнулі высокіх узроўняў. Гэты, яшчэ адзін сэнс таксама дарэчны ў герменеўтыцы творчасці А. Арцёмава, таму што міжволі падмацоўвае якраз яе ўсходні кампанент.

Свавольныя словы сплятуцца ў радкі,
Запомніцца клавішам дотык рукі,
Але праз хвіліну якую
Агонь успамінаў апаліць душу.
Знянацку здаецца: не вершы пішу —
Жаночую шыю цалую.
*(«Свавольныя словы сплятуцца ў радкі...», с. 28)*

У творы прысутнічаюць яшчэ дзве распаўсюджаныя ў паэзіі А. Арцёмава рысы — (сама)іронія і элементы постмадэрнізму. Дзеля гэтага канцоўка верша вартая даслоўнай згадкі (хаця тут аўтар і адыходзіць ад сваёй іманентнасці):

Але я не млявы лірычны герой.
Адказу няма? Дык па звычцы старой
Не ныю (а іншы б заплакаў).
Няхай ты з каханым шчаслівы жывеш,
А я дапішу свой нясканчаны верш
На радасць чытачкам з філфакаў.

Аднак, у прынцыпе, і ў адхіленнях ад традыцыйнага паэтычнага пісьма А. Арцёмава можна знайсці наследаванне. Ці ж не падышла б апошняму цытаванаму твору наступная характарыстыка, прыменена ў якасці паказчыка знойдзенага ў паэзіі Іосіфа Бродскага постмадэрнізму:

«...Поэт, однако, стесняется предстать в глазах читателя столь неправдоподобно идеальным, защищается иронией и самоиронией, подтрунивает над собой, целомудренно уводя главное в подтекст. Да и достаточно уязвимая позиция «брошенного» диктует свой этикет поведения.

<...> Как бы и не о себе самом говорит поэт, а о том, как все бывает в жизни, в человеческой судьбе, себя же будто вынося за скобки, «попутно» и «между прочим» сообщая о пережитом крушении любви»[7].

Дадамо, што, як і ўказаны нобелеўскі лаўрэат, малады тульскі паэт у дадзеным выпадку напаўняе аўтапасмейванне (але не высмейванне) рэфлексіяй у квадраце — самааналізам над самааналізам.

Увогуле любая сучасная мастацкая творчасць, нават мэтанакіравана акадэмічная і традыцыяналісцкая, не можа пазбегнуць паралелей з вынікамі папярэднікаў. Так і ў паэзіі А. Арцёмава знойдзецца шмат «спасылак» — галоўным чынам, аднак, міжвольных — на класіку сусветнай культуры. Ці ж нельга параўнаць са славутым выразам Мюнхгаўзэна «Каханне — гэта тэарэма, якую трэба кожны дзень даказваць» наступныя радкі:

Кахаць — як будаваць вялікі дом:
Работу пачынаем з катлавана.
Капаем уначы, капаем днём,
Працуем і адказна, і старанна.
*(«Кахаць — як будаваць вялікі дом...», с. 29)*

[7] Скропанова И. С. Русская постмодернистическая литература: Учеб. пособие. М.: Флинта: Наука, 1999. С. 184-185.

Знаходзяцца, канечне, і свядомыя моманты культуралагічнай інтэртэкстуальнасці. Напрыклад:

— «(Цярпі, Эўтэрпа гаваркая!)» (с. 18);

— «Гэй, Дыяніс, мяне прабяры...» (с. 19);

— «Не дойдзе да Тэначтытлана ацтэкскі ваяр...» (с. 21);

— «...Чыгунка, быццам Стыкс, цячэ» (с. 30) і інш.

Прычым не на ўсе выпадкі нават у падрыхтаванага гуманітарнай адукацыяй чытача яе хопіць. Тады, як сёння модна казаць, Гугал вам у помач.

Пагодзімся: традыцыяналізм у версіфікацыі не перашкаджае эстэтыцы твораў, не баналізуе яе і «ніякім чынам не ўплывае на арыгінальнасць верша», прычына чаго, паводле крытыкі, бачыцца ў адсутнасці штампаў[8].

Чытач, знаёмы з паходжаннем А. Арцёмава, несумненна, будзе прыглядацца да засваення паэтам розных узроўняў беларускай мовы, але найперш лексікі. Тут варта адзначыць, што словы ў вершах жывыя, не механічна ўкладзеныя. Аўтар шукае і знаходзіць (відавочна, не абмяжоўваючыся слоўнікамі) лексічныя залацінкі: рахуй, покрыч, воглы, вокамгненны і г. д. Адмыслова не шукаў, але не здзівіўся б сачыненню паэтам лексічных наватвораў.

Адчуваецца, што для тульскага творцы блізкая пазіцыя расійскага класіка:

Поэзия —
та же добыча радия.
В грамм добыча,
в год труды.
Изводишь
единого слова ради
тысячи тонн
словесной руды[9].

Затое — якія вобразы ўдаюцца! Вось толькі некаторыя:

— «зорка далёкая зашаранела» (с. 15);

— «чорна-белыя хмары, як пасмы / на зялёным ілбе Машука... / Заўтра сонца траву будзе пасвіць / пацячэ павуціння рака» (с. 17);

— «бо вясна — матуля маладая — / знічам зноў чырвоніць небакрай» (с. 37) і да т. п.

Апошнія з працытаваных радкі аддаюць (магчыма, на ўзроўні суб'ектыўных адчуванняў) імажынісцкім маладнякізмам. Іх працяг яшчэ больш характарыстычны:

Лёд растане, і з яе далоняў
Жвавы сын саскочыць — красавік.
Малатком святла ён шпарка ўгоніць
У труну зімы апошні цвік.

*(«Снег яшчэ на вопратку спадае...», с. 37)*

---

[8] Грышчук Н. Што прэзентаваў беларускі кніжны рынак // Звязда [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://zviazda.by/be/news/20170412/1492000384-shto-prezentavau-belaruski-knizhny-rynak. Дата доступу: 13.04.2017.

[9] Маяковский В. Собрание сочиненей в двенадцати томах. Т. 4: Стихотворения 1926-1927. М.: Издательство «Правда», 1978. С. 29.

Уважлівае прачытанне вершаў А. Арцёмава дае падставы казаць, што аўтар мае ці не перманентны паэтычны светагляд і гэта яму дае магчымасць заметафарызаваць нават банальны быт. Як у наступным выпадку:

Вясна бяжыць па лужынах,
Святло цячэ ракою.
Мой свет хваробай звужаны
Да аднаго пакоя.

*(«Вясна бяжыць па лужынах...», с. 34)*

Месцамі, аднак, адчуваецца пэўная штучнасць. Напрыклад: «ружавеюць ядвабныя цені» (с. 33). Тым не менш яе можна занесці ў разрад выдаткаў вытворчасці. Было б дзіўна, каб іх не было за сотні *кіламетраў* ад беларускай стыхіі пры наяўнасці такіх агрэхаў у большасці сучасных маладых літаратараў, якія становяцца на творчае крыло ў моўным асяроддзі радзімы. Да яго туляк працерабіўся скрозь *кіламетры*.

У сваю чаргу заўважым, што русізмаў (нават на ментальным узроўні) у творчасці А. Арцёмава меней, чым у Максіма Багдановіча. Што праўда, апошні не меў магчымасці, знаходзячыся ўдалечыні ад радзімы, звяраць праблемныя моманты са слоўнікамі, літаратурнымі кантэкстамі, натуральным асяроддзем, як сёння дазваляюць сучасныя сродкі камунікацыі.

Цікава было чытаць прадстаўніка беларускай літаратурнай «дыяспары» праз прызму яшчэ аднаго пытання: «Якую рыфмоўку практыкуе аўтар?» Пры ўсім пры тым, што нярэдка пракідаюцца рыфмы чаканыя, нават заезджаныя (накшталт «навошта / пошта», «праклён / паштальён», с. 44; «душу / пішу», с. 28), відавочна, А. Арцёмаў імкнецца да свежасці сугуччаў, наконт удаласці якіх вырашаць чытачам:

А шчупак не бярэ, дык хоць бы
Перакінуцца з сябрам словам...
Неба шэрае на самоце
Ціха шэпча ў адказ: «Рыбно вам!»

*(«Намярзае на ветры лёска...», с. 45)*

У сувязі з гэтым ізноў прыгадваецца Ул. Маякоўскі, які ганарыўся адсутнасцю паўтораў у рыфмах сваіх «лесвіц» (у адрозненне ад вершаў Сяргея Ясеніна — дарэчы, аднаго з паэтаў, любімых А. Арцёмавым, як гэта ні парадаксальна глядзіцца ў намі абазначаным кантэксце)[10].

Аналогіі, асацыяцыі, пераклічкі... Сёння яны будуць у творчасці кожнага. Іх колькасць і якасць залежыць ад суб'екта-рэцыпіента, яго кругагляду і настрою

---

[10] Што праўда, паводле слоў нядобразычлыўца апошняга Аляксея Кручоных, які напісаў літаральна наступнае, чаго немагчыма не працытаваць: «До чего небрежен порой, например, Маяковский, а и тот однажды заявил с гордостью: — «Вот как я честно работал: во «Всем сочиненном Маяковским», нет двух одинаковых рифм!» Подражания, заимствования, перепевы и самоперепевы у Есенина так явственны, что даже критика, которая вообще-то к Есенину не в меру благосклонна, и та их отметила» (Крученых А. Проделки есенистов // Библиотека русской и советской классики [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://ruslit.traumlibrary.net/book/kruchenih-prodelki/kruchenih-prodelki.html. Дата доступа: 13.04.2017).

на пэўны тэкст. Іншая справа, ці складваюцца яны ў свядома зададзеную тэндэнцыю. Яна якраз у А. Арцёмава не праглядаецца. Інакш гэты водгук можна было б назваць, да прыкладу, «Мэтры і кіламетры».

Зрэшты, праведзеная напачатку паралель з Коласавымі радкамі неабавязковая. Як і належыць паэту, які ў Беларусі бывае нячаста (па яго ж прызнанні — гл. згаданы раней сайт), больш адчуваецца падабенства менавіта з Багдановічам. Зразумела, ніхто ні пад кога не падладжваўся. Усё адбылося само сабою. Натуральна. Дый з наскоку гэтага не ўлавіць. Бо яно прысутнічае хутчэй на метафізічным узроўні.

Зацярушаны снегам і соллю,
Засынае асфальтавы вечар
З марай сціплай: даведацца болей
Пра жыццё, пра нябыт чалавечы.

*(«Зацярушаны снегам і соллю...», с. 7)*

Ці не блізкія ўрбаністычныя пейзажы (ізноў, прабачце за аксюмарон) узнікаюць перад вачыма пры ўспамінах творчасці названага класіка?

Парасткі азначанага параўнання паспелі ўжо знайсці месца ў крытыцы. «Тая ж адасобленасць ад культуры, якую паэт узбагачае; тое ж кранальнае пакланенне жанчыне, прыўкраснай нават у ролі мучыцеля; той жа матыў згасання»[11]. Такім чынам, рацыянальнаму супастаўленню беларускіх паэтаў, закінутых у рускамоўны асяродак, пачын пакладзены. У сувязі з гэтым іх духоўную роднаснасць хочацца карэлізаваць[12], як гэта рабіў Анатоль Сыс, называючы сябе сынам Купалы і братам Багдановіча. Такім чынам, А. Арцёмава можна ў нейкім сэнсе назваць дзедзічам апошняга з названых класікаў. Унукам?

Вялікая руская літаратура, як магутны, пасіянарны вір, прыцягнула да магнітнага поля свайго дыскурсу шматлікія культуры суседніх народаў. У першую чаргу славянскіх — беларусаў і ўкраінцаў. І вось — зваротны рух! Багдановіча ў дадзеным выпадку якраз не ўлічваем, бо ён быў беларусам па паходжанні. А тут — чыстакроўны рускі-расеец!

Канечне, існуе варыянт (небяспека?), што феномен А. Арцёмава — гэта выключэнне, калі не сказаць анамалія. Накшталт прыхамаці засваення албанскай мовы Вінцэсем Мудровым. *І якіх толькі анамалій не бывае на свеце!*

Разам з тым беларускім паэтам з Тулы выносіцца на парадак дня пытанне: хто наступны? Пара *сплачываць доўг*!

---

[11] Грышчук Н. Аляксей Арцёмаў. Скрозь кіламетры: Вершы, пераклады // Саюз беларускіх пісьменнікаў [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://lit-bel.org/by/library/aljaksjej-arcjomau.-skroz-kilamjetry-vjershy,-pjeraklady.html. Дата доступу: 13.04.2017.

[12] Ад «карэляцыя» — статыстычная ўзаемасувязь двух або больш выпадковых велічынь (паводле Вікіпедыі).

